УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
Н72

Літаратурны альманах Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», выпуск 4, 2015 г.

Галоўны р э д а к т а р:
С. Астравец

Р э д а к ц ы й н а я р а д а:
Ю. Голуб,
І. Жук,
А. Пяткевіч

У к л а д а н н е:
С. Астравец

Падрыхтоўка выдання, здымкі:
С. Астравец

Н72 **Новы замак** : літаратурны альманах. Гродна. MMXV. Выпуск 4 / укл. С. Астравец. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 188 с.
ISBN 978-985-7144-25-9.

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-25-9**





## Дзённікі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага




Упершыню выйшла пад адной вокладкай значная частка дзённікаў апошняга караля. Аб гэтым паведаміла з Варшавы адна гродзенка. Давялося паспяшаць. На здымку павялічаная вокладка новага выдання. Выдавец дзённікаў — музей «Каралеўскія Лазенкі». Рэкламны постар якраз знаходзіўся ў Лазенках, парку, які любіў апошні кароль. Там жа пры палацы і прадавалася кніга. У ёй 572 старонкі, мноства каляровых ілюстрацый: партрэты Станіслава Аўгуста Панятоўскага і яго сучаснікаў, архітэктура, паркі. Падзеі дня, свае думкі ён запісваў па-французску. Цяперашняе выданне — пераклад на польскую мову, у ім першыя восем частак дзённіка. Аб сабе кароль пісаў у трэцяй асобе.

## Гродна на сцяне

На падпорнай сцяне пагорка, на якім стаіць Новы замак, паявілася графіці: Гродна паводле старых выяваў. Графіці зрабілі маладыя ахвотнікі. Гарадское начальства дала дабро, забяспечыла фарбай. Эскіз, стылізаваны пад гістарычную гравюру, быў узгоднены з абласной мастацка-экспертнай радай. Давёў задуму да ажыццяўлення разам з сябрамі Яўген Клачок, студэнт-юрыст Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Выяву выбралі з некалькіх, зрабіўшы галасаванне ў інтэрнэце.





# Паэзія

## АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ

*ПРОСТЫЯ ВЕРШЫ*

Polały się łzy me czyste, rzęsiste
Na me dzieciństwo sielskie, anielskie,
Na moją młodość górną i durną,
Na mój wiek męski, wiek klęski;
Polały się łzy me czyste, rzęsiste…
*Adam Mickiewicz*

### Мова мая

Мова мая светлая,
Нібы вясновы дзень.
Мова мая летняя —
Ззянне сонца ў вадзе.
Мова мая шчодрая,
Нібы асенні сад,
Лёгкая і бадзёрая,
Як зімой снегапад.
Мова мая — музыка.
Мова — студня без дна.
Родная, беларуская.
Мова, як Бог, адна.

### Радзіме

Плач, хай спадуць з душы
Горкія гронкі вершаў.
Плач, абудзі на крыжы
Хатніх надзей бязмежжа.

Плач, а следам дажджы
Сэрца напоўняць песняй.



Веру, ты будзеш жыць —
Бог жа не ўмёр, ускрэснуў.

### Жанчыне

Прабач, што не ўмею дбаць,
Пра тых, каго так люблю,
Што множу пустку на два,
А потым з табой дзялю.

Прабач, што стаўся чужым,
Паблытаў дабро і зло,
Застаўся жыць на мяжы —
Між позіркам і слязой.

### Іншай жанчыне

Ты змянілася. Гэтак бывае заўжды.
Ты далёка, мой змрочны анёл.
Паміж намі ляглі не гады, не сляды,
А вільготны пясок ля палоскі вады
І нябёсаў высокая столь.
Не шкадую, што мы не прайшлі гэты шлях,
Не турбуюся, з кім ты цяпер.
Не турбуйся і ты, адыдзі на вачах
І памры, як няскончаны верш.

### Вернай жанчыне

Як файна, што недзе чакае
Жанчына, якая кахае.
Праз межы, дні, кіламетры
Яе каханнем сагрэты,
Яе чаканнем спавіты,
Жыву ад змроку да свету.

## Просты верш пра ранак у чужым, забытым Богам горадзе

Нарэшце святлее.
Згубілася ўсё.
На небе ссівелым
Палае касцёр.

Зрываюцца кроплі
З нябёсаў, бы дні.
На вуліцы змоўклі
І згаслі агні.

## Да Нёмна

Каўнас дажджом спаткаў нас
Коўна — шыкоўным сном,
Мрояй пра старадаўнасць
За іржавым замком.

Мілы мой, добры Нёман,
Ты адзін тут жывы,
Абараняеш Коўна —
Чысціш сны ад іржы.

## Над Віслай

Над Віслай
Хмары нізка навіслі
Як вершаў нізка
Дрэвы абапал
Віслы
Іх лісце
Колеру хваляў
Ракі і ветру
Над Віслай
Мне не хапае
Паветра



## Просты верш пра ранак у маленькай, забытай людзьмі вёсцы

Неба, нібы шклянка кавы,
Што астыгла на стале.
Мае выгляд нецікавы
Сад і той далёкі лес.

Хутка дождж забарабаніць,
Згноіць сена жоўты стог.
Знікла ноч, а новы ранак
Цягне хмары на плячох.

## Паводле Адама Міцкевіча

Мае слёзы расою празрыстаю, чыстаю
На дзяцінства маё ўпалі светлае, летняе,
На юнацтва маё непазбежнае, смешнае,
І на сталасць маю, калі больш не пяю,
Слёзы ўпалі расою празрыстаю, чыстаю...






нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гродне. У 1999 г. скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, пасля — магістратуру (2000 г.) і аспірантуру (2003 г.) пры кафедры польскай філалогіі згаданага ўніверсітэта. У 2004 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Адама Міцкевіча. У 2007 г. прысвоена вучонае званне дацэнта. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (Гродна, 1992), «Падаю ў неба» (Гродна, 2006), «Апошні дзень» (Мінск, 2013), літаратуразнаўчай працы «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (Гродна, 2008). Жыве і працуе ў родным горадзе. Сябар СБП.

СВЯТЛАНА КУЛЬ

## Валодзю

З парасонікам чорным, у мокрых бліскучых галёшах
Ён спусціўся з нябёсаў, прынёс у далонях імжу,
Я пашлю гэты дождж ад мяне да цябе лістаношам,
Праз лясы і палі, праз шлагбаўмы, дагляд і мяжу.
Аб самоце маёй ён табе красамоўна раскажа,
Як шпіён ці выведнік марзянкай настукае ў лад,
Выб'е кропелькі-кропкі, а вецер паставіць працяжнік,
Ты зрабі, калі ласка, з шыфроўкі маёй пераклад.
А калі прачытаеш, з дажджом развітайся на золку,
Праз шлагбаўмы, дагляд, праз мяжу, пералескі, палі
Мне адказ напісаўшы, пакліч прыгажуню вясёлку
І яе да мяне лістаношам пад вокны пашлі.

*20.05.2015*



Прайсціся б з табой пад галінамі ў ліпеньскім садзе,
У кошык сабраць набрынялую сонцам чарэшню,
Ды час прамінуў непрыкметна, няўлоўна, няспешна,
Мы сад не садзілі ніколі і ўжо не пасадзім.
Мы дом не збудуем прасторны, прыгожы, утульны,
Сыноў і дачок я табе нарадзіць не паспею,
Ні мары няма і не веры, і нават надзеі,
Застаўся ўспамін. Толькі ён дарагі і агульны.
У іншым жыцці, не такім раскіданым і грэшным,
Якое, магчыма, Гасподзь нам падорыць па смерці,
Знайдзі мяне, любы, каб зноў без цябе не памерці,
Каб дзеці і дом, і каб сад, і каб кошык чарэшні.

З-за амшалых камлёў, праз балота, сцяжынай праз поле,
Абдзіраючы поўсць аб калючыя лапы хмызоў,
Ваўкалакам знясіленым ноч папаўзе да вуголляў,
Пачакаць каб паўстала агню залатое лязо.
Ноч на ранішнім золку праз тое лязо пераскочыць,
Паляжыць на паляне, пасунецца ў лес пад карчы,
Каб расці да Калядаў магутнай вялізарнай Ноччу
А пасля да Купалля часіны па зорах лічыць.

*19.06.2015*





Прабач мяне, прыязнае бяссонне,
Што гасцяваць цябе не запрашаю,
Павінен добры сон прысніцца сёння —
У горадзе маім каштаны мая.

Нібы акрайчык хлеба для галоднай,
Нібы вада гаючая на рану,
Мне сёння ноччу будзе сніцца Гродна.
Каложа. Замкі. Нёман. І каштаны.

*18.05.2015*



Ці то мая, ці то твая віна,
Не скласці нам падобнае з падобным,
На два не падзяляецца вясна,
Яна цяпер для кожнага — асобна.
Згубіўся нечакана множны лік,
Усё навокал — дождж , сузор'е, хмара
У гэты цотны месяц красавік
Для нас абое не складае пары.
Вясною матэматыка — мана,
Так не бывае восенню ці ўлетку.
Ты глянь у шафе — недзе там адна
Няшчасная няпарная шкарпэтка.

*14.04.2015*



Раскінутыя рукі нібы крылы,
Але з зямлёй пакуль яднае крыж,
Жывы з яго ў нябёсы не ўзляціш,
Памерці трэба і паўстаць з магілы.
З-пад жоўтага пяску, ці з-пад дзірвану
Праз крыж зямное чуецца цяпло,
Як птушка, што патрапіла ў сіло,
Дзве тысячы гадоў раскрыжаваны
Ты прабачаеш кожную істоту,
У цэрквах, у касцёлах, пры шляхах,

Як птушка на раскрыленых руках
Чакацьмеш вызвалення і палёту.

*12.04.2015*



Я еду дадому, душы засталася палова,
Амаль што нямко — на чужыне язык скамянеў.
Я еду дадому, дзе родныя цёплыя словы,
Сябрамі старымі цярпліва чакаюць мяне.

Чакаюць патэльня, відэлец, падлога, фіранка,
І клямка, і столя, шуфлядка, масніца, дыван,
Чакаюць сурвэтка, кутасік, завала і брамка,
І веснічкі з імі, і сцежка, кілім і паркан.

Вялізарным слоўнікам поўніца родная хата,
Чакаюць стракаты, прыгожы і нават сівы,
Чырвоны, блакітны і бэзавы, шэры, пухнаты —
Як лепшыя лекі для сумнай маёй галавы.

Абдыме прыслоўе мяне і маленькі займеннік,
Назоўнік прылашчыцца, сцісне руку дзеяслоў.
З паловай душы ад чужой нематы і здранцвення
Я еду па словы, да роднае мовы — да-моў.

*03.04.2015*



*Аксане Калтовіч з удзячнасцю за ідэю*

На ростанях няспраўджаных надзей
Здавён стаіць Абрамава карчма,
Дзе піва наліваюць задарма,
Мне цёмнага нальюць куфлі два,
А светлага — для ўнукаў і дзяцей.

Не памыліся, братухна Абрам,
Мінулае з гарчынкай — для мяне,
Там цёмны хмель вужакай кольцы ўе,
Глыток апошні, нібы ўздых — на дне,
І колькі да яго — акрэслі сам.



А будучыню іншым налівай,
Празрыстую, як сонечны бурштын,
Не памыліся — мёд, а не палын.
Хай будзе ўнукам, хай скаштуе сын,
Каб поўным куфаль быў па самы край.

*06.03.2015*



Бяры сявеньку, добры гаспадар,
Выходзь у поле, на сваю валоку,
Сівы крумкач прастуе з-пад аблокаў
На твой учора ўзораны папар.
Ідзі па пульхным ворыве і сей,
Ён будзе за табой падлётам, скокам
Ісці раллёй, глядзець празрыстым вокам
І крыжаваць сляды — далей, далей.
Ты для яго як блізкая радня,
З якою не пасварацца ніколі,
Штогод адвеку разам шлі па полі,
Насеннем напаўнялася сяўня.
З ім разам завіталі на клады.
І да нябёс адужалі сцяжыну,
І вас зямля, нібыта маці сына,
Гукае на вясновыя Дзяды.
Бяры сявеньку, добры гаспадар,
Ідзі і сей пад пільным жоўтым вокам,
Зямля цябе гукае з-за аблокаў,
І крук стары ляціць з табой запар.
Жыццё апошні замыкае круг.
Халодным комінам глядзіць у неба хата.
Ідзе па полі прывідны араты
І след у след за ім — ссівелы крук.

*28–30.01.2015*



Жывіце тут, што вам адмераў час —
Чужая навалач, брыда, імперскі пыл.
Адное ў Бога папрашу для вас —
Каб не хавалі ля маіх магіл.

Каб вы маіх не зганьбілі дзядоў,
Каб ля матулі з бацькам не ляглі,
Хай вам прызначыць нейкі іншы схоў,
Два метры нейкай іншае зямлі.



Мой час сапсаваўся, не вытрымаў гэтага лета,
Зламалася нешта — ці голас, ці сэрца, ці памяць.
Пайду да майстэрні, дзе ёсць дзыгармайстар-кабета,
Яе папрашу — можа час паламаны паправіць.
Скажу, хай праверыць, бо стрэлкі знянацку застылі
І, нібыта сэрца, трымцяць над старым цыферблатам,
Няхай памяняе ад стрэлаў ахрыплыя жылы,
Не трэба, каб поўнач у ім адбівалі гарматы.
Ён раптам пачаў нестасоўна акрэсліваць дату.
Хай гляне завод, хай яго памяняе на лепшы,
Бо лічбы адныя: бывае, што трыццаць дзявяты,
А часам пакажа, што сёлета ў нас сорак першы.
Хай зноў ажыве, і хвіліны татахкаюць ціха.
Пайду да майстэрні, што ёсць на Вялікай Траецкай.
Папраў нам эпоху. Папраў нам эпоху, майстрыха!
Папраў ёй сумленне, і голас, і памяць, і сэрца.

*11.09.2014*

## Эдзіку Мазько

Цябе ўзгадаю на Зямлі,
Падумаю, што ёсць надзея —
З табой сустрэцца мы паспеем,
Ты, мабыць, ведаеш —калі.
Цяпер ты ведаеш пра ўсё,
Хто шчыры быў, хто вінаваты,
Хто катам быў, хто памагатым,
І колькі доўжыцца жыццё.
Мы б так пагутарыць маглі
За кубкам кавы, з цыгарэтай!
Надзея ёсць, што будзе гэта.
Ты, мабыць, ведаеш — калі.

*30.08.2014*





Аднойчы мне не хопіць словаў,
Дыханне спыніцца на ўздыху,
Я замаўчу,
Хай ціха-ціха
Для вас гаворыць сад вішнёвы.
З маёй тугой, з маёй усмешкай
Хай шэпчуць, што сказаць павінна,
Мае лілеі і шыпшына,
Мае півоні каля сцежкі.
І мой арэх, магутны, пышны
Што памятаў маё дыханне…
Калі для вершаў слоў не стане
Яны замест мяне напішуць.

## Гародня, любая

Ні венецый нябыт, ні Васільеўскі востраў
Не прывабяць апошнім прыстанкам,
Я каштанавым попелам белых пялёсткаў
Упаду на тваю брукуванку.
Як паранены звер да гаючай крыніцы
Дапаўзу, дацягнуся з замежжа,
Каб застацца, каб некалі тут адрадзіцца
Хоць цаглінкай у замкавай вежы.

*27.09.2014*



Яна забывала святло выключаць, адыходзячы ранкам на працу,
Гарэла забытыя кава штодня, толькі я не спяшаўся злавацца,
Тупыя нажы шаткаваць не маглі, а прасеўшыя дзверы рыпелі,
Ды я шкадаваў небараку маю, у нагах засынаў на пасцелі,
Не тупаў, не грукаў, маўчаў ды не капаў на кухні вадою,
Знаходзіў у хаце ключы і заколкі, звычайна забытыя ёю,
Я дом пільнаваў, я глядзеў, каб вуглы не плялі павуцінне,
Каб шыбка трымала цяпло, каб ішоў, не спыняўся гадзіннік,
Каб тапкі былі да нагі і каб шоў на падушцы не рэзаў,
Каб кветкі не сохлі, каб сыты быў кот у маёй гаспадыні-гарэзы.
Калі засыналі суседзі, іх дзеці, і ціха было за сцяною,
Мая недарэка сядала ў фатэлі, сам-насам у хаце са мною,

Калі замаўкала дарога, і месяц, нібы вартавы, заглядаў у маленькую залу,
Яна аж да ранку, нібыта замову, прыгожыя вершы пісала
І мне іх чытала. Адзінаму! Мне! Нібы сябру, паўшэптам дзявочым.
Я ўсё ёй прабачу — і дзверы, і каву — за гэтыя ночы,
Прабачу нажы, што не рэжуць, іголкі знайду на масніцах,
З катом падпільную мышэй і ад пылу пазбаўлю паліцы,
Няхай я стары дамавік, выбіраць не даводзіцца дзеду:
За ёй, небаракай, хай нават скрадком, я да новага дому паеду,
Бо там без мяне, уначы, калі ляжа гадзіна глухая,
Каму яна вершы напіша? Каму прачытае?

*12.10.2014*



Дарога да дому з апошняга кроку пачнецца,
Якім праз знаёмы бацькоўскі парог перакрочыш,
За гэты парог, як катвіца, чапляецца сэрца
І цягне вярнуцца, і кліча ў бяссонныя ночы.

Чужыя агні не складуцца ў знаёмы малюнак,
Чужыя званы не спяюць пажаданую ноту,
На вуснах гарчынкай асядзе чужы пачастунак,
Жыццё адкладзеш да вяртання да дому — на потым.
І зоры не тыя, і неба не радуе зранку,
З крыніцы чужой, як не пі, а не зможаш напіцца,
Бо цягне няўмольна, на вечнасць убітая ў ганак
Цвікамі вяртання
на кроку апошнім
катвіца.

*21.10.2014, 10.45–11.00*






нарадзілася ў Гродне ў 1959 годзе. Доктар гістарычных навук. Загадвала навукова-даследчай лабараторыяй праблем рэгіянальнай культуры, вывучала памежжа, гісторыю мяжы, вусную гісторыю; кіравала навуковымі экспедыцыямі і міжнароднымі летнімі школамі. Доўгі час працавала ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы. Цяпер прафесар кафедры турызму і рэкрэацыі Беластоцкай політэхнічнай акадэміі. Член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Аўтарка паэтычнага зборніка «Вершы. Байкі. Паэмы» ды іншых кніг.



# МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

*ДОСЦІПЫ Ў РЫФМУ*

## Сухар

Мо дзеля вас —
Экзотыка з рамантыкай,
Калі пад небам ссохлы, што сухар,
Касцей аглоблі вечнага рэўматыка
Выварваю у прыску ста
Сахар?

*Васіль Макарэвіч*

Мо дзеля вас выварваю у прыску
рэўматыка з аглоблямі каркас,
экзотыку чаргуючы па спіску
з рамантыкай сахорнаю у нас?

Мо дзеля вас, пад промнямі засохлы,
хаваю я ад німфачак загар,
каб хоць разок пачуць, прынамсі: «Ох ты!
Ты самы лепшы, мілы мой сухар!»

## Рыфма

А у заходзе сонца
не разабраць сляды.
Жывеш, нібы бясконца,
і чарку п’еш да донца
па звычцы малады.

*Усевалад Сцебурака*

Прыдбаў я рыфму сонцу,
ад радасці нямею:
бяздонную ў абноўцы
на будні і ў нядзелю

і з ёю буду доўга
гарэць, згараць бясконца:
з нашчадкамі Міндоўга
і сённяшняга Сонца.

Струмень яе ў транспойце
чытач і ў «замку» знойдзе,
у «Новым», у чацвёртым
фанатамі зацёртым.

## Іншапланецянка

Здалёку праз час некаторы
Ты іншай прыйшла планецянкай.
Услодыч хоць раз адпачні ты
На вейках майго небасхілу.

*Рычард Бялячыц*

На шалях касмічнае мэты
сустрэўся і я з планяцянкай
з далёкай і іншай планеты,
якой любаваўся да ранку:

увішнаю, стройнай, звінючай,
з нашчадкаў, што помняць Ярылу.
Каханнем штодня яе мучыў
на вейках майго небасхілу,

а потым на ўзлёце надзеі,
губляючы творчую сілу,
чакаў на адгул у нядзелю
на вейках яе небасхілу.

## Ранкавы міраж

І маці, што прынесла мне
Жыццё, натхненне, славу, волю,
Я выгнаў босую на снег,
Закрыўшы дзверы за сабою.

*Анатоль Брусевіч*

У снежны дзень, не так даўно,
разулі маму маю чэрці,
спагады боль крануў сяло,
каб ратаваць яе ад смерці.

А мне зноў ранкавы міраж
бубніць нядаўнім успамінам,
калі цэ два о пяць о аш
клін выганяў не раз мне клінам.



Пасля, сядлаючы каня,
змікіціў шэрымі глуздамі,
што конь мой белы, на ім я,
а мама недзе за дзвярамі.

Ачнуўся ў полі, кругам снег,
галосіць жонка нада мною:
«Калі скапыцішся ды ў сне —
найлепшай будзе навіною».

## Праблема

Вясну ніяк не знаходжу,
згубілася недзе ў трох соснах.

*Ала Петрушкевіч*

Бывае ж шчасце на белым свеце —
я спадабаўся такой кабеце.
Думаў, і грошы лічыць не ўмее.
Такое ж, браце, у сям'і — падзея,
як кажуць людзі, збылася мэта —
касцюм не носіш з фірмы аскета.
Праўда, з грашыма не ўсё так проста —
з імі праблема і ў Краі вострая,
а вось каханне вершам частую,
калі ў хаце адзін начую:
вясну шукае недзе ў трох соснах,
а я чакаю аж сэрцу млосна.

## Вядро мілосці

Выгін нагі і пакліч цела
Атаясамлены ў адно.
Тваёй бяздоннае мілосці
Налі мне поўнае вядро.

*Мікола Канановіч*

Атаясамліваю цела
з тваёю выгнутай нагой,
калі табе штодня карцела,
каб позу тоесніць з дугой;

наліць бяздоннае мілосці
пад коптур поўнае вядро

і гутаперчаваю косцю
мне спадабацца заадно.

## Двуадзіны

Калі ж у Беларусь я еду
Ды рады там усе не Шведу:
Я ў іншым там жыву аблічы:
Я Віктар, ды не Швед — Никитич.

*Віктар Швед*

Я ў Беластоку больш чым Швед —
я Віктар Швед, адзіны з Польшчы.
Никитич — гэта ж не паэт,
я за Никитича тут большы.

Спачатку крыўдна было чуць,
што аж набіла мне аскому,
што Шведы ў Мінску не жывуць
і не патрэбныя нікому.

Пасля, падумаўшы як след,
я ў двух абліччах на Парнасе:
Никитич з Музай тэт-а-тэт,
яшчэ і Віктар у наскім часе.

Цяпер паэт я двуадзіны:
як Віктар Швед, што з вёскі Мора,
і як Никитич, з той жа гміны
на заўтра, сёння і учора.

## Эксперымент

Жыве ў цябе ўнутры
Непаслухмяны ген:
Не здзьмуць яго вятры,
Не выведзе пурген.

*Віктар Жыбуль*

Непаслухмяны ген —
даніна часу, модзе.
Я пробаваў пурген —
не на карысць прыродзе.



Магчыма, што дзяржаў
сусед па ветру нос,
бо ён мяне дастаў
і напісаў данос,

каб палячыў мой ген
хвароб заразных доктар…
…Шпрыцы шукалі вен,
а сэрца — сканер-доплер…

Кішэня хап капейку —
збяднелі Гіпакраты —
і нашча лыпаў вейкам
мой кашалёк пляскаты.

## З Боскім дарам

Я такая хваравітая —
Западаю на душу,
Да паэзіі прывітая —
Паміраю, а пішу.

*Людміла Кебіч*

Я такая хваравітая —
западаю на душу,
да здароўя няма літасці —
паміраю, а пішу.

Паэтычнай гронкай звонкаю
наталяюся як след,
Муза нат з маёй пячонкаю
забывае пра абед.

Боскім дарам застрахована
я між творцаў па пяру —
з маёй кнігай папяроваю
я ніколі не памру.

## Не шанцуе

Над горадам маім гракі!..
І сарамлівыя дзяўчынкі
Мне ўслед смяюцца з той прычыны,
Што я разгублены такі.
*Навум Гальпяровіч*

Мне не шанцуе — я з Гародні —
на сарамлівых тут дзяўчынак:
там, дзе хаваюць сорам споднi, —
ад іх застаўся, бач, абмылак.

І ўслед смяюцца з маіх зенак
што лып ды лып на іхні пуп.
Стрыптызным подыхам гарэзным
Гародня больш, чым Галівуд.

Гракі ў парку Жылібера
смяюцца больш без дай прычыны,
што я с Мілоскаю Венерай
атаясняю стан дзяўчыны.

Не ўсё так блага ў гэтым свеце —
гарэзы шал любоў ачоліў,
бо нат і ў райскім Запавеце
без майтак шлюб і Бог дазволіў.






нарадзіўся ў 1939 годзе ў Гродне. Па прафесіі доктар. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, анколагам і хірургам у Гродне і хірургам у рыбалоўным флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі: «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба».



## АЛІНА ПАЎЛОЎСКАЯ



Сямёра не чакаюць аднаго.
А я свайго адзінага чакаю
З далёкіх пераплеценых дарог,
Што спяць за бірузовым небакраем.

Чакаю, нібы маці ля акна
Чакае падарожжамі стамлёных
Сваіх дзяцей, якіх даўно няма
На свеце, гаманою заімглёным.

Чакаю, як чакаюць нежывых,
З бязглуздаю, ды ўсё ж такі надзеяй,
Што ўсёмагутны, самы чуйны слых
Пачуе маё сплаканае «Дзе ён?..»

## Вядзьмарка

Апоўначы ўзялі маланкі кросны
І бліскамі расшылі небасхіл.
А маладзік, нібыта бацька хросны,
Малыя знічкі да грудзей туліў.

Пярун хвастаў шалёна хмары пугай,
Сачыў, каб дождж не скончыўся, не ўцёк.
Ажно дрыжэлі зоркі з перапуду,
Жагналі дрэвы іх сваім лісцём.

А недзе на рацэ ў суседняй вёсцы,
Ля млына, што прасейвае ваду,
Дзяўчына расплятала чорны косы
І грэбенем вычэсвала нуду:

«Устану я, прачнуся на світанні
І выйду не варотамі ў лясок.
Няхай мяне палюбіць мой каханы,
Раб божы, ненаглядны Васілёк…

Як возера мутнее ад балота
І рэкі высыхаюць без дажджоў,

Няхай яго атульвае самота
І да мяне вядзе хутчэй дамоў.

Няхай ён не знаходзіць супакою,
Хай сніць мяне штоночы незнарок,
Хай свецiцца ў вачах яго спатоля.
А словам гэтым — ключык і замок!»

Сцішэла непрыкметна неяк бура,
Над вёскаю расплылася журба,
Твар хлопца стаў задумлівы, пануры,
І больш яго не вабіла вярба…

## Маналог Беларусі

*Памяці Ларысы Геніюш*

Памяці заступніцы пакутнай,
Маці ненароджаных сыноў,
Да Радзімы на вякі прыкутай
За сваю адданую любоў…

— Не чакай ты літасці ад мяне:
Маю абяздоленых цэлы край!
Маё сэрца цяжкае не кране
Ні малітва слёзная, ні адчай.

Не глядзі дакорліва на раба:
Волі пераможаным не даюць.
У самоце скідвае ліст вярба —
З шапаценнем падае…Беларусь…






**н**арадзілася і жыве ў Гродне. Студэнтка філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я. Купалы. Друкавалася ў альманаху «Rozmaitości Slawistyczne», газетах «Знамя юности», «Гродзенскі ўніверсітэт».



АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

## Праменад

лячу
над Гароднeй
над Краем
над светам
моцна трымаючыся
за тваю руку
так радасна
нараджаецца надзея
а следам — так невыносна:
нашыя колеры
на скаванай зімою зямлі…
свабодна змагаркам блогерыць
з-за мяжы
беражыце сябе
бяжыце
усе хто можа
хай Неба вам дапаможа
вярнуцца
застацца
тут
Край родны Край
каханы
трымай мяне за руку
і я палячу
над Гароднeй
над Краем
над светам
і ўбачу
свабоды няма
нідзе

## «Штодзённасць» — выстава Уладзіміра Пазняка ў «Крызе»

Адкрываецца дзень
прастакутнікам чорным вакна,
як штодзень.
Мітусня, пустата, марафон,
гукавы надакучлівы фон:
бла-бла-бла
адусюль.
Мы ж ляцім да святла,
прабягаем па сходках,
якія вядуць ў нікуды.
Упіраецца зрок
у шыхты
тых бутэлек пустых…
Закрываецца дзень
прастакутнікам чорным вакна.

*27.11–04.12.2013*

## Паміранне

Першы халодны восеньскі дождж —
першымі астры паніклі,
пялёсткі са скрухай завялі.
Першы мароз —
і ў агоніі
падаюць сальвіі, ружы, бягоніі.
Каны канаюць стоячы,
годна прымаючы
наканаванае…
Столькі халодных здрадных вятроў,
столькі пякучых злых маразоў
нада мной праняслося,
а я ўсё — жывая…

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Я не зблытала вершы з жыццём.
Я жыццё перайначыла ў вершы.
Стала сцежка мая радком,
ім — апошняе пачуццё,
як і даўняе, веснае, першае.



Я чытаю жыццё, як вершы,
і шукаю ў іх сэнсы паўней.
Як бабуля-знахарка даўней,
што чытала, чытаць не ўмеўшы.

## З нізкі «Маё радонавае лета»

I

Мне ад лета нічога не трэба,
заставайся самім сабою:
сонцам, водарам кветак, вадою,
што пяшчотна глядзіцца ў неба.
Заставайся ў маім сюжэце
кульмінацыяй яркаю, сольнай,
песня-лета, лецейка-леце!
І вяртайся ізноў птахай вольнай!

**II**

А хто Вам сказаў,
што пані сумуе?
Хіба адзінота ёй не да твару?
Яе ўспрымае зусім не як кару
і п'е асалоду поўнаю чарай.
Бо з ёю жыве яе таямніца
салодкаю мрояй і горкай маною.
А таямніца — жывая вадзіца,
ніколі не стане яе віною.

**III**

Адна паміж соснаў,
адна паміж збраў.
А ўслед мне ліецца, грукочча вада.
І шлях мой, сатканы з прыгожых узораў,
дзе шмат усяго: і пяшчоты, і гора —
трымае мяне давідна.
Адна
паміж соснаў,
адна
паміж збраў.
А чорная рэчка мне шэпча з дакорам:
І я ж тут заўсёды адна…

**IV**

У ракі, як у кожнай ракі,
таямніца і сутнасць — ў вадзе.
Штораз знову размову вядзе
з той,
што смутак і радасць складзе
і развее на ўсе берагі.
Назаўсёды адкінула крыўды,
а пакінула светлую веру:
хай сплывае вада —
застанецца мне бераг,
на які ты калі-небудзь прыйдзеш.



## ЗМІЦЕР ЦЕСЛЯНОК



Мы на розных канцах Беларусі.
Ты — у Менску, а я — каля Нёмна.
Нас звязалі кахання спакусы.
Берагоў разлучылі стромы.

Раз'ядналі нас кіламетры,
Вецер, дождж, снег і навальніца…
І злучаюць лісты ды капэрты
Цішыню лясоў і сталіцу.

Памыліўся, пусціў, паляцела…
Вось і скончыліся сустрэчы.
Не сумуй, ты сама так хацела,
У апошні расстайны наш вечар.

Помніш, першы вуснамі дотык.
Там у лесе за рэчкай на сцежцы
Нас распытваў Нёманскі рокат,
А цяпер я пытаюся: «Дзе ж ты?»

Тэлефон. Захапіла мне подых,
Чую голас знаёмы я зноў.
Дарагі й няўлоўны, бы дотык
Да мінулых няспраўджаных сноў.



Я вырашыў сысці з нябёс
І прызямліўся каля хаты.
Зыначыў свой нябёсны лёс,
Аднак зазнаў адныя страты.

Ізноў вярнуся на нябёсы,
Там застануся назаўжды…
Гляджу ўначы на зорак россып,
Чакаю ў вырай чарады.

## Ларысе Геніюш

Яна прайшла скрозь холад, краты,
Сказаўшы гучна: — «Не скарусь!»
Жыла сумленна, небагата.
І шчыра нібы Беларусь.

Няскорана схіліўшы скроні,
Свой шлях прайшла не па касцях.
Заўсёды верыла ў ПАГОНЮ,
І ў бел-чырвона-белы сцяг.

І слёзы ў нас цяпер на веях.
Такой не знойдзем мы нідзе.
Хто на шчыце, хто на каленях.
А Геніюш — у грамадзе.

## Выбірай

Маеш голас — галасуй.
Маеш выбар — выбірай.
Маеш веру, дык жыві.
А не маеш — памірай.



Бог на небе.
Бог на зямлі.
Бог у табе
І ў тваёй крыві.

## Маці

Хопіць быць заўсёды правым.
Хопіць верыць у цішыню.
Мама мілая, святая.
Мама, я цябе ЛЮБЛЮ!





На маёй зямлі
Зоркі плылі.
Усё чаплялі струну,
Абарвалі адну.

Як жа мне граць,
Дзе такую ж узяць?
Варажыла ўсіх,
Але гук яе сціх.






нарадзіўся ў 1986 г. у Мастах. Пісаць пачаў з дзяцінства. Скончыў універсітэт імя Янкі Купалы, вучыўся на факультэце філалогіі. Працуе будаўніком.



# Проза

## Валянцін Дубатоўка

### Анёл

*Апавяданне*

Машына збавіла хуткасць і спынілася паблізу разгалістай ліпы. Мікола ўзяў пачку цыгарэтаў, запальнічку і адчыніў дзверцы.

— Мікалай Сцяпанавіч, мне вас чакаць? — звярнуўся кіроўца да маладога чалавека, які выйшаў з пасольскага «Мерсэдэса».

— Так, Іван, дачакаемся Ізраільскага консула і рушым.

Мікола зірнуў на гадзіннік, запаліў цыгарэту і салодка зацягнуўся. Вакол спяшаліся мінчукі, госці сталіцы і змучаныя вузкімі гарадскімі вуліцамі машыны. Набіраў моц цёплы сонечны дзень траўня тысяча дзевяцьсот дзевяноста сёмага года. Ён падышоў да ўваходных дзвярэй атынкаванага будынка з пазалочанай шыльдай і зоркай Давіда на ёй паверх надпісу: — «Пасольства Ізраіля». «Шкада, што не ўмею чытаць на іўрыце, трэба будзе заняцца?» — падумаў Мікола. Потым зноў зірнуў на гадзіннік.

— Ужо дзесяць хвілінаў па дзявятай — і нікога?

Міколу Дамашкевіча размеркавалі на працу ў міністэрства замежных справаў пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта. Чырвоны дыплом і ўзорнае веданне ангельскай мовы прадвызначалі будучыню вясковага хлопца з Навагрудчыны. Працуючы ў сакратарыяце міністэрства, яму, як пачынаючаму дыпламату, даводзілася займацца звычайнай руціннай працай: перакладам дыпламатычнай пошты, абслугоўваннем рознага кшталту дзяржаўных самітаў. Карацей, працай, якую даручаюць пачынаючаму дыпламату.

— Дзе ж той консул? — Мікола нярвова рушыў у бок «Мерсэдэса». І ў гэты самы час дзверы адчыніліся, і з будынка пасольства імкліва выйшаў хударлявы сівавалосы мужчына сталага веку са скураным партфелем у руках. Ён клапатліва агледзеўся навокал і, заўважыўшы Дамашкевіча, прывітаў таго паднятай рукой і хуценька рушыў яму насустрач.

— Даруйце, малады чалавек, пэўна доўга чакалі?

— Нічога, такая наша праца. Калі ласка, хадзем да аўто. — Мікола паказаў на «Мерсэдэс». Дыпламат рушыў за ім. Дачакаўшыся калі ізраільцянін уладкуецца на задняй сядушцы, Мікола прымасціўся побач.

— Даруйце, калі ласка, куды едзем? — спытаўся заклапочаны няведаннем маршрута кіроўца. Дыпламат загадкава ўсміхнуўся.



— Я думаю, хлопцы, нам трэба спачатку пазнаёміцца. Мяне завуць Ісак Львовіч.

— Мяне Іван, — адазваўся кіроўца.

— Ну, а вас, пэўна, Мікалай Сцяпанавіч, — паспяшаўся звярнуцца да Дамашкевіча прадбачлівы пасажыр.

«Ведае маё імя, значыць не выпадкова да яго прыставілі», — падумаў Мікола.

— Вы лагічна разважаеце, пан Дамашкевіч, у дадзенай справе мне без вас будзе надзвычай складана.

«Як ён здагадаўся, я ж толькі разважаў пра сябе?»

— А што за справа, Ісак Львовіч? — не разумеючы, што мае на ўвазе ізраільцянін, перапытаў Мікола.

— Ды вы ж, Мікалай Сцяпанавіч, паколькі мяне праінфармавалі ў міністэрстве, нарадзіліся ў Навагрудку?

— Не зусім, я шчорсаўскі, — удакладніў Мікола.

— Тым лепш, я думаю, Навагрудчыну вы ведаеце не блага.

Мікола ўсміхнуўся.

— Лепей чым Менск.

— Вось і адказ на ваша пытанне. Я папрасіў пана міністра, каб мне дапамагаў чалавек, які добра ведае ваколіцы Навагрудка.

Аўто ўжо некалькі хвілінаў рухалася па ранішніх вуліцах Менску.

— Я прашу прабачэння, дык куды ж едзем? — ужо зусім разгубіўшыся, прамовіў кіроўца.

— Калі я правільна зразумеў нашага госця, кіруй на Навагрудак, Іван, — Мікола зірнуў на свайго спадарожніка.

— Так, так, у Навагрудак, — нібыта спазняючыся прамармытаў дыпламат. «Мерсэдэс», зрабіўшы некалькі кругоў па гарадскіх вуліцах, выруліў на кальцавую. Мікола ўважліва аналізаваў паводзіны свайго старэйшага калегі. Той, у сваю чаргу, проста ўзіраўся ў акно і думаў аб нечым сваім. Раптам ён адарваўся ад сваіх разважанняў і звярнуўся да Дамашкевіча.

— Мікалай Сцяпанавіч, ведаеце, нам трэба з вамі адшукаць пад Навагрудкам вёску Валковічы. Як вы думаеце, самыя знойдзем, ці варта мясцовы выканкам патурбаваць?

Мікола адкашляўся, прыдаючы сабе важнасці, пасля чаго ўпэўнена прамовіў:

— Я думаю, нам звяртацца да мясцовых няма ніякай патрэбы. Я добра ведаю, дзе яна знаходзіцца.

Дыпламат задаволена ўсміхнуўся.

— Мне казалі вопытныя вандроўнікі, што вёска гэтая знаходзіцца недзе паблізу Навагрудка.

— Усё правільна, у пяці кіламетрах ад райцэнтра, па дарозе на Карэлічы.

Мікола, не разумеючы сэнсу, дзеля чаго трэба ехаць у гэтую звычайную вёску, перапытаў.

— Вы, канечне, даруйце, Ісак Львовіч, але мне складана здагадацца, што вас можа цікавіць у гэтай маленечкай вёсачцы? Значных гістарычных помнікаў у ёй няма.

Дыпламат памаўчаў крыху, а затым спакойна прамовіў.

— Справа ў тым, Мікалай Сцяпанавіч, што мяне ў нашых пошуках зусім не цікавяць помнікі, нават калі яны надта ж старажытныя, мы едзем з вамі шукаць чалавека.

Мікола, зноў не разумеючы, пацiснуў плячыма.

— А дзеля чаго ехаць? Можна ж было чалавека па тэлефоне адшукаць.

Дыпламат са спачуваннем паглядзеў на Міколу, зірнуў на гадзіннік і звярнуўся да кіроўцы.

— Вы мне даруйце, Іван, а колькі часу нам да Навагрудка ехаць?

— Калі ўсё будзе добра, праз дзве гадзіны прыедзем на месца.

— Выдатна, — ізраільцянін клацнуў замком чорнага скуранога партфеля, што ляжаў у яго на каленях, і выцягнуў адтуль на свет стары, пажоўклы здымак і працягнуў яго Дамашкевічу.

— Вось, зірніце, малады чалавек.

Мікола, адчуваючы, што гэтая рэч мае для консула важнае значэнне, асцярожна ўзяў здымак. На ім ледзь-ледзь праглядваліся постаці трох чалавек. Малады мужчына стаяў, абапёршыся рукой на спінку крэсла, на якім сядзела прыгожая, чорнавалосая жанчына з немаўлём на руках. На адвароце здымку меўся надпіс «Сям'я Коганаў, г. Навагрудак, травень, 1941 год». Уважліва разглядзеўшы твары людзей, Дамашкевіч вярнуў здымак дыпламату.

— Я так разумею, што нашая паездка і гэты здымак маюць непасрэдную сувязь.

— Вы не памыліліся, Мікалай Сцяпанавіч. Справа ў тым, што людзі на здымку праз некалькі месяцаў сталі вязнямі гета. Жанчына загінула, — ён раптам замоўк і адвярнуўся да акна. У машыне запанавала цішыня. Першым не стрымаўся кіроўца.

— Ісак Львовіч, а астатнія ацалелі?

— Што, што? А — астатнія, — дыпламат адарваўся ад сваіх разважанняў. — Мужчына цудам выратаваўся, цяпер ён жыве ў Ізраілі. Валодае прыватнай медычнай клінікай у Тэль-Авіве.

— А немаўля?

— А вось дзіця ўратавала ад смерці жыхарка Валковічаў, Саламея Качан. Менавіта да яе, хлопцы, мы зараз і едзем. — Дыпламат асцярожна паклаў здымак у партфель, а потым, са ўсяе сілы ляснуў далонню па яго прыгожай ручцы. — Вось у гэтым партфелі грашовая дапамога і пасведчанне «Праведніцы свету». І тое, і другое мне даручана ўрадам Ізраіля ўрачыста перадаць жанчыне.

Праз пэўны час «Мерсэдэс» з'ехаў з шашы Мінск-Навагрудак і павярнуў на вузкую дарогу. Дамашкевіч заўважыў назву вёскі.

— Ну вось — Валковічы, нарэшце. Іван, калі заедзеш у вёску, прыпыніся.

Кіроўца, пагаджаючыся, кіўнуў галавой. Каля першай жа хаты машына збавіла хуткасць і прыпынілася. Мікола рушыў у напрамку мужчыны сярэдніх гадоў, што вошкаўся каля сваіх веснічкаў. Пасля кароткай размовы з гаспадаром хаты, вярнуўся ў машыну.

— Ну што там, Мікалай Сцяпанавіч? — запытаўся заклапочаны ізраільцянін.

— Ды ўсё нармалёва, Ісак Львовіч. Вось мінем мясцовую краму, потым кароўнік на ўскрайку вёскі, а за ім, на беразе рачулкі, яе хутар.

Дыпламат зірнуў на гадзіннік, потым, папраўіўшы акуляры, прамовіў.



— Палова на першую, давайце, хлопцы, паспяшаемся.

«Мерсэдэс» праз пару хвілінаў, падняўшы клубы пылу, прыпаркаваўся каля дошкавага паркану невялічкага хутара. Мікола рушыў у напрамку сядзібы. Як толькі ён адчыніў веснічкі і ступіў на падворак, адразу ўбачыў, як яму насустрач спяшаецца пажылая, хударлявая жанчына невялікага расточку.

— А ты куды гэта, хлопча? — загалаканіла яна.

Дамашкевіч разгубіўся.

— Ды пэўна да вас, спадарыня.

— А чаго табе ад мяне трэба?

— Ды мы з Менску, — не ведаючы, што сказаць, прамармытаў маладзён.

— Што-о, ізноў па мак, колькі раз я вам буду казаць — няма ў мяне маку, а калі б і быў, то я вам усё роўна не прадала б. А ну пайшоў адсюль, біндус, пакуль сабаку не спусціла.

Жанчына пачала адчайна штурхаць Міколу ў грудзі. Хлопец не заўважыў, як апынуўся на вуліцы. Яму стала няёмка за сябе. Ён паспрабаваў узяць сітуацыю пад кантроль і, нахіліўшыся праз паркан, звярнуўся да ваяўнічай гаспадыні хутара.

— Вы мне даруйце, але вы нас з кімсьці паблыталі.

— Я цябе ведаю, наркаман пракляты, анну-у пайшоў адсюль.

Жанчына падхапіла граблі, што стаялі каля весніцаў, і замахнулася на чужынца. Але Дамашкевіч, стыдаючыся свайго ізраільскага калегі, не даваў слабіну і працягваў ушчуваць гаспадыню.

— Вы што, не разумееце, я не наркаман, мы прыехалі па сур'ёзнай справе.

— Хто гэта, мы? — пацікавілася старая.

— Я працую ў міністэрстве замежных спраў, а вось там, каля аўто, ізраільскі дыпламат, ён мае да вас пільную справу.

Сур'ёзны тон маладзёна і яго ўпэўненасць падзейнічалі на старую. Яна павольна прыадчыніла веснічкі і ўважліва агледзела аўто і перапалоханага дарэшты іншаземца. Праз пару хвілінаў ад былой злоснай цёткі не засталося і следу. Запрашаючы на падворак гасцей, жанчына ўвесь час прыгаворвала.

— Ах, божа, божа, вы мне даруйце, што я так. Гэта ўсё наркаманы, будзь яны праклятыя, ні дня, ні ночы ад іх няма. Жанчына дачакалася пакуль госці зойдуць на падворак, саромеючыся, спыталася.

— О-о-й, а вы чаго да нас, мы ж простыя людзі.

Мікола прыпыніўся і, не ведаючы як сябе паводзіць, паказаў рукой на свайго спадарожніка.

— Тут да вас прадстаўнік Ізраільскага пасольства, — і звярнуўся да дыпламата: — Ну вось, Ісак Львовіч, гэтая ваяўнічая жанчына і ёсць Саламея Качан.

Гаспадыня, стыдаючыся за сябе, працягвала прыгаворваць.

— Гэта ўсё наркаманы, будзь яны праклятыя.

Ізраільскі дыпламат павітаўся і амаль чутна запытаўся.

— Няўжо так часта турбуюць?

— У-у-й, каб іх халера пабрала, толькі не дапільнуеш, так паскуднікі ўвесь агародчык і вытапчуць. А я яго ад вайны ўжо не гадую.

— Вось, менавіта з прычыны мінулай вайны, мы да вас і завіталі. — усміхнуўся Мікола.

Жанчына задумалася і, яшчэ раз уважліва агледзеўшы прыехаўшых, прашаптала.

— Я адчуваю, размова доўгай будзе, то хадзем, калі ласка, у хату, чаго на падворку гразоту мясіць, — і павольна рушыла да нядаўна пафарбаваных уваходных дзвярэй.

— Не, не, дзякуй,— замахаў рукамі дыпламат. Жанчына азірнулася.

— Ну тады, — яна агледзела падворак, — вось можна тут, у цяньку паразмаўляць.

— Выдатнае месца, — задаволены прапановай дыпламат накіраваўся туды, дзе ўчапіўшыся ў падрубу двума пагабляванымі дошкамі мясцілася, шэрая ад часу, лаўка. Мікола паспяшаўся за калегам. І адразу, каб не марудзіць, Ісак Львовіч распачаў афіцыйную рэляцыю.

— Шаноўная пані Саламея, ад імя ўраду дзяржавы Ізраіль мне даручана ўручыць вам дыплом «Праведніца Свету» і грашовую ўзнагароду .

Не прайшло і хвіліны, як стары дыпламат перадаў жанчыне скрутак здаволі значнай кіпай грошай. Ушчэнт збянтэжаная шыкоўным падарункам, цётка здзіўлена паглядала то на дыпламатаў, то на грошы.

— Нейкія дзіўныя яны, не нашыя пэўна? — пацікавілася жанчына.

— Гэта амерыканскія даляры, — удакладніў Мікола.

У беднай жанчыны аж адвісла пашчэнка. Але, адчуваючы нейкі падвох, яна ізноў звярнулася да прыехаўшых.

— Не, вы мне ўсё ж такі растлумачце, што ж я такога зрабіла, што мне такая павага. Можа гэта ўсё не мне, а вы памыліліся разам са сваім Ізь-ьраіль-ьскім урадам? — Саламея ледзьве вымавіла невядомае ёй слова.

Мікола моўчкі зірнуў на свайго сталага калегу, чакаючы ад таго тлумачэння сітуацыі. Дыпламат глянуў на Дамашкевіча, потым на гаспадыню і, уздыхнуўшы, распачаў расповед.

— Улетку сорак першага да вас у хату, ратуючыся ад пераследу фашыстаў, забегла маладая габрэйка. У яе на руках было малое дзіця. Калі мы не памыляемся, вы яго ўратавалі. — Тут дыпламат на хвіліну прыпыніў аповед, пасля чаго, памаўчаўшы, сумна дадаў. — Праўда, восенню таго ж года жанчына загінула ў Наваградскім гета.

— Загінула такі, ай-я-яй, я так і думала, — ціха, амаль для сябе, прашаптала жанчына.

Пасля хвіліннай паўзы, дыпламат працягнуў.

— Ну, а вось бацька хлопчыка, жывы. Ён зараз даволі багаты чалавек. Жыве ў Тэль-Авіве, валодае там медычнай клінікай.

Мікола заўважыў, як перажывае гаспадыня. Яна то здымала хустку, то выцірала з ілба пот.

— Спадарыня Саламея, вам што, дрэнна? Можа вам вады? — заўважыўшы, што з пажылой жанчынай робіцца нешта не тое, звярнуўся да яе Мікола.

— Не-не, сынку, усё добра, усё добра, — пасля хвіліннай разгубленасці прамовіла гаспадыня. Ізраільскі дыпламат, дачакаўшыся пакуль жанчына супакоіцца, асцярожна спытаўся.



— Вы мне даруйце, пані Саламея, калі вам цяжка з намі размаўляць, то мы прыедзем у наступны раз.

Жанчына сатхнула некалькі разоў, а затым, амаль чутна, прамовіла.

— Не, не ўжо ўсё добра, я вас слухаю, працягвайце.

Мужчыны пераглянуліся. Дыпламат адкашляўся, потым адчыніў сваю сумку і выцягнуў адтуль той самы пажоўклы здымак, што паказваў у аўто Міколу.

— Вось, шаноўная Саламея, вы гляньце, можа каго пазнаеце.

Дрыжачая, натомленая жаночая рука асцярожна ўзяла здымак. Жанчына доўга разглядала ледзь бачныя твары людзей. І пасля некалькіх хвілін маўчання, халодна прамовіла.

— Вы, пэўна, памыліліся хлопцы, я гэтых людзей ніколі не бачыла і ні пра якога ўратаванага яўрэйскага хлопчыка мне чуць не даводзілася. Саламея працягнула здымак і скрутак з грашыма. Дыпламаты здзіўлена пераглянуліся.

— Пані Саламея, мы не хочам Вам зрабіць шкоды. Дый грошы, пэўна, вам патрэбныя, — сказаў Мікола.

Жанчына ўздыхнула, склала рукі на грудзях і ціха прашаптала.

— Каму грошы не патрэбныя, вось і ўнукі былі б радыя.

Дамашкевіч абрадаваўся.

— Ну дык вось, бярыце, калі ласка, грошы і канец справы. Але жанчына працягвала настойваць на сваім.

— Ты што, глухі, сынок. Зноў тлумачу вам, ні пра якога яўрэйскага хлопчыка я нічога не ведаю.

Расхваляваўшыся Мікола падскочыў з лаўкі.

— Шаноўная пані Саламея, я ж бачу, што вы гаворыце няпраўду.

Але тая цвёрда стаяла на сваім.

— Чым вам дапамагчы, я не ведаю. Сапраўды ў мяне ёсць два сыны — старэйшы Рыгор і малодшы Зміцер. І абодва выйшлі ў людзі. Рыгор працуе ў акадэміі навук. Зміцер — у газеце журналістам. І пры чым тут яўрэйскае дзіця? Грошы я ўзяць не магу.

Мікола зірнуў на свайго калегу і развёў рукі ў бакі. Дыпламат паразважаўшы, паклаў грошы ў партфель, і звярнуўся да гаспадыні.

— Ну, калі мы памыліліся, то вы нам даруйце, шаноўная. Але я, на ўсялякі выпадак, пакіну Вам тэлефон бацькі таго ўратаванага хлопчыка.

Тут жанчына захвалявалася і пачала махаць рукамі.

— Не трэба, не трэба. На што ён мне.

Але вопытны дыпламат ведаў, што робіць. Ён выцягнуў з сумкі нататнік, вырваў адтуль лісток і, хуценька запісаўшы туды тэлефон Мардахая Когана, паклаў яго на лаўку. Пасля непрацяглага развітання, госці селі ў «Мерсэдэс» і рушылі ў кірунку шашы.

У гэты самы час на падворак зайшла маладая, добра апранутая жанчына, гадоў трыццаці пяці. Дачакаўшыся, пакуль чужынцы на дарагім аўто ад’едуць, маладзіца падышла да гаспадыні.

— Цётка, а хто гэта такія?

Саламея сядзела на лаўцы, апусціўшы галаву. Пачуўшы знаёмы голас, яна адарвалася ад сваіх разважанняў.

— А-а, гэта ты, Лёдзя?

— Так, я, цётка. Вось пытаюся, што за людзі прыязджалі?

— Ды вось, шукалі тут мінулы дзень.

— І што, знайшлі? — перапытала суседка.

Саламея павесялела.

— Мінулы дзень, ён і ёсць мінулы, як ты яго знойдзеш. А-а-а, годзе пра іх, ты лепш Лёдзя раскажы, як там твой сынок у бальніцы?

Маладая жанчына апусціла галаву.

— Ой, цётка, нешта я перажываю за яго?

— А што дактары?

— Ды што яны скажуць. Вось прапануюць весці Міхаська ў Гародню ў абласную, на больш глыбокія даследаванні.

— Ну, калі дактары кажуць, то трэба везці.

— Ды я б яго, не тое што ў Гародню, у Маскву павезла б, толькі каб толк быў. — Маладая жанчына падышла да Саламеі, прысела на лаўку і заплакала.

— Ну чаго ты, Лёдзечка, чаго ты, усё будзе добра, — Саламея, нібыта клапатлівая маці, паклала рукі на галаву маладой суседкі.

— Не, цётка, не будзе добра, я адчуваю.

Суседка, не перастаючы плакаць, паднялася і няспешна пайшла да весніцаў.

— Ах, божа, божа, — Саламея, прыгаворваючы, узіралася ўслед суседцы.

— Ой, шкада, шкада, бедная Лёдзя, цягне адна хату, мужыка п'яніцу, а тут яшчэ адзіны сын захварэў. — Саламея глыбока ўздыхнула. Міжволі ўсплылі ў яе ўспаміны даўно мінулых гадоў…

…Адыходзілі апошнія летнія дні тысяча дзевяцьсот сорак першага года. Мінула ўжо амаль шэсць месяцаў, як саветы, за супрацоўніцтва з польскімі ўладамі, арыштавалі Івана, мужа Саламеі. І яна, з двухгадовым сынам засталася адна. А два месяцы таму, у Валковічах з'явіліся немцы. Тады ж Саламея стала сведкай, як новыя ўлады абыходзяцца з габрэямі. На яе вачах, нейкі навагрудскі паліцай, ні з таго ні з сяго, застрэліў мясцовага карчмара Феню Фількінштэйна, паважанага чалавека і чулага суседа. Вяскоўцы, што наведвалі гарадскі кірмаш, распавядалі, што мясцовае гета немцыператварылі ў сапраўднае пекла. У якім не шкадуюць ні дзяцей, ні старых.

Стаяў дажджлівы жнівеньскі ранак. Саламея зайшла ў хату прыгатаваць сняданак сабе і сыну. Раптам, дзверы адчыніліся і на парозе хаты з'явілася маладая чарнявая жанчына з захутаным у брудную тканіну дзіцём.

— Калі ласка, дапамажыце, — аддыхаўшыся, прамармытала незнаёмка. Гаспадыня разгубілася.

— Ах, божа, божа. Ну куды мяне вас схаваць. — Саламея акінула поглядам сваю хату і развяла ў бакі рукі. Незнаёмка заплакала.

— Пані, я вас малю, калі немагчыма схаваць мяне, уратуйце сына.

— Ой, не ведаю, я ж адна гадую хлопца.

Незнаёмка прыціснула да грудзей дзіця і заплакала. Саламея не стрымалася і заплакала разам з ёй.



— Куды я з імі, — прыгаворвала гаспадыня. — Ты пачакай, вось я сабяру дзіцяці рэчы, ды і табе што-небудзь дам падсілкавацца.

Краечкам хусткі змахнула слёзы і рушыла ў сцёпку. Калі яна праз хвіліну вярнулася ў хату, то жанчыны ўжо не было і толькі на зэдліку, што знаходзіўся каля парога, ляжаў прыгожанькі чарнявы хлопчык месяцаў дзесяці. Гаспадыня, не разумеючы, што здарылася, акінула поглядам хату.

— Божа мой, няўжо яна кінула дзіця?

Звонку пачуўся нарастаючы гул. Саламея прыклалася да вакроннай шыбы. Па гасцінцы, у кірунку хутара, рухаліся два матацыклы, на якім сядзела чалавек пяць вайсковых са зброяй.

— Немцы? Ах, божа, божа, што ж рабіць, — думкі, як шалёныя, насіліся ў жаночай галаве. Не марудзячы, Саламея хутка садрала з дзіцяці брудную вопратку і запіхнула ў печ. Адным рухам адчыніла куфар і выцягнула адтуль белую льняную тканіну, у якую за хвіліну захутала няшчаснае дзіця. Тут уваходныя дзверы з трэскам адчыніліся, і ў хату ўваліліся тры нямецкія жаўнеры, з-за спін якіх выглядаў мужчына сярэдніх гадоў у цывільным. Малады здаровы немец у чорнай уніформе накіраваўся да жанчыны. На хаду прамармытаўшы нешта па-нямецку, ён рукой паказаў у бок цывільнага. Той, пагаджаючыся, кіўнуў галавой і звярнуўся да перапалоханай жанчыны.

— Пан афіцэр пытаецца, дзе габрэйка, што некалькі хвілінаў таму забегла на твой падворак.

— Якая габрэйка, я нікога не бачыла? — здзіўлёна адазвалася Саламея. Мужчына пераклаў немцу пачутае. Той насупіў бровы, нешта адчайна загарланіў і перахапіў аўтамат. Перакладчык зрабіў крок наперад.

— Паслухай, дурная баба, калі ты не скажаш праўду, ён вас усіх тут пастраляе.

Саламея ўпала на калені і праз слёзы пачала казаць.

— Паночкі, я ўдава, майго мужа забілі праклятыя саветы, пашка-ду-йце.

Перакладчык пераказаў афіцэру. Той, пачуўшы, што гаспадыня пацярпела ад бальшавікоў, памякчэў. Ён закінуў аўтамат за плечы і ўважліва пачаў аглядаць хату. Заўважыўшы на ложку захутанае ў прастыну немаўля, ён зрабіў у кірунку яго некалькі крокаў. Пастаяўшы каля дзіцяці некалькі хвілінаў, ён адным махам сцягнуў з таго льняную прасціну. Перапалоханы хлапчук заплакаў. Але плач дзіцяці заглушала адчайная лаянка нямецкага афіцэра. У адну хвіліну ў руках эсэсаўца ізноў з'явіўся аўтамат. Перакладчык з-за плеч жаўнераў загарланіў.

— Прызнавайся зараз жа, дзіця той габрэйкі?

— Што вы, паночкі, гэта мой сынок.

Немец паказаў на чарнявыя валасы хлапчука і клацнуў затворам аўтамата. І тут Саламея падскочыла на ногі з халоднага току і адным рухам сарвала са сваёй галавы суконную хустку. Па плячах і спіне жанчыны, як пафарбаваны ў чорны колер лён, рассыпаліся казачна прыгожыя валасы. Простая, вясковая жанчына ў адну хвіліну ператварылася ў неверагодную красуню з нейкай невядомай усходняй казкі. Саламея мела надзвычай прыгожыя, чорныя, як ноч, валасы. На твары эсэсаўца з'явілася загадкавая ўсмешка, ён падняў вялікі палец правай рукі ўгору і задаволена прамармытаў.

— Gyt? Gyt!

У гэты самы час у хату, нібыта скразняк, заляцеў маладжавы, белабрысы паліцай.

— Пан афіцэр, габрэйка да лесу ўцякае. Вось-вось у хмызняк шмыгане. Трэба паспяшацца!

Перакладчык пераказаў немцу тое, што даклаў паліцай. Афіцэр, адыходзячы з хаты, працягваў трымаць верхам вялікі палец і ўвесь час усміхаючыся прыгаворваў.

— Gyt, zer gyt!

Праз хвіліну ў хаце, акрамя гаспадыні і дзяцей нікога не было. Ногі зрабіліся як не свае, і Саламея асунулася на халодны ток, на тым самым месцы дзе і стаяла. Абхапіўшы твар рукамі яна моцна і адчайна заплакала. А дзеці, нічога не разумеючы, гуляліся, не звяртаючы на амаль жывую маці аніякай увагі. Праз некалькі хвілінаў хлопцы, нібыта згаварыўшыся, пачалі галаканіць.

— Згаладнелі? — гаспадыня паднялася і рушыла да печы…

Пажылая жанчына павольна паднялася, змахнула друз са спадніцы і рушыла да выхаду з падворка. Акінуўшы поглядам вуліцу і наваколле, яна шчыльна зачыніла весніцы і накіравалася да сваёй хаты.

— Ён мне будзе гаварыць, каб я адмовілася ад сына. Бачыш ты яго, хацеў грашыма падмануць? Дурную знайшоў. Ага.

Праходзячы паблізу лаўкі яна заўважыла цыдулку, на якой дыпламат запісаў тэлефон.

— Не-е, трэба забраць. Хай будзе…

Адным рухам яна падхапіла складзены ўдвая лісток з тэлефонам Когана.

Ад таго нечаканага візіту дыпламатаў у Валковічы мінуў, бадай, месяц. Саламея, як заўсёды, вошкалася па гаспадарцы. Заўважыўшы заплаканую Лёдзю, якая апусціўшы галаву крочыла па вуліцы, галёкнула.

— Лёдзя, Лёдзя!

Маладая жанчына, не рэагуючы на голас старэйшай сяброўкі, працягвала павольна крочыць па пыльнай дарозе.

— Су-се-дка-а! Хадзі сюды, хадзі, — махала рукамі старая.

Лёдзя адчыніла весніцы і зайшла на падворак.

— Родная, што з табой? На табе твару няма?

— Ой, цётка, бяда ў мяне, бяда, — Лёдзя нахілілася да суседкі і адчайна заплакала.

— Ну, чаго ты, чаго, — Саламея, падтрымліваючы пад пахі, падвяла Лёдзю да лаўкі.

— Ой, цётка, бяда.

— Ну кажы, кажы хутчэй.

Маладая суседка аддыхалася, выцягнула з рукава кашулі хусцінку і выцерла твар.

— Я Міхаську свайго вазіла ў абласную бальніцу на агляд.

— Ну-ну? — зацікаўлена прамовіла Саламея.

— Ды, як быццам, спачатку ўсё было добра. А вось учора, пры выпісцы, доктар, які займаўся яго аглядам, выклікаў мяне да сябе і гаворыць: «Калі вашаму сыну тэрмінова не зрабіць аперацыю на сэрца, то ён больш як паўгода не пражыве». — Пасля гэтых слоў няшчасная маці зайшлася адчайным плачам.



— Ну, дык чаго ты плачаш, зробяць яму аперацыю і ўсё будзе добра? А калі спатрэбіцца, я сынам у Менск патэлефаную, яны яго ў тамтэйшую бальніцу ўладкуюць. Усё ж такі сталіца, пэўне, дактары лепшыя, чым у нас.

Лёдзя зноў выцерла слёзы хустачкай. І ціха прамовіла.

— Ды не, цётка, ні ў нас, ні нават у Маскве, такой аперацыі дактары рабіць не ўмеюць.

— А дзе ўмеюць рабіць? — спыталася Саламея.

Лёдзя выцерла слёзы і, узіраючыся ў вочы суседцы, ужо зусім спакойна прамовіла.

— Мне той самы доктар у абласной бальніцы казаў, што лепш усяго робяць у Германіі ды Ізраілі.

— Ну дык хай даюць табе напраўленне ў Германію, ці ў той Ізраіль.

— Не, цётка, так не атрымаецца.

— Чаму?

— Ды, каб аперацыю там зрабіць, трэба мець пры сабе сама меней трыццаць тысяч даляраў. А дзе мне іх ўзяць. Я, каб адвесці Міхася ў Гародню, апошнюю свінню прадала.

Саламея ўскочыла з месца і замахала рукамі.

— А ўлады нашыя, што? Няўжо не дапамогуць. Вунь, паглядзі, якія катэджы вакол Навагрудка павыбудоўвалі.

— Ой, цётка, дзе вы бачылі. Я сёння з ранку ў нейкага чыноўніка дзве гадзіны на каленях стаяла. А ён, вы ведаеце, што мне адказаў.

— Здагадваюся, — апусціўшы галаву, прашаптала Саламея.

— Вось так, цётка, і зараз мне наканавана кожны дзень чакаць, калі мой сынок вочкі свае назаўсёды заплюшчыць..

Лёдзя павольна паднялася з лаўкі і пацягнулася з хутара. З вачэй Саламеі, як боб, пакаціліся слёзы.

— Ах, божа, божа, за што ёй гэта. Такая добрая жанчына. А хлопчык яе такі сціплы, такі добры. Ах, божа, божа.

Саламея змахнула слёзы, крышку пастаяла на падворку і, нешта прыгаворваючы зразумелае толькі ёй, зайшла ў хату.

Усю ноч Саламея малілася. А калі вясенняе сонейка пачало заглядваць у вокны яе хаты, пераджагнаўшыся, падышла да тэлефона і, апрануўшы акуляры, набрала нумар. На тым канцы проваду прыемны жаночы голас прамовіў.

— Слухаю вас, гаварыце.

Саламея зачытала прозвішча, што пакінуў Ізраільскі консул. Праз некаторы час пачуўся мужчынскі голас. Дачакаўшыся, пакуль ён скончыць гаварыць, жанчына нічога не зразумеўшы, павіталася і назвала сваё прозвішча. Праз хвіліну, ужо на зразумелай мове, мужчына прамовіў.

— О, як я доўга чакаў гэтага званка. Мне так шмат трэба Вам сказаць.

— Добра, мы пра ўсё пагаворым, калі вы выберацеся на Беларусь. А зараз я вас хацела папрасіць дапамогі. — Перабіваючы чалавека на тым канцы проваду, упэўнена прамовіла Саламея.

Мужчына ўсё зразумеў і праз хвіліну суха прамовіў.

— Буду вельмі рады выканаць вашу просьбу.

— Ведаеце, пан Коган, суседскаму хлопцу патрэбная тэрміновая аперацыя на сэрца. А мне казалі ў вас ўласная бальніца.

— Добра, я зразумеў, мы дапаможам яму, але мяне цікавіць, што вам прыватна патрэбна.

Саламея падумала і праз хвіліну прамовіла.

— Не, не, мне нічога не трэба, Вы вось хлапчуку, калі ласка, дапамажыце!

На тым канцы проваду зноў запанавала цішыня. Пачакаўшы, Коган прамовіў:

— Дайце бацькам хлопчыка мой тэлефон, і мы з імі ўсё абмяркуем. Увесь кошт за аперацыю клініка возьме на сябе. Вы не турбуйцеся.

Саламея паклала трубку і, ухапіўшы лісток з тэлефонам ізраільскага доктара, паспяшалася да суседкі. Калі яна заляцела ў суседчыну хату, то застала тую на каленях каля абраза Збаўцы. Лёдзя, пачуўшы як адчыніліся дзверы хаты, павярнула галаву.

— А-а, гэта вы, цётка.

Саламея звярнула ўвагу на яшчэ больш пачырванеўшыя ад слёз вочы суседкі.

— Я, Лёдзечка, я.

Расчуленая горам маладая жанчына не звяртала ўвагі на зайшоўшую суседку, працягвала маліцца. Саламея падышла да маладзіцы і, расправіла лісток, каб быў відзён нумар тэлефона.

— Вось, Лёдзя, тэлефон ізраільскай бальніцы. Спытаеш там Когана і ён зробіць твайму сыну аперацыю.

Выматаная перажываннямі маладая жанчына нічога не разумела. Саламея ізноў паўтарыла тое, што сказала толькі што. Лёдзя змянілася тварам. Яна ўзіралася то на нумар тэлефона, то на Саламею. І ніц не разумела.

— Як гэта, цётка, як?

— Не прымушай мяне махляваць, суседка. Гэта мая справа.

Лёдзя не магла ўсвядоміць, што дапамога, якую яна чакала ад уладаў і сваякоў прыйшла ў самы патрэбны час ад чалавека, які жыў з ёй па-суседску ўсё жыццё. Саламея адчувала, што яе маладая суседка разгубілася і не ведае што рабіць. Каб не зацягваць няпэўную сітуацыю, Саламея развіталася і рушыла да дзвярэй.

— Цётка, я вам ўсё жыццё, усё жыццё служыць буду, калі бульбу капаць ці агарод апалоць, вы толькі скажыце. Выціраючы слёзы радасці, узіраючыся на Богам пасланы нумар тэлефона, мармытала маладая жанчына.

— Ды чаго там, ты маліся, ды за сынам глядзі. А я, дзякаваць Богу, ужо сама як-небудзь…






нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Кіруе малым прадпрыемствам «Вітаўт». Выдаў кнігу гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігу прозы «Чорная Воля». Старшыня абласной арганізацыі СБП. Жыве ў Гродне.



МІХАСЬ ЗІЗЮК

## Планктон*

1

Паціху, неяк незаўважна — мабыць, з-за таго, што ён мала зважаў на дарогу — сцямнела. Спачатку ранні студзеньскі прыцемак няспешна садзіўся на заснежанае поле, ціхае белае наваколле, потым паволі ўкрываў шэрай засмужанасцю лес, што чарнеў паабапал, і толькі пасля апусцілася ноч, цалкам заўладарыўшы над зямлёй. Сонца сёння нават і не паказвалася з-за нізкага, навіслага над зямлёю неба, што і не дзіўна для зімовай пары. Але свінцовая шэрань неяк нядобра ціснула на скроні і вочы, а сэрца часам тужліва замірала, услухоўваючыся, як дарога нашэптвае патаемныя думкі пра канцовасць чалавечага жыцця і непазбежнасць смерці. Віталь сядзеў на заднім сядзенні з заплюшчанымі вачыма, адкінуўшы галаву. Няхай сябры думаюць, што ён дрэмле. Але спаць не хацелася. Чамусьці было трывожна і гнятліва на душы. Хутчэй за ўсё, з-за такога ж змрочнага і цяжкага надвор'я. Хоць магчыма, дрэнны настрой яшчэ і з-за таго, што ўчора ён пасварыўся з Інай. Сустракаюцца яны крыху болей за год, а Віталь ніяк не можа прывыкнуць да яе своеасаблівага характару і пераменлівага, як свежы першакрасавіцкі вецер, настрою. Пазнаёміліся яны адразу пасля таго, як стройная бялявая дзяўчына прыйшла на працу ў кампанію. Віталь сустрэў яе ў офісе і ўпадабаў з першага позірку. Потым было знаёмства, першае спатканне, запрашэнне ў рэстаран, а далей… Далей ён закахаўся, нават збіраўся зрабіць прапанову рукі і сэрца, але Іна паказала свой характар. Яна магла з-за нязначнай дробязі — не так паглядзеў на прыгожую дзяўчыну, не адказаў на тэлефонны званок — раздзьмуць страшэнную праблему. Магла пасварыцца да слёз, а праз гадзіну прыйсці мірыцца, а магла шпурнуць у твар кветкі і не гаварыць з ім некалькі дзён. Ох, гэтае каханне, далося яно яму ў знакі. Нават Косця, яго блізкі сябар, заўважыў, што Віталь змяніўся: пахудзеў, стаў больш маўклівым і замкнёным.

— Гэй, офісны планктон, досыць дрыхнуць, прачынайся — хутка будзем на месцы, — гукнуў, азірнуўшыся на яго Максім.

Віталь не азваўся. Не хацелася пачынаць размову і не надта падабалася, што Максім спрабуе прыклеіць яму новую мянушку. Ён недзе вычытаў гэты выраз і цяпер часта называе сябра навамодным слоўкам. Але Віталь не крыўдлівы па натуры і стараецца проста не звяртаць увагу: надакучыць, то і сам адчэпіцца. Яму больш абрыдла музыка. Ледзь ад'ехаліся ад Мінску, як Максім уключыў блатны шансон і ад

* Планктон — ад грэч. Planktos (тыя, што блукаюць) — разнастайныя, у асноўным дробныя арганізмы, што свабодна дрэйфуюць у тоўшчы вады і не здольныя, у адрозненне ад нектону, супраціўляцца плыні. Планктон непасрэдна або праз прамежкавыя звёны харчовага ланцугу з'яўляецца ежай для большасці астатніх водных жывёл (звесткі з Вікіпедыі). «Офісны планктон» — супрацоўнікі офісаў і устаноў кіравання ніжэйшага звяна: сакратары, менеджары і г. д.

яго пухлі вушы. Віталь зрабіў заўвагу сябру каб ён змяніў гэта на што іншае, але той толькі ўхмыльнуўся:

— Ты што, клёвы музон.

Усю дарогу Максім гаманіў з Косцем, які кіраваў аўтамабілем, хваліўся сваімі любоўнымі поспехамі і раз-пораз гучна рагатаў.

Віталь успомніў, як два тыдні таму яны ўсе разам святкавалі надыход новага, 2005 году, пілі і танчылі да пяці раніцы. Тады ж Максім і прапанаваў:

— Мужыкі, а давай махнём на рыбалку, месцейка класнае ёсць.

— Дзе? — ажывіўся Косця, які яшчэ да тэрміновай службы ўцягнуўся ў зімовую рыбалку, а потым падахвоціў і сяброў. І трэцюю зіму запар яны ездзяць на Косцевай машыне па розных рыбацкіх мясцінах. Віталь і сам не думаў, што захопіцца падлёднай лоўляй. Але ж ні з чым не параўнаць тое пачуццё, калі стараешся схапіць паводзіны рыбы пад лёдам, калі цягнеш добрага акуня ці шчупака, калі адчуваеш у руках важкую здабычу. А потым сядзіш, разамлеўшы ў цяпле, цела ахутвае прыемная стомленасць, дома спіш, як забіты.

— На вёску, да маёй бабулі.

— А дзе жыве бабуля?

— На Віцебшчыне.

— Ну, ты замахнуўся, — зморшчыўся Косця, — гэта ж добры кавалак дарогі.

— Затое рыбалка якая, — Максім пстрыкнуў недакуркам і замахаў рукамі перад Косцевым носам. — Вёска ў глушы, туды мала даязджаюць. А ў сямі кіламетрах ад вёскі, у лесе, возера. Рыбы там процьма. Я, калі ў школе яшчэ вучыўся, кожнае лета бываў у дзеда. І з мясцовымі хлопцамі матаўся на возера. Там рыба, як дурная, клюе ледзь не на голы кручок. Адарвёмся, я табе абяцаю. Што нам — скінемся на бензін, у пятніцу сарвёмся крыху раней з працы, у бабулі заначуем, а з раніцы на возера. А прырода якая там — клас. Што скажаш, Віталь?

— Я не супраць. А то вечна сядзім, дзе пелька на пельцы, рыбак на рыбаку.

Падумаўшы, Косця даў згоду.

І вось машына едзе па глухой гравейцы, а Максім паказвае дарогу:

— Во, а тут звярні направа. Усё, яшчэ некалькі кіламетраў і мы на месцы. Ну што, офісны планктон, адаспаўся? Што ноччу рабіць будзеш?

— Ад цябе адпачываць, — азваўся Віталь, — галава гудзе ад твайго шансону.

— Э, што ты разумееш, гэта ж файная музыка. У мяне на заводзе напарнікам працуе адзін — дзве ходкі мае. Так па фені шпарыць, што яго нават майстар пабойваецца, — Максім зарагатаў. — А ў перапынку чыфір пацягвае. Такое ўлётнае пойла, я табе скажу.

Ён зноў гучна засмяяўся. Паказалася вёска — засыпаныя снегам прысадзістыя стрэхі, маўклівыя дамы, пахіленыя шэрыя платы, калодзеж са старым жураўлём, доўгая вузкая вуліца. Увесь гэты малюнак высвецілі фары аўтамабіля, які растрывожыў заснулую і забытую вёсачку. Дзе-нідзе вокны адсвечвалі скупым жоўтым святлом ці блякла сінелі экранамі тэлевізараў, але большасць з іх узіралася на вуліцу глухімі, чорнымі, як сама ноч, вокнамі. Машына праехала амаль у канец вуліцы, а дыхтоўных, свежых дамоў і збудаванняў, якія сведчылі б, што тут яшчэ жывуць моцныя маладыя гаспадары, Віталь не заўважыў. Каля перадапошняй, невялікай



абшаляванай і пафарбаванай хаты, яны спыніліся. Плот у двары месцамі пахіліўся, а веснічкі, падвязаныя шпагатам, коса павіслі да зямлі. У маленькай сціплай верандзе, свяцілася акно з вузенькімі і прадаўгаватымі па даўнішняй модзе шкельцамі.

— Вы давайце рэчы выгружайце, а я пайду падрыхтую бабулю, — Максім расчыніў веснічкі і пайшоў у хату.

Віталь пацягнуўся, размінаючы зацёкшыя рукі ногі, і агледзеўся. Далей, за вёскаю, знерухомела заснежанае белае поле, а за ім праглядваліся абрысы чорнага лесу. Дыхалася лёгка, здавалася, што свежае марознае паветра само напаўняе грудзі пругкай плынню. Ён зрабіў некалькі крокаў і спыніўся.

— Ты чаго? — азірнуўся Косця.

— Цішыня, якая цішыня, — уздыхнуў Віталь. — Не заўважаеш?

— Ну, цішыня, што ты хочаш — глухая вёска. Пайшлі.

Максім па-гаспадарску накрываў на стол. Побач завіхалася невысокая паўнаватая, але рухавая і жвавая жанчына год шасцідзесяці пяці.

— Праходзьце, праходзьце, хлопчыкі. Гэта ж во, такі падарунак — унучак мой, Максімка, прыехаў. Тры гады яго не бачыла. Хоць пазваніў бы, я б чаго прыгатавала, а так толькі трохі бульбы ў печы маю. Як жа так, — бедавала яна. — З дарогі і галодныя будзеце.

— Не хвалюйся, Людміла Міхайлаўна, у нас усё з сабою, у момант стол арганізуем. Гэта мае сябры Віталь і Косця.

— Ну і добра, распранайцеся, хлопчыкі, сядайце. Я зараз сальца з яешняю падсмажу, агурочкаў сваіх, капустачкі прынясу.

Бабуля выйшла ў калідорчык. Максім паставіў на стол пляшку гарэлкі:

— Кідайце рэчы ды сядайце — шаснем па чарцы.

Віталь паставіў пляцак у кут, сеў на драўляны, пафарбаваны ў бура-чырвоны колер, услон. Хата дзялілася на тры часткі. Светлая, чысцейшая, частка займала амаль палову хаты, на другой гаспадары паасобку адгарадзілі печ і закуток каля яе, а асобна зрабілі нешта кшталту сталовай. Там стаяў стол, услон уздоўж акна, старая лядоўня, на сцяне вісела некалькі зрудзелых шкапчыкаў.

Хутка на стале сквірчэла сала з яешняю, напаўняючы хату прыемным пахам, гарачкай бялела хрумсткая квашаная капуста ў металічнай талерцы, курэла лёгкім парам бульба ў чыгунку. Хлопцы выклалі на стол і свае прыпасы, разлілі гарэлку.

— Ну, мужыкі, за рыбалку, — Максім падняў чарку. — Як, бабуля, дарога за вёскай? Ці даедзем да возера?

— Так, — сцвярджальна кіўнула жанчына, — нядаўна лясгас лес traляваў дык дарогу пачысцілі. А я во, нядаўна, дровы заказвала. Прывезлі, а пасекчы некаму — мужыкоў, лічы, няма ў вёсцы. Усе старыя, ёсць у нас два лайдакі маладыя, то толькі прапіваюць матчыныя пенсіі. Іх не дапросішся.

— Мы з раніцы можам вам дапамагчы, — адразу заявіў Віталь.

— Можам, можам, — перадражніў яго Максім, — гэта табе толькі здаецца, што ў нас шмат часу. Можам хіба ў нядзелю, калі атрымаецца. Бо заўтра прыйдзецца машыну пакінуць на дарозе, а самім недзе з кіламетр ці больш па лесе да возера дабірацца — дарога ж занесена. І ўсё цягнуць на сабе, а снегу там будзе нямала, не сумнявайся. Так што паберажы сілы. А бабуля ў мяне шустрая, не прападзе.

Пакуль яны вячэралі Людміла Міхайлаўна падрыхтавала ложкі. У чыстай палове прыемнае цяпло ішло ад абніцаванай белаю кафляю печкі. На сцяне вісеў стары гадзіннік з гіраю, на ложках гарою высіліся падушкі.

— Палова дзясятай, — адзначыў Косця, глянуўшы на свой гадзіннік, — будзем класціся ці як?

— Пайшлі пакурым, а пасля, калі хочаце, можаце тэлевізар паглядзець, — адказаў Максім.

Сябры выйшлі. Віталь сеў на ложак, зняў швэдар і адкінуўся на падушку. Быццам нічога сёння і не рабіў, а нейкая стома адчуваецца ў целе. Магчыма, гэта больш эмацыйнае, бо было шмат працы і апошнім часам ён нават затрымліваўся ў офісе. Не, добра, што яны выбраліся на рыбалку — тут сапраўды спакойна, а заўтра і ўвогуле будзе выдатна. Нечапанае возера, дзікая прырода, цішыня — душа адпачне. А вось пасекчы дровы то трэба было б. Дзівак Максім: як жа так — адмовіцца дапамагчы сваёй роднай бабулі. І ўвогуле, чым далей, тым больш сябар становіцца нейкім занадта жорсткім. Дзіўна, што чалавек можа так мяняцца. Вось па сабе Віталь адчувае, што яго погляды не змяніліся, хоць ён і пасталеў. Ці яму гэта толькі здаецца?

Сон адразу не ішоў. Ужо сцішыўся Косця, ледзь чутна пасвістваў Максім, варочалася на печы гаспадыня, а яму ўсё лезлі ў галаву нейкія думкі: то ўспамінаўся бацька, які стаў часта хварэць і заклапочаная маці, бо сёлета паступаць малодшаму брату, то ўзнікаў хмурны твар сяброўкі Іны. Жыццё падкідае нейкія праблемы. Хоць, зрэшты, ў каго яно ўсё гладка. Бадай што не бывае жыцця без праблем, як не круці. А потым думкі заблыталіся і ён праваліўся ў глыбокае шэрае сутонне.

2

Здаецца яшчэ толькі пачынала днець. Кволае зімовае святло ледзь-ледзь прасочвалася праз просценькія жоўценькія фіранкі, а ў двары нехта гахаў сякераю. Максім падняў галаву: Віталя не было на месцы. Глядзі ты, успароўся такі, гэты офісны планктон. Трэба яму тыя дровы — паляжаў бы, калі давядзецца яшчэ насалодзіцца спакоем і цішынёй, адаспацца. Бо яму, Максіму, дома такой раскошы не выпадае. У трохпакаёвай кватэры разам з ім і бацькамі жыве сястра з мужам. Іхні малы, чатырохгадовы Кірыла, ранняя птушка: і сямі няма, а ён ужо лётае па кватэры, галёкае, што шалёны. Хіба там паспіш? А ў будні тым больш не паляжыш, а восьмай Максім павінен на заводзе. Як хочаш, так і жыві, прасвету няма. Мабыць, трэба падымацца, а то бабуля будзе дзяўбаць у галаву ўсю раніцу: ах, які харошы ў цябе сябар, які малайчына. Яна ж прывыкла плакацца, што і тое ў яе не так, і тое не гэтак, а сама заўсёды спраўляецца. Во так, мабыць, і дзеда дапякла, калі пайшоў на той свет да шасцідзесяці. Праўда, дзед мо залішне і выпіваў, але добры быў, спагадлівы.

Максім спыніўся за спінай у Віталя. Сябар спрабаваў выцягнуць сякеру з таўставатага яловага камля, націскаючы на тапарышча, але тая не ішла назад.

— Дай сюды, офісны планктон, — усміхнуўся Максім, — гэта табе не за камп'ютарам сядзець, тут патрэбна ўменне і сіла.

Задыханы Віталь моўчкі адышоўся. Максім падхапіў сякеру з камлём, узняў над сабою і, з лёгкім прысяданнем, некалькі разоў гахнуў абухам па дубовай калодзе. Цурбан разляцеўся напалам, Максім стаў сячы яго на драбнейшыя паленцы.



— Чаго стаіш? — гукнуў ён Віталю. — У бабулі яшчэ адна сякера ёсць. Калі ўжо захацеў — то ўкалвай.

Недзе з паўгадзіны ці болей яны яшчэ памахалі сякерамі, пакуль Максім не ўваткнуў сякеру ў калоду:

— Хопіць на сёння, пайшлі снедаць, астатняе заўтра, а то і сілаў не застанецца.

Задаволеная Людміла Міхайлаўна нахвальвала Віталя з Максімам, выйшла праводзіць іх за веснічкі.

— Вы ж там, Максімка, не бáўцеся доўга. Цямнее рана, каб яшчэ не заблукалі дзе ў лесе.

— Бабуля, — паморшчыўся Максім, — там няма дзе блукаць. Я каля возера ўсе сцяжынкі ведаю.

Развярнуўшыся, яны паехалі праз вёску, якая быццам вымерла. Толькі ў самым канцы вуліцы ім трапіўся пажылы мужчына ў зялёным, падобным на вайсковы, бушлаце, які цягнуў на санках нейкі мех. Максім пазнаў яго: здаецца, гэта бацька аднаго з колішніх вясковых сяброў Адася Пячуркі. З гэтым вясковым хлопчыкам яны разам ездзілі на роварах на рыбалку, разам латашылі чужыя яблыні і скручвалі ў жніўні вялізныя жоўтыя капелюшы сланечніку на чужых агародах. Дзе цяпер той Адась, куды закінула яго жыццё? Успомніўшы маленства, ён ледзь не прамінуў паварот:

— Ціха, не гані! Тут звярні.

Косця рэзка затармазіў і аўтамабіль занесла. Развярнуўшыся ўпоперак дарогі, машына ткнулася носам у прыдарожную гурбу.

— Што ты сядзіш і спіш, — узлавана выгукнуў Косця, — ледзь з дарогі не зляцелі! Што, не мог раней сказаць?

— Дык не зляцелі ж, чаго ты бурчыш. Зараз пхнём і паедзем.

Максім з Віталем вылезлі з машыны, падпіхнулі і, крыху газануўшы, Косця выкіраваў на дарогу.

Паабапал вузкай, як размінуцца дзвюм машынам, лясной дарогі насцярожана застылі магутныя елкі, ніжнія лапы якіх прысыпала снегам. Праз нейкі час паказаўся вялікі прагал, здратаваны магутнай тэхнікай. Максім успомніў, што менавіта сюды яны з Адасем некалі хадзілі па лісічкі. Адась заўсёды ўмудраўся збіраць больш за яго і гэта вельмі злавала Максіма. Таму аднойчы, каб уцерці нос сябруку, ён насыпаў у кошык усялякіх грыбоў, што трапіліся пад руку, а зверху наклаў лісічак, што паспеў знайсці, і некалькі баравікоў. Трэба было тады бачыць здзіўлены Адасеў твар, калі ён убачыў паўнюткі вялізны кошык і пакет з грыбамі. Эх, залатая была пара — адзін у вёсцы, ніхто не чапаў, дзед асабліва не нагружаў працай і яны з вясковымі падшыванцамі прападалі то на возеры, то ў лесе. Тут сябрам яму быў Адась, а ў горадзе — Косця і Віталь. Яны і дагэтуль сябруюць. Як быццам усе розныя, але ж неяк столькі год разам. Віталь — ціхоня, хлюпік, больш паглыблены ў сябе, з іхняй кампаніі толькі ён атрымаў вышэйшую адукацыю. Косця — флегматычны, спакойны, акрамя аўтамабіля і рыбалкі мала чым цікавіцца, а працуе на хлебазаводзе кіроўцам. Максім жа самы спрытны і дужы, не тое, што Віталь, які нават па дзяўчатах не ходзіць. Увогуле, дзівак ён, запаў толькі на гэтую, не надта прывабную, Іну і сохне па ёй. Усе яны, бабы, аднолькавыя, адна трасца. Вось ён, Максім, стараецца падоўгу не сустракацца

з адной і той жа — надакучваюць, а пасля стараюцца з цябе грошай пацягнуць. А тут як самому ўзбіцца на гэтыя грошы каб быць незалежным ад бацькоў.

Злева паказаўся магутны дуб. Тут можна было б звярнуць і даехаць па лясной дарозе да возера, але ж цяпер не сунешся на машыне. Шкада.

— Тармазі, прыехалі, — загадаў Максім.

Хлопцы спакавалі рэчы, узвалілі на сябе.

— Давай, Сусанін, вядзі, — усміхнуўся Косця, — толькі ты дарогу ведаеш.

— А што тут ведаць? Вунь жа — відаць яна, толькі ідзі ды мясі снег. Добра, спачатку я першы іду, потым мяняемся. Як там нашы жыўцы?

— Нічога, яны і нас пераважывуць, калі шчупак іх раней не схопіць, — пажартаваў Віталь.

Максім паціху пасунуўся наперад. І сапраўды, ён як у ваду глядзеў: снегу насыпала вышэй каленяў, да таго ж яго ўтрамабавала некалькімі снегападамі, марозамі і вятрамі. Ногі правальваліся і першаму ісці было цяжкавата. А вось надвор'е спрыяла ім. Трымаўся адносна невялікі, недзе каля пяці-шасці градусаў мароз, вецер сціх. Не рыбалка, а суцэльнае задавальненне. Трэба будзе потым вогнішча зладзіць, бутэлечку «раздавіць», якая нядрэнна пойдзе на свежым паветры.

— Макс, — раптам спытаў у яго Віталь, — чаму тут навокал столькі нейкіх ям, канаваў? Нават пад снегам відаць.

— Ямы, канавы, — перадражніў яго той. — Эх ты — цемната, а яшчэ ўніверсітэт скончыў. Тут жа такія страшныя баі ішлі. У сорак трэцім немцы ў гэтых мясцінах блакаду праводзілі, а партызаны прарываліся, а пасля, у сорак чацвёртым, наступленне нашых пачалося, каля возера фашысты трымалі абарону. Мне дзед казаў, што тут пасля вайны жывога месца не было — усё здратавана выбухамі. Нават лес адсюль не бралі, бо дрэвы нашпігаваныя кулямі ды асколкамі. Мы з вясковымі хлопцамі неяк нават спрабавалі капаць тут, каб зброю знайсці.

— Знайшлі?

— Чаго захацеў, столькі год мінула. Адкапалі іржавы штык-нож і нешта круглае, падобнае на снарад. Хацелі распаліць вогнішча і кінуць у агонь — во бабахнула б. Ды нарваўся на нас ляснік, разагнаў усіх, бацькам паведаміў.

— А што са снарадам?

— Халера яго ведае: ці ляснік зноў закапаў яго, ці мо сапёраў выклікаў — не ведаю. Нам тады дома вушы добра накруцілі, каб мы болей не капалі.

Мінуўшы невялікую лагчынку, сябры выйшлі да возера. Белая снежная роўнядзь расцеглася болей, як на кіламетр, а ўшыркі возера было ледзь не ўдвая меншым. Яго берагі ўкрывалі зараснікі алешніку і беразняку, дзе-нідзе пракідаліся кучаравыя вершаліны зялёных хвояў.

— Але ж і сапраўды глухмень тут — нават мабільнік не цягне, няма сувязі, — сказаў Віталь, выцягнуўшы з кішэні тэлефон.

— Дык радуйся, не будзе твая Іна дурыць галаву, — рагатнуў Максім.

Перакурыўшы, сябры пакінулі рэчы на беразе і заняліся тым, дзеля чаго прыйшлі. Максім выбраў месца, дзе па яго меркаванні павінна быць рыба, і ўзяўся разам з Косцем свідраваць пелькі. Віталь стаў рыхтаваць жэрліцы і мармышкі. Ён паціху калупаўся, услухоўваючыся ў цішыню. Як жа здорава тут: ніводнай жывой душы, акрамя іх, ціха, прыгожа.



Скончыўшы з жэрліцамі, Максім прапанаваў:

— Пайшлі цяпельца раскладзём. Будзе дзе пагрэцца, потым перакусім, я і бутэлечку ўзяў.

— Давай парыбалім крыху, а пасля ўжо, — не згадзіўся Віталь.

— Сапраўды, ідзі адзін па дровы, ты ж амаль вясковы хлопец, ведаеш, што да чаго, а мы з Віталем пасядзім, — падтрымаў яго Косця. — У мяне ўжо сверб пачынаецца, так і цягне да пелькі.

Максім пайшоў на бераг. Ён выбраў зручнае месца, перанёс туды рэчы. Потым узяў сякеру, зваліў сухую алешынку, расклаў вогнішча. Потым адшукаў невысокую ялінку, насек лапніку, кінуў яго каля агню, падаслаў пад сябе кавалак брызенту і з задавальненнем расцягнуўся: хай яны там паловяць, а яго рыба нікуды не дзенецца. Ён ведае гэтыя мясціны лепш за іх і яшчэ паспее ўзяць сваё.

3

Косці пашанцавала. Не прайшло і дзесяці хвілінаў, а ён ужо выцягнуў першага ладнага акунька. Пасля, аднаго за адным, яшчэ тры. Віталь за гэты час задаволіўся толькі адным. А ў хуткім часе яны пакідалі мармышкі: амаль адначасова спрацавалі дзве жэрліцы.

— Ух ты, во паваліла, — узрадаваўся Косця, — бяжым.

Хлопцам пашэнціла, яны абодва злавілі па шчупаку. Віталь хутка выцягнуў свайго. На вока рыбіна пацягнула недзе каля кілаграма. Шчупак падскокваў на лёдзе, спрабуючы адшукаць ваду, але дарэмна. Віталь ад хвалявання злёгку ўспацеў — як жа, адразу такая ўдача. Затое Косця валэндаўся са сваёй здабычай: шчупак аказаўся ладным і ніяк не хацеў лезці ў пельку.

— Максім, хутчэй сякеру!

Віталь таксама кінуўся на дапамогу.

— Трымай, трымай! Давай, тут падсячы!

Праз некалькі хвілінаў сябры абступілі рыбіну.

— Клёва, кіло на чатыры, калі не болей, пацягне, — прыцмокнуў Максім. — А я што вам казаў?

— Згодзен, ты малаток, — шчаслівы Косця выцер ўзмакрэлы лоб. — Такога экзэмпляра я яшчэ не выцягваў.

Лавілі яшчэ гадзіны тры. За гэты час Максім злавіў два шчупакі і дванаццаць акунькоў сярэдняга памеру, Віталь, акрамя акунёў, таксама выцягнуў трох зубастых драпежнікаў, чацвёртага ўпусціў. А вось Косця аказаўся шчаслівчыкам: ён змог узяць аж шасцярых, праўда, самым буйным аказаўся першы. Потым клёў пайшоў на спад, а задаволеныя сябры рушылі на бераг папалуднаваць і абагрэцца.

— За такую рыбалку не грэх выпіць. Ды і кішкі марш іграюць, — Максім задаволена пацёр рукі. — А вось агеньчык затухае. Так, вязунчык, давай за мной па дровы, а Віталь хай стол рыхтуе.

— Ёсць, бос, — жартаўліва казырнуў Косця.

Сябры пайшлі. Віталь разаслаў цыратку, стаў наразаць хлеб, каўбасу, адкрыў бляшанку з кансервай, тушонку. Спакваля вярнуліся думкі пра Іну. Можа, і ён пагарачыўся, занадта рэзка пагаварыў з ёю, але назад не вернеш. Шкада, што мабільны тэлефон не цягне, не пагаворыш. Хоць, магчыма, гэта і да лепшага: яны абодва астынуць і потым спакойна разбяруцца.

Хлопцы прыцягнулі дзве сухастоінкі.

— Уф, — Косця стомлена паваліўся на лапнік, — замарыўся я. А што, тут бліжэй дроў не было?

— Дзе там, я праверыў, тут няма сухастою. Гэй, офісны планктон, досыць прахалоджвацца — папрацуй сякерай, — гукнуў Максім Віталю.

— І што ты да яго прывязаўся? — заўважыў Косця. — Абзываеш Вітальку нейкім дэбільным выразам. Можа хопіць?

— А што, не так хіба? — нечага вышчарыўся Максім. — Мы з табой — рабочы клас, зарабляем на такіх, як ён, інтэлігентаў.

— Табе ніхто не замінаў вучыцца, — спакойна заўважыў Віталь.

— Ды ў мяне мазгі іншыя, я не магу сохнуць над падручнікамі.

— Алё, хопіць сварыцца, і сапраўды есці хочацца, — прымірэнча сказаў Косця.

Максім плюхнуў у кілішкі гарэлкі, працягнуў сябрам.

— Не, я не буду, — адмовіўся Косця.

— Ты што, баішся? — Максім засмяяўся. — Ды там, у вёсцы, участковы толькі раз у год з'яўляецца, а тут хто цябе спыніць? Бяры, сагрэйся.

— Сказаў жа — не буду. Я прафесіянал і не буду мяняць сваіх прынцыпаў — за рулём ні-ні.

— Дзівак, — Максім пацііснуў плячыма. — А мы з Віталікам шаснем. Ну, за ўдалую рыбалку. Яшчэ паедзем сюды?

— Абавязкова, калі так будзе брацца і далей — то супер.

Віталю не надта хацелася піць. Яму больш падабалася сядзець вось так, ціха, у кампаніі, глядзець на агонь і разважаць. Думкі плывуць паволі, прыходзіць душэўны спакой і раўнавага, а ўсе праблемы адсоўваюцца і не здаюцца такімі ўжо невырашальнымі. Мабыць, яшчэ і за такія хвіліны ён любіць выезды на рыбалку. Максім падліваў і, неўпрыкмет, за размовамі, сябры дапілі бутэльку. Хутка ад вогнішча пацягнула жарам і хлопцам прыйшлося адсоўвацца ад агню. Размораныя цяплом і гарэлкай, яны не спяшаліся на лёд. Віталь адчуваў, што яго нават стала хіліць да сну. Не, спаць тут дакладна ніхто не будзе. Ён павярнуўся да агню спінай каб жар не так пёк у твар. Максім, разлёгшыся на лапніку, курыў, разам з ім задуменна пускаў дым у паветра і Косця, які сядзеў каля вогнішча. Спакойна, ціха, адплывае ўсё нядобрае, хочацца упасці на снег, раскінуць рукі і глядзець у шэра-сіняе неба. Віталь устаў.

— Ты куды? — прыўзняўшыся, ляніва азваўся Максім.

— Па патрэбе.

Віталь паспеў зрабіць толькі два крокі, як раптам выбух скалануў паветра, гарачая хваля шуганула ў спіну і невядомая сіла шпурнула яго вобзем. Апошняе, пра што ён паспеў падумаць: што гэта было? І ў той жа момант чыйсьці крык рэхам адазваўся ў галаве, а свядомасць кульнулася ў чорную прорву. Неба абрынулася ўніз, накрыўшы яго цёмнай пярлінаю.



4

Галава гула так, быццам там, унутры, хтосьці званіў у некалькі важкіх бомаў. На вушы ціснуў гарачы пранізлівы боль і цененька звінела, як быццам там завёўся камар, што адчайна вырываецца з пасткі і шукае паратунку. Язык прыцініснуўся да нёба, у роце перасохла. І ў гэты ж момант ён адчуў, як штосьці гарачае прыпякае ў спіну. Сабраўшыся з сіламі, Віталь перакуліўся на спіну і з цяжкасцю расплюшчыў вочы. Неба, шэрае і абыякавае, зазірнула яму ў вочы. У спіну пякло. Ён прымусіў сябе падняцца, адпіхнуць галавешку, расшпіліць гузікі і зняць куртку. Пасярэдзіне яна прагарэла, утварыўшы вялізную праплешыну і тлела далей. Вушы, быццам заклала ватай, але ўсё ж ён пачуў, як побач хтосьці моцна стогне, мацюкаючыся скрозь зубы. Віталь павярнуўся. Убачанае прымусіла яго здрыгануцца. На месцы вогнішча чарнела яміна, што ўтварылася ад выбуху. Востра пахла гарам. Белы снег запляміла зямлёю, вуголлем і галавешкамі, якія паціху тлелі шызым дымам. У некалькіх метрах ад вогнішча, бліжэй да Віталя, стогнучы, ляжаў Максім і трымаўся за скрываўленую галаву. Крыху бліжэй да ямкі ляжала нерухомае цела Косці. Абапёршыся на рукі, Віталь узняўся і, хістаючыся, зрабіў некалькі крокаў да сябра. Косця ляжаў на баку, неяк недарэчна падкурчыўшы пад сябе руку. Яго твар, запэцканы зямлёй, выглядаў безжыццёвым, але крыві на ім Віталь не убачыў. Перавярнуўшы сябра на спіну, неслухмянай рукой ён паспрабаваў намацаць пульс. Спачатку падалося, што сэрца не б'ецца. Счакаўшы адчуў, што хоць і перарывіста, але яно адзываецца. Толькі цяпер заўважыў, што на жываце ў Косці расплылася крывавая пляма. Ён прыўзняў швэдар, убачыў скрываўлены і рассечаны бок.

Вушы паціху стала адкладваць, адно толькі па-ранейшаму звінела і ціснула на галаву, а яшчэ смылела спіна. Віталь падышоў да Максіма і дапамог прыўзняцца. Яго валасы былі ў крыві — галава і цяпер крывавіла — куртку на плячы рассекла нечым вострым, але там рана выглядала неглыбокай, сцягно таксама крывавіла. Акрамя таго яму абпаліла твар: на ўсю шчаку чырванеў свежы апёк, прыкметна прысмаліла валасы.

— Што гэта было? — Віталь сеў каля Максіма.

— Блін, ну трэба ж так трапіць, — Максім груба вылаяўся. — Хутчэй за ўсё, мы расклалі вогнішча над нечым, што ляжала з вайны: міна, снарад, граната ці яшчэ што, хто яго ведае. Яно і рванула. У мяне галава баліць, кроў ідзе, плячо пасечана. Што рабіць?

— Там Косця непрытомны, у жывот паранены. Трэба яго перавязаць. У нас ёсць нешта такое?

— Ды адкуль я ведаю? Я сам паранены — ты што не бачыш? — адчайна крыкнуў Максім яму ў адказ.

Віталь устаў. Выбухам іхнія рэчы раскідала навокал. Ён падышоў да свайго рукзака, і знайшоў чысты ручнік. Прыціснуўшы яго да Косцевай раны, ён перавязаў ручнік лямкай ад плецака. Ён разумеў: Косці патрэбна тэрміновая медыцынская дапамога. Максім па-ранейшаму трымаўся за галаву, прыклаўшы да раны акрываўленую майку.

— Макс, нам патрэбна дапамога, інакш Косця загіне.

— І што я магу зрабіць? Сам ведаеш, што мабільнік тут не цягне. Чорт, чорт, — прастагнаў Максім. — У мяне кроў не спыняецца, я сам тут здохну.

— Тады трэба выбірацца к машыне, а там у момант дамчым да вёскі і вызавем «хуткую». Падымайся.

Максім, са стогнамі і пракляццямі, падняўся:

— То пайшлі. Чаго стаіш?

— Куды пайшлі? А Косця?

— А што мы зробім? — закрычаў Максім і зморшчыўся ад болю. — Я паранены і не змагу панесці яго. Ты яго павалачэш?

— Давай зробім насілкі і панясём Косцю да машыны.

— Мы толькі час згубім. Ты ўяўляеш колькі мы будзем плесціся па снезе?

— Макс, ты з глузду з’ехаў? Як можна пакінуць яго ў лесе аднаго, параненага і непрытомнага. Ты думаеш, што кажаш? Гэта ж лес: тут і звяр’ё рознае… Або снег пойдзе? Ён жа загіне.

— Табе добра казаць, ты не паранены. А я крывёю сплыву за гэты час.

— Мы не пакінем Косцю. Табе гэта зразумела? — Віталь пагрозліва сціснуў кулакі. Нечакана востры боль пранізаў галаву, ён са стогнам сеў. У скронях запульсавала, сэрца хутка-хутка затрапяталася, а перад вачыма ўсё паплыло. Але імгненны боль, які пакінуў пасля сябе слабасць у целе, хутка прайшоў. Ён устаў, адшукаў вачыма сякеру і рушыў у лес. Напружваючыся ад болю ў галаве, які вярнуўся, калі ён стаў ссякаць маладыя бярэзінкі, Віталь зваліў і абцерабіў дрэўцы.

— Дапамажы, чаго стаіш! — гукнуў ён Максіму.

Той моўчкі падняўся. Лёскай яны прымацавалі брызент да бярозак, асцярожна паклалі на насілкі сябра, які заставаўся беспрытомным. Неба, тым часам, стала хмурыцца, вецер зашумеў вершалінамі, патыхнуў холадам у твар.

— Узялі, — сказаў Віталь.

Яны паднялі насілкі. Віталь пайшоў наперадзе. У роце перасохла, моцна хацелася піць і Віталь пашкадаваў, што не напіўся з возера. Як толькі сябры, пайшлі галаву зноў сціснуў той самы боль, у вачах заскакалі рознакаляровыя кругі, у жываце адгукнулася і падкаціла на ваніты. Хацелася легчы і не ўставаць. Сціснуўшы зубы і да крыві закусіўшы губу, Віталь павольна зрабіў першыя крокі. Калі яны не выратуюць Косцю, ён сабе ніколі гэтага не даруе. Ні сабе, ні Максіму, які так незразумела стаў сябе паводзіць.

5

Здаецца, баліць усё цела: галаву разрывае боль, ён адчувае, як кроў пульсуе і паціху сочыцца з раны, смыліць апечаная шчака, ные цягучым болем плячо, а яму адзываецца параненая правая нага. Канечне, цяпер можна зваліць усё на яго: гэта ж ён расклаў вогнішча на тым месцы, але адкуль жа Максім мог ведаць. Дый і ўвогуле ніхто б ніколі не падумаў, што пад дзірваном можа ляжаць нешта такое і яно выбухне праз столькі год. І Віталь, гэты здохлік слюнявы, раскамандаваўся. Яму пашанцавала, цэлы застаўся, не тое, што ім. Ён жа, Максім, прапаноўваў добрую ідэю ісці ўдваіх, каб хутчэй дабрацца да тэлефона. А так дарога зойме болей, як гадзіну. А там яшчэ «хуткую» чакаць.



Яны спусціліся ў лагчынку, потым сталі падымацца вышэй. Нечакана Віталь спыніўся і, цяжка дыхаючы, хрыплым голасам сказаў:

— Пачакай, давай хвілінку адпачнем.

Паклаўшы насілкі, хлопец схапіў рукою снегу і прагна стаў есці. Максім адчуў, што яго таксама мучыць смага. Ён выбраў чысцейшага снегу і ўкінуў у рот, глытаючы халодную вадкасць. Вецер крыху памацнеў, падзьмуў у твар, у паветры закружыліся першыя сняжынкі. Прайшоўшы болей за палову шляху, Віталь зноў сказаў:

— Давай яшчэ раз аддыхаемся.

Максім унурыў галаву. Падалося, што ў яго сілаў паменшала. Страта крыві, мабыць, дае аб сабе знаць, а яе выцекла нямала — майка ўся чырвоная, а колькі на беразе страціў. Ён нават не ведае, колькі праляжаў беспрытомным.

Віталь падняўся, яны рушылі далей. Косця не падаваў прыкметаў жыцця, здаецца, яго твар нават пабялеў. Во будзе, калі не выжыве. Іх зацягаюць, пэўна, зноў жа Віталь будзе валіць віну на яго.

Дабраўшыся да машыны, хлопцы паваліліся без сілаў.

— Ключы дзе? — спытаў Максім, зморшчыўшыся ад болю.

— Глядзі у Косці ў кішэнях.

Максім праверыў кішэні ў штанах, у курткі і пахаладзеў: ключоў ад аўтамабіля нідзе не было.

— Няма, нічога няма! — зароў ён на Віталя.

— Як няма? — хлопец разгублена падняўся.

— А так. Чаму ты не пaглядзеў на месцы?! Чаму?!

— Адкуль я мог ведаць, што іх не будзе. Я быў упэўнены, што ключы пры ім, бо Косця, здаецца, паклаў іх у кішэню, сам бачыў. Давай пагляджу.

Віталь ператрос усю вопратку на Косцю і зняможана апусціўся побач з сябрам. Максіма ахапіў страх: гэта катастрофа, без машыны яны загінуць, ім не данесці Косцю да вёскі. Як звар’яцелы, ён накінуўся на Віталя, перасыпаючы свае словы адборным матам:

— Куды ты глядзеў? Куды? З-за цябе мы тут усе здохнем!

— Мог і сам паглядзець, — агрызнуўся Віталь, — нечага на мяне валіць.

— Канечне, зараз можна ўсё на мяне спіхнуць — я ва ўсім вінаваты.

— Перастань скуголіць, трэба думаць, што далей рабіць.

— Я не ведаю.

— Думаю, што трэба вярнуцца назад і паспрабаваць знайсці ключы. Яны будуць або недзе там, на месцы, або выпалі недзе па дарозе.

— А час будзе ісці. Пакуль сходзіш туды і назад — ты пра гэта падумаў?

— У цябе ёсць лепшы варыянт? Слухай, а можа разбіць шкло і паспрабаваць завесці, злучыўшы правадкі. Я ведаю, што так робяць.

— Ты ведаеш як? Не. І я тут не змагу, бо гэта табе не «жыгулі», а японец. У гэтай машыне складаная сістэма запальвання, нічога не выйдзе.

— Тады я пайшоў, глядзі за Косцем. Дарэчы, як ён там, трэба глянуць.

Віталь расшпіліў куртку, падняў швэдар і прыклаў вуха да грудзей: сэрца, хоць і нерытмічна, з перабоямі, але білася. Азірнуўшыся на Максіма, які ў роспачы нешта ціха мармытаў, Віталь пайшоў назад па слядах. Вецер крыху прысупакоіўся, але снег

пабольшаў, пасыпаў буйнымі мяккімі сняжынкамі. А гэта вельмі дрэнна, калі ключы недзе вываліліся з кішэні, то мала шанцаў іх знайсці. Уважліва ўглядаючыся ў снег, разважаў: што сталася з Максімам? Так, сябар паранены, але дужэйшы за іх і можа ісці, а не скуголіць. Неяк раней не заўважалася такое за ім, заўсёды быў кампанейскім хлопцам. Хоць, зрэшты, штосьці было. Віталю ўспомніўся даўні, яшчэ школьны, выпадак. Недзе ў дзявятым ці дзясятым класе ў іх была сутычка з хлопцамі з паралельнага класа. Яны вырашылі пагаварыць па-мужчынску пасля ўрокаў за тэрыторыяй школы. Як толькі спусціліся ўніз, Максім сказаў, што ў яго скруціла жывот, не можа трываць. Сябар кінуўся назад, у прыбіральню, паабяцаўшы хутка іх дагнаць. Віталь увогуле біцца не ўмеў, але ж не мог не пайсці — павінен ісці разам з усімі. Ім тады ўсім добра далі, хоць абышлося без сур'ёзных траўм. Максім з'явіўся пасля таго, як усё скончылася, апраўдваючыся, што прасядзеў у прыбіральні. Хлопцам было не да яго і неяк тое здарэнне забылася.

Віталь уважліва агледзеў месцы, дзе яны спыняліся, перагроб рукамі снег, але безвынікова. Яму самому захацелася закрычаць, завыць ад такога збегу абставінаў. Пранесці Косцю сем кіламетраў будзе цяжка, толькі справа не ў гэтым. Чым пазней яны прыйдуць, тым менш шанцаў у сябра — ён зусім слабы. У гэты час дзікі боль зноў сціснуў галаву так, што яму зрабілася млосна. Сэрца часта-часта затрапяталася, у вачах запырхалі матылькі і Віталь асунуўся на зямлю, але адключка была кароткай, свядомасць вярнулася да яго амаль адразу. Ён увесь пакрыўся потам, у роце перасохла, цела ахапіла слабасць. Крыху аддыхаўшыся, пайшоў назад.

У каторы раз у думках Максім праклінаў той дзень, калі прапанаваў сябрам з'ездзіць на гэтае праклятае возера. І на халеру яму яно здалося? Выехалі б дзе-небудзь побач са сталіцай, злавілі трохі чаго, выпілі, пасядзелі і ўсё было б добра. Дык не, захацеў пахваліцца, дагадзіць Косцю. А што, калі Віталь не знойдзе ключы? Максім падумаў пра гэта і вылаяўся. Тады ўсё, не прыйдзе дапамога, ім канец, а ён сам памрэ ад страты крыві. А як жа хочацца жыць, жыць напоўніцу! Жывёльны страх ахапіў яго, затуманіў свядомасць. Такі страх ужо прыходзіў да яго аднойчы. У час службы ў войску, на складзе, калі ён дапамагаў начальніку наводзіць парадак, на яго паваліўся стэлаж са скрынямі. Максіма прыціснула так, што не мог дыхаць. І вось тады, калі смерць зазірнула ў вочы, жывёльны страх прымусіў яго страціць свядомасць. Ачуняўшы, убачыў над сабою збялелы твар прапаршчыка, які своечасова падаспеў з ломам і, з дапамогай другога салдата, вызваліў яго з-пад стэлажа. Максім сеў і ўбачыў, што ад страху абмачыўся. Добра, што тады начальніку склада было не да гэтай ганьбы.

І вось цяпер Максім адчуў той жа страх, які амаль вымушае ўскочыць і бегчы ў вёску, дзе яго выратуюць. Выжыць, любой цаной выжыць. І толькі цвярозы разлік падказваў: не спяшайся, Віталь можа прынесці ключ і тады ўсё будзе добра. А Віталя не было.

Прыцярушаны снегам, ён паказаўся з-за старой разлапістай елкі. Максім подбегам кінуўся да яго.

— Ну што, знайшоў?

Сябар адмоўна пахітаў галавою.



— Чорт, чорт! — здавалася, што Максім гатовы кінуцца на Віталя, як быццам гэта ён быў вінаваты ва ўсіх непрыемнасцях. — Усё, мы здохнем тут, здохнем!

— Супакойся! Выбару ў нас няма. Сем кіламетраў — гэта не так і шмат, паціху данясём. Магчыма, каго сустрэнем па дарозе.

— Каго, каго ты тут сустрэнеш? Тут ніхто не ездзіць.

Максім прыўзняў ручнік: кроў, як быццам, не цячэ, але ж ён адчувае слабасць, нага баліць таксама. А калі заражэнне? Не, ён тэрмінова павінен дабрацца да бальніцы. З насілкамі гэта зойме не адну гадзіну.

— Віталь, у мяне ёсць ідэя. Ты з Косцем чакаеш мяне тут, а я пайду ў вёску — гэта ж нашмат хутчэй будзе, чым мы разам пацягнемся.

— Не нашмат яно будзе хутчэй, — засумняваўся Віталь. — Трэба ўсім разам дабірацца. Раптам, што з табою здарыцца?

— Не здарыцца, я дужэйшы за цябе. Пагадзіся, што адзін я хутчэй дабяруся.

Віталь раздумваў.

— Давай так. Ты ж менш пацярпеў, сілаў у цябе болей. Калі хочаш — зараз падсцелем трохі лапніку, каб было мякчэй і ты паціху пацягнеш Косцю на насілках, а я пайду. Зразумей, мы не павінны губляць ні хвіліны. Пагадзіся, што так лепш. Ды і ты можаш прайсці нейкую частку шляху. Бяры маю папругу, прывяжы і цягні, калі хочаш. Думай хутчэй.

— Добра, згодзен. Мабыць, так будзе лепш.

Праз хвіліну Максім пайшоў. Віталь уздыхнуў, прыкрыў сябраў твар ад снегу, захутаў сваім швэдрам і, напружыўшыся, пацягнуў насілкі за сабою.

6

Зрабіўшы некалькі крокаў, Віталь падумаў: цягнуць не так і цяжка. Ён падвязаў пад палкі Косцевы пальчаткі і насілкі мякчэй слізгаюць па снезе. Цяпер Віталь будзе паціху ісці, чакаць машыну «хуткай дапамогі». Ён разлічыў, што крыху больш, як за гадзіну-паўтары Максім павінен дайсці, нават улічваючы яго раненне. Ад вёскі да гораду, калі ён не памыляецца, прыблізна сорак-пяцьдзясят кіламетраў. Такім чынам недзе праз дзве гадзіны з гакам машына павінна быць тут. Тут яму падалося, што Косця ўпершыню за ўвесь гэты час застагнаў. Віталь кінуўся да яго:

— Косця, Косця, як ты? Ты чуеш мяне?

Але той па-ранейшаму ляжаў з заплюшчанымі вачыма і не адгукаўся. Можа, яму балюча? Хоць яны і падаслалі лапніку, але ж няроўнасці і выбоіны цела напэўна адчувае. Можа, наадварот, трэба было сядзець і чакаць дапамогу: раптам Косцю нельга цягнуць? Узважыўшы ўсе абставіны, ён вырашыў ісці далей: усё ж рухацца наперад — значыць, выйграць час. Ды і сам не замерзне. Трэба толькі падаслаць яшчэ. Віталь спыніўся, агледзеўся. Паблізу расло адно суцэльнае кустоўе, толькі ў глыбіні лесу праглядваліся высокія векавыя яліны, а вось далей, пры дарозе, расло маладых дрэваў. Віталь спыніўся каля маладняку, пасунуўся ў глыбокі снег і стаў ламаць лапкі. Рукі задубелі і не надта слухаліся яго. Толькі цяпер ён адчуў, што ногі ў ботах мокрыя, а пальцы адзеравянелі і сталі, як чужыя. Але такая акалічнасць чамусьці не ўсхвалявала яго — бо не хацелася больш нічога. Ні ісці далей, ні цягнуць насілкі, ні старацца выжыць. Стома, спустошанасць і абыякавасць запаланілі душу. Віталь сеў

каля насілак. З Максімам у Віталя не было такіх блізкіх адносінаў, як з Косцем, якому ён давяраў усе сакрэты. Ён яшчэ са школы трызніў аўтамабілямі і з тых часоў збіраў грошы. Паціху нешта сабраў, штосьці падкінулі бацькі і ён здзейсніў мару: купіў патрыманую іншамарку. Купіў не ў самым добрым стане — бракавала грошай, але за кароткі час гэтак яе вылізаў і давёў да толку, што яна стала выглядаць не горш за значна навейшыя аўтамабілі. Косця некалькі разоў мірыў яго з Інаю. Іна…

Пазаўчора яны пасварыліся менавіта з-за таго, што яна не хацела, каб ён ехаў на рыбалку. Трэба ж, усё роўна, як прадчувала бяду. Так, характар ў яе няпросты, але ж яна па-свойму кахае і перажывае за яго. Віталь бачыць гэта, пачуццё не падманеш. І вось сёння з ім магло здарыцца непапраўнае, Іна страціла б яго. Літаральна за адно імгненне. І ў жыцці любога чалавека кожны дзень можа стаць апошнім. Дык навошта разменьвацца на дробязі, сварыцца, псаваць нервы адзін аднаму? Дурань ён, адным словам. Трэба берагчы сваё жыццё дзеля каханых, блізкіх, сяброў, бо заўтра можа быць позна. Трэба выратаваць Косцю, бо і яго нехта любіць, чакае. Дык што ж ён рассеўся тут, дазволіў сабе здацца, перастаў змагацца за сябе, за сваё каханне, за бацькоў, за Косцю. Не, трэба падымацца і ісці, ісці наперад.

Передуманае надало яму сілы. Віталь падняўся і з імпэтам пацягнуў насілкі. Надвор'е, тым часам, пагоршылася. Вецер змяніўся, стаў парывістым і час ад часу шпурляў яму ў твар жмені калючых сняжынак. Віталь упарта ішоў па дарозе, не спыняючыся. Будзе ісці наколькі хопіць сілаў, а тады ўжо зробіць перапынак. Яму падалося, што на ўзбочыне слізгануў нейкі шэры цень. Спыніўшыся, азірнуўся па баках, але нікога не ўбачыў. Хутчэй, падалося, хто тут можа быць, акрамя іх. Хіба, які дзікі звер, кшалту зайца ці лісы. Прайшоўшы з сотню метраў, раптам падумаў: а калі не заяц і ліса, хто тады? Халадок слізгануў па спіне. Віталь азірнуўся. Непадалёк ад таго месца, дзе ён ламаў лапкі, стаяў шэры высокі звер, падобны на худога сабаку, і глядзеў на яго. Толькі гэтага не хапала! Няўжо ваўкі не баяцца людзей? І няма чым абараніцца, нават сякеры ці нажа не мае. Шэрая постаць толькі раззлавала Віталя. Ён зляпіў снежны камяк, адбегся ад насілак і са злосцю шпурнуў сняжком:

— Пайшоў прэч! Пайшоў!

Воўк схаваўся за ялінкамі. Увогуле чаго яго баяцца — калі ён тут адзін, то не павінен напасці. Магчыма, проста чакае, што людзі саслабнуць, упадуць на дарогу і стануць лёгкай здабычай. Не, не дачакаецца. Віталь пацягнуў насілкі далей, калі-нікалі азіраючыся назад. Воўк, як быццам, знік. Хлопец паспакайнеў. Колькі ён прайшоў? Цяжка падлічыць, але не менш, як пару кіламетраў. Гэта амаль трэць шляху. Галава ўжо не так баліць, толькі душыць нейкая сасмягласць і часам падцягвае на ваніты. Ды яшчэ, калі робіць рэзкія рухі, крыху кружыцца ў вачах.

Ён прайшоў яшчэ з паўкіламетра і адчуў: трэба прыпыніцца, перадыхнуць, бо кожны крок стаў давацца цяжэй. Ад хады ногі крыху адышлі, сагрэліся, вось толькі вецер замінае. Віталь азірнуўся і знерухомеў ад нечаканасці. Каля тоўстай камлюкаватай бярозы, якую ён мінуў хвіліну назад, стаялі дзве шэрыя постаці. Чамусьці паздрадніцку задрыжэлі ногі, але ён пераадолеў страх. Глынуўшы сухі камяк, хлопец падышоў да невялікага ссохлага бярозавага камля і ударам нагі паваліў яго. Хай сабе гніляк, але ж хоць можна будзе ўдарыць. Ён зноў падбег у бок ваўкоў і, замахнуўшыся, закрычаў:



— Прэч, свалата! Прэч, я сказаў!

Ваўкі крутнуліся і, угнуўшы галаву, схаваліся ў лесе. Ага, баяцца, значыць нападаць не будуць. Віталь узрадаваўся сваёй думцы, быццам ён прагнаў драпежнікаў назусім. Трэба ісці, не спыняцца. Чым хутчэй ён наблізіцца да вёскі, тым большая верагоднасць, што ваўкі адчэпяцца, яны ж не пацягнуцца за ім да жылля. Пераадольваючы слабасць і стараючыся, як мага радзей спыняцца, ён ішоў і ішоў. Іншы раз азіраўся, але шэрых постацей за сабою пакуль больш не бачыў. Ці то яны і сапраўды спужаліся, ці то палічылі, што здабыча не будзе такой лёгкай, але, здаецца, адсталі. Віталь супакоіўся, напружанасць знікла, але адразу ж зноў падступіла слабасць, цягнула прысесці, а яшчэ лепш прылегчы. Не, ён не можа дазволіць сабе такой раскошы. Колькі ён прайшоў? Пяць, шэсць кіламетраў? Ён глянуў на гадзіннік: мінула болей, як дзве гадзіны з моманту адыходу Максіма. Але ж дзе ён, дзе машына «хуткай дапамогі»?

7

Адзін, за паўтары гадзіны, ён павінен дабрацца да вёскі. Калі раней не ўпадзе непрытомным ад страты крыві. Гэта больш за ўсё турбавала Максіма. Яму здавалася, што ногі не слухаюцца яго, а галава зноў стала кружыцца. І зноў страх са сваё жыццё ахапіў яго.

Прайшоўшы нейкі адрэзак, хлопец заўважыў на снезе свежыя сляды: быццам нядаўна у гэтым месцы дарогу перабягаў сабака, бо снег яшчэ не паспеў прысыпаць след. Але адкуль тут сабака? Увогуле, тут могуць быць паляўнічыя, але ж сабачага брэху ён не чуў. Мо гэта воўк? Максім са страхам агледзеўся. Навокал маўкліва чарнеў зімовы лес, паныла пахіліліся пад снегам рэдкія кусты, павісла гнятлівая цішыня, якую парушалі толькі яго асабістае цяжкае дыханне і вецер. Супакоіўшыся, рушыў далей. Але страх душыў па-ранейшаму: то ён баяўся, што ўпадзе знясілены на дарозе, то здавалася, што за ім гоніцца зграя ваўкоў. І ён то спяшаўся наперад, то страхавіта спыняўся і аглядаўся. Праз нейкі час усё ж спыніўся перадыхнуць. Прыгледзеўшыся, Максім зразумеў, што мінуў ужо палову шляху. Так, вось каля гэтых старых бяроз, што растуць на пагорку, будзе роўна палавіна дарогі. Дзед расказваў, што некалі на гэтым месцы стаяў хутар. Але заможнага гаспадара камуністы раскулачылі, назад ён не вярнуўся. Хата і ўсе гаспадарчыя пабудовы спалілі ў вайну фашысты, занядбанае месца зарасло, здзічэлыя яблыні загінулі, адно толькі тры магутныя бярозы перажылі ўсе мірныя і ваенныя ліхалецці.

Пахаладала. Снег пабольшаў, зноў падзьмуў парывісты і халодны вецер. Сінявая смуга, што ўкрывала дарогу, паменшала, ранні студзеньскі вечар непрыкметна паглынаў і без таго слепаватае дзённае святло. Максім адчуў, як пачынаюць дубянець рукі, памяншаюцца сілы. І толькі прага да жыцця прымусіла яго крыху падбавіць хады. Нічога, хутка лес павінен скончыцца, а за ім прагляне гравійка. Калі пайсці па ёй, то прыйдзецца дабірацца з паўкіламетра да вёскі, а потым яшчэ і па вёсцы ўдвая больш. Таму ён зверне з дарогі і пойдзе агародамі: хоць і брысці па снегу, затое там застанецца ўсяго метраў трыста. Выратаванне такое блізкае, трэба ісці.

Вёска — падалося яму — нерухома застыла ў трывожным чаканні. Не брахалі сабакі, не свяціліся вокны, адно толькі вецер тужліва падганяў калючыя сняжынкі па

бязлюдным наваколлі. Прабіваючыся па снежным цаліку ў вясковым агародзе, Максім не мог паверыць, што дайшоў. Бабуліны вокны ў светлай палавіне хаты прыветна мільгацелі сіняватым святлом ад экрана тэлевізара. З апошніх сіл піхнуў перакошаныя веснічкі, ўваліўся ў хату, асеў на парозе і, захлёбваючыся ад жаласці да сябе, прахрыпеў:

— Бабуля!

Яна тут жа паказалася ў дзвярах. Прыкрыўшы рот рукою толькі і выгукнула:

— А божухна! Максімка, унучак, што с табою нарабілася?!

— Не ведаю. Там, каля возера, нешта выбухнула пад нашым вогнішчам. Мяне параніла. Бабуля, скарэй выклікай «хуткую» — я паміраю!

І, больш не стрымліваючы сябе, захліпаў носам, як малое дзіця. Бабуля, галосячы, узялася тэлефанаваць. Рукі яе дрыжалі ад хвалявання, не слухаліся, ад чаго яна нервавалася яшчэ больш. Нарэшце, змагла набраць тры лічбы, блытаючы словы, стала вызываць «хуткую». Нешта там было не так, бо бабуля заенчыла:

— Я вам кажу ўнук памірае. Як гэта няма машын? Дык адзавіце з з таго выкліку. Яму дрэнна. Так, малады хлопец, увесь у крыві. Даражэнькая, давайце хутчэй, ён доўга не можа чакаць. Так, так, мая хата ў канцы вуліцы.

Максім расслаблена прытуліўся да сцяны: усё, ён выратаваны, засталося пачакаць нейкіх паўгадзіны ці крыху болей. Бабуля, ледзь супакоіўшыся, стала тупаць каля яго, дапамагла сцягнуць куртку, світар, кінулася за ватай і ёдам, каб апрацаваць раны. Потым нагрэла гарбаты і ўзялася паіць яго.

— Пі, Максімка, пі міленькі. Як жа так, мой ты бедненькі. Нічога, крышачку патрывай, зараз машына прымчыцца. А божа, што ж гэта будзе?

А Максім адчуваў, як спакайнее на душы і прыходзіць упэўненасць, што ён будзе жыць.

— Прыляж на ложак, унучак. Што ж я, дурніца, на халоднай падлозе цябе трымаю. Вось так, давай я табе дапамагу. Вось зараз падушку падкладу.

Раптам бабуля схамянулася:

— Чакай, а дзе ж твае сябры?

Толькі цяпер Максім успомніў, што недзе там, па дарозе, Віталь цягне Косцю. Адзін, з беспрытомным. Нешта падобнае на сорам варухнулася ўнутры, але хутка схавалася: ён не вінаваты, што так атрымалася. Да таго ж моцна пацярпеў, а яны з Віталем удваіх так рашылі.

— Яны ідуць самі, бабуля. Хутка будуць, — зманіў Максім.

— Як ідуць? Чаму? А дзе ж машына?

— Ключы згубілі.

— Мой ты бедненькі, нацярпеўся. То чаму ж яны кінулі цябе аднаго?

— Косця таксама паранены, я пайшоў каб хутчэй вызваць дапамогу.

— Божухна, мае вы хлопчыкі. Ляжы, унучак, ляжы. Мне сказалі, што адправяць машыну, як толькі вызваліцца. На табе, горад — машын свабодных няма.

Правальваючыся ў прыемнае цяпло, Максім расслабіўся: боль трохі аціх, не так пульсавалі раны, толькі зноў неадольна навалілся стома і слабасць. Ён чуў, як тупае бабуля, раз-пораз выбягае на вуліцу, каб не не прапусціць хуткую дапамогу. Мабыць, ён нават паспеў ні то задрамаць, ні то адключыцца, бо гукі, якія раптам зніклі, зноў вярнуліся. Каля хаты гучна рыпнула тармазамі машына. Грукнулі дзверы.



— Што ў вас?

— А во, доктар, сюды. Трэба ж нарабіцца — унук на рыбалку паехаў ды нешта выбухнула пад вогнішчам. Бяда, доктар, ён увесь зранены, скрываўлены, глядзець не магу.

Максім расплюшчыў вочы. Над ім нахіліўся высокі хударлявы мужчына ў чорнай куртцы, накінутай паверх белага халата. За доктаравай спінай, з медыцынскай сумкай, сонна пазяхаючы, стаяла чарнявая пухленькая медсястра.

— Як вы, малады чалавек?

— Не ведаю, слабасць нейкая, дрэнна мне, — выціснуў скрозь зубы Максім.

— Так зараз паглядзім.

Доктар агледзеў яго, памацаў галаву.

— Раны на целе, як бы не вельмі глыбокія, а вось на галаве мне не падабаецца. Не вельмі добра тут. Прытомнасць страчвалі?

— Так.

Доктар палічыў пульс, яшчэ раз агледзеў галаву, загадаў медсястры зрабіць нейкі ўкол, а пасля спытаў:

— Сам дойдзеш?

— Паспрабую.

Максім прыўзняўся. Цела чамусьці стала чужым, адзеравянелыя ногі ледзьве сагнуліся. На дапамогу падышоў кіроўца і разам з доктарам яны павялі яго да машыны, потым паклалі на насілкі. Максім чуў, як доктар загадаў кіроўцу:

— Паехалі. Трэба яго хутчэй давезці: крыві шмат страціў, а яшчэ і раненне ў галаву. Баюся каб…

Апошнія яго словы заглушыў гук рухавіка. Але Максіму гэтага хапіла каб зразумець: яго жыццё ўсё роўна ў небяспецы. Так, хутчэй у бальніцу. А як жа Віталь з Косцем? Трэба ж іх забраць. Але тады яны страцяць каштоўныя імгненні, ад якіх, магчыма, залежыць яго жыццё. Віталь, напэўна, сядзіць і чакае. Машына пакуль даедзе да іх па лесе, пакуль Косцю агледзяць, потым назад — колькі часу міне. Можа, лепш хай яго давязуць да бальніцы, а тады ён скажа, што там, у вёсцы, засталіся, сябры. І іх таксама забяруць. Але ў такім выпадку яго ніхто не зразумее: ні брыгада хуткай дапамогі, ні Віталь з Косцем. Максім вагаўся. Зараз машына прамчыцца праз вёску, зверне улева, а праз нейкіх метраў дзвесце-трыста будзе развілка: налева гравійка зверне ў бок той самай лясной дарогі, а направа — на горад. Трэба нешта вырашаць.

Прастора вакол яго звузілася да памераў гэтай глухой лясной дарогі, знікла адчуванне часу. Ён проста ішоў, крок за крокам, рабіць якія станавілася ўсё цяжэй, сілы імкліва пакідалі яго. Страх ад таго, што на яго могуць напасці ваўкі знік, як знікла і боязь за сваё жыццё. Віталь цяжка дыхаў і ўсё часцей спыняўся адпачываць. Косця па-ранейшаму не прыходзіў у прытомнасць і Віталева сэрца часам сціскала роспач: ці паспее ён выратаваць сябра? І дзе ж «хуткая дапамога»? Няўжо штосьці здарылася з Максімам? Не, такога не можа быць, інакш ён даўно ўбачыў бы яго распасцёртае цела. Віталю захацелася плюнуць ад прыкрасці, але не было чым: вось дурань,

знайшоў пра што думаць. З Максімам усё добра, а машына вось-вось павінна быць, за гэтым паваротам.

Лес расступіўся нечакана. Віталь ужо страціў надзею, што ён калі-небудзь выцерабіцца на гравійку, як за гэтым самым паваротам з'явілася надзея на выратаванне. У чорнай падсіненай засмужанасці паказаліся цёмныя абрысы вясковых хат. Да іх было рукой падаць. Так, вось тут, у гэтым месцы, раніцай машына з'ехала носам на ўзбочыну, тут яны піхалі яе. А вось там, далей, будзе паварот на саму вёску. Але як жа так? Няўжо спраўдзіліся яго дурныя прадчуванні, і Максім не дайшоў? Няўжо ён ляжыць дзе-небудзь, на дарозе, без прытомнасці? Інакш «хуткая» ўжо прыехала б за імі. Чаму няма машыны? Дурныя прадчуванні падштурхнулі яго. Ні думаючы больш ні пра што, акрамя таго, як дайсці да вёскі, Віталь паскорыў крок. Так, цяпер галоўнае дайсці да павароту на вёску, потым яшчэ трохі — ён на вуліцы. Раптам нейкі шум прымусіў яго ўзняць галаву. У стылым маўклівым прыцемку высвеціліся фары невядомай аўтамашыны, якая рухалася з вёскі на гравійку. Па контуры Віталь зразумеў, што гэта машына «хуткай дапамогі». Максім дайшоў! За імі едуць! Віталь быў гатовы крычаць і плакаць ад шчасця. Дзякуй богу, яны выратаваныя. Знямоганы, хацеў толькі аднаго: зваліцца побач з Косцем на заснежаную дарогу і чакаць, калі іх падбярэ «хуткая». Вось фары бліснулі па дарозе. Але што гэта, не можа быць?! На нейкае імгненне ў Віталя перахапіла дыханне: машына звярнула управа. Чаму?! Чаму іх кінулі?

— Стойце! Вы куды?! Пачакайце!

Ён не ведаў, адкуль яшчэ ўзяліся і сілы, бо пабег услед за аўтамабілем, махаючы рукамі. Спыніць, яго трэба спыніць.

— Стойце! Пачакайце!

І машына спынілася. Нібы не верачы сваім вачам, Віталь прабег яшчэ некалькі крокаў і толькі тады стаў. Бліснуўшы чырвоным, пасля белым, аўтамабіль паціху паехаў назад. Ляпнулі дзверы, з машыны адначасова выйшлі кіроўца і высокі хударлявы мужчына.

— Што ў вас здарылася, малады чалавек?

— Як што?! — Віталь ад абурэння сціснуў кулакі. — Чаму вы нас пакінулі?

— Не разумею ў чым справа, — здзівіўся мужчына. — Мы прыехалі па выкліку і вязем параненага маладога хлопца. Чаго вы ад нас хочаце — пра вас нам ніхто не паведамляў.

— Што?!

— Гэта ж я вас заўважыў, — пацвердзіў кіроўца, — я ў люстэрку ўбачыў, што хтосьці бяжыць за машынай і махае рукамі. Таму і спыніўся.

— А Максім нічога пра нас не сказаў? — Віталь не хацеў верыць пачутаму.

— Дык гэта ваш таварыш? І вы былі разам? Вось яно што, — ўцяміў нарэшце доктар. — Не, пра вас ён нічога не казаў.

— Хутчэй, забярыце Косцю. Ратуйце яго, доктар, — Віталь кінуўся да сябра.

Машына пад'ехала да Косці, кіроўца расчыніў дзверы, выцягнуў насілкі. Пасля кароткага агляду доктар нешта ўкалоў Косцю і загадаў імчаць ў горад. Віталь, які стаяў на дарозе, сеў у машыну следам за імі. Максім, убачыўшы яго, прыўзняўся:



— А, гэта ты. Ведаеш, а я адключыўся, не паспеў нічога сказаць пра вас. Шмат крыві страціў, разумееш. Дрэнна мне было.

Віталь падхапіўся ад яго хлуслівых апраўданняў. У яго было шалёнае жаданне даць Максіму ў твар. Ён адвёў руку, але ўбачыўшы, што таго перакасіла ад страху, апусціўся і толькі плюнуў засмяглым камяком у бессаромныя вочы. Здзіўленая медсястра моўчкі назірала за імі.

— Ды ты... ды я... ды я на цябе заяву напішу, — разгублена выдыхнуў Максім.

— Пішы, але ведай: калі што здарыцца з Косцем — я цябе самога прыдушу.

Уладкаваўшыся на сядзенні, Віталь заплюшчыў вочы і ўрэшце дазволіў сабе расслабіцца. Толькі б Косця выжыў, толькі б з ім усё было добра, а болей нічога не патрэбна. І яшчэ памірыцца з Інай, знайсці такія словы, каб яна зразумела: ім, як і ўсім людзям, трэба берагчы адзін аднаго. Дзеля сябе, дзеля жыцця.

нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча і Акадэмію МУС РБ. Служыў на Далёкім Усходзе. Жыве і працуе ў г. Навагрудку. Аўтар кніг прозы «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы Междуречья». Сябра СБП.





МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## Сучасныя вясковыя гісторыі

### Сядзела, як жывая

— І што ж гэта робіцца з цяперашнім светам, што адбываецца з намі, мая ты даражэнькая! Даўней, чула я, быў на нашай зямлі такі звычай: у галодны год, калі не хапала хлеба, каб да новага ўраджаю пракармілася ўся сям'я, гаспадар завозіў сваіх састарэлых бацькоў у лес і там пакідаў іх на волю лёсу. Лічы — ваўкам на вячэру. А цяпер што робіцца? — і памерлую маці сын хаваць не хоча! — дзялілася сваімі думкамі з суседкай старая Аўдоцця.

Другую яе суседку, Акуліну, нядаўна пахавалі. Хаваў калгас. Але не гэтая акалічнасць турбавала адзінокую Аўдоццю, будзіла невясёлыя думкі пра непазбежную і недалёкую ўжо, адчувала старая, смерць. Аўдоццю, як і ўсю іхнюю вёску, уразіла незвычайная гісторыя Акулінінай смерці.

Жывучы па-суседску, Аўдоцця і Акуліна неўпрыкмет зблізіліся толькі, калі выйшлі на пенсію. У абедзвюх хутка паўміралі гаспадары, і ўдовіна доля на старасці гадоў зближала мацней, чым даўняе суседства. Як былі маладымі, працавалі і гадавалі дзяцей, то і пагутарыць добра не было асабліва часу. На працы ў калгасе таксама не сутыкаліся, бо адна гнула спіну ў паляводстве, а другая — на ферме.

Аўдоццціны дзеці — сын і дачка — выраслі, вывучыліся. Як казалі вяскоўцы, выйшлі ў людзі. А як пажаніліся, то ў роднай вёсцы паказваліся гадкі ў радкі. Унукі часцей прыязджалі, калі былі меншыя, а павырасталі — прыязджаць перасталі, як і іх бацькі.

Акуліне лёс выпаў яшчэ больш незайздросны. Даў ёй Бог аднаго толькі сына ды рана забраў мужа. Усю сваю вялікую мацярынскую любоў і пяшчоту ўклала яна ў адзінага сынка. Змалку ніколі ні ў чым не адмаўляла хлопчыку, пылінкі з яго здзімала. Рос сынок, мужнеў і мацярынскі клопат пра сябе ўспрымаў як належнае. Вырас, што называецца, матчыным сынком ды… такім і застаўся.

Не склалася ў Акулінінага сына жыццё. Вучыўся — не давучыўся. Ажаніўся — з жонкай не ўжыўся. Жонка ж не маці, каб трываць дзівацтвы дармаеда, які памяняў столькі месцаў працы, што і сам збіўся з ліку… Урэшце, пабадзяўшыся па свеце, вярнуўся 40-гадовы неўдаль да маці ў вёску. У калгасе вольных «няпыльных» месцаў не было. Нават вартаўніком на ферму ўладкавацца не ўдалося. Круціць на мехдвары гайкі ці на той жа ферме ўвіхацца з віламі Акулінін хлопец не хацеў. Апошнія некалькі гадоў нават і не спрабаваў уладкавацца на працу — жылі з маці на яе пенсію.

З часам у Акуліны пачалі адказваць ногі і сэрца. Фельчарка раіла легчы ў бальніцу падлячыцца, але старая не пагаджалася. Калі Аўдоцця заходзіла да суседкі, тая ўсё часцей дзялілася з ёю сваімі турботамі пра сына: «Як жа ён будзе жыць, калі я памру?.. Пенсіі ж яму не дадуць, а нідзе не робіць!..» І яшчэ адна думка не давала спакою Акуліне. Хоць і была ў яе немалая па тутэйшых мерках пенсія, але сабраць



грошай сабе на смерць старая ніяк не магла — сын, як казала, часта пускаў грошы на вецер.

Апошні раз, калі Аўдоцця была ў хаце Акуліны, тая скардзілася: «Гэта ж кажу я ўчора сыну: не жлукці ты ўжо гэтае віно, памру хутка — за што ты мяне пахаваеш?.. А ён мне адказвае: «Нічога, маці, ніхто яшчэ наверсе не застаўся, і цябе закапаюць. А мне, жывому, пра сябе жывога трэба думаць…» — Ды яшчэ, ведаеш, так нядобра засмяяўся… А я ж, сапраўды, хутка памру. Ніякага здароўя, ніякіх сіл ужо не засталося…»

Больш пасля той размовы Аўдоцця Акуліну жывой не бачыла. А праз тыдзень даведалася ад паштальёнкі, што суседка памерла.

Паштальёнка шмат разоў потым і шмат каму пераказвала гэтую гісторыю:

«Нясу я ёй пенсію і бачу з надворка, што Акуліна сядзіць у акне, на мяне глядзіць. Ды так неяк дзіўна, быццам глядзіць і не бачыць. І твар хусткай праз галаву перавязаны, як пры зубным болю. А ў яе ж, ведаю, і зубоў няма сваіх даўно ўжо, чаму там балець?.. Зайшла ў хату, сын яе на парозе сустракае. Кажу, пакліч маці, хай пенсію атрымае. А ён мне адказвае, што маці не выйдзе з пакоя, бо яны пасварыліся і старая не хоча ні з кім размаўляць. Ну, не хоча дык не хоча. Мне таксама не да размоў — да цямна трэба было паспець пенсіі і пошту людзям разнесці. Карацей, выдала сынку грошы, ён распісаўся ў ведамасці, і пайшла я з хаты. А калі выходзіла з надворка, зноў глянула ў акно — сядзіць Акуліна, як сядзела. Падалося, што нават і не зварухнулася. І ў тую хвіліну, ведаеце, нейкае падазрэнне мне ў душу закралася, штосьці тут не так са старой, падумала. А тут якраз на вуліцы сустрэла нашу доктарку з участковым, то і сказала ім, што Акуліна, можа, надта хворая, што сама пенсію атрымаць з пакоя не выйшла. Ды з сынам, кажу, яшчэ пасварылася… Пасля гэтых маіх слоў завярнулі доктарка з участковым да Акуліны ў хату. Добра, што ім якраз па дарозе было і зайшлі яны тады да бабкі Акуліны. А то і мне прыйшлося б яшчэ адказ трымаць. Ведама — выдала грошы мёртваму чалавеку. Ды ўжо надарылася, як надарылася… І толькі, значыць, доктарка з участковым на парог, як сынок Акуліны апрануты з хаты сабраўся выходзіць, ішоў ужо матчыну пенсію прапіваць. Але не паспеў, дзякуй богу. Участковы яго назад завярнуў: «Ідзі, кажа, правядзі доктара да маці, хай паглядзіць яе, паслухае». Таму што ўжо заставалася рабіць? — павёў доктарку ў пакой. Глянула маладзічка на Акуліну, узяла яе за руку дый чуць не самлела — старая даўно акарчанела ды і пах ад яе ўжо нядобры ішоў… Участковы пачаў дапытвацца ў сынка, калі маці памерла. Той спачатку: «Не ведаю! Не знаю! Раніцай яшчэ жывая была…» А потым прызнаўся, мярзотнік (куды ж яму было падзецца!), што старая ўжо тры дні назад памерла. Сынок, каб людзі бачылі і думалі, што маці жывая, пасадзіў яе мёртвую каля акна. Хусткай за бараду падвязаў, каб рот не раскрываўся, а вочы пасля смерці адкрытымі заставаліся. Так трое сутак бабка Акуліна і прасядзела, як жывая… І ўсё з-за пенсіі. Тры дні не дажыла старая да пенсіі, то сынок і ўтварыў з ёй такое… А ўсё роўна не скарыстаў грошай — участковы тады адразу і забраў… Не прывядзі гасподзь такога сына мець!» — кожны раз жагналася напрыканцы свайго аповеду паштальёнка…

— …Вось і кажу я табе, суседка, што не толькі мы, старыя, дажыліся да ручкі. Свет увесь наш ужо да ручкі даходзіць. Нічога святога ў ім не застаецца. Але ж не хочацца,

каб пасля смерці мышы ў роднай хаце вушы паад’ядалі. Акуліна, бач, тры дні пасля смерці ў акно глядзела, як жывая. А як я памру — ніхто і не ўбачыць. То ты, суседка, пакуль яшчэ дужэйшая за мяне, заходзь у маю хату паглядзець, калі доўга бачыць не будзеш…

Аўдоцця ўстала з лавы і панесла дамоў сваю пацяжэлую пасля смерці Акуліны крыўду на жыццё, на дзяцей, на ўнукаў і на ўвесь белы свет.

**Чары**

Іван прачнуся рана і чамусьці на печы. Нясцерпна сушыла. Галава не балела. Толькі ў вушах стаяў гул, падобны на аддалены гул вадаспада. Павярнуўшыся, каб злазіць з печы, ён адчуў, што ў целе ну зусім няма сілаў. Ад невялікага, здавалася б, намагання задрыжэлі рукі, пацямнела ў вачах, самахоць тузанулася левая нага, якой Іван не патрапіў на табурэтку. Ён страціў і без таго хісткую раўнавагу і бразнуўся такі на падлогу.

— Каб ты смалы на тым свеце напіўся, як ты мне ўжо абрыдзеў сваёй п’янкай! Каб ты спруцянеў і выцягнуўся апошні раз — паплакала б, пахавала і больш не мела б клопату і сораму перад людзьмі за такую абразіну! Гэта ж да чаго дапіўся, да чаго дадумаўся сваёй прапітай башкаўнёй!.. — Іван як праз вату ў вушах слухаў жончыны праклёны, спрабуючы падняцца на ногі. Нічога новага не чакаў ён пачуць сёння ў жончыных словах, якімі кабета аднолькава прывячала мужа падчас кожнага яго запою. А запіваў Іван апошнім часам рэгулярна, з перыядычнасцю раз на месяц, калі атрымліваў пенсію.

Добрую пенсію зарабіў сабе Іван за 20 гадоў брыгадзірства ў калгаснай будаўнічай брыгадзе. Правялі яго на пенсію, як перадавіка вытворчасці — тэлевізар падаравалі на ўрачыстым сходзе. І заслужана. Бо ў дабротных цагляных дамах, выбудаваных Іванавай брыгадай «як для сябе», цяпер жывуць і не скардзяцца спецыялісты і трактарысты. Нават новы старшыня пасяліўся ў адным з Іванавых (як іх называюць) дамоў, а не ў той новай «шпакоўні», якія цяпер лепяць па прэзідэнцкай праграме. Сабе Іван пабудаваў дом на месцы старой бацькоўскай хаты. Не дом — мара для многіх. Ды Івана яго дом ужо не радаваў. Раней думаў: «Пайду на пенсію — зажыву!» Аказалася — няма чаго рабіць на той пенсіі. Людзі дабрэйшымі здаваліся і жыццё весялейшым — толькі калі вып’е. Праз тры гады, як падаравалі тэлевізар, Іван ужо не выпіваў, а піў запоямі. І ў гэты час не тое што тэлевізар — на сябе ў люстэрка глядзець не мог. Ды ўсё даўжэйшымі і цяжэйшымі рабіліся спробы працверазець — апаноўвалі нячысцікі. Пра тых нячысцікаў якраз і думаў Іван, прагна п’ючы агурковы расол з лядоўні: «І хто іх напусціў на маю галаву, хто навёў чары?..»

— Ачомаўся ўжо, дайшоў да памяці? — жонка падперла рукамі бакі, гатовая спапяліць Івана сваім позіркам. — Што цяпер будзеш рабіць, арыштант, што ўчастковаму скажаш?.. Такая ганьба на старасці гадоў, такі сорам…

Нечакана для Івана жонка заплакала. Гаспадар застыў са слоікам у руках, прадчуваючы нядобрае. Не было яшчэ такога, каб жонка плакала толькі з-за яго п’янак. «І чаго гэта яна ўчастковага згадала?» — намагаўся зразумець Іван, утаропіўшыся ў жонку.



— Дык ён жа не помніць, што ўчора вечарам вырабіў? Зноў не ведае, якая яго ведзьма зачаравала і розум апошні адабрала?.. — падхапіўшыся з табурэткі, жанчына з крыкам пайшла на вартага жалю Івана. — Ты ж, гад, хату ўчора суседчыну падпаліў, якую будаваць калісьці памагаў — каб гарэў ты сам сінім полымем! Верка, з якой век душа ў душу жылі, ведзьмай яму, бачыце, падалася! Чарцей на яго напусціла! І што прыдумаў, анціхрыст: спаліць суседку разам з хатай, як ведзьму, якая чарцей на яго наслала. Добра, што мне яшчэ паспеў сказаць пра тое, пакуль заснуў… Каб ты ўжо лёг і не прачнуўся!..

Не чакаючы больш рашучых дзеянняў ад жонкі, Іван выскачыў з кухні на вуліцу. Ад сэрца адлягло — Верчына хата стаяла на месцы. Толькі шалёўка з аднаго боку выгарала да паловы хаты, а замест крайняга акна ззяла абгарэлая дзюрка. Спрактыкаваным вокам будаўніка Іван прыкінуў, што рамонту яму (калі працаваць аднаму) будзе на некалькі тыдняў.

«…Не магла Верка нячысцікаў напусціць. Бо каб яна была той ведзьмай — не прывялі б мяне чэрці да яе хаты…» — зусім цвяроза разважаў Іван праз два месяцы пасля пажару, калі суддзя зачытвала яму прысуд аб прымусовым лячэнні ад алкаголю.

Пакуль ён рамантаваў дом суседкі і не піў, а праваахоўнікі займаліся яго справай, нячысцікі да Івана больш не прыходзілі. Але былы брыгадзір будаўнікоў добра ведае, што яны ёсць. Дагэтуль не ведае Іван у твар толькі тую ведзьму, што напусціла на яго чары.

**Мазутчык**

— А мне пофіг, якая там заўтра будзе ўлада! Я пры камуністах на трактары ў мазуце корпаўся, пасля пры Шушкевічу, пры Лукашэнку ўжо амаль 20 гадоў корпаюся. Заўтра нехта іншы да ўлады дарвецца, а я як быў мазутчыкам усё жыццё — ім і застануся… Ужо і да пенсіі нядоўга, — казаў калгасны трактарыст Мікалай, прыкусваючы хлебам з каўбасой ды гуркам толькі што выпітую сотку гарэлкі. Яны сядзелі і выпівалі з таварышам летнім навячоркам на беразе сажалкі, дзе гэтым разам не вельмі браліся карасі.

Мікалай вазіў сваім старым МТЗ-82 «зялёнку» скаціне на фермы ў дзве суседнія вёскі з шасці-сямі раніцы да шасці-сямі гадзін вечара ўвесь апошні месяц, без выхадных і святаў. Каб патрапіць на ранішнюю рыбалку, Мікалай уставаў у чатыры гадзіны раніцы, ехаў на ровары ці на скутары на бліжэйшыя возера альбо на гэтую сажалку і рыбачыў да паловы сёмай найдаўжэй, бо патрэбна было спяшацца на працу. Калі ж работу меркаваў закончыць раней, то дамаўляўся з машыністам камбайна-касілкі, каб выехаць у поле не пазней за пяць гадзін, а лепш — у чатыры. У такім разе паспявалі накасіць ды навазіць калгасным каровам і бычкам корму да гадзін трох дня пры самым спрыяльным раскладзе, з выняткам паўгадзіны на абед. Але тэхніка часам падводзіла, і планы на рыбалку ці неадкладныя работы па сваёй хатняй гаспадарцы даводзілася адкладаць да лепшых дзён. Пасля месячнай работы на фермах маглі паслаць цюкаваць прэсам сена альбо адвозіць тыя цюкі-балваны. Гэтая работа была ўжо залежная ад надвор’я і меньш аплочвалася. Але мусіш мяняцца. Такі парадак. Так летам у калгасе працавалі большасць механізатараў.

— А калі ўлада зменіцца, калгасы раскідаюць і ўвядуць прыватную ўласнасць на зямлю, што ты будзеш з ёю рабіць, са сваёй зямлёй? — запытальна глянуў на Мікалая яго таварыш, таксама прыкусваючы толькі што апарожненую пластыкавую стограмоўку.

— Начорта мне ўжо цяпер тая зямля? Праз тры гады пайду на пенсію плюс агарод пры хаце ды соткі ў полі — вось так вось хопіць той зямлі, каб з яе жыць ды каб жылы зусім не выцягнула, — правёў Мікалай даланёй сабе па горле.

— Не, я не пра соткі табе з агародам зараз кажу! А калі калгасную зямлю паміж намі, сялянамі, хто на ёй цяпер гарбаціцца і гарбаціўся ўсё жыццё, падзеляць па гектарах, што ты будзеш са сваёй доляй рабіць? — працягваў дапытвацца Мікалаеў таварыш.

— Ды хто табе што дасць, якую долю? Наша доля — вецер у полі! А поле калгаснае ці якога фермера там…

— А калі ўсё ж ляснуцца ўсе гэтыя калгасы, як Савецкі Саюз і савецкі рубель ляснуліся, зямля сялянам вернецца, што ты, гаспадар сваёй зямлі, з ёй зробіш?

— Ды пайшоў ты са сваёй зямлёй! Я не гаспадар на ёй, я — мазутчык! Пра свае соткі яшчэ магу паклапаціцца. Свіней для сям'і і на продаж выгадую, бычка якога — і хопіць мне. А што я на тых гектарах буду садзіць-сеяць, калі тут на сотках добрая бульба як уродзіцца, то потым за бясцэнак прадаеш лішку, бо падзець няма куды. Не, не хачу я такога клопату, мне ўжо не дваццаць гадоў, каб такое пачынаць.

— І што з зямлёй зробіш?

— Хай дзеці, калі хочуць, гарбацяцца на ёй. Але ім я такой долі не пажадаў бы. Бо, як ты ведаеш, ні аграномаў, ні старшынь калгасаў-саўгасаў, ні якіх іншых спецыялістаў няма сярод маіх дзяцей. То прагараць яны на гэтым рынку са сваёй зямлёй. Дый не будзе ніякай зямлі нам — ніхто яе не дасць. Пахапаюць калгасную зямлю сённяшнія начальнікі-куклаводы, з Мінска пачынаючы і нашым аграгарадком канчаючы. Як толькі Лукашэнка здасць уладу — так і захапаюць. І хай сабе! Мне гэта ўжо пофіг будзе!

— Ага, цяпер табе пофіг, а калі на такога начальніка потым гарбаціцца на яго полі прыйдзецца — тады не пофіг будзе?

— Мне не прыйдзецца, на пенсіі ці на тым свеце ўжо буду, пакуль такое здарыцца. А ты скажы, цяпер у калгасе я на сябе працую?

— А на каго?

— На зарплату! А на сябе я дома працую. Так яно і далей будзе. Хто на зямлі застанецца гаспадаром (хай сабе і наш старшыня калгаса) — той будзе на сябе рабіць, астатнія — на зарплату ў яго. Гаспадароў з тутэйшых сялян не атрымаецца шмат. Можа, адзінкі і возьмуцца самі на сваёй зямлі сваім розумам жыць, але большасць — мазутчыкі, п'янюгі горкія альбо пенсіянеры, ім нафіг гэтая зямля не трэба пры любой уладзе.

…Мужчыны прымоўклі, гледзячы, як чырвоны шар сонца паціху хаваўся за даляглядам на Захадзе. Пляшка ляжала парожняй. Рыба не бралася. Пара было збірацца дахаты. Заўтра рана ўставаць.





нарадзіўся ў 1965 г. у вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Пасля заканчэння філфака БДУ выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе ў Слоніме. Працуе намеснікам рэдактара «Газеты Слонімскай». Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч…».



ВІКТАР САЗОНАЎ

## Гонар эпохі, альбо Быль пра цыгарэты і чужыя выбары

Калі з Малдовы, пад час выбараў, сталі выкідваць як непатрэбныя рэчы міжнародных назіральнікаў, хтосьці з нашых сярэднеазіяцкіх калегаў з шчырай ўсмешкай на загарэлых скулах падмеціў:

— Ад пачатку было ясна, што ў гэтай краіне нас доўга цярпець не будуць. Бо сярод нас багата дасведчаных спецыялістаў. Нават «вясноўцы»* з Беларусі ёсць. А гэтыя ж ўсё раскапаюць. Гэтыя ні адно парушэнне не прапусцяць. А аўтарытарнай уладзе гэта сто год не трэба. Вось і выкінуць нас адсюль з такой прыткасцю і нянавісцю, з якой кухар саліднага габрэйскага рэстарана выкідае кавалак некашэрнага мяса.

І хоць гэта было сказана напаўжартам, каб размову завязаць, я тады адчуў незвычайны гонар за арганізацыю, да якой належу. Аж нос задзёрся ў неба, не зважаючы на тое, што гарачае паўднёвае сонца ўжо добра намуляла мае паўночныя вочы сваім навязлівым «сервісам». Я ўсміхнуўся свайму азіяцкаму калегу і мы зацягнуліся смачным і дурманячым цыгарэтным дымком. Я тады не падазраваў яшчэ, што зусім хутка курыць не буду. Нават з ранішняй кавай. Ды пра гэта пасля.

А зараз я павінен унесці папраўку да сказанага маім азіяцкім калегам. І хоць мая папраўка не прэтэндуе заняць сваё месца ў «Біле аб правах», усё адно ў імя справядлівасці яе таксама трэба ўспрымаць сур'ёзна. Да гонару іншых, мы, «вясноўцы» з Беларусі, былі не адзіныя, каго тады выперлі з Малдовы. Грузінскіх назіральнікаў нават з самалёта не выпусцілі, нібы тыя былі якія заразныя. Не далі хоць адной нагой ступіць на надзвычай гасцінную і прыветлівую малдаўскую зямлю з яе добразычлівымі жыхарамі і не менш прыемным пры блізкім знаёмстве белым, чырвоным ды чорным віном хатняга вырабу і «каляхатняга» разліву.

Многія пасля жартавалі, што ўлады тагачаснай Малдовы хіба падумалі, што ў грузінаў свайго віна хапае. І даволі добрага. Таму, каб тыя не зрабілі ў прысутнасці міжнародных назіральнікаў з усяго свету публічнага параўнання вінаў на карысць «Кіндзмараулі», зробленага са спелых гронак гатунку «Сапераві», іх і выперлі з краіны абсалютна цвярозымі.

Але гэтыя жарты былі пасля. А ў той момант, калі ля месцаў нашых начовак хадзілі нейкія невядомыя людзі з дубінамі ў наколатых руках і ва ўсё горла пасылалі нас туды, адкуль мы прыехалі, было не да жартаў. Бо ў адваротным выпадку яны абяцалі пераламаць нам тыя месцы, якімі мы пакуль што і можам уцячы.

Не лепшым чынам абышліся і з украінскімі назіральнікамі. Расказвалі, што іх гвалтам вывезлі праз мяжу і выкінулі ў кукурузным полі без асабістых рэчаў і сродкаў для ранішняга лячэння ад таго, чым так ганарыцца малдаўская спажывецкая вытворчасць. І чаго так і не змаглі набыць сабе хоць бы ў якасці доказу свайго наведвання Малдовы грузіны.

---

* Удзельнікі праваабарончага цэнтру «Вясна».



Але ж як выганялі нас, беларусаў, то гэта была байка! Хіба нікога так весела і настойліва не прасілі вярнуцца туды, адкуль мы родам, як нас.

Аднаго дня я заўважыў, як супрацоўнікі малдаўскіх спецслужбаў прыйшлі ў гатэль у слаўным і гасцінным горадзе Бельцы, дзе мы начавалі. Яны ўсё вынюхвалі ў служачых гатэлю што мы за беларусы. Чым мы там дыхаем, як бы мовіць. Ці мы думаем працаваць сумленна, ці толькі нумар адбыць. Відаць і такіх назіральнікаў яны сустракалі, што толькі нумар адбываюць. Напэўна прысланых па лініі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Такая ў іх садружнасць хіба, не заўважаць махлярства на выбарах адзін другога. І па гладка паголеных тварах тых спецслужбоўцаў адразу было бачна, што ім больш да спадобы тыя, ад СНД.

А яшчэ было бачна, што яны лічаць, нібыта такая ўлада як у сённяшняй Беларусі вельмі пасуе і для іх малдаўскіх геаграфічных шырот. Вось толькі як зразумелі, што мы ўсяго толькі за выбары без парушэнняў нацыянальнага заканадаўства і ў Беларусі, і ў Малдове, і ва ўсіх астатніх кутках свету, куды нас закідваў злы лёс і добрае кіраўніцтва, то адразу прынялі радыкальныя меры. Хоць мы ім і тлумачылі, што і ў іхнім выбарчым заканадаўстве нідзе не напісана, што на выбарах у камісіях абавязкова трэба махляваць, а супрацоўнікам спецслужбаў трэба сачыць, каб ніхто гэтага не зафіксаваў, яны нас і слухаць не хацелі.

Частку нашых вытурылі з гатэля яшчэ ноччу, не даўшы нават як належыць пралупіць тыя часткі цела, якімі яны і збіраліся назіраць. А з свежага сонечнага ранку ўзяліся за астатніх. Мы зляталі з гасціннай той малдаўскай зямелькі на першым жа самалёце, які толькі змог падняцца ў блакітнае неба СНД. Хоць нам туды, куды нас несла срэбная птушка, сто гадоў не было трэба. Бо ляцеў самалёт да Масквы. І як мы прызямліліся там, то аказалася што ад Беларусі мы знаходзімся яшчэ далей, чым да ўзлёту.

Ды быў у тым, як не дзіўна, адзін станоўчы момант. Пакуль мы ляцелі над шырокімі прасторамі былога СССР, узнікла магчымасць зрабіць тое, на што ў звычайнай мітусні вечна бракуе часу — спакойна паразважаць пра жыццё. Тым больш, што ў мяне другога занятку не было, бо як на зло цыгарэты скончыліся.

Лячу сабе і разважаю пра рэчы розныя, каб курыць не хацелася. А з галавы не вылазіць малдаўскі шафёр, што вазіў нас, назіральнікаў, па выбарчых «дзяльніцах» сонечнай Малдовы.

— Хлопцы, — казаў ён праз слёзы. — Гэта найгоршы дзень у маім жыцці. Я так спадзяваўся, што пасля гэтых выбараў Малдова абярэ нарэшце свой шлях. Але зараз бачу, што як выганяюць міжнародных назіральнікаў, то справядлівых выбараў не будзе. Бо гэта галоўны паказчык, наяўнасць справядлівага назірання. А цяпер канец маім надзеям. І не толькі маім.

Што мы маглі яму сказаць? Толькі ўздыхнулі і раз'ехаліся з цяжкім сэрцам. Ды закурылі па цыгарэціне на развітанне. Тады яшчэ цыгарэты ў мяне былі. Добрыя такія. У «Д'юцці фры» купіўшы быў іх.

А яшчэ не вылазілі з галавы тыя гладка выгаленыя спецслужбоўцы, якіх пасылалі разабрацца, што мы за назіральнікі. Бо з Беларусі, аказваецца, могуць быць і такія, якіх маглі і не выгнаць. Якім справядлівыя былі выбары, ці несправядлівыя, агучвае

старшыня ЦВК, які, ці якая, па сумяшчальніцтву яшчэ можа быць ярым прыхільнікам непераможнага кандыдата ад улады.

Стала цяжка на душы, што нас, беларусаў, так расцэньваць могуць. За дзяржаву стала крыўдна. За сваю.

Але падумалася, што ёсць жа яшчэ і мы, прадстаўнікі «Вясны», ёсць іншыя назіральнікі, місія якіх яшчэ і змагацца за гонар нашай краіны і гонар нашай эпохі.

Гонар эпохі! Толькі падумаў пра гэта, адразу іншыя выбары ўспомніліся. Ужо на Украіне. Мы тады ў пары з Ігарам Хадзько працавалі ў Роўна. У дзень выбараў такі пяшчотны ранак быў, што справядлівага падліку галасоў патрабавалі нават мясцовыя і пералётныя птушкі, хоць яны і права голасу то не маюць.

— Тут хіба ўсё будзе па-чэснаму, — сумна кажа мне Ігар пралупіўшы вочы. — Такое выбарчае заканадаўства «забацалі» яны сабе, што ў камісіях прадстаўнікі ад усіх плыняў і лічаць галасы разам. Вось што значыць драпежны наступ капіталізму на постсавецкія землі. Яны нават сімпатыі свае выказваць не захочуць такім як мы, прыезджым. І мы ім, зрэшты, таксама не будзем. Бо не маем права. Наша справа назіраць, каб не было парушэнняў.

— Ваша справа назіраць, каб не было парушэнняў, — паўтарыла нам яго думку ўжо на свежавымытым ранішнім паветры наша кіраўнічка Таня Равяка, якая ў гэты дзень была надзвычай рашучая, урачыстая і скіраваная выключна на дасягненне пастаўленай задачы, як айсберг, які патапіў «Тытанік».

— Ес, мэм, — адрапартавалі мы, узялі пад брыль і імгненна растварыліся ў ранішнім тумане ўкраінскіх прастораў, захапіўшы з сабой на ўсялякі выпадак машыну і шафёра.

Аналітычныя здольнасці Ігара не падвялі. Парушэнняў у выбарчых камісіях упарта не хацелі рабіць і наш пошук несумленных украінцаў пачаў заходзіць у глухі тупік. Ігар нават пажартаваў, што нам трэба было б напрошвацца назіраць на ўсход Украіны. Можа там, маўляў, удалося б праявіць сябе у якасці прэтэндэнтаў на прэмію імя дэдуктыўнага метаду Шэрлака Холмса. І раптам, як ужо нават сонцу стала сумна і яно вырашыла схавацца за царквой невялічкай вёсачкі, дзе мы з Ігарам наведвалі адну з апошніх запланаваных на гэты дзень выбарчых «дзяльніц», мы адчулі моцны ўсплёск адмоўнай энергіі, скіраванай прама ў наш бок. На нас з нянавісцю, як Ленін на буржуазію, глядзеў мясцовы міліцыянт, які тут рабіў выгляд, што выконвае свае службовыя абавязкі, і якому страшна не падабаліся новыя ўвядзенні ў метады правядзення выбараў. Бо яны кардынальна адрозніваліся ад былых савецкіх, значна больш прывычных для яго натуры.

Адмоўна ён нас пачаў ўспрымаць адразу пасля таго, як яго круглыя вочы прачыталі на нашых бэйджах, што мы належым да міжнароднай назіральніцкай місіі ENIMO. Але, як пачуў наш беларускі акцэнт імгненна памяняў сваё стаўленне да нас на цалкам супрацьлеглае.

— О, нарэшце нармальныя людзі прыехалі, — расплыўся яго твар як рэзка разбіты слоік смятаны, і ўжо па гэтым разлезлым выразе было бачна, што ў нас з ім розныя ўяўленні пра нармальных людзей. — А то тут некаторыя лазяць, фальсіфікацыі шукаюць.



— І мы гэта робім, — адказваем яму. — А прадстаўляем мы тут міжнародную місію.

Слоік смятаны зноў сабраўся ў кучу і пажаўцеў. А ў нас на душы як сто катоў напілявалі. Крыўдна стала. З-за каго нас, беларусаў, усіх так успрымаюць? Нервова закурылі мы тады украінскіх цыгарэт, шафёра пачаставалі, памаўчалі ды за працу. Ратаваць кімсьці згублены гонар. Хіба зноў тымі згублены, ад СНД каторыя. А міліцыянту цыгарэту не далі. Не тое што шкода нам было. Проста ёсць людзі, з каторымі на адным полі не толькі курыць не хочацца, але і зусім нічога.

А вось тыя, хто рабіў падлік галасоў, якраз радаваліся, што прыйшоў на Украіну час, калі фальшаваць не прымушаюць. Ды і мы пастараліся не зганьбіць гонару ні міжнародных назіральнікаў, ні свайго, беларускага. Але асадак у нас на душы яшчэ нейкі час аставаўся.

Заставаўся, ажно пакуль не прыехалі ў Роўна і зноў не ўбачылі нашу кіраўнічку Таню Равяку. Тая была настолькі задаволеная работай усіх сваіх падначаленых, што ззяла такой бліскучай усмешкай, што нават мясцовая крапіва ля акруговай выбарчай «дзяльніцы» слаўнага горада Роўна ледзьве не заквітнела цюльпанамі.

Мы ў той дзень яшчэ глынулі разам пахучага цыгарэтнага туману ды пагаварылі і пра зробленую працу, ды пра гонар эпохі. Эх як прыемна пакурыць з сябрамі пасля добра зробленай працы!

А яшчэ, калі ляцеў у тым самалёце на Маскву, успомнілася мне, як Алесь Бяляцкі запрашаў мяне працаваць у «Вясну».

— Трэба ж некаму змагацца за гонар нашай эпохі, — прывёў ён сярод іншых аргументаў і такі.

І як яго судзілі, ці лепш сказаць садзілі, ён паўтарыў гэта яшчэ раз, заявіўшы, што некалі ніхто не зможа абвінаваціць нас у тым, што ў гэты складаны для Беларусі час тут ніхто нічога не рабіў.

Таму, калі ў мяне пытаюцца, што для мяне праваабарончы цэнтр «Вясна», я ўспамінаю людзей, якія там дзейнічаюць, з якімі разам працаваў і працую, і адказваю, што гэтую арганізацыю, акрамя ўсяго іншага, я ўспрымаю яшчэ і як гонар нашай эпохі.

І вельмі тады зноў цягне закурыць. Бо яшчэ ў такі момант прыпамінаецца мудрае сцверджанне Міхаіла Жванецкага пра тое, што адным людзям трэба рабіць геройства з-за таго, што іншыя ўчынілі злачынства.

Толькі закурыць не магу. Курыць я кінуў. Яшчэ тады, як ляцеў з Малдовы ў Маскву і пра ўсе гэтыя выбары ўспамінаў.

Бо спачатку цыгарэтаў не было дзе ўзяць. А пасля не хацелася. Бо ў свой час зарокся, што нічога расійскага купляць не буду, пакуль улада ў гэтай краіне не стане дэмакратычнай і перастане пасягаць на нашу беларускую незалежнасць.

Таму, хоць у мяне вушы скруціліся ў трубачкі ад жадання глынуць дурманячага тытунёвага водару, я цярпеў, ажно пакуль мы не прыбылі ў сталіцу, якая па словах сённяшняй улады «смела глядзіць у будучыню».

А там мне падумалася: «А чым тутэйшая ўлада ад той расійскай адрозніваецца?» І зноў не стаў цыгарэты набываць.

**н**арадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Гальшаны. Скончыў ГрДУ імя Я. Купалы, гісторык. Сябра СБП. Выдаў кнігі: «Занатоўкі кантрабандыста», «Notatki kontrabandzisty» ў перакладзе на польскую мову, «Bajdy sąsiedzkie» ў перакладзе на польскую мову, «Сандалі метрапалітыка, або Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі».








АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

## Шчонаўскія абразкі

«Адкуль Вы столькі ведаеце пра сваё Шчонава?» — так спытаў мой Настаўнік Іван Якаўлевіч Лепешаў, калі прачытаў першы цыкл «Шчонаўскіх абразкоў».

Вось жа, многае захавала мая дзіцячая памяць. Слухаць, што гавораць людзі, назіраць за імі, перажываць разам з імі было для мяне вельмі мілым заняткам. Цікаўная да ўсяго, малая шчонаўка ўбірала ў сваю памяць аповеды бабулі Вольгі Барэйкі (Волькі Барэйчыхі) і няні Ганны Яўсей (Ганны Юлькавай) пра даўняе мінулае. Схаваўшыся на печы ці ўтульна прымасціўшыся на маміных каленях, слухала, наслухацца не магла доўгімі зімовымі вечарамі размовы з кабетамі, што часта завітвалі да вясковае настаўніцы. Сёння нагадваю шчонаўцам пра іх ранейшае, заахвочваю да згадкаў. Маё пакаленне не памятае амаль нічога. Старэйшыя пачынаюць расказваць, калі падводзіш іх да нейкае падзеі. Асабліва шмат даведалася ад стрыечнае сястры майго бацькі Ніны Навумчык (Ніны Пасэсаравай), за што ёй шчыра ўдзячна.

### Брыгадзір

Брыгадзірам Колю Барэйкавага паставілі адразу, як вярнуўся з войска. З марфлота. Служыў на Балтыцы. Вярнуўся раней, бо перанёс аперацыю на страўнік. Язва. Адгукнулася галоднае дзяцінства. Нікому не паведаміў. «Навошта? Хто мне чым мог дапамагчы? Мая маці, бедная сялянка? Даведалася і толькі плакала б».

Захаваўся здымак: брыгадзір на кані. У кепцы, у тых сваіх матроскіх клёшах. Часам любіў ўзяць на каня малую Алу. І яна была не супраць. Хоць і страшнавата, але так высока, так цікава. Праўда, сцягонцы дзіцячыя, далікатныя націрала, смылелі пасля, ды нічога…

Амаль два гады не працаваў: ізноў адгукнулася язва, на курорт ездзіў. Каго на такую пасаду ўпросіш? Прасіў Алёшу Антонішынага: «Ты не п’еш, папрацуй, пакуль прапраўлюся». Мо Алёша і згадзіўся б, але жонка Мілка не пусціла: «Усім добрым не будзеш. Вунь і Колі сад парэзалі, адпомсцілі, бо не ўгадзіў некаму». І стаў тады брыгадзірам Коля Юркаў.

А праз паўтары гады ізноў Коля Барэйкаў брыгадзірыць вярнуўся. Аж да 1965 года, калі паехаў вучыцца ў Магілёў, у партыйную школу.

### Лапенё

У 50–60-я гады па Шчонаве даволі часта ездзіла падвода, якую асабліва чакалі жанчыны. Ці быў той чалавек сапраўды жыдам, невядома. Але шчонаўскае радыё разносіла вестку імгненна: «Жыд прыехаў!» Чым бы ні была занятая кабета, усё кідала і бегла, прыхапіўшы з сабою якую старызну.

Гэта быў ганучнік. Так яго яшчэ называлі. Збіраў утыль-сыравіну. За гэта даваў прыгожыя хусткі. Квяцістыя шаляноўкі. Колеры — вачэй не адвесці. Поле магло быць чорным, тады хустка выглядала асабліва святочна, на ўрачыстыя падзеі апранала-

ся. Або белым, крыху прасцейшая, але ўсё роўна вельмі прыгожая. У краме такіх не было.

Адзенне тады насілася-пераносілася аж пакуль зусім не зношвалася, не рвалася. Толькі тады можна было ад яго пазбавіцца. Гэтую старызну ў Шчонаве яшчэ называлі *лапенё.*

Прыбегла разам з усімі і маладая настаўніца Валя Барэйкава. Ніякага *лапеня* ў яе не было. Мела грошы: у школе, у адрозненне ад калгаса, грошы плацілі. Просіць у жыда, каб хустку ёй за грошы прадаў. А той ніяк не згаджаецца: «Не трэба мне твае грошы!» Дабрадушныя шчонаўскія кабеты ўступіліся за Валю: «Яна жыве ў свякрові. Няма ў яе лапеня. Прадай за грошы».

Неаднойчы чула ад мамы гэты аповед. Была ў ім і вялікая ўдзячнасць да тых, тады зусім чужых жанчынаў, якія адразу не надта яе прынялі, а тут такую падтрымку ад іх нечакана займела. І крыўда, што ў свякрові не знайшлося для яе таго *лапеня*. І вялікае жаданне мець тую абнову.

Хустка для шчонаўскіх кабетаў была абавязковай. Без яе на вуліцу не паказваліся.

Ці прадаў жыд тую хустку, не ведаю. Мне чамусьці гэта не запомнілася. Важней было тое, што маму падтрымалі.

**Украінка**

Шчонаўскія кабеты вышывалі. Асабліва ўпадабаны сюжэт — «Украінка». Прыгожая дзяўчына ў нацыянальных строях. І фон адпаведны: каля тыну растуць кветкі. Хіба ў кожнай хаце такая карціна вісела.

Вельмі хацела мець «Украінку» Валя Барэйкава. Дзеля ўзору ўзяла вышыванку ў Люні Пасэсаравай. Але павінна была хутка вярнуць, бо гаспадыня гасцей мела. Старалася Валя закончыць працу, але не паспела: трапіла ў раддом, дзе нарадзіла сваю адзіную дачку.

Прыйшоў муж праведаць яе. А рожаніцу хвалюе:

— Ці забрала Люня «Украінку»?

— Забрала. — Коля Барэйкаў заўсёды быў нешматслоўным.

— Як шкада! Я ж не паспела пейзаж вышыць.

Нічога не адказаў Коля, толькі ўсміхнуўся.

Вярнулася жанчына дадому, а тут неспадзеўка. Ды яшчэ якая! На стале ляжыць «Украінка». Усё вышыта. Хто ж яе закончыў? Такі падарунак зрабіў муж сваёй жонцы. Ніколі больш за ўсё жыццё ні аднаго сцяжка не зрабіў. Ды і да таго хіба ніколі не вышываў. Але з маленства вышываць умеў.

Доўга вісела вышыванка ў іх хаце. Пасля гэта нямодна стала. Але карціна захоўвалася.

Зараз мая аднагодка вісіць у маёй хаце. Калега, які аднойчы быў між гасцей, сказаў, што ў іх такія карціны называлі «Бандароўна».

Мо адтуль, з захаплення красою тае ўкраінскае прыгажуні, на якую глядзела з дзяцінства, і нарадзілася ў маім сэрцы любоў да Украіны.

Але ж «Украінкі « віселі ў кожнай хаце?..



**Магілкі**

На могілках між магілаў некалькі маленькіх магілак. Без помнікаў. Тут пахаваны малыя дзеці. У 60-я і я даглядала такую магілку…

Настаўніца Валя Барэйкава паехала ў Карэлічы на жнівеньскую нараду. Чакала дзіцятка. На апошніх месяцах была. Дрэнна ёй стала. Дахаты ў той дзень не вярнулася. Трапіла ў бальніцу. Дзіця (а гэта быў хлопчык) страціла. Ягонае цельца аддалі бацьку. У кардоннай скрынцы. Прыехаў дахаты, дзе з дзецьмі была няня Ганна Юлькава, узяў лапату, тую скрынку і пайшоў на могілкі. Пахаваў свайго сыночка ненароджанага поруч з магілай бацькі.

Што ён думаў, што перажыў — ніхто не ведае. Бо быў чалавекам, замкнутым на свой боль, ніколі ні з кім не дзяліўся. Боль фізічны таксама трываў моўчкі. Калі яму балела (праз усё жыццё нагадвала тая перанесеная ў маладосці аперацыя), сыходзіў у далёкі пакой і толькі скрыгітаў зубамі.

Пасля поруч з бацькам пахавалі маці. Тая маленькая магілка знікла. Але заўсёды згадваю, наведваючы могілкі: тут мой ненароджаны брацік.

**Сполах**

Маладая дзяўчына пахавана на шчонаўскіх могілках. Тоня Валадзенькава. Па ёй быў пастаўлены самы прыгожы помнік. Высокі, гранітны. У той час такі быў адзіны. Ён і сёння на самай старой, крайняй вуліцы між іншых вылучаецца.

За хатаю Валадзенькавай, што поруч з могілкамі, — вялізныя раўкі. Там-сям дрэвы былі. Гэта зараз суцэльны лес. Тады ўсё кароўкамі выпасвена было, людзьмі выхаджана. Як туды воўк заблукаў? Адкуль? Але напалохаў дзяўчыну вельмі моцна. Недарэмна ж кажуць: «Да смерці спалохаўся». Вось і яна так — да смерці. Марнець стала, захварэла. Лячылі, ратавалі. Нішто не дапамагло. Памерла зусім маладая.

Адзіны сын Валадзенькаў Федзя ажаніўся з дзяўчынай па імені Тоня. Памятаю, як мама аднойчы сказала: «Заміж тое Тоні гэтая ў іх сям'ю прыйшла».

**Зоська — свінчына сястрычка**

Так гаварылі на ўпэцканую, брудную малую шчонаўку. Загуляецца якая на сваёй «кухні», аладкі, пірагі пячэ з мяккага «цеста», з глею ці пяску. І сукеначку запэцкае, не тое што ручкі. А сама ж яшчэ басаногая. То і ножкі брудныя. З'явіцца такая гаспадынька перад мамаю і пачуе: «Ах ты Зоська — свінчына сястрычка!»

Часам мама папярэджвае сваю дачушку, калі тая пагуляць просіцца: «Ідзі, толькі не ўпэцкайся, а то будзеш як Зоська — свінчына сястрычка».

Вельмі загадкаваю была для мяне тая Зоська. Імені такога ні ў адной дзяўчынкі ў Шчонаве не было. Таму і спытала ў мамы аднойчы: «А хто яна, тая Зоська? І як яна можа быць сястрычкаю свінцы?» І хіба ж не цуд: якраз у гэтую хвіліну праходзіла каля нашае хаты нейкая незнаёмая дзяўчынка (што ўжо было незвычайна), ды такая брудная! І ножкі босыя, аж чорныя, і сукенка брудная-брудная, і валасы не ўчасаныя. Паказвае мне мама: «Глядзі, гэта і ёсць тая Зоська».

Запомнілася мне гэта назаўсёды.

Неяк на навуковай канферэнцыі ў нашай вну калега-мовазнаўца М.А. Даніловіч, які стала займаецца вывучэннем найменняў людзей, выступаў з дакладам пра найменні дзяцей на Гродзеншчыне. Назваў ён і тое мае, шчонаўскае, даўняе: «Зоська — свінчына сястрычка». Быццам сустрэла ізноў тую брудненькую незнаёмку, ізноў пачула маміна ўшчуванне: «Глядзі ж, не ўпэцкайся!» Перанеслася ў сваё роднае Шчонава.

Калі ж спытала пасля, адкуль у яго тая Зоська, пакапаўся ў сваіх талмудах і ведаеце што сказаў: «Вёска Шчонава, Карэліцкі раён»…

**А Фанячко, а родная!..**

Неяк, калі настаўніца Валя Барэйкава, была ў ад'ездзе, малую Алу давялося глядзець суседцы Фані Сцяпанавай. Цэлы дзень дзяўчынка, як хвосцік, хадзіла следам за кабетаю, якой трэба было і працу штодзённую спраўляць. Усё і рабіла. Малая пад рукою была, не перашкаджала. Пакуль да ямы не дайшлі. У яме, выкапанай у зямлі, глыбокай, круглай, захоўвалі бульбу. Яе і трэба было з ямы дастаць. Растлумачыла Фаня, каб трохі пачакала яе, што вернецца хуценька.

— Пастой тут. Добра?

— Добра, — паслухмяна прамовіла тая.

Спускацца трэба было па драбінах. Толькі схавалася кабета ў яме, як пачула лямант малое:

— А Фанячко, а родная! А дзе ж ты падзелася?

Выскачыла Фаня з ямы, бульбы не набраўшы. Ізноў малой даводзіць тое ж:

— Не плач, не бойся. Я ж скоранько! Толькі картопелькаў набяру. Не будзеш плакаць?

— Не буду.

Не паспела да тое бульбы дабрацца, ізноў чуе:

— А Фанячко, а родная! А дзе ж ты падзелася? Баюся!..

Пяць разоў спускалася жанчына ў яму і шторазу мусіла назад вылазіць, так гаротна лямантавала малая. Што ж яе так палохала?..

Што па Фані плакала, не памятаю. Але страх свой дзіцячы перад тою ямаю памятаю добра. Была яна каля Сцяпанавага хлява. Заўсёды далёка абыходзіла тое месца. Падавалася мне яма нечым чорным, бяздонным, куды можна праваліцца і не вярнуцца. Не дзіва, што цётку Фаню па бульбу не пусціла.

**Да Бога душэю**

Як давесці, што ні ў чым не вінаватая? Як выказаць, што і блізка там не была, што ніколі так не казала? Так і сказаць: не была, не казала, не вінаватая я? Хто ж паверыць? І тады на дапамогу клікалі Бога: «Я ж — да Бога душэю!» Гаварылася менавіта так: душэю. Асабліва часта гэтую фразу чула ад Веры Лідзінай, кабеты дабрадушнае. Да Бога душэю азначала вышэйшую ступень невінаватасці. Як можна было не паверыць?



**Плёткі разводзіць**

Плётку пусціць лёгка: слова адно перавернеш, перайначыш — і гатова. Сэнс сказанага зусім іншы будзе.

У Шчонаве так і казалі: пусціць.

А вось знішчыць плётку вельмі цяжка. Як разабрацца, хто і што казаў ці не казаў? У Шчонаве казалі: плётку развесці.

Як цяпер бачу Волечку Рыгораву, што стаіць у нашай кухні каля парога. Просіццамоліцца перад мамаю, што тую плётку (якую, і сёння не ведаю, бо абміналі кабеты сэнс тае непрыемнасці) не яна пусціла. Кажа, што ісці да мамы ёй было так цяжка, так сорамна, але мужык сказаў, каб ішла, калі невінаватая. Стаіць такая маленькая, няшчасная. Выглядвае Ала з-за фіранкі, шкадуе Волечку, а мама ўсё не адпускаецца, усё не дароўвае. Паўтарае строга: «Я плёткі не пускаю, я іх і разводзіць не буду».

Ды ўсяму канец быць мусіць. Маміна «ну добра» ўсё ж прагучала. Супакоеная Волечка дахаты пайшла. Плётку развялі.

**Свякроўка**

Вельмі добраю была да Валі Барэйкавай Маня Тамашыха. І да яе малое дачкі таксама. Чаму Ала стала зваць жанчыну свякроўкаю, і сама не памятала.

— Хто прыходзіў?

— Свякроўка.

— Каго на вуліцы сустрэла?

— Свякроўку.

Пытаецца аднойчы маці ў малое, такі адказ пачуўшы:

— А ці ведаеш ты, хто такая свякроўка?

— Тамашыха.

— Не. Тамашыха стане тваёю свякроўкаю тады, калі ты замуж за іхняга Тамаша выйдзеш.

Як заплача малая, як закрычыць:

— Ніколі я за яго замуж не выйду!

З таго часу перастала дзяўчынка Тамашыху свякроўкаю называць.

**Пажар**

Не так часта гэтая страшная бяда наведвала Шчонава.

Той пажар адбыўся летам 1967 года. Старую хату Алёшы Канцавога падпаліў ягоны малы сын Вася. Стаяла яна на высокім грудзе. Як здарылася, што хлопчык нарабіў такое шкоды, хто ведае. Згарэла ўсё. Мо яшчэ і летняя спёка дапамагла.

Сам Вася не пацярпеў зусім. Пэўна, што напалохаўся.

Здзівіла многіх шчанаўцоў карціна: пасадзіў Алёша свайго сына на калені, гладзіць яго па галоўцы, шкадуе, рады, што з ім нічога не здарылася. Чула неаднойчы ад розных людзей: «Не на калені садзіць ды па галаве гладзіць, а рэмня даць добраго! Гэто ж трэба: хату спаліў».

Засталіся як стаялі. Першы час жылі ў Ёўнавай хаце. Даволі хутка хату новую пабудаваў калгас. Ніжэй, каля тае гары.

Няма ўжо нічога да іхняе сядзібы. Ні адно дзіця з гэтае самае вялікае сямейкі не засталося ў Шчонаве. А Вася ўжо на шчонаўскай гары. Не пашанцавала яму ў жыцці. Памёр зусім маладым.

**Газоўка і кашміроўка**

Не, не лямпа. Хустка. Тоненькая, празрыстая. Газавая. Усе дзяўчаты мелі такія ў Шчонаве. Сохла за хвіліну. Памятаецца: сабраліся з Таісай Мішышынай некуды ісці. Завязвае яна газоўку. Яе мама цётка Тамара заўважыла, што там нейкая плямка.

— Няможна так ісці. Трэба памыць!

— Калі ж яна высахне?

— Як бачыш сухая будзе.

Хуценька пацерла ў руках у місе з вадою, на сонцы нагрэтай, вывесіла на вяроўку. І тут жа зняла. Сухая! Яшчэ і дадала:

— Шануй адзенне дома, а яно цябе — у людзях.

Кашміроўка — таксама хустка. Шарсцяная, з кутасамі. У каляровыя кветкі. Поле магло быць чорнае ці белае. Радзей чырвонае ці зялёнае. Насіліся толькі ў святы.

Без хусткі шчонаўка на вуліцу не паказвалася.

**Праводзіны**

Уся шчонаўская малеча хадзіла на танцы. Але не ўсё самае цікавае было там, дзе гулялі. «Хто каго будзе праводзіць?» — гэтае пытанне не давала спакою даходным малым шчонаўкам. Так хацелася высачыць! Усё: і хто з кім, і куды пайшлі, і дзе стаялі. А каб яшчэ ўгледзець, як цалаваліся — гэта было б самае цікавае. Ніколі, дарэчы, не ўдавалася. Ці аж такімі цнатлівымі былі тыя пары, ці ўмелі ўрэшце адарвацца ад непажаданага «хваста», але ніхто з малых, назаўтра абмяркоўваючы праводзіны, не сказаў, што бачыў, як цалаваліся. Праблема была ў тым, што па адной сачыць ніхто ісці ў цемры не асмельваўся. А дамовіцца, за кім віжаваць, было цяжка, бо ва ўсіх былі свае сімпатыі. Галя Лёнікава заўсёды хацела ісці за Галінай Абрамовічавай, Ала Барэйкава — за Зінай Парасчынай…

Светлыя дзявочыя сукенкі ярка бялеліся ў цемры. Вечар прахалодны. Кавалер, а былі яны гжэчныя да сваіх абранніцаў, абавязкова накідаў на плечы дзяўчыны свой *пінжак…*

Калі гляджу сёння старыя фільмы з Одры Хэпберн, бачу тыя ж сукенкі, што насілі нашы шчонаўскія харашухі. І валасы гэтак жа ўчэсвалі. Мы, малыя, гадалі: што яна падкладваюць, каб так высока ўзняць. Адна з версіяў — шкляны слоік. Мода 60-х у Шчонаве была такая ж, як і ў Еўропе. Хай усё астатняе было зусім іншым….





**Н**арадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, працавала ў вясковых школах. Закончыла аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я Купалы НАН. Кандыдат філалагічных навук. Працуе дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ. Сябра СБП. Напісала кнігу «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі».





# Успаміны

## Алясей Пяткевіч

### На пачатку ліпеня 44-га

Тое лета было вельмі гарачым і сонечным. У ціхія падвячоркі чуўся, хоць і слабы, глухі, нібы з-пад зямлі, няспынны гул гарматнай кананады. Ішоў ён з поўдня, з-пад Слуцка. Мы, хлапчукі, правяралі гэты гул, лёгшы і шчыльна прыклаўшы вуха да долу. Тады чутно было, як паныла і трывожна дае пра сябе знаць нейкая далёкая і злавесная сіла і як дробненька дрыжыць зямля, нібы жывая. У мястэчку (Новы Свержань цяперашняга Стаўбцоўскага р-на) усе ўжо ведалі, што немцы вось-вось адступяць і прыйдуць Саветы. Немалы нямецкі гарнізон, што месціўся ў казармах каля мястачковых могілак і быў акружаны мінным полем ды некалькімі радамі адмыслова сплеценага калючага дроту, ужо апусцеў, цішком перабраўшыся за Нёман у суседнія Стоўбцы. Толькі рэдкія фігуры іхніх салдат, мабыць, самых апошніх, яшчэ трапляліся на вочы.

Нашая сям'я, акрамя мяне і таты — а гэта мама Антаніна, старэйшая сястра Валя і малодшыя сястрычка Зіна і брацік Барыс — збіралася ў вёску, каб перабыць там небяспеку. Перад гэтым тата знёс у пограб усё каштоўнае, што было ў хаце — адзенне, посуд, некаторыя рэчы і засыпаў падлогу тоўстым слоем зямлі. Чакалі падводу з Мархачоўшчыны, адкуль была родам суседка, якая таксама выпраўлялася з дзецьмі. Вечарэла. У хаце пакавалі клункі і торбы — патрэбна ж была і пасцельная бялізна, адзенне, нейкія харчы. Раптам увальваюцца немцы. Гэта сталася так нечакана, што ўсе аслупянелі. Адразу заўважылі, што салдаты п'яныя. Гэтакімі за ўвесь час акупацыі мы іх не бачылі. Але не толькі былі п'янымі — у вачах выразна свяцілася злосць і рашучасць. Кінуліся чамусьці заглядаць ва ўсе куткі хаты. А адзін, стаўшы пасярод пакоя заявіў, што ён забіў савецкага афіцэра і як доказ гэтаму падняў крысо мундзіра, прадэманстраваўшы на поясе папругу з пражкаю, на якой блішчэла буйная пяціканцовая зорка. Яўна навісала бяда. Малыя пачалі баязліва румзаць. Але немцы, якія напэўна і самі не ведалі, чаго яны сюды ўварваліся, хутка павярнулі назад, грукаючы ботамі. «Гэта яны перад канцом», — рэзюмаваў тата.

Мне хацелася разам з усімі ехаць на вёску: там збярэцца шмат розных людзей. Ды і ўвогуле — пажыць на вёсцы цікава. А што тут? Але мама катэгарычна адхіліла мой намер, маўляў, я буду патрэбен каля таты. Калі жанчыны і дзеці ад'ехалі, бацька і яшчэ двое суседзяў — усе тры Мішы — не маючы ўжо асаблівых клопатаў, вырашылі выпіць чарку. Толькі на панадворку, дзе стаялі, нечакана з'явіліся ўзброеныя немцы і загадалі ісці з імі. Неўзабаве стала ясна, што, пакідаючы мястэчка, яны забі-



раюць усіх мужчынаў, што траплялі ім пад руку. Крыху счакаўшы, я назіркам рушыў за імі. Іх завялі на ксёндзаву сядзібу і сказалі сядзець каля хлява і чакаць. Самі адышліся да гумна і сталі нешта абмяркоўваць і гучна спрачацца. Тады мужчыны, бачу, адзін за адным, на адлегласці, нетаропкай хадою, нібы гуляючы, пайшлі міма немцаў, занятых сваёй спрэчкай, за гумно. А там рванулі ва ўсю моц на суседнюю вуліцу і зніклі. Я пабег туды і знайшоў іх, гукнуўшы, за агародамі ў жыце. Далей мы ўжо лёгка прабраліся да сваіх хат: я, нібы разведчык, наперадзе, мужчыны — за мною. Спыніліся ў суседа Чабатарэвіча. Ссутонела. Але лямпы не запальвалі. Селі падсілкавацца. Мужчыны ўзялі па чарцы, і мне налілі «кроплю, каб лепш спалася». Я сапраўды хутка заснуў. Побач спаў стары гаспадар хаты. Гэта было 30 чэрвеня 1944 года, апошняга дня «пад немцамі».

Разбудзілі мяне разрывы снарадаў. Імгнення ўскочыўшы на ногі, адразу ўбачыў, што ложак старога пусты. Відавочна, так спяшаўся, што мяне не заўважыў. Я кінуўся да дзвярэй, выскачыў у двор, і адразу ж аглушыла выбухам — снарад ударыў у комін Былькавай хаты, што была побач, цераз вулачку. Пад ногі сыпанулі кавалкі цэглы. Інстынктыўна рвануўся ў процілеглы бок, дабег да суседскага гумна, дзе павінны былі начаваць мужчыны. Унутры было пуста, толькі кінуўся ў вочы татаў новенькі паўкажушок, што ляжаў на саломе. Адразу ж заныла ў грудзях . Выскачыў і закруціўся на прыгуменні. Вакол грымелі выбухі. Зусім было няўцям, адкуль ляцяць тыя снарады і навошта ўвогуле страляюць.

Тата пасля распавёў, што яны, правёўшы ноч у гумне, ранічкай пачулі гул ваеннай тэхнікі і, выглянуўшы, убачылі савецкія танкі, якія разгарнуліся перад мястэчкам на пагорку і сталі ва ўпор біць па будынках. Пры гэтым пусцілі ў наступ аўтаматчыкаў, і многія з тых салдатаў, што паспяшаліся, палеглі ад сваіх жа снарадаў. Як я пасля даведаўся, гэта была конна-механізаваная група генерал-лейтэнанта І. Пліева 1-га Беларускага фронту, вядомая сваім уменнем рабіць аператыўныя прарывы і абходы. Тут жа яна проста ва ўпор расстраляла мястэчка, спаліўшы яго. Відаць, трэба было хутчэй перарэзаць чыгунку на Баранавічы, каб не прапусціць гітлераўцаў па гэтым стратэгічна важным напрамку.

Калі я мітусіўся каля Чабатаровічавага гумна, так і не забраўшы любімы татаў паўкажушок, пачуў, нягледзячы на грукат выбухаў і нечые крыкі, знаёмы голас — тата клікаў мяне. І я ў момант зарыентаваўся — сігануў цераз Матэўкаў плот на іх падворак, тады — уніз, да брамы на вулачку. Выскачыўшы з двара, ледзь не спатыкнуўся аб забітага аўтаматчыка, які ляжаў тварам уверх, заліты крывёю. Побач быў маладзенькі салдат, што наспех перавязваў сабе нагу — з лыткі яго тырчаў доўгі і тонкі асколак снарада. Я дапамог яму дайсці да нашага «схрона» — выкапанай пад прамым вуглом траншэі, пакрытай двума накатамі бярвенняў. Тут ужо было поўна суседзяў. Жанчыны адны плакалі, іншыя маліліся. Выбухі не спыняліся, і агонь пачынаў ужо займаць будынкі па нашай вулачцы. Седзячы ў схроне, я з жахам глядзеў праз шчыліну паміж накатамі і долам, як змейка агню хутка бяжыць па версе стрэх суседскіх гумнаў, што стаялі ўпрытык адно да другога. Тата выгнаў з хлява нашу карову, адагнаў падалей, на луг. Вынес у высокай і вузкай скрынцы, дзе было крыху мукі, парася. Яшчэ нешта выносіў. Я, каб дапамагчы, выскачыў са схрона, забег у двор.

Выбухі не сціхалі, і тут асколак амаль перад носам у мяне ударыў у акно нашай хаты. На мяне сыпанула шкло. «Назад!» — страшным голасам закрычаў тата. У схроне жанчыны завойкалі, убачыўшы, што ў мяне па твары цячэ кроў. У некага знайшоўся ёд… Нарэшце тата залез да ўсіх у схованку. Але тут Люба Фурсевіч, якая жыла далекавата, залемантавала: «Мішачка, Хрыстом-Богам малю, выпусці маю карову». Я заўважыў сабе, што побач сядзелі яшчэ два Мішы-суседзі, але носа са сховішча не высоўвалі. Давялося зноў бацьку бегчы пад разрывы снарадаў. Толькі вярнуўся, як ачомалася старая Матэўчыха: «Ой, у мяне ж у хляве конь, чужы конь!» (хатнюю жывёлу вяскоўцы нярэдка хавалі ў мястэчку ад партызанаў). Тата ўскочыў у іхні двор, але на дзвярах хлява вісеў замок, і праз іх шчыліны ўжо рваліся языкі полымя, а конь біў капытамі ў сцяну ды шалёна іржаў. Снарады ўсё рваліся, некаторыя — зусім блізка, і тады выбуховая хваля, хоць і ў схроне, гнала мяне ад адной сценкі да другой. Свідравала думка — калі ж гэта скончыцца. Страшна было глядзець, як гарэла нашая хата, як лёгка ахоплівалася агнём сухая саламяная страха, як успыхвалі, патухалі, зноў успыхвалі высокія кусты бэзу, якія раслі ў агародчыку ля хаты і на якія яшчэ зусім нядаўна я любіў залазіць і зверху азіраць наваколле. Карова нашая, напалоханая стралянінай, уцякала з лугу і совалася ў знаёмыя веснічкі, хаця ўсё вакол гарэла. Я некалькі разоў, спяшаючыся, гнаў яе падалей ад будынкаў, на лугавую пойму. А там над галавой з шыпеннем і свістам ляцелі снарады — нямецкая артылерыя біла са Стоўбцаў па подступах да мястэчка, дзе рухаліся савецкія войскі. Карова, нібы нехаця скубла траву і ўсё паварочвалася так, каб бачыць мяне: яна баялася заставацца адна. Нарэшце, калі пацішэла ў мястэчку, я забраў яе з лугу і завёў у хлеў суседак Булашанак. Іх хата і хлеў уцалелі, бо былі крыху наводшыбе ад іншых. У гэты час стаў сведкам паветранага бою. Стаяў, задзёршы галаву, і з цікавасцю сачыў за дзівоснай каруселлю кружэння самалётаў. Чуваць былі разрывы авіяцыйных снарадаў, кулямётныя чэргі. Калі зачыняў хлеў, асколак перада мною чыркануў па дзвярах, пакінуўшы на іх выразны рваны след, і паскакаў па каменнях брукаванага двара. Вядома ж, захацелася забраць гэты нечаканы аскепак вайны, але ён аказаўся такім гарачым, што апёк пальцы.

У гэты час мае суседзі павылазілі ўжо са схрона. Скрозь дыміліся галавешкі. Рэзка смярдзела нечым паленым. Побач, каля рэчкі ляжаў тварам уніз цяжка паранены салдат, з яго акрываўленай патыліцы тырчаў асколак. Салдат няспынна ныў-стагнаў, часам заціхаючы, бо губляў прытомнасць. Слухаць гэты пакутніцкі стогн было невыносна. Я па просьбе маладога раненага салдаціка, што сядзеў з намі, ужо разы два бегаў уверх па вулачцы, каб знайсці санітараў. На галоўнай вуліцы было тлумна ад тэхнікі і конных вайскоўцаў. Скрозь чуўся бязладны крык з мацюкамі, і мяне гналі прэч. Санітары так і не знайшліся. Між тым ужо пераваліла за паўдня. Зрэдку наляталі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Тады ўсе збягаліся ў схрон. Але бамбілі найбольш за мястэчкам. Чаго было нам з татам тут сядзець? І мы вырашылі ісці. Тата сказаў — на хутар, да Валодзі Домкавага. На рогі карове накінуў папружку, даў мне пад паху вялікі бохан хлеба з мамінай нядаўняй выпечкі, і мы рушылі ў дарогу.

Ішлі цераз луг, затым дарогаю праз хвойнік, поўны тэхнікі і салдатаў. Раптам папалі пад нямецкую бамбёжку. Гэта сталася каля «Высокага вострава» — крутога вялікага касагора, парослага арэшнікам. Побач быў Нёман, і салдаты, якія мыліся, стоячы па пояс у вадзе, нікуды, на маё здзіўленне, не хаваліся. Толькі сачылі за варожымі самалётамі, узняўшы галовы. Мы з татам кінуліся да бліжэйшых кустоў. Віскат бомбы, які, здавалася, свідраваў мозг, быў нясцерпным. Я ўпаў галавой уніз у нейкае зелле і хмызняк. Аглушальна бахнуў выбух. Зямля калыхнулася і падкінула мяне. Моцна забалела ў скронях… Але новыя выбухі аддаляліся, і я ўскочыў на ногі. Якая радасць — тата з кароваю быў непадалёк. Пранесла. На Домкавым хутары, куды прыйшлі, было пуста: гаспадар таксама пакінуў сваё селішча. Павярнулі на тамтэйшы луг і неўзабаве ўгледзелі людзей, якіх прытуліў Дворны востраў — вялікая купа густога дубняку каля Нёмана. Былі тут з каровамі, коньмі, нават з вазамі і рознымі пажыткамі. Былі і з малымі дзецьмі. Сустрэлі мы і сваіх местачкоўцаў, але большасць была з бліжэйшых вёсак. Бацька падаіў карову, папрасіўшы ў кагосьці посуду, і мы з задавальненнем паелі хлеба з малаком. Раней пра ежу чамусьці не думалася. Пасля тата сказаў, што нам на ноч давядзецца расстацца: ён сходзіць у вёску, каб дазнацца, як там нашы, а я з кароваю застануся тут. У нейкага запаслівага вяскоўца, што месціўся з намі побач, знайшоўся ладны кавалак вяроўкі, і бацька прывязаў нанач нашу «рыжую» за рогі да куста. На ўсялякі выпадак. Сам пайшоў. Звечарэла. Дворны востраў стаў заціхаць. І я, скурчыўшыся пад кустом, хутка заснуў, змучаны гэтым цяжкім днём.

Прачнуўся зусім рана: пачуў, што карова чагосьці тузаецца. Пакуль праціраў вочы, заўважыў, што яна ўжо сцягнула вяроўку з дубовай галіны. Папярэдзіць бяду не паспеў. Наша заўсёды рахманая «рыжая» не проста пабегла ад мяне, а паімчала з усіх ног, кіруючыся ў бок мястэчка. «Гэта ж яна — дадому», — мільганула трывожная думка. Датуль — больш за чатыры кіламетры, і я не змагу яе дагнаць. Але… Здараюцца ж нечаканыя павароты лёсу. Мая ўцякачка раптам спынілася, бо дабегла да вады. Невялікая рэчка Давыдаўка, што непадалёк упадала ў Нёман, апынулася на яе шляху. Стоячы каля каровы, якая доўга і прагна піла, я падумаў, што яна ўжо больш за суткі не поеная. Як жа гэта ні тата, ні я не ўспомнілі пра гэта ўчора. Напіўшыся, «рыжая» спакойна і, здавалася, неяк нават лагодна крочыла побач са мною назад, да нашай стаянкі. Хутка прыйшоў бацька, і я распавёў яму гэтую невясёлую гісторыю. Ён жа абрадаваў тым, што нашыя ўсе здаровыя і чакаюць нас. Хутка мы пакінулі Дворны востраў. З цяжкасцю перайшлі бальшак, па якім рухалася войска, выйшлі на вузкую палёўку і ўжо без спешкі накіраваліся да вёскі.

Сонца залівала палявы прастор і пачынала добра прыграваць. Неба было чыстаечыстае. Дробнае птаства заводзіла на розныя галасы свой спрадвечны спеў. Густа пахла травамі і жытам. Гукі вайны ледзь далятаалі сюды з-пад Стоўбцаў. Мы наблізіліся да купы кустоў, дзе заўважылі прыхаваныя фігуры салдатаў і ствол зенітнага кулямёта. «Добрае месца выбралі зенітчыкі, — зазначыў тата, — вакол голае поле і добра відаць». Але вось даляцеў і гук самалёта. І мы не столькі ўбачылі, колькі адчулі, што гэта нямецкі. Ішоў ён нізка і проста на нас. Мы спыніліся. Зноў бяда. Самалёт, відаць, разведчык, праляцеўшы міма, павярнуў назад і павольна пачаў рабіць над намі вялікі круг. Мы нават бачылі лётчыка, яго галаву ў шлеме. Ён жа, напэўна, добра разгледзеў дзіўны аб'ект — карова пасярод дарогі і двое каля яе, але не вайскоўцы. І паляцеў далей. Мы з палёгкай перавялі дыханне — пранесла. Бо мог жа зусім лёгка

даць па нас, чужых, чаргу. І тут адразу ж успомнілі пра зенітчыкаў, азірнуліся. У кустах было ціха. Тыя таксама стаіліся, як і мы каля каровы. І нічым не выдалі сябе. Што ж, на вайне, як відаць, бывае і такое. Мы ж з татам у добрым настроі пайшлі далей па вузкай палявой дарозе. Зусім ужо блізка была добрая вёска Мархачоўшчына і сустрэча з роднымі.



# Сучасныя казкі

## МОНІКА БРУСЕВІЧ

### Як з'явілася назва Беларусь

Жыў у адным горадзе князь. Усё было ў яго: сад, поле, фантан, золата, срэбра і вялікі палац. Толькі не было ў князя жонкі. Пачаў шукаць ён сабе нявесту. Даведаўшыся, што князь збіраецца ажаніцца, у горад пачалі з'язджацца князёўны і прынцэсы з усяго свету — кожная хацела стаць яго нарачонай. Што толькі не выдумлялі прынцэсы з князёўнамі, каб князь звярнуў на іх увагу: гулялі перад палацам у бліскучых сукенках, аздобленых каштоўнымі камянямі, спявалі песні і танчылі. Але князю не спадабалася ні адна заморская прыгажуня. Сумны гуляў ён па вуліцах свайго горада і ўжо нават думаў выправіцца ў далёкае падарожжа, каб недзе ўсё ж знайсці сваё сапраўднае каханне. Гуляючы так, у адзін сонечны дзень князь выпадкова ўбачыў дзяўчыну, якая палівала ў сваім садзе кветкі. Якіх толькі кветак там не было! Усімі колерамі вясёлкі свяціліся яны, а пахлі гэтак жа прыемна, як выглядалі. Гаспадыня гэтага цудоўнага сада таксама нагадвала прыгожую кветку. У яе былі доўгія залацістыя валасы і блакітныя, як неба, вочы. Князь адразу зразумеў — перад ім тая, каго ён шукаў. І цяпер не трэба выпраўляцца ў далёкае падарожжа.

— Скажы, прыгажуня, ці выйдзеш за мяне замуж ? — запытаўся князь.

Як многія дзяўчаты горада, гаспадыня сада даўно была закаханая ў князя — ён быў малады і прыгожы, а яшчэ разумны і добры. Але дзяўчына нават спадзявацца не магла, што князь папросіць яе рукі. Канечне, яна згадзілася.

Радасны князь вярнуўся ў палац і загадаў слугам рыхтавацца да вяселля. Былі запрошаныя на баль і прынцэсы з князёўнамі. Але яны пакрыўдзіліся, што князь ні кога з іх не выбраў, таму раз'ехаліся ў свае краіны.

Калі да вяселля было ўжо ўсё падрыхтавана, князь запытаўся ў нявесты:

— Скажы, любая, які шлюбны падарунак ты хацела б мець?

— Я хачу вялікі букет з белых руж — адказала дзяўчына — гэта мае любімыя кветкі, я іх столькі разоў садзіла, але ў маім садзе яны так і не змаглі прыжыцца.

— Добра, каханая, будзе табе букет з белых руж! Так сказаў князь і выправіў слуг, каб тыя знайшлі і прынеслі ў палац кветкі.

Шукалі слугі, шукалі, але к няшчасцю ў цэлым вялікім горадзе не было ніводнай белай ружы. Засумаваў князь і пачаў збірацца ў дарогу — вырашыў сам шукаць гэтыя прыгожыя кветкі ў іншым краі.

Вельмі доўга ехаў князь. Ужо і ўся ежа скончылася. Але не мог ён вярнуцца назад з пустымі рукамі, не мог парушыць слова, дадзенае нявесце. Аж раптам бачыць —

вялікае поле, і ўсё ў белых ружах! Так узрадаваўся князь, што нават пусціўся ў скокі. Сабраў ён са слугамі ўсе ружы, якія раслі на полі, і шчаслівы вярнуўся дадому. Адразу па прыездзе згулялі пышнае вяселле, якое доўжылася тры дні.

Праз некаторы час у іх нарадзіўся сыночак. Ён рос дужым, мужным, разумным і добрым хлопчыкам. У яго былі бацькавы валасы і матуліны вочы. Калі хлопец вырас, то вырашыў таксама шукаць сваё шчасце. З некалькімі слугамі і з невялікім пажыткам ён адправіўся ў дарогу. І так атрымалася, што на начлег давялося спыніцца каля таго самага поля, дзе некалі бацька збіраў кветкі для яго маці. Падумаў малады княжыч і вырашыў тут застацца. Неўзабаве каля поля з белымі ружамі вырас вялікі белы палац, а потым і цэлы горад. Трохі пазней княжыч спаткаў вельмі прыгожую дзяўчыну, якую звалі Ружа, і ажаніўся з ёй. А краіну, дзе стаў валадарыць малады князь з жонкай-прыгажуняй, яны назвалі «Белая Ружа». А потым людзі сталі зваць гэты край Беларусь.

Вось так і з'явілася назва нашай краіны.

## Як з'явілася Барысаглебская царква

Некалі жылі ў нашай краіне князь і княгіня. Гэта было вельмі даўно, таму ніхто не памятае іхніх імёнаў. Адно, памятаюць людзі, жылі яны ў вялікім і прыгожым палацы, які князь уласнаручна збудаваў на высокім беразе Нёмана. Жыла княская пара ў згодзе і каханні, жыла багата, словам, усё яны мелі, што патрэбна было для шчасця. Не даў Бог толькі дзетак. Можа не даў таму, што людзі ў тыя далёкія часы не маліліся Богу. Маліліся сонцу і агню, лясам і лугам, рэкам і азёрам. Гэтак рабіла і княгіня: кожную раніцу яна спускалася да Нёмана і шчыра прасіла раку паслаць ёй хлопчыка альбо дзяўчынку. Вядома, Нёман не мог выканаць тую просьбу, маркотна шумеў у адказ хвалямі, як быццам бы прасіў прабачэння. Міналі гады. Князь даўно змірыўся з гэтай бядой, а княгіня па-ранейшаму бегла штораніцы да вады і прасіла ў Нёмана дзяцей. Пашкадаваў Бог бедную жанчыну — яна ж не вінаватая, што не ўмела маліцца — ды ўчыніў цуд…

Адным вясновым ранкам княгіня, як звыкла, збегла па стромкай сцяжынцы і ўбачыла, як на хвалях амаль каля самага берага гойдаецца кошык. Доўга не думаючы, жанчына ўвайшла ў ваду і выцягнула дзіўную знаходку. Глядзіць, а там… загорнутыя ў льняныя пялюшкі, на дне кошыка ціха сабе спяць два маленькія хлопчыкі.

Усцешылася княгіня, што яе малітвы не аказаліся марнымі, ад душы падзякавала нёманскім хвалям, ды хутчэй пабегла падзяліцца радасцю з мужам. Паслухаўшы пра «цуд», які ўчыніў Нёман, князь толькі ўсміхнуўся, а сам паслаў слуг, каб тыя высветлілі, што здарылася на самой справе і чые гэта дзеці.

А высветлілася вось што: бацька хлопчыкаў, калі маці іх яшчэ насіла пад сэрцам, адправіўся ў далёкія, чужыя краі на заробкі, але загінуў, прапаў бясследна. А бедная жанчына, моцна перажываючы страту мужа, неўзабаве захварэла. Ніштo ўжо не трымала яе на гэтым свеце. Толькі тыя два маленькія, бездапаможныя чалавечкі, што жылі ўнутры і цалкам залежалі ад яе. Але як толькі дзеткі з'явіліся на свет, сілы пакінулі жанчыну і праз некалькі дзён яна памерла. І так яшчэ сталася, што ніхто не захацеў апекавацца хлопчыкамі — ні адной блізкай душы не аказалася ў іх ва ўсім



белым свеце, бо бацькі іх самі былі круглымі сіротамі. Падумалі, параіліся суседзі, ды вырашылі пакласці хлопчыкаў у кошык і пусціць па Нёману — а раптам добрая рака злітуецца над сіроткамі, пашле ім шчаслівы лёс.

Так князь і княгіня сталі бацькамі. Дзетак назвалі Барысам і Глебам. Браты раслі разумнымі, прыгожымі, добрымі хлапчукамі — князь з княгіняй проста нацешыцца не маглі. Цяпер у палацы над Нёманам сапраўды мелася ўсё, што было трэба для сапраўднага шчасця. Між тым час сплываў, як сплывалі ў далячынь нёманскія хвалі. Браты пасталелі, памужнелі, а да князя з княгіняй падкралася цішком старасць. Спачатку памёр князь, а следам за мужам зазбіралася ў іншасвет і княгіня. Перад смерцю яна паклікала Глеба і Барыса, ды кажа:

— Вы ўжо дарослыя, таму я распавяду вам усю праўду…

І княгіня расказала здзіўленым братам гісторыю іхняга з'яўлення.

Наступным ранкам жанчына памерла. Сумныя браты захацелі ўшанаваць памяць пра ўсё тое, што здарылася аднойчы з імі, з іхнімі сапраўднымі і названымі бацькамі. І яны вырашылі пабудаваць прыгожую царкву, каб абяздоленыя, хворыя людзі, сіроты, ды і ўсе іншыя маглі маліцца, прасіць сабе лепшую долю, але ў Таго, хто сапраўды можа дапамагчы…

## Вішнявец

Здарылася гэта ў тыя часы, калі нашыя прапрапрабабулі і прапрапрадзеды былі маленькімі дзяўчынкамі і хлопчыкамі. Жыў паблізу Гародні адзін багаты пан. Ён быў ні злым, ні добрым чалавекам — так сабе, ні рыба, ні мяса, як кажуць людзі. Але пану хацелася, каб усе навокал думалі, што ён вельмі добры. Таму і ўзяў на выхаванне трохгадовага сірату Янку. Вядома, пану зусім не хацелася займацца выхаваннем хлопчыка, гуляць з ім, распавядаць казкі, як гэта робяць добрыя бацькі. І пан даручыў усе гэтыя клопаты слугам. Але і тым не было справы да маленькага сіраты — дадуць ранкам лусту хлеба, нальюць кубачак малака, ды і ўвагі ні якай цэлы дзень не звяртаюць на малога. Так і гадаваўся Янка — ні кому непатрэбны, бегаў куды хацеў — то на квяцісты луг, то ў бліжэйшы лес, то на ставок жабак паслухаць. Як крыху падрос, то і да Нёмана праторыў сцежку — мог гадзінамі любавацца са стромкага берагу хараством і веліччу шляхетнай ракі. Але самым улюбёным месцам хлапчука была невялічкая палянка непадалёк ад панскага маёнтка, на якім расла старая вішня. З шырока раскінутым ледзь не да самай зямлі голлем, дрэва нібыта запрашала ў абдымкі. І Янка бег да вішні, абдымаў яе шурпаты стан, быццам гэта і не дрэва, а лепшы сябар, ці нават матуля, якой хлопчык ніколі не бачыў. А яшчэ можна было гарачымі летнімі днямі хавацца пад вішняй ад спёкі ды нядобрых поглядаў панскай чэлядзі і частавацца ягадамі. Былі, што праўда, тыя ягады вельмі кіслыя, але пасля злых вокрыкаў якога-небудзь лёкая хлопчыку яны здаваліся смачнымі, нават салодкімі.

Аднойчы пан гуляў па маёнтку і заўважыў пад вішняй Янку. Будучы ў добрым гуморы, ён падышоў да хлопчыка, па-бацькоўску ўскудлачыў яму светлую чупрыну ды запытаўся:

— Ну што, падшыванец, ягадкамі частуешся? Дай і мне пакаштаваць.

— Частуйцеся, татка, — і Янка працягнуў худзенькую ручку з некалькімі светла-чырвонымі вішнямі.

— Цьфу, ты, паскудства якое, — выплюнуў адразу ж пан ягаду, ледзь тая паспела дакрануцца да вуснаў — трэба вішню ссекчы, бо толку, бачу, ад яе тут ніякага.

Добры гумор пана як рукой зняло і ён паспяшаўся ў бок гаспадарскіх будынкаў каб аддаць каму з лёкаяў загад пусціць старую вішню на дровы. Хлопчыку ж нічога не засталося, як горка заплакаць — ён ведаў, што калі пан нешта сказаў, то так і зробіць, і прасіць яго злітавацца над беднай вішняй не было сэнсу. Доўга плакаў Янка, седзячы пад дрэвам, развітваўся з лепшым сваім сябрам, аж агарнула яго такая страшная стома, што не заважыў хлопчык, як заснуў. І прысніўся яму сон, у якім вішня ціхім, лагодным голасам гаварыла з Янкам:

— Мілы мой, дружа, я была вельмі радая частаваць цябе, хаваць ад спякоты і злых людзей, але надышоў час развітання. Не плач, Янка, не тужы. А калі ссякуць мяне, збяры ўсё мае ягады і раскідай на полі за маёнткам. Прыйдзе час і я дапамагу табе ў бядзе…

— Давай, малы, ідзі адсюль — пачуўся раптам хрыплы голас. Хлопчык расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабой потны, чырвоны твар панскага парабка — давай, давай хутчэй падымайся і не замінай справе — прахрыпеў дзядзька, перакідваючы з рукі ў руку сякеру…

Ізноў з вачэй Янкі паліліся, пасыпаліся слёзы, велічынёй з гарох. Але тут жа прыпомніліся просьба вішні і хлопчык пабег шукаць якое вядзерца, каб сабраць ягады…

А праз некалькі дзён пан вырашыў адаслаць пасынка да сваёй стрыечнай сястры, якая жыла ў горадзе — маўляў, тут толькі блытаецца пад нагамі, а там якой справе навучыцца. Сястра пана аказалася добрай жанчынай і, не маючы ўласных дзяцей, усю сваю любоў і спагаду скіравала на малога Янку.

Міналі гады. Янка вырас, скончыў школу і паступіў на вайсковую службу. І аднойчы прыходзіць яму тэлеграма: «Пане Яне, прыязджайце, Ваш бацька памёр». Вечарам таго ж дня малады афіцэр Ян прыпыніў свайго каня каля маёнтка айчыма — гарнізон у якім праходзіла служба, стаяў недалёка — нейкіх трыццаць-сорак вёрст ад Гародні. «Божа! Колькі таго часу прайшло, здаецца, не так і шмат, а ўсё так змянілася» — падумаў Янка — замест дагледжаных, ладных будынкаў перад вачыма паўсталі нейкія абшарпаныя, напаўзруйнаваныя халупы. Ад службы засталося некалькі пакаёвак, два парабка і стары лёкай — гэта ён прыслаў тэлеграму.

— Пане, звярнуўся лёкай да Янкі, — гаспадар перад смерцю на пана Яна апісаў свой маёнтак, але які тут маёнтак, самі бачыце — і стары ў скрусе махнуў рукой. — Апошнія гады ваш бацька злоўжываў моцна гарэлкай, прагуляў усё, што мог, службе перастаў плаціць і разбрылася яна па іншых маёнтках. Засталіся толькі тыя, каму ісці не было куды… Ведаеце, нам і есці тут няма чаго…

Зажурыўся Янка, а ногі яго, як у дзяцінстве, самі пайшлі да таго месца, дзе некалі расла старая вішня. Сярод няскошанай травы Янка заўважыў пянёк, які застаўся ад дрэва — ягонага лепшага сябра. Прысеў хлопец, задумаўся — паплылі перад вачыма дзіцячыя колішнія мары, згадаўся той дзіўны сон, у якім вішня абяцала дапамагчы… Сядзеў Янка, гартаў у думках старонкі памяці, ды не заўважыў, як пачало віднець — ночы летам вельмі ж кароткія. У першых промнях сонца хлопец заўважыў



сапраўдны цуд: непадалёк ад маёнтка вырас цэлы вішнёвы лес, у голлі якога зіхцелі, пераліваліся чырванню вялікія спелыя ягады. Падбег Янка да аднаго з дрэваў, сарваў вішню — а яна салодкая-салодкая…

— Вось і дапамагла ты мне, як абяцала, любая вішня — усклікнуў узрадаваны хлопец.

Адразу пасля заканчэння службы Янка вярнуўся ў свой маёнтак. Вішнёвы сад даваў такі багаты ўраджай салодкіх ягад, што на ўсіх рынках Гародні куплялі толькі іх. Цётка пераехала таксама жыць да Яна, бо адной было цяжка спраўляцца ў горадзе. А маёнтак Янка назваў «Вішнявец». Згадзіцеся, прыгожая назва!

нарадзілася ў 2002 годзе ў Гродне. Вучыцца ў сярэдняй школе № 31.







# Спадчына

## ЭДЗІК МАЗЬКО (1970–2011)

*ЁН ПРЫЙШОЎ*



Аточаны соснамі,
узгорак ляжыць крыжом.
Прымі мяне, Госпадзі,
у свой блаславёны дом.

Нагамі я босымі
адмераў жыццёвы шлях,
сталяў смагу роспачцу,
прэч гонячы дзікі страх.

Бясстрашныя, моцныя
зыходзілі назаўжды
і на белай просціне
губляліся іх сляды.

Я — і слабы і грэшны
душу сваю падзяліў:
адну палову — вершам
другую — словам Тваім.

Гадзінаю позняю
ніяк не забыцца сном
прымі мяне, Госпадзі,
у свой блаславёны дом



шукаю белае слова
і не знаходжу
яно —
самае першае



пачутае мною
з вуснаў зляцела
працяла сэрца
і, выпрастаўшы крылы,
падалося ў свет
пытаю ў сустрэчных:
«вы не бачылі белае слова?»
і чую ў адказ:
«не»,
«не бачыў»,
«не ведаю такога»

і часам я думаю
што яго ніколі не было
а проста
прыснілася мне
ў ноч
калі поўня для зорак
ладзіла баль

і ўсё роўна
штодня
штоночы
шукаю белае слова
а, можа,
яно падалося мне
белым?

але
я шукаю
белае слова
і веру
што некалі
ў хаосе колераў розных
яго я знайду

а інакш
нашто мне
спатрэбілася
гэтае шэрае
жыццё?

## Цмокі

даўно мы не бачылі
сапраўдных цмокаў
не чулі шаргаценне крылаў
і не адчувалі подыху агню

і не верым цяпер у іх
і ў свае энцыклапедыі
запісалі:
«цмок — фантастычная істота»

але
калі сустракаю чалавека
з калючым поглядам
і чую словы ягоныя
халодныя
уздрыгаецца сэрца
ад першабытнага страху —
цмок!

## Глядзець на свет

Глядзець на свет скрозь акуляры суму,
глядзець на свет і быць самім сабою,
не паддавацца мітусні і тлуму,
не быць ахвяраю, не стацца воем.

Глядзець на свет і бачыць дараванне,
і пустату, і марнасць усіх надзеяў,
глядзець на свет і выракчыся жадання,
спыніць жыццё, сысці навечна ў шэрань.

Глядзець на свет, дзе дождж і навальніцы,
дзе смерць зняможана і разам ў сіле,
глядзець на свет цвяроза, не напіцца,
не атруціцца наркатычным дымам.

Глядзець і суцяшаць у сэрцы буру
і гнаць у ноч няспраўджаныя мроі,
глядзець на свет скрозь акуляры суму,
глядзець і прагнуць быць самім сабою.





Непрыстойны і дзікі пашляк,
адзінокі бы слуп у полі,
я прайду па зямной юдолі
нібы летні цыганскі касяк.

Недапіты, бы келіх віна,
не раскрыты табою дарэшты,
блудным сынам тваім у вершах
застануся, Радзіма мая.

## Ён прыйшоў

Ён прыйшоў, гэты дзень. Ён не мог не прыйсці. Яго ніхто не чакаў. Усе жылі штодзённымі клопатамі. Адныя збіралі грошы, другія трацілі іх на мэблю, вопратку і забаўкі. А трэція — выступалі на мітынгах. Карацей, былі штодзённыя клопаты.

І вось ён прыйшоў. Ён не мог не прыйсці. Нават калі нас не стане, ён усё роўна будзе прыходзіць. Бо кожнае здарэнне мае кропку вечнага пачатку.

Дык вось ён прыйшоў. Не, не было землятрусаў і паводкаў, ні халеры, ні СНІДу. Проста ў блакіце неба купалася сонца. Так як і ўчора, так як і заўтра.

І ніхто не ведаў, што ён прыйшоў. Куляліся з бярозы на вярбу рабухі, бабулі, ля засмечанага пад’езду, перабіралі ружанец і дзяліліся апошнімі плёткамі.

Не, каляндар ведаў. Нездарма ж ён так хітра ўглядаўся ў мае вочы.

Ну вось і ўсё. Галоўнае, што ён прыйшоў — Дзень маіх народзінаў.



нарадзіўся ў вёсцы Махро Іванаўскага раёна на Берасцейшчыне. З 1987 г. жыў, вучыўся і працаваў у Гродне. У 2003 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Уплыў беларускай хрысціянскай дэмакратыі на фармаванне культурнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў 20–30-я гады XX стагоддзя». Як паэт, абапіраўся на лепшыя традыцыі заходнееўрапейскага сюррэалізму і дэкадансу, а таксама на мастацка-эстэтычныя пошукі айчыннага прыгожага пісьменства пачатку XX ст. Вершы друкаваліся ў Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя «Краса і сіла» (Мінск, 2003), «Лябірынты прывіднага замку» (Беласток, 2000), часопісах «Калосьсе», «Крыніца», «Сьвіцязь», «Правіцыя», калектыўных зборніках «Кола», «Верш на свабоду», «Россып» і іншых выданнях. Пасмяротна, у 2012 г. у Варшаве выйшла кніга паэзіі «Займеньнікі».



СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Яму лёс здаваўся толькі чорным



У Карэлічах неяк сустрэў настаўніка-пенсіянера, мясцовага літаратара і краязнаўцу Івана Іванавіча Вярбіцкага. Падчас размовы спытаў у яго пра лёс беларускага паэта, вязня сталінскіх лагераў з Навагрудка Самсона Пярловіча. «Я быў добра знаёмы з Самсонам Пярловічам. Ён быў асуджаны за Саюз вызвалення Беларусі. Яго выдаў правакатар з Баранавічаў Алесь Бажко, які ў тыя першыя пасляваенныя гады быў супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда». Так, вінаваты ў арышце Самсона Пярловіча і іншых хлопцаў і дзяўчат Алесь Бажко», — сказаў Іван Іванавіч. А потым дадаў: «А які лёс Самсона Пярловіча чакаў потым, вы павінны ведаць самі, я вам распавядаць не буду».

А лёс Самсона Пярловіча быў цяжкім. Калі пры мне хто згадвае Самсона Георгіевіча, заўсёды ўзгадваецца адзін з яго вершаў:

Мне мой лёс здаецца толькі чорным,
Што не варты меднага граша.
Толькі ёсць у ім і тыя зёрны,
Што мая выспельвала душа.
Тых зярнят няхай не вельмі многа,
Але ўсё-ткі, служачы красе,
Веру я — да скарбу залатога
Хтосьці іх калісьці аднясе.

З Самсонам Пярловічам мне пашанцавала сустрэцца некалькі разоў. Гэтыя сустрэчы адбываліся ў Навагрудку, дзе ён жыў і працаваў. Праўда, сустрэчы гэтыя былі нядоўгія і звязаныя з візітамі пісьменнікаў Гродзеншчыны на Навагрудчыну. Калі туды прыязджалі пісьменнікі з іншых рэгіёнаў Беларусі, да нас далучаўся і Самсон Пярловіч. Але ён, павітаючыся з усімі, вёў сябе даволі сціпла, моўчкі, занадта ветліва. А калі выступалі на сцэне і давалі яму слова, ён заўсёды чытаў свае гумарыстычныя вершы. У гледачоў узнімаўся настрой і яны адорвалі паэта апладысментамі. Ніхто з літаратараў, мне здаецца, ніколі ў яго не спытаў: як ты жывеш, дзе працуеш, як здароўе? Прыехалі ўсе — і паехалі, а Самсон Георгіевіч заставаўся ў сваім Навагрудку.

Нарадзіўся Самсон Пярловіч 13 жніўня 1923 года ў вёсцы Католышы на Навагрудчыне ў сям'і беларускага селяніна, у якой было сямёра сыноў. У чацвёртым класе польскай школы хлопчык Самсон напісаў першы свой верш пра Свіцязь. А калі закончыў польскую школу пачаў настаўнічаць сам, вучыў дзетак у пачатковай школе.



У 1943 годзе 20-гадовага юнака схапілі немцы і павезлі ў Германію. Везлі яго і іншых юнакоў і дзяўчат у Рыгу. Па дарозе ён і яшчэ некалькі хлопцаў выскачылі з вагона. Але хутка іх схапіла латышская жандармерыя. Пасля допытаў усіх адправілі ў Лібаву, дзе Самсон са сваімі сябрамі апынуўся ў лагеры за калючым дротам. Адтуль хлопцы зноў уцяклі і некалькі тыдняў былі вольнымі. Але хутка іх зноў арыштавалі і адправілі ажно ў Вену. Вызвалілі Самсона Пярловіча ў пачатку красавіка 1945 года. А першага мая ён далучыўся да савецкіх воінаў.

Пасля вайны юнак вярнуўся на родную Навагрудчыну і пачаў супрацоўнічаць з Навагрудскай раённай газетай. У гэты час у розных рэгіёнах Заходняй Беларусі ўтварыліся падпольныя маладзёжныя суполкі, якія вырашылі супрацiўляцца мерапрыемствам савецкай улады, скіраваным на вынішчэнне беларушчыны. Галоўнай мэтай змагання маладзёжнага падполля было здабыццё незалежнасці Беларусі.

Падпольная арганізацыя ў Навагрудку паўстала пазней, чым падобныя групы, напрыклад, у Глыбокім і Паставах (канец 1945 года — пачатак 1946 гада), у Слоніме (травень–чэрвень 1946 года), у Нясвіжскім раёне і Гродне (лета 1946 года) — у лістападзе 1946-га. Адрозненнем навагрудскага Саюза вызвалення Беларусі ад іншых арганізацый была наяўнасць у яго кіраўніцтве не толькі ўдзельнікаў беларускіх нацыянальных арганізацый і збройных фармацый часоў нямецкай акупацыі, але і былых франтавікоў Чырвонай Арміі. Да навагрудскага Саюза вызвалення Беларусі (СВБ) далучыўся і Самсон Пярловіч. Ён быў упаўнаважаным СВБ у Навагрудскім раёне. Калі працаваў Самсон Пярловіч у Навагрудскай газеце, ён пазнаёміўся з супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная змена» Алесем Бажко (1918–2013). Неяк Бажко схлусіў Пярловічу, што ён з'яўляецца сябрам антысавецкай арганізацыі «Чайка». І што ён, Бажко, знаходзіцца ў вышэйшым звяне гэтай падпольнай структуры. Самсон яму паверыў. Але не ведаў навагрудскі юнак, што Бажко з'яўляўся тайным агентам НКУС.

Аднойчы Бажко прыехаў у Навагрудак, сустрэўся з Самсонам Пярловічам, а той шчыра давяраючы, як сябру «Чайкі», як калегу па пяру, паказаў дом яму, дзе жылі іншыя сябры СВБ. А ў маі ў 1947 годзе ў Навагрудак прыехалі чэкісты, акружылі дом і ўсіх арыштавалі. Разам з чэкістамі быў і Бажко, ён паказваў, кіраваў. А 30 мая 1947 года быў арыштаваны і Самсон Пярловіч. Усіх арыштаваных завезлі ў Баранавічы ў турму «Крывое кола», там іх і дапытвалі. Былі арыштаваныя 18 сяброў СВБ. Сярод іх — Генадзь Казак, Міхась Кожыч, Міхась Капціловіч, Кастусь Рамановіч, Аляксандр Ляпешка, Аляксандр Усюкевіч, Пятро Дземянчук, Іван Макар, Міхась Мазан, Яўген Лішко, Анань Родзевіч, Сафрон Стома, Віталь Губарэвіч, Адам Шабоцька, Самсон Пярловіч і іншыя. 29-31 жніўня 1947 года Ваенны трыбунал войск МУС Баранавіцкай вобласці прысудзіў 18 сяброў СВБ да зняволення на тэрмін ад 8 да 25 гадоў канцлагераў. Найбольшы тэрмін атрымаў кіраўнік арганізацыі Генадзь Казак, які памёр у зняволенні. Загінулі ў савецкіх канцлагерах яшчэ некалькі сяброў СВБ. Перад арыштам у Самсона Пярловіча знайшлі верш «Паднімецца крыўда», які ён напісаў у 1947 годзе. Другая страфа верша гучала так:

Бо Сталін — тыран і старых, і малых —
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць ставіць нормы…

Пра гэты верш ведаў нават сам Цанава. Ён так хацеў пагледзець на юнака з Навагрудчыны, які набраўся мужнасці ўзняць голас супраць Сталіна, што Пярловіча з Баранавіч адправілі ў Мінск на допыт да Цанавы. Самсон Пярловіч успамінаў: «Заходжу ў кабінет. Там шмат чыноў НКУС. Выходзіць з-за стала нейкі гарбаносенькі чалавек. Гэта быў Цанава. Паказвае тэкст майго верша і пытае: «Твой?». «Мой». «Ды як жа ты набраўся нахабства так напісаць пра геніяльнага чалавека? Сталін — бацька народаў», — закрычаў Цанава. «Для вас, можа, і бацька народаў, а для беларускага народа — палач», — адказваю. Малады я тады быў, гарачы… Як цяпер бачу: Цанава весь расчырванеўся і кажа па-беларуску: «Не мані!…» (зборнік «Саюз вызвалення Беларусі (1946–1947)». Слонім; Менск, «Беларускі Рэзыстанс», 2005. С. 38).

За верш і за СВБ Самсона Пярловіча асудзілі на 10 гадоў сталінскіх лагераў. Яго выслалі на лесапавал ў лагер Усць-Вым (Комі АССР), потым беларускі юнак будаваў шахты ў спецлагерах Караганды. Гэта былі шахты імя Кастэнкі, 107-я і 120-я. Бурыў ствалы, прабіваў штрэкі, ставіў умацаванні. Кастусь Рамановіч згадваў: «Я разам з Пярловічам прайшоў праз пакуты на лесапавалах Усць-Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карлагу, спаў разам з ім на голых нарах. І там, на голых нарах, Пярловіч складваў вершы без алоўка, якія мы вучылі на памяць для будучыні» (Наша ніва, 15 лютага 2002 г.).

З студзеня 1956 года навагрудскага хлопца вызвалілі з лагераў. Ён павінен быў яшчэ адбываць высылку ў Сарані Карагандзінскай вобласці Расіі, але яна была адмененая.

Восенню 1946 года Самсон Пярловіч вярнуўся ў родны Навагрудак. Але адразу ў рэдакцыю раённай газеты не пайшоў, а ўладкаваўся на працу на Навагрудскі завод газавай апаратуры, дзе адпрацаваў каля сарака гадоў. За яго на заводзе ніхто лепш і ніколі не змог зрабіць разец, затачыць фрэзу. Працуючы на заводзе, ён марыў мець свой куточак, свой пакойчык. І такую мажлівасць ён атрымаў, дзякуючы адміністрацыі завода. Але потым збег абставінаў усё перакрэсліў…

У апошнія гады жыцця Самсона Пярловіча часта можна было бачыць на рынку ў Навагрудку. Там ён гандляваў рознымі запчасткамі, жалезкамі і кніжкамі. А мясцовы люд разносіў па горадзе розныя плёткі. Але няшмат людзей ведалі, што ён мусіў зарабляць любым спосабам грошы, каб аддаць даўгі за аперацыю, што зрабілі дачцэ ў Германіі. А яшчэ, ён заўсёды пісаў вершы. Але шмат радкоў засталося, напісана ім пра сталінскія зняволенні:

Злы вецер выў над галавою,
Мароз пякельны твар паліў,
А я пілою лучкавою
Бярозы, ліствіцы валіў.
Уздрыгваў дол, стагналі дрэвы,
Пякучы снег хвастаў чало.



Тайзе ж направа і налева
Канца і краю не было…

Пры жыцці Самсону Пярловічу ўдалося ў Навагрудку выдаць два зборнічкі сваіх вершаў — «Заяц на бярозе» (1995) і «Чарадзейны агонь» (1998). А прафесар Алег Лойка падрыхтаваў яго зборнік вершаў «Бяссмертнік» і выдаў у Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» у 1994 годзе. У прадмове да яго Алег Лойка напісаў: «Кніга Самсона Пярловіча «Бяссмертнік» — гэта найперш кніга яго жыццёвага лёсу, асабліва сваім першым раздзелам — «За калючымі дратамі…». І гэта разам з тым і кніга народнага лёсу, складаных гістарычных шляхоў, якімі беларусы ішлі праз XX стагоддзе».

Сябра Саюза вызвалення Беларусі і паэта Самсона Пярловіча не стала 14 снежня 2001 года. Пры жыцці ён так і не дачакаўся рэабілітацыі, так як і не дачакаліся яе Васіль Супрун з патрыятычнай «Чайкі», паэтка Ларыса Геніюш і тысячы іншых патрыётаў нашай Бацькаўшчыны. Прапаную чытачам «Новага замку» вершы Самсона Пярловіча, напісаныя ў розныя гады.

САМСОН ПЯРЛОВІЧ

## Паднімецца крыўда

І ноччу і днём падхалімы скуляць
Пра росквіт жыцця, пра свабоду.
Ад гэтай «свабоды» аж стогне зямля.
А ў росквіце тым — смерць народу.

Тыран-дэспат Сталін старых і малых
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць — ставіць нормы.

Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць
Пад страхам, як вязняў бяспраўных,
Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць
Народа сыноў самых слаўных.

А каб заглушыць і праклёны, і боль,
Кляймом страшным — «Вораг народа»
Кляймяць чалавека, ды ўсё што раз больш
Знішчаюць людзей з кожным годам.

Калі б удалося ўсе косці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касцей тых, напэўна, паўстала б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.

А слёзы і кроў, што замучаны люд
У горы бязлітасным выліў,
Калі б не пранікլі ў матулю-зямлю,
І сонца, мабыць, патушылі б.

Ці ж выцерпіць крыўда? Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленнем аглох,
Той толькі мо сцерпіць маўчанне!

## Аб сустрэчы крывавай з эмдэбістам Цанавам

Як забойца — наган
Сваім вокам смяртэльным,
Аўта-чорны груган



Сваім здзекам пякельным
Нават бачыцца ў сне,
То здалёку, то зблізку…
Мяне ў тым «гругане»
Валачылі па Мінску,
Бы ў забітай труне,
Да сустрэчы крывавай
Набліжаў ён мяне
З эмдэбістам, Цанавам,
Жар мне сэрца паліў,
Слеплі вочы ад мукі,
Пот змахнуць не маглі
Закаваныя рукі.
А пасля гнаў канвой —
Уцячы немагчыма —
Двух было прада мной,
Ды і двух за плячыма.
У іх прывід не гас,
Што з уцёкам я ў змове —
Аўтаматы ўвесь час
Неслі напагатове.
Аж нарэшце ўсплыў гмах
І паверх той паднебны.
Кайданы на руках
Не былі больш патрэбны.
Дык паспешна іх тут
Канваіры зрывалі.
Для далейшых пакут
Вязня ў залю загналі.
Там, бы кроў, дываны
Ззялі бляскам чырвоным,
А навокал чыны —
Залатыя пагоны.
Помню: пульс не дрыжыць
На руцэ малакроўнай,
Бо — памерці, ці жыць —
Мне было ўжо ўсё роўна.
Так стаяў, маладзён,
Бледны я, безвалосы.
У цывільным жа ён
Уляцеў, гарбаносы.
Бы каршун, бы сава,
З барадаўкаю велькай —
Лысая галава,

Пуза пад камізэлькай.
Заскакаў з кута ў кут,
Ды ўсё рукі разводзіў,
Быццам страшных пакут
Мне ніяк не знаходзіў.
Той, пра Сталіна, меў
Верш мой у цэлафане,
Ды раз-пораз грымеў
Вось такое пытанне:
«Як ты смееў! Гавары!
Так біць «бацьку народаў»?!!
Цешыўся б, каб стварыў
Яму некалькі одаў.
Заслужыў жа — турму!
Вось табе і адплата!»
Адказаў я яму:
«Не магу славіць ката».
Зашыпеў, бы змяя,
Ён тады, ды стаў енчыць.
Мабыць, прагнуў, каб я
Стаў маліцца, ды кленчыць.
Уяўляў, мабыць, як
Будзе з хеўрай дзівіцца,
Калі, быццам чарвяк,
Каля ног пачну віцца,
Літасць каб аказаў
Ды жыцця не пазбавіў,
Каб упала сляза,
Каб цяпер хоць іх славіў.
Нат здзіўлёна глядзеў
І зноў рукі разводзіў.
І мясцечка нідзе
Зноў сабе не знаходзіў.
І прыкметна, бы раб,
Гнеў суняць свой стараўся.
Пра той верш, каб хаця б
Сталін сам не дазнаўся.
Злыдзень ведаў даўно —
Хто пра «Бацьку» са злобай
Чуў хоць слова адно —
Знішчыць кожнага «Коба».
Дык, нарэшце, як мыш,
Ды ўжо і не па-руску
Піскнуў: «Што ты маніш?!»



Гэтак па-беларуску.
Хітра тым знак ён даў:
Мову цэніць, не бэсціць…
Пра мяне ж загадаў:
«Закаваць і адвесці!»
Па завулках пачаў
«Воран» зноў свае танцы.
Ізноў карцар чакаў
Мяне ў «Амерыканцы».
Хай даўно ўжо няма
Валадарскага тога,
З яго імем турма
Людзей душыць, ой многа!..
А пасля ў халадах
Зноў этапы, ГУЛАГі,
Дзе ў бясконцых лядах
Лёс клянуць дахадзягі.
Дошкі мулкія нар,
І крык дзікі канвоя…
Памяць сэрцы ахвяр
Болем век беспакоіць.

## Несмяротная Пагоня

Святая, грозная Пагоня,
Век Беларусь ты бараніла,
Таму ў трывожны час і сёння,
Ты — гонар наш і наша сіла.

Падчас, у жудасным бяздонні
Хоць сілы нас і пакідалі,
Твае і рыцары, і коні
Зноў дух на бітву паднімалі.

Малюся, хоць няхай і злягу,
Каб вечна велічнай выявай
Пад бел-чырвона-белым сцягам
Ты ззяла над усёй Дзяржавай.

Грамі захопнікаў і здраду!
Удар твой Богам благаслаўлёны,
Бо служыш нам не для нападу,
А служыш нам для абароны.

## Паэма гневу, болю

Калі ў трывожным цяжкім сне
Свет спачывае нема,
Прыходзіць часта да мяне
Балючая Паэма.
Сваю руку мне падае,
На мой сядае ложак,
І адарвацца ад яе
Душа мая не можа.
Яна ўсё просіць напісаць
Паэму гневу, болю,
Яна ўсё просіць расказаць
Пра цяжкую няволю.
Але я не пісаў бы вам
Пра страшны здзек шалёны,
Калі б цярпеў здзек толькі сам,
А не людзей мільёны.
О, колькі там са мной было
Разумных, памяркоўных,
Скаваных катаргай, каб зло
Клявала іх, бяскроўных!
З апошніх выбіўшыся сіл,
Куды ж брысці па лёдзе?
Іх ненасыпаных магіл
Ніхто нідзе не знойдзе.
І не хавалі іх, пакуль
Пад молатам не трэсне
Халодны чэрап, — ніадкуль,
Што ўжо не ўваскрэсне!..
Пра замардованых такіх
Павінны людзі помніць.
І гэтыя мае радкі
Хай будуць ім, як помнік!

## Свіцязь

Гойдаецца бераг у жывым блакіце,
А я пад дубаю ў забыцці стаю…
Возера-легенда, Свіцязь мая, Свіцязь! —
Ты запаланіла ўсю душу маю.
Па крутых узгорках, па хвалістым жыце
Мары маё сэрца да цябе няслі,



Дай жа мне напіцца, Свіцязь мая, Свіцязь,
Чараў навагрудскай слаўнае зямлі!
Тут Адам Міцкевіч казак тваіх ніці
Сонцам у балады на вякі ўваткаў,
У празрыстых тонях, Свіцязь мая, Свіцязь,
Мужных свіцязянак з месяцам шукаў.
Русыя русалкі ў сонечным блакіце
Расплятаюць косы на маё вясло.
Векавое дзіва — Свіцязь мая, Свіцязь,
Колькі ў табе сэрца хараства знайшло!

## Каласы

Не забыць мне ніяк тых начэй недаспаных,
Што праводзілі нас па вясёлках расы.
Помніш, як у палях залатым акіянам
Пакланіліся нам каласы, каласы.
Чарадзейны іх спеў над зямелькаю-маці
Будзіць струны шляхоў і калыша лясы.
Запрапасці не дам ні аднаму зярняці,
Каб буйнелі яшчэ каласы, каласы.
Мой камбайн жыта зжаў на прасторах бяскрайніх,
А ўжо клічуць мяне ячмяні ды аўсы.
Сноп праменняў нясе мне на змену напарнік,
Ці то сонца, ці вы, каласы, каласы?
Калі зноў ты мяне ля дубровы спаткаеш,
Ды са ўсмешкай зірнеш на мае валасы.
Само сэрца тваё на ўвесь свет заспявае:
Залатыя мае, каласы, каласы!

## Творчая хвіліна

Ты можаш неадольнае асіліць,
Ты можаш недасяжнае крануць:
Маю святую мару твае крыллі
Да мэты запаветнае нясуць.
Імчыце ж, творчыя шчаслівыя парывы,
Праз краты, праз калючы шчыт дратоў:
Паэзіі дзівоснейшыя дзівы
Цаной жыцця я здабываць гатоў!..



# MEMORIA

## АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

## Няма ў Гародні анёла

**Жыццё паэта Лёйба Найдуса было цесна звязанае з Гародняй. Адзін з пачынальнікаў новае яўрэйскае паэзіі, да якога, як вобразна напісаў паэт, крытык Якаў Глатштэйн, паэтычная дыкцыя вершаў на ідыш «была ў пялюшках».**

Лейб Найдус з тых творцаў, хто назаўсёды застаўся маладым. Пайшоў з жыцця ў 28 гадоў. Гэта адзін з самых яркіх лірычных талентаў новага часу, што ўзгадаваныя ў гарадзенскім Краі. «Сын гарадзенскай зямлі», — так пісала пра яго Іна Анатольеўна Карпюк, адна з даследчыкаў спадчыны паэта, што ўслед за Аляксеем Карпюком дбайна клапацілiся пра вяртанне ягонага імя на Радзіму.

Пачатак жыцця Лейба Найдуса звязаны з фальваркам Кусцін, што непадалёк ад Кузніцы Беластоцкай, які ў тым часе належаў калежскаму саветніку Мікалаю Апехціну. У наш час гэта ўжо замежжа, на гэтым месцы размясцілася польская вёска Выжгі. Арандаваў сядзібу Ісаак Найдус. У ягонай сям'і 6 лістапада 1890 года і нарадзіўся будучы паэт. Дзеці, а іх было сямёра, пачыналі навучанне вельмі рана, у тры гады. Дзеля гэтага быў запрошаны настаўнік, які рыхтаваў іх да здачы штогадовых экзаменаў экстэрнам у гарадзенскай школе. Асаблівую ўвагу звярталі бацькі на вучобу Лейба, які меў добрыя здольнасці. Ён быў самым малодшым. Астатнія дзеці ўжо выраслі і яго вырашылі адправіць у школу ў Гародню. Хлопчык вучыўся ў розных гарадах: Радаме, Беластоку, Коўне, Вільні. У 1911 годзе насуперак волі бацькі пакінуў вучобу, абвясціўшы, што «з літаратуры таксама можна жыць. Калі ж прыцiскала бяда, вяртаўся ў Кусцін» (Валянціна Найдус).

Пісаць Лейб Найдус пачаў вельмі рана. Пляменніца паэта Валянціна Найдус падала цікавыя звесткі, разважаючы пра няпросты выбар маладога творцы: «На якой мове пісаць? Адказ быў не з лёгкіх. У двары жыла польская сям'я конюха. З ганка можна было зазірнуць у пакоік старэйшай сястры-яўрэйкі. Блізка па суседству жыла сям'я беларусаў. Непадалёку знаходзіліся таксама беларускія вёскі Вызгі і Даўгасельцы. Крыху далей — польскія вёскі Кавалі і Мерашкоўцы. Няпоўныя тры кіламетры было да Кузніцы з касцёлам на плошчы, царквой на ўзгорку і дзвюма-трыма бажніцамі». Дамінуючая ў тагачасным грамадстве моўная паліфанія паспрыяла таму, што вершы паўставалі на трох блізкіх яму мовах: яўрэйскай, польскай і рускай. Некаторыя крыніцы, тая ж вікіпедыя, сцвярджаюць, што пісаў ён і па-беларуску. На жаль, тыя творы не захаваліся. Але ў хуткім часе для творчасці была абраная выключна мова ягонае душы — ідыш, дэбют на якой адбыўся ў 1907 годзе ў варшаўскім часопісе «Романцайтунг». Справа ў тым, што вялікі ўплыў на яго аказала юная асоба — Ніна Табачнік, шчырая аматарка яўрэйскае культуры, патрыётка. Каханне да гэтае дзяўчыны, што разгарэлася ў душы юнака, сталася для яго вялікай трагедыяй: Ніна памерла ў маладым веку. З часу тае страты пісаў толькі на мове свайго роду, друкаваўся ў варшаўскіх і віленскіх яўрэйскіх перыёдыках. На ідыш паэт не толькі пісаў, але і пераствараў творы сусветнае класікі: Гётэ, Шэлі, Гейнэ, Міцкевіча, Пушкіна, Лермантава, По, Бадлера, Верлена і інш., што было вельмі важным для невялікіх крэсовых цэнтраў, бо, як слушна сцвярджае Валянціна Найдус, дапамагала супрацьстаяць правінцыяльнасці, культурнай адасобленасці. «Лейб Найдус не толькі даў магчымасць доступу да твораў перадавых паэтаў заходняга свету сваім чытачам, але і сам выразна эвалюцыянаваў пад іх уплывам».



Адной з крыніцаў, што наталялі душэўную смагу творцы, былі старыя яўрэйскія песні, якія чуў з маленства. Захапленне іх красою выказаў у вершы, дзе найперш звярнуў увагу на спалучэнне ў іх багацця, разнастайнасці жыццёвых перажыванняў, калі гора і радасць натуральна спалучаюцца між сабою, ураз змяняючы адно другое:

> Яўрэйскія песні мне мілы,
> тут радасць і боль пераплецены скрозь,
> тут горкія слёзы сірот ля магілы
> змяняе нястрыманая весялосць.
>
> *(Пераклад наш праз пераклад з польскай Алены Найдус. — А. П.)*

У апошнія гады жыцця цалкам аддаўся літаратурнай працы. Быў шырока вядомым і шанаваным у яўрэйскай грамадзе. Ягоныя вершы ведалі, вывучалі ў школе, іх клалі на музыку. Лейб Найдус шмат рабіў дзеля папулярызацыі паэтычнага слова, выступаў з лекцыямі перад аматарамі паэзіі. Быў адным з самых шанаваных аўтараў літаратурнага штомесячніка «Literarische Monatsschriften», што ў тым часе пачаў выходзіць у Вільні. Там жа ў 1915 годзе выйшла першая кніга паэта з традыцыйнаю назвай «Лірыка». Апошнія гады жыцця правёў у Гародні, дзе падрыхтаваў яшчэ дзве кнігі: «Флейта Пана» (1918), выхаду якой паспеў парадавацца, і «Інтымныя песні» (1919), што пабачыць свет пасля сыходу паэта.

Фінальны час ягонага жыцця быў вельмі няпростым. Вайна, спусташэнне, голад. Ягоная сям'я ў Кусціне таксама мела вялікія страты. Не стала магчымасці атрымоўваць дапамогу з дому. Да таго ж, у Краі панавалі хваробы. У часе аднае вандроўкі, калі паэт вымушаны быў вяртацца дамоў у перапоўненым вагоне, ён захварэў на дыфтэрыю, што для аслабленага арганізму сталася фатальным. Лекара адразу не выклікаў, мяркуючы, што гэта звычайная прастуда. Побач з ім быў ягоны сябар літаратурны крытык Абрам Зак. Як сведчыць Валянціна Найдус, ён адвёз паэта ў шпіталь, але было ўжо вельмі позна.

Лейб Найдус быў пахаваны на Новых габрэйскіх могілках. Захаваўся здымак з адкрыцця помніка паэту. Шматлікая грамада людзей прыйшла ўшанаваць паэта, адзначыць гэтую падзею. Праўда, пра сам помнік ведаем толькі з апісанняў.

З лёгкай рукі гарадзенскага творцы, літаратуразнаўца Анатоля Брусевіча, аўтара найбольш дасканалага артыкула пра жыццё і творчасць «Месца Лейба Найдуса ў

беларускай культурнай прасторы», яўрэйскага паэта параўноўваюць з Максімам Багдановічам: той жа ранні сыход, у адным і тым жа годзе — літаратурны дэбют, тая ж мізэрная колькасць выдадзеных пры жыцці кніг, тое ж наватарства ў айчыннай паэзіі, тое ж імкненне перанесці ў родную літаратуру ўсё лепшае з чужое глебы, тыя ж жыццесцвярджальныя, аптымістычныя матывы, з аднаго боку, а з іншага — смутку, адзіноты, эстэтызацыі смерці. І лёгкаплыннасць, іскрыстасць паэтычнага радка, што асабліва выразна выяўляецца ў перакладзе на беларускую мову верша «Дождж і сонца» Максіма Танка. Па сутнасці, гэта адзіны больш-менш вядомы беларускім аматарам верш яўрэйскага паэта. Зроблены ён праз пераклад на польскую мову Алены Найдус, пляменніцы Лейба Найдуса:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Кроплі ў залатых праменнях
У сваім палёце ззяюць,
Быццам злучаныя іскры.

Захопленасць красою жыцця, нястрымная радасць існавання, сугучнасць чыстае, незамутнёнае жыццёвымі нягодамі чалавечае душы прыроднаму свету, той жа Багдановічаў позірк на свет «дзіцячымі вачыма» перададзеныя ў паэтычных радках:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Аж калышуцца ўсе кветкі
Пад ласкавым цёплым ветрам,
У слязах смяюцца дзеці.

Паэтычны паўтор і ў пачатку кожнае страфы, і ў межах пачатковага радка, у якім спалучаны самыя жыццядайныя прыродныя з'явы, паўстае радасна-ўзнёслым зачынам, настрой якога нязменна трымаецца ва ўсёй вершаванай прасторы. Лірычнае дзеянне не замкнутае, не абмежаванае нейкімі пэўнымі рамкамі. Ягоны вектар скіраваны ў неабсяжныя далі:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Рэчка ў берагах гайдае,
Звонка кроплі толькі б'юцца,
Іх кругі нясуцца ў далеч.

Не абыдзены творцам вобраз нябеснага цуду — вясёлкі, што паўстае выключна ў часе сугучнага панавання дажджу і сонца. Тут можа выклікаць збянтэжанасць каляровае вырашэнне, прапанаванае Максімам Танкам. У перакладзе Алены Найдус, відавочна, больш дакладна — прамяністы, а блакітныя — глыбіні, што ў папярэднім радку:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Адбіваецца на небе
Каляровы мост блакітны,
Шчасця вечнага дарога.



І ў фінале, як бачым, той жа нястрымны рух, той жа вектар, які скіраваны ўжо ў неабсяжныя глыбіні часу. Сапраўды, «Лейб Найдус, — як слушна сцвярджала ягоная пляменніца Валянціна Найдус, — быў песняром радаснага аптымізму. Ён прынёс у яўрэйскую паэзію непаўторную прыгажосць прыроды, багатую палітру фарбаў і неспатыканую да яго выключную сентыментальнасць да прыроды».

У згаданым вышэй артыкуле Анатоль Брусевіч падае свой пераклад верша Лейба Найдуса праз парадковік гарадзенца Рыгора Хасіда, які, як прызнаецца перакладчык, быў здзейснены ім у адначассе:

Я сэрцам сонца п'ю нектар.
Мой зрок у небе тоне.
Я — малады, прыгожы цар,
Хоць голаў не ў кароне.

У апошні перыяд свае творчасці Лейб Найдус усё часцей адыходзіць ад рыфмаванага верша. Тлумачыць гэта ў паэтычным:

Дазволіць легкаплыніць строфам вольна,
не сціснуць сэрца ў ямбы ці харэі,
без межаў хай ліецца мова, проста.
Не стану шліфаваць у вершах словаў,
найперш такіх, як боль і шчасце.

*(Пераклад наш праз пераклад з польскай Алены Найдус. — А. П.)*

Пасля смерці паэта было шмат зроблена дзеля ўшанавання ягонае памяці. Невялікая вулка ў цэнтры места, якая здаўна называлася Пясчанай, атрымала імя Лейба Найдуса. Менавіта тут у невялікім доме ў пакоі на першым паверсе жыў паэт. Тут ён пайшоў з жыцця. Праз пяць гадоў, у 1923-м, на ягонай магіле быў адкрыты помнік аўтарства варшаўскага скульптара Абрама Астжэгі. Апушчаныя, надломленыя белыя крылы, якімі прыкрыты твар анёла... Захаваўся здымак: мноства людзей на могілках, што прыйшлі ўшанаваць паэта. Але помнік, што бялее ўдалечыні, на здымку разгледзець немагчыма. Ён захаваўся толькі ў памяці людзей. Так, І. А. Карпюк згадвала, што гэты помнік быў нетыповым, вылучаўся між іншых.

У вялікім свеце сляды Лейба Найдуса былі захаваныя. У розных мясцінах, па якіх воляю лёсу была параскідана яўрэйская грамада. Так, на яўрэйскіх могілках у Парыжы ёсць пастаўлены Гарадзенскім зямляцтвам помнік, на цокалі якога высечаны барэльеф паэта. Тут ушанаваны гарадзенскія яўрэі, што загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І няхай фармальна дапушчана памылка, бо Лейб Найдус памёр значна раней, усё ж ён па праву належыць да гэтае грамады — гарадзенскага яўрэйства. У 1995-ым годзе на яўрэйскіх могілках у Варшаве на сімвалічнай магіле паўстаў помнік паэту.

Самае галоўнае для творцы — літаратурная спадчына. У 20-я гады было зроблена вельмі шмат дзеля яе захавання...

Але самае прыкрае тое, што новыя яўрэйскія могілкі пры звычным маўчанні гарадзенцаў былі зруйнаваныя ў 60-я гады. На іх месцы пабудаваны стадыён. Як напісаў Андрэй Адляніцкі, «на працягу 80 гадоў пасля яго смерці было шмат намаганняў,

каб памяць пра Найдуса знікла разам з гісторыяй усяго габрэйскага Гродна. Яго вершы спалілі фашысты, а магілу знішчылі камуністы...»

Няма анёла на той магіле.
Няма й магілы.
Няма анёла і над Гародняй.
Зламаны крылы
былі на ўзлёце.
Згарэў ў палёце
да сонца й зораў.



# Пераклады

## Ніколаз Бараташвілі

### Мая малітва

О Божа, як бацька, звярніся да грэшнага сына
І пал яго, злом падбухтораны, сам супыні.
Няўжо так бацькоўскае сэрца без жалю застыне,
Калі небяспека на сына імчыць на шалёным кані?

Заступнік, няўжо ты надзеі маёй адрачыся прымусіш:
Аднойчы нявінны Адам твой завет занядбаў
І раю вабноты аддаў у ахвяру спакусе
Ды зведаў з таго незвычайную з райскіх забаў.

О сэрца прадвеснік, ягоных глыбіняў
Сягаеш за думку маю ты раней і глыбей.
І што я шаптаць табе болей павінен?
Прымі і маўчанне маё за малітву табе.

*1840*

### Маім сябрам

Пакуль жыццю прыязны ранак,
Каханых цешыць сэрцаў пал,
Хоць білі дзіды напавал,
Ды, юнакі, адпрэчце раны.

Жыцця імклівага імгненні:
Юнацтва жар, любові ток!
І смешны ў рэзвасці дзядок,
Шкада хлапца з старэчым ценем.

Хвалю таго, хто жыў і дзеіў,
І час свой годна скарыстаў,
І з ношкай цяжкай не прыстаў
Ды мае йшчэ на свет надзею.

Калі да поўдня сонца рушыць,
Мана любові не міне.
Братове, слухайце мяне,
І мне было калісьці скрушна.

Жанчын цурайцеся манерных:
Ад бляску гіне матылёк.
Трымаюць сэрца аддалёк
І не даюць каханню веры.

*1841*



Я храм пустынны напаткаў.
Лампада з вечнасці мігцела,
Анёлы з лірамі ў руках
З Давіда псалмамі ўзляцелі.

Там пыл з абутку атрасаў,
І каб душа не гаравала,
Святло лампады, як раса,
Мяне ў пустыні ратавала.

Ахвярай стаў сабе я край,
Такую сэрцам прагным скласці,
І думаў, што натрапіў рай,
Непадуладны для напасцяў.

Але не вечны міг уцех:
Не стала сярод пусткі храма.
І змрок раптоўна захацеў
Майго спадзеву засціць браму.

Святых скляпенняў знік абшар,
І спрахлі святцы з аналоем.
Пераджагнаў мне скрушны твар
Папрок агеньчыка мілога.

Мая любоў заміж пагроз
Не ўздыме нанава дамоўку,
Дзе б пыл з абутку я атрос
І ціха памаліўся зноўку.

*1841*



## Кацярыне, калі пяе пад акампанемент фартэпіяна

У клавіш пошапт
Не стаў апошнім.
Зліліся, пэўна,
Пяшчота з ранкам.
Вярэдзіць раны
Твой голас спеўны.

Дзівіўся гожай
Журбы заложнік.
Яму трымцела
Усё агулам
І ў думак гуле,
І ў грэшным целе.

Шчака расіцца
Слязой з расніцы.
Валос ручайка
Тапіла плечы.
Як шляхам Млечным,
Плыў пах адчайны.

Глядзіш з зарокам
Празрыстым зрокам.
Як ружы ў квеце,
Палаюць вусны.
На сэрцы вусцішш
І ў белым свеце.

*1841*

## Магіла цара Іраклія

*Князю М. П-чу Баратаеву*

Укленчу над магілай, слаўны цар!
Слязамі акраплю яе, нібы алтар.
Каб здолеў з-пад аблогі ўстаць твой цень
І глянуць на Картлі — нібы ў тварэння дзень.

Прарочы ты пакінуў запавет,
Дзе наказаў айчыне шлях ад бед.
І думам царавым — цара прасцяг,
І мы, твае сыны — цябе працяг.

А тыя, што выгнання мелі лёс,
Вяртаюць скарбы да сваіх нябёс.
Нясуць зярнят прыгоршчы ў родны край:
Саспее з іх , няйначай, ураджай.

На поўначы, прамёрзлай навылёт,
Душой гарачай растапілі лёд.
І там, дзе сіла наша падымала меч,
Цяпер атрэслі звягу з вольных плеч.

Прыціх Каспійскай хвалі бурны шал,
Не пагражаюць блізка нам за валам вал.
І Чарнамор’е шле таксама поціск свой
Замест прыблудаў, здольных на разбой.

Спакойна спі, дзе свет у бітвах глух,
Іверыі нязломнай цвёрды дух.
Ты нас над Грузіяй усіх узнёс
Каля грабніцы, складзенай са слёз.

*1842*



Імчыць і ляціць без дарог мой Мерані**,
Злавесны груган вокам шлях замярае.
Нясіся наперад, Мерані, — няма рубяжоў,
Мы змрочную думу вятрам зберажом!

Нясіся наперад і шлях скарачай
Праз прорвы і скалы, праз нетры наскрозь.
Ахвярнаму вершніку нават адчай
Схавацца не дасць, хоць і непагадзь скрозь.

Няхай я пакіну айчыну й сяброў,
Не ўбачу радню і кахання сезам,
Цяпельцу душы адшукаю я дроў,
А тайну, што ў сэрцы, дык зорам аддам.

Літанні ад сэрца, зарубкі любові
З парывам тваім нечуваным у змове.
Нясіся наперад, Мерані, — няма рубяжоў,
Мы змрочную думу вятрам зберажом!

---

* Мерані — у грузінскай міфалогіі крылаты конь, падобны да антычнага Пегаса.



Няхай не спачну заміж родных магіл,
Слязамі каханай мяне не скрапіць.
Віхор мае косці развее, як пыл,
Груган, нібы крыж, па-над ім зарыпіць.

Не слёзы каханай — а росаў апад,
Заменіць радню мітусня каршукоў.
Наперад, Мерані, твой вершнік наўрад
У долі папросіць знішчэння грахоў!

Хай згіну ў жабрацтве ад выраку лёсу,
Ды вораг затупіць аб вольніцу лёзы.
Нясіся наперад, Мерані, — няма рубяжоў,
Мы змрочную думу вятрам зберажом!

Імкненню душы непрагляднай змарнець
Не дасць працярэблены прагаю шлях.
Сабрату паможа спяшыць не па смерць,
Скакун панясе — толькі свіст у вушах!

Імчыць і ляціць без дарог мой Мерані,
Злавесны груган вокам шлях замярае.
Нясіся наперад, Мерані, — няма рубяжоў,
Мы змрочную думу вятрам зберажом!

*1842*



Сіні колер — неба звон —
Колер найдзівосных дзён.
Пазбягаў дзіцём забаў,
Бо сінечу ўпадабаў.

Хоць сціскае грудзі лёд,
Кроў змаглася ад нягод,
Сіні фарбам і гадам
У ахвяру не аддам.

Ён цудоўны і апроч —
Мае ласку любых воч.
Патануць спакусна ў іх,
Паднябесна маладых.

Мара, нібы запавет,
У высокі кліча свет,

Там няма ў каханні дна
І сінечы глыб відна.

А памру — тваіх навек
Слёз не ўбачу з-пад павек.
Неба сінь заместа слёз
Твар абмые з чашы рос.

На магіле не на зман
Сам пасцелецца туман.
І памкнецца сіні дым
Па-над іменем маім.

*Пераклаў з грузінскай Юрка Голуб*



ЮРКА ГОЛУБ

## Малітва, узнесеная да сінечы

Калі прыняць за існае, што паэзія — найбольш любасная легенда людства, дык самым патрасным яе носьбітам на карэнна-крамяністых скрыжалях Грузіі паўстане Ніколаз Бараташвілі. Самотнік, вырваны з лёхаў нябыту і ўзнесены на святую гару чалавечага духу Мтацмінду, а значыць, і на вяршыню сусветнай лірыкі. Ён назаўсёды застаўся бліскучым вершнікам Каўказа, а яго нястрымны і апантаны Мерані, як роўня незамундштукаванаму гвалтам Пегасу — паслухмяны свайму — і толькі! — валадару:

Імчыць і ляціць без дарог мой Мерані.
Злавесны груган вокам шлях замярае.
Нясіся наперад, Мерані,— — няма рубяжоў,
Мы змрочную душу вятрам зберажом!

«Пасля Шата Руставелі — на працягу амаль шасціста гадоў ніхто не ўздымаў грузінскую паэзію да гэткай высокай нацыянальнай і агульначалавечай значнасці, да якой узвёў яе Ніколаз Бараташвілі»,— — словы выспелі на пяры аднаго з бараташвілізнаўцаў напярэдадні стапяцідзесяцігоддзя аўтара «Лёсу Грузіі», яшчэ ў даўніх аналах мінулага стагоддзя. І тое сказана пра паэта, які, хутчэй за ўсё з боскай няласкі, не ўбачыў пры жыцці надрукаваным ніводнага ўласнага паэтычнага радка!

Ніколаз Бараташвілі нарадзіўся ў 1817 годзе ў Тбілісі. паходзіў з сям’і радавітага грузінскага князя, а па матчынай лініі быў нашчадкам славутага цара Іраклія Другога і тым часам пляменнікам вядомага паэта-рамантыка Грыгола Арбеліані. Аднак жыццё ішло насупор задумам і жаданням юнака. Яго бацька прамантачыў набытак і збяднеў, а з таго шлях Бараташвілі, выпускніку гімназіі, для працягвання вучобы ва універсітэце ў Расіі, аб чым ён марыў, стаў недасяжным. З-за паламанай у дзяцінстве нагі не выпала памкнуцца да вайсковай кар’еры. І таму, каб матэрыяльна падтрымаць сям’ю, будучы апостал высокай паэзіі вымушаны быў служыць чыноўнікам у так званай «Экспедыцыі суда і расправы», што аніяк не спрыяла яго маладым, яшчэ не змардаваным памкненням.

Бязлітасны след пакінула ў душы паэта няспраўджанае каханне да князёўны Кацярыны Чаўчавадзе, якой ён прысвяціў і падараваў цэлы сшытак вершаў. Аднак, застаўшыся ў бліскучых радках і пакутах Бараташвілі, каханая абрала мегрэльскага князя.

У 1844 годзе Бараташвілі быў прызначаны памочнікам начальніка Нахічэванскага павета, а ў наступным — пераведзены ў горад Ганджа (Азербайджан) на такую ж пасаду па службе. Там ён і памёр ад малярыі на дваццаць восьмым годзе жыцця… І як устрымацца, каб не ўспомніць нашага Максіма Багдановіча: два геніі, два бліскавічныя лёсы…

Спадчына Ніколаза Бараташвілі вызначана колькасна, але не мае памераў у вызначэнні глыбіні ўласнага духоўнага кшталту. У ёй каля чатырох дзясяткаў вершаў,


▪ *Ніколаз Бараташвілі.*

адна невялікая, ужо згаданая папярэдне, паэма «Лёс Грузіі» і менш дваццаці асабістых лістоў. У адным з іх да сваёй сваячкі зацкаваны мітрэнгамі паэт пісаў: «Жыццё абрыдла мне ад такой цяжкай адзіноты. Уяві сабе, Маіко, горыч стану чалавека, у якога ёсць і бацька, і маці, і сястра, шмат сваякоў, і ўсё ж ён цураецца ўсіх і асірацелы ў гэтым поўным і вялізным свеце. Тыя, хто здаваліся мне ўзвышанымі — бяздушныя; хто здаваўся надзеленым звыш талентам — нават не мае розуму; слёзы, што здаваліся слязамі спагады, выявай цудоўнай душы — паток крывадушнасці, кроплі страшнай атруты! Дзе прытуліць адзінокую душу, куды прыхінуць галаву?»

Але побач з адчайным зняверам у ліставанні ёсць у паэта сярод усіх разам анталагічных верш, які зорыцца, калі хочаце, яго родавай нябесна-вызначальнай пячаткай, адкуль і ўзнік за трыццаць пяць гадоў таму гэты перакладчыцкі пачатак неўміручых радкоў. Верш той — пра «сіні колер — неба звон…», пра «высокі свет», куды кліча мара: «Там няма ў каханні дна! І сінечы глыб відна…» Гэтаму твору вялікага рамантыка, як і ўсёй яго лірыцы, не будзе зносу, бо вызначыў калісьці ён, празорца:

Хоць сціскае грудзі лёд,
Кроў змаглася ад нягод,
Сіні фарбам і гадам
У ахвяру не аддам.
. . . . . . . . . . . . . . . .
На магіле не на зман
Сам пасцелецца туман.
І памкнецца сіні дым
Па-над іменем маім.

Малітва, узнесеная да сінечы.



# Памежныя сюжэты

**ВІКТАР ШУКЕЛОВІЧ**

## Шуканні

### Як Пагоня зрабіла мяне вялікім артыстам

Гэта была першая палова 90-х, калі ў нас былі бел-чырвона-белыя падручнікі па гісторыі. У нашую вясковую школу мусілі з'ехацца нейкія важныя ды заслужаныя настаўнікі з усяго раёну. У школе запанаваў несусветны вэрхал. «А-ёй, трэба надта добра падрыхтавацца да сустрэчы», — лямантавала адна мажная настаўніца, якая, відаць, адмыслова да гэтай падзеі пафарбавала валасы ў руды колер.

Завуч папрасіла мяне прачытаць верш на канцэрце, які меліся даць у гонар шаноўных гасцей. Я кіўнуў галавою, а намесніца дырэктаркі ўсунула мне лісток з вучнёўскага сшытку, спісаную слупкамі паэтычнага твора. Я схаваў картку ў кішэню і адразу ж пра яе забыўся.

Пра тыдзень завуч папрасіла мяне зайсці да яе ў кабінет, калі закончыліся ўрокі. Заганяны пасля фізкультуры і задуменны пасля матэматыкі я прыбег.

— Ну што, Шукеловіч, вывучыў верш, што я давала? Давай расказвай, я праверу, ці добра дэкламуеш?

— Гм, — я толькі цяпер згадаў пра верш у кішэні. Мае ж дзіцячыя мазгі пачалі шукаць выйсця з сітуацыі. — Ведаеце, Марыпаўлаўна, мы бульбу садзім і мне мама сказала скарэй дахаты ляцець, бо мне трэба кашы падносіць.

— Ну, добра, — згадзілася настаўніца, якая і сама, відаць, спяшалася дахаты. — Час да настаўніцкага з'езду яшчэ ёсць. Бяжы, бо бацькам трэба памагаць, але прыйдзі праз два дні.

Праз два дні мне трэба было забіраць малодшую сястру з садочка. Потым мне балеў жывот, пасля да нас прыязджалі госці і цялілася карова. Вучыць верш я пачаў усяго за пару дзён да канцэрта, сам сабе дзівячыся, што дагэтуль завуч так і не раскусіла, што я не ведаю ніводнага радка.

Верш быў доўгі, але мне спадабаўся. «Усё лятуць і лятуць тыя коні, срэбнай збруяй далёка грымяць…».

Нарэшце ў нашую школу, якая блішчэла чыстымі вокнамі на сонцы, прыехалі доўгачаканыя настаўнікі. Поўдня яны лазілі па школе, прысутнічалі на ўроках, елі грэчневую кашу з доўгай катлетай у сталоўцы, а потым сышліся ўсе ў актавай зале. Меўся быць канцэрт.

Каб не зблытацца падчас выступу, я напісаў шарыкавай ручкай самыя цяжкія радкі дробнымі літаркамі ў сябе на руцэ.

— Глядзі ж не забудзься, бо як заікнешся — будзе сорам для ўсёй школы, — падбадзёрвала мяне намесніца дырэктаркі.

Актавая зала была поўная. Настаўнікі з усяго раёну сядзелі, нейк дзіўна задраўшы ўгору насы. Былі там і сівыя, і маладыя, худыя ды тоўстыя… Тыл сцэны, як цяпер памятаю, быў упрыгожаны вялікай чырвона-белай Пагоняй аўтарства настаўніка малявання. Нарэшце вядоўцы-старшакласнікі з чырвонымі папкамі гучна аб'яўляюць — «Пагоня» Максіма Багдановіча. Я чую, што нехта ззаду пхае мяне ў плечы. Аўтаматычна, як у нейкай смузе, я ўзлажу на сцэну, абводжу вачыма залу і раптам разумею: я не памятаю ні радка, у галаве — бела і пуста. Напружваюся, зморшчыўшы бровы, але дарэмна. Перад вачыма толькі кашы, якія я падношу, калі дарослыя садзяць бульбу пад каня. Але ж выратаванне ёсць! Дробныя літаркі на руцэ! Позірк слізгае ў далонь, але я не магу разабраць ні слова — чарніла размазалася, бо ад знерваванасці перад выступленнем я нервова паціраў рукамі. Што рабіць? Каб хоць нехта нагадаў пачатак верша, далей я б успомніў… Настаўнікі ў актавай зале неяк прыпусцілі свае насы, а некаторыя пачалі крактаць і круціцца на сваіх месцах, відаць, знудзіўшыся паўзай, калі на сцэне стаяў у маўчанні спалоханы хлапчук.

Я ведаў, што я мушу перастаць баяцца, бо толькі тады змагу нешта згадаць. Ці трэба проста сысці са сцэны? Але ж будзе ганьба для школы. Ды і для мяне… Я адчуваў, што нібы нейкія кавалкі рвуцца ўнутры мяне і трапечуць, як сцягі на ветры. Што гэна было? Адарваныя часткі вантробы, сэрца, селязёнка? Я азірнуўся, шукаючы вачыма намесніцу дырэктаркі, каб тая прашаптала пачатак верша, і затросся ад нечаканасці: за маімі плячыма па палітым крывёю полі скакаў белы рыцар, які ад нецярплівасці крыху прыўзняўся на мускулістым кані, трымаючы ў руках меч.

Не ведаю, што гэта было, але радкі самі пацяклі з маіх вуснаў. «Толькі ў сэрцы трывожным пачую, за краіну радзімую жах…», — дэкламаваў я цвёрда і з напорам.

«Усё лятуць, і лятуць тыя коні…», — у маіх вачах былі вершнікі і коні, якія звонка білі капытамі па цвёрдай зямлі ў туманох. Я прачытаў увесь твор бясхібна. Зала настаўнікаў устала, цяпер гэта былі не толькі задзёртыя насы, а людзі, якія энергічна пляскалі ў ладкі. Нехта нават крыкнуў «Брава!». Мне ніколі больш так не дзякавалі воплескамі. Гэты выступ стаў самым удалым у маім жыцці. Багдановічаву «Пагоню», якая зрабіла мяне вялікім артыстам, я не забыў і праз больш як 20 гадоў.

**Пошта пад знакам ВКЛ, праспект Міндоўга і помнік Вітаўту**

«Такою магла б быць Беларусь», — гэткія словы лунал і ў рамантычных кавярнях і ля старых муроў у Коўне.

Беларусы ў горадзе! Гэта было відаць і чуваць. На сёлетні Кангрэс даследчыкаў Беларусі ў былую сталіцу Летувы з'ехалася каля 500 гасцей з усяго свету, прычым большасць — беларускамоўныя. На шпацыры па вечаровым Коўне нязмушаная беларуская гаворка мінакоў была нібы гарачым пацалункам у халадны восеньскі вечар, ад чаго хутчэй пачынала хадзіць кроў па жылах, а шчокі заліваліся цяплом.

«Гэта і нашая спадчына», — уздыхнуўшы, сказала беларускамоўная спадарыня сваёй каляжанцы, паказаўшы на сцяг з Пагоняю, што горда лунаў над горадам. На



шмат якіх шыльдах ды вулічных таблічах — старажытная Пагоня. Своеасаблівая Пагоня нават у драўлянай капліцы — фігурка святога Юрыя, які дзідай забівае цмока. Пра сцягі з Пагоняй у старажытных касцёлах дбаюць сучасныя манахі, якія сышлі нібыта з абразоў, пакрытых павуцінчатай сеткай старасці.

Коўна — горад Вітаўта. Апрача помніка, тут ёсць універсітэт Вітаўта, мост яго імені і свая фара Вітаўта. Нават на старых пабудовах проста так згадваецца імя князя. Акрамя Вітаўта ў Коўне шануюць Міндоўга ды Гедыміна, у гонар якіх названыя вуліцы.

У Коўне вельмі папулярны старажытны сімвал Вялікага княства — герб «Калюмны» альбо «Слупы Гедыміна». У Грунвальдскай бітве 1410 года з 40 харугваў ВКЛ 10 былі з выявай «Калюмнаў». Некалі яны выкарыстоўвалі на манетах. Цяпер «Калюмны» — знак летувіскай пошты. Гэты сімвал можна пабачыць практычна на кожнай паштовай скрынцы ды на сцягах. Гэты знак выкарыстоўваюць некаторыя партыі ў сучаснай Летуве.

Коўна дыхае гісторыяй Вялікага княства. Адна з самых старажытных святыняў Коўна — невялічкі касцёл святой Гертруды, надзвычай яскравы помнік гатычнай архітэктуры ВКЛ.

У горадзее ёсць славуты Дом Грому, збудаваны ў 15 стагоддзі купцамі. У перыяд рамантызму ў 19 стагоддзі ў сцяне знайшлі статуэтку Пяркунаса (Грому). З таго часу будынак пачалі лічыць свяцілішчам паганцаў.

Замак пабудавалі ў Коўне ў XIV стагоддзі непадалёк ад месца зліцця Віліі і Нёмну, каб бараніцца ад крыжакоў. Пасля надання гораду Магдэбургскага права цэнтр жыцця перамясціўся на Рынкавую (Ратушную) плошчу. У некаторых месцах падаецца, што зараз аднекуль з'явяцца шляхцічы ў кунтушах ды загавораць па-старабеларуску.

Рэзідэнцыя прэзідэнтаў у міжваеннай Летуве — сапраўдны сімвал незалежнасці. На агароджы — здымак сям'і першага кіраўніка Летувы Антанаса Смятоны, на падворку помнік.

Летувісы памятаюць пра сваіх герояў і паэтаў, якім шмат стаіць помнікаў у Коўне. У памяць пра ўсіх, хто змагаўся за свабоду краіны, гарыць вечны агонь, але стылістыка яго не манументальна-савецкая, зусім не такая, да якой мы прывыклі ў Беларусі.

Ёсць у Коўне праваслаўная святыня, пад якою я спаткаў модна апранутую пару беларусаў з Магілёва, што стала тут жывуць і працуюць. «Размаўляеце па-беларуску?», — запытаўся я. «Навошта нам размаўляць на беларускай мове, калі нам тут трэба летувіская і англійская», — не зразумеў майго пытання мужчына. Ягоная спадарожніца засмяялася з майго «размаўляеце», але на развітанне надзвычай прыязна памахала рукою.

«Беларусы носяцца з вёскаю як з яйкам», — міжвольна пачуў я дыскусію ўдзельнікаў кангрэсу беларусістаў у кавярні. — «Нам трэба вызваляцца з вясковасці», — падтакваў нехта збоку. Летувісы, падалося, не саромеюцца сялянскасці, а вясковасць выразна выяўлена ў гарадскіх помніках. На адным з іх, напрыклад, кабета пры калаўроце вучыла сына чытаць па-летувіску.

У Коўне мясцовая моладзь гаворыць амаль выключна па-летувіску. «Коўна — самы летувіскі горад, — распавёў мне кіроўца таксі. — Калі ў бары размаўляюць летувісы, і прыходзіць расеец-эмігрант, то таксама мусіць гаварыць па-летувіску, хай сабе з няправільнымі канчаткамі. У Вільні ўжо летувіс хутчэй загаворыць па-расейску

з няправільнымі канчаткамі». Паводле мужчыны, варта ведаць як мага больш моваў, а лішнія веды ніколі не зашкодзяць. «Я кажу сваёй дачцэ, каб вучыла расейскую мову, а тая не хоча. Я яе пераконваю, што расейская можа прыдасца, каб паразмаўляць з прыгожым туркменам, якога яна раптам спаткае ды закахаецца. Але дачка падумала і адказала, што прыгожых туркменаў, як на яе густ, пэўна, не бывае», — засмяяўся кіроўца.

Кожны раз, як нехта бегае ў Коўне, — гэта своеасаблівая летувіская «Мова Cup» бо ўсе бегуны, звычайна, летувіскамоўныя.

«Тут не ведаюць, дзе сапраўдная Літва. Коўна — гэта ж Жмудзь», — са шкадаваннем і нейкім жалем казалі мае знаёмыя беларусы. Ім, відаць, было прыкра, што на землях сапраўднай Літвы турыстаў вязуць на «лінію Сталіна».

**Беларускі порах**

Жанчына стаяла агаломшаная, аўтаматычна цярэбячы пальцы. Яе грудзі, сціснутыя службоваю ўніформаю, высока ўздымаліся ад пачашчанага дыхання. Кабета не магла знайсці адпаведных словаў ў адказ на маю беларускую мову.

Хвіліну таму я зайшоў у метро і запытаўся ў кантралёркі па-беларуску, як найхутчэй патрапіць на вуліцу Маскоўскую. Кабета адразу ж змянілася з твару, пачырванела, і я ў думках ужо нацягваў нябачны панцыр, які б дапамог мне справіцца са звыклым: «Гаварыце нармальна! Я не панімаю».

Расхваляваная не на жарты маладзіца расшпіліла верхні гузік белай блузкі пад пінжаком, прыадкрыўшы сваю далікатную шыю. Ад яе зграбнай постаці пырскала прыгажосцю і свежасцю. «Даўганогая спрытушка, — ацаніў я. — Шкода, што мазгоў затое, пэўна, няма».

— Як слаўна, што вы размаўляеце па-беларуску, — крыху аддыхаўшыся, азвалася нарэшце жанчына. Яна выглядала моцна ўзрушанай. — Вам трэба ехаць на станцыю «Інстытут культуры», — прамовіла яна ўдавана звонкім голасам, які, аднак, крыху дрыжэў. Яна старалася гаварыць упэўнена, але я бачыў, што ў ёй усцяж віравалі эмоцыі, выкліканыя, мусіць, беларускай мовай. Маладая кабета дзьмухнула сабе ў пасму валасоў, што насунулася на лоб, закінула праваю рукою каштанавы завіток за вуха ды ціха запытала:

— А вы з Мінску?

— Не, з-пад Ашмянаў…

— Цудоўна, проста цудоўна, — сказала яна з прыдыханнем, смакуючы кожнае слоўца. Беларуская мова з ейных вуснаў была нібы аксаміт, а ўсмешка нагадвала выставу перлінаў. З ейных шчок ўсцяж не сыходзіў румянак, а вялікія зялёныя вочы-смарагды то ўспыхвалі, то гаслі пад доўгімі вейкамі.

— Я таксама не з Мінску, — прамовіла. На выгляд ёй можна было даць каля трыццаці пяці. У свеце кветак гэта быў узрост ружы, на краях пялёсткаў якой праяўляюцца першыя, нязначныя знакі завядання. Але дзякуючы гэтаму ружа атрымлівае непаўторны шарм, пахне яшчэ прынадней, яшчэ духмяней, вабячы элегантнай гожасцю.

Мая суразмоўніца па-жаночаму падціснула малінава-каралавыя вусны. На цукровай шыі ўтварыўся невялічкі жалабок.



— Я сама з Гудагаю. Я ведала, што вы таксама з заходняй Беларусі. Па мове пачула. Толькі ў нас так прыгожа гавораць.

— Вы размаўляеце яшчэ прыгажэй, так неяк соладка, — я мусіў адказаць на яе ветласць. Зямлячка з какецтвам крыху пахіліла на бок галаву і шарганула па падлозе сваёй нібы вытачанаю ножкаю ў чорным чаравічку:

— Я проста адчула, што вы свой… Скажыце, што нашыя людзі іншыя, чымся тут. Больш ласкавыя, больш сардэчныя і… — яна шукала адпаведных словаў. — І больш шануюць сваё.

— Вы хочаце сказаць: больш беларускія, менш зрусіфікаваныя? Пэўна так. Але нельга абагульняць.

— Але ж згадайце паўстанне Каліноўскага, касінераў… Якія баі моцныя ў нас былі. Якія ў нас людзі былі непакорныя і якія ж адважныя. І дагэтуль больш да беларускасці горнуцца, чымся на ўсходзе. А тут — пустыня нейкая. Людзі гыркаюць, мацюкаюцца, увесь час злыя.

— Хапае і ў нас злосці ды чарнаты.

— Не, мне здаецца ў нас людзі больш добрыя, — запярэчыла маладзіца з напорам, а доўгія вейкі ўзняліся высока ўгору. — Мы больш сумленныя, больш дбаем пра карані. Паглядзіце: Купала, Колас, Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч — яны ўсе з Заходняй Беларусі.

— Ну чаму? Былі і з усходу дзеячы — Гарэцкі, Мрый, Зарэцкі… — неяк няўпэўнена даводзіў я.

Да нас падышла аднекуль яшчэ адна худая і высокая кантралёрка ў фуражцы.

— Паглядзі, Паўлаўна, мой зямляк, па-беларуску гаворыць, — прадставіла мяне мая зграбная суразмоўніца. Худзеліца глянула на мяне без асаблівай цікавасці. — Таксама з захаду Беларусі, як і я, — працягвала прыгажуня. — Мы заходнікі — ого-го! — кабетка сціснула руку ў кулак і патрэсла ў паветры. — Мы — зацятыя людзі. Мы ва ўсіх паўстаннях ваявалі за вольнасць. Нашыя землі — гэта сэрца Вялікага княства… — сакатала прыгажуня, нібы апраўдваючыся перад каляжанкаю і стараючыся нешта давесці. У паветры яна нецярпліва крэсліла рукамі зігзагі.

— Угы, — невыразна гмыкнула Паўлаўна, скасавурыўшыся з ухмылкай на маю суразмоўніцу. Ейны твар казаў: «Давай залівай, а я і так сваё ведаю».

— Ладна, харэ трапацца. Усяго вам добрага, — кіўнула мне худзеліца.

— Усяго добрага, хай вам шчасціцца, і жыве Беларусь! — пажадала на развітанне мая зямлячка.

— Жыве вечна! — мне шкада было сыходзіць. Нешта неспатоленае круцілася ўнутры. — Можа, яшчэ спаткаемся…

— Абавязкова сустрэнемся, — прыгажуня памахала мне сваёй далікатнай, нібы парцалянавай, ручкай.

Я сыходзіў уніз, на платформу метро, як у горшы свет — так мне хораша было размаўляць з вабнаю маладзіцаю з Гудагаю.

— Пакуль ёсць такія людзі, як яна, будзе жыць Беларусь, — думаў я, чакаючы цягнік і зыркаючы ў бок празрыстай будкі кантралёркі. — Не згубілася яшчэ моц беларускасці ў народзе, і ёсць яшчэ порах у нашых парахаўніцах.

Я толькі пашкадаваў, што не запытаўся ў прыгажуні ейнага імя.

**Як у вёсцы, вядомай з часоў Вітаўта, бароны сцерагуць людзей**

Некалі жыхары Міркліішак, што пад Крэвам, былі падданымі вялікага князя Вітаўта, якому належала вёска. Цяпер у селішчы больш баброў, чым людскіх душаў, кажуць мясцовыя насельнікі.

Атрымаўшы на пачатку XV стагоддзя Міркліішкі ў падарунак ад князя Вітаўта, віленскі ваявода Войцех Манівід, запісаў маёнтак ашмянскім манахам-францішканцам.

На «школьным пляцы» ў вёсцы з больш чым 600-гадовай гісторыяй няма ні асфальту, ні помнікаў. Школу разабралі яшчэ ў 70-ыя гады мінулага стагоддзя. Некалькі дзясяткаў гадоў таму вяскоўцы сварыліся, хто мае большае права касіць сена на «школьным пляцы». Цяпер жа трава там бушуе — яна нікому не патрэбная. Пад яблынямі гніюць яблыкі-ападкі — іх ніхто не збірае.

Мірклінскія хаты сталіся прывідамі і палохаюць сваёй запушчанасцю і адзінотай. Нешматлікія хаты прагнуць чалавечага цяпла, як няспрытныя дзяўчаты на маладзевай забаве, якія пакорна чакаюць у куточку, што іх нехта зараз запросіць да танцу. Некаторыя хаты разабралі на дровы, шмат іх пагарэла ў пажарах, якія ўзніклі невядома адкуль, а студні на былых дварах прыкрылі баронамі — каб хто выпадкова не ўваліўся.

Барона на студні, каб ніхто не праваліўся.

Затое на безыменнай рачулцы, што цячэ пасярод вёскі, бабры пабудавалі плаціну. «Бабры тут большыя гаспадары, чымся мы», — жартуюць мірклінцы, якіх усяго цяпер пяць чалавек. Адна з іх — мая бабуля Рэня.

Нават аўдавеўшы, бабунька трымала вялікую гаспадарку — некалькі кароў, каня, парсючкоў, гусей ды курэў. Пераважваючы неяк на выгане каня, бабуля моцна скалечылася — нага заблыталася ў ланцугу, жывёліна рванула ды моцна здратавала старэнькую. Бабуля прадала каня, а грошы прызначыла на аперацыю — пасля здарэння не магла хадзіць. «Так я пабагацела», — пасміхаецца яна.

Бабуля Рэня — шчырая каталічка, моліцца з кніжачкі па-беларуску. «Прыязджаў нагдай (нядаўна) ксёндз. Пытаўся ў мяне нешта па-польску. А я яму і не магла адказаць, не ўмею па-польску і ўсё», — дзеліцца народжаная за польскім часам у сям'і Тшэцяк гербу «Стшэме». Але нават да малога дзіцяці бабуля звяртаецца з павагай, у множным ліку, з гэткім шляхецкім «Pluralis majestatis»: «Такія справы, дзеткі».

Цэлымі днямі, як звяла гаспадарку, не стамляецца бабуня сядзець у акулярах і перачытваць доўгія літаніі, бясконца перабіраць пальцамі бубкі ружанцаў, шаптаць пацеры «за сябе, за ўнукаў, за няшчасных людцоў». Ейны гонар — стракаты крыж пры сялібе. «Раз адваліліся ад крыжа промні, дык адзін баптыст, што начаваў у мяне, паправіў», — распавядае бабуня.

Міркліішкі — адразу пры трасе Менск-Вільня. Часта ў бабулі просяцца пераначаваць заезджыя падарожнікі. Не адмаўляе. Для аднаго з начлежнікаў бабуля з чатырмама класамі адукацыі была настаўніцай беларускай мовы.

Гасцяваў у яе аднойчы кіроўца-дальнабойнік аднекуль з глыбокай Расеі. Хацеў ехаць з таварышам фураю ў Заходнюю Еўропу праз Летуву, але з дакументамі не ўсё было ў парадку — не пусцілі літоўскія памежнікі. Калега паехаў далей, а гэты, бездапаможны, мусіў некалькі дзён перачакаць у Міркліішках. Пасяліўся ў бабулі Рэні, якая карміла яго мачанкаю, таркаванаю бульбай, запечанай у кішцы, вантрабянкаю, кумпякамі, якія ў нас называюць «клундзюкамі». Расеец дзівіўся ўсяму і пра ўсё распытваў — на ягонай радзіме ўсё было інакш. «И говорите вы совсем не так, как у нас», — зрабіў кіроўца для сябе адкрыццё ў Міркліішках. Пры словах «саган», «патэльня», «цыбуля», «студня», «полiўка», «кій» ён ніякавеў, гмыкаў ды трос галавою.

Неяк бабуля пайшла палоць буракі, а госця папрасіла абраць парэчкі — самая лёгкая праца, якую звычайна прызначалі для дзяцей. Калі ж прыйшла з поля, кусты чырванелі сакавітасцю ягадаў. «Чаму ж вы не абралі парэчак?», — спыталася кіроўцу. «Я не понял, что это?», — адказаў разгублены мужчына.

«Глядзіце, парэчкі — гэта вось такія ягады», — цярпліва тлумачыла бабунька. «Вось як у вас гавораць на снеданне — завтрак, а на вячэру — ужин, так у нас на гэтыя ягады кажуць парэчкі», — вучыла яна расейскага кіроўцу беларускай мове. «Да, да», — неяк сумна адказваў мужчына.

«Смуткуе, — са спачуваннем казала бабуля. — Не ягоная тут старонка. Цяжка чалавеку — і ўсё». Кіроўца ж часта выходзіў на трасу ды з тугою ў вачах глядзеў на дарогу, па якой, што караблі, імчалі на ўсход фуры. Тады ён быў падобны да бусла з параненым крылом, што дыбае па палёх на худых нагах і з невымоўным жалем глядзіць у неба, дзе з развітальным «курлы-курлы» кружацца яго пабрацімы. «Не смуткуйце, прыедзе ваш калега, не пакінуў жа вас назаўсёды», — як умела суцяшала старэнькая.

Другі кіроўца неўзабаве вярнуўся і госць паехаў. Недзе праз год ён зноў ехаў у Летуву, завітаў да бабулі ды прывёз гасцінцаў: чырвоную рыбу за вантрабянку, кедравыя арэхі за парэчкі, а ківі за бульбу.

Гэтак у вёсцы, што належала некалі Вітаўту, дзве асобы з розных «светаў» засталіся людзьмі.

**Як я атрымаў пашпарт княства, у якім нявестаў падбіралі па вопратцы**

«Мы — жыхары княства, таму называемся ксенжакамі. На нашай зямлі самыя прыгожыя дзяўчаты. У адну закахаўся нават Напалеон», — з гонарам падкрэсліваюць жыхары польскага горада Ловіч.

Даехаць з Варшавы да Ловіча можна менш чым за гадзіну. Штогод у гэты невялікі гарадок прыбываюць натоўпы турыстаў ды пілігрымаў, каб узяць удзел у працэсіі з нагоды каталіцкага свята Божага Цела. Тутэйшыя жыхары адмыслова дзеля гэтай урачыстасці апранаюцца ў традыцыйныя строі з каляровай вышыўкай, характэрнай толькі для гэтага рэгіёну Польшчы.

— Я атрымала свой строй ад бабулі, — распавядае пад касцёлам маладая дзяўчына. — Яна ў гэтым адзенні выходзіла замуж, ішла да шлюбу. І цяпер бабуля надта перажывала, каб я на сонцы не стаяла, бо вышыўка можа выліняць.

— Некалі ксянжанкі, гэта значыць жыхаркі Ловіцкага княства, спаборнічалі, у каго больш вышыўкі на бялёнцы (традыцыйнай белай кашулі — аўт.), — распавядае іншая маладзіца. — Лічылася, што чым больш узораў, тым багацейшая дзяўчына, тым яна больш прывабная для жаніхоў.

Ловіч — старэйшы за цяперашнюю польскую сталіцу Варшаву, з гонарам падкрэсліваюць гараджане. З XII стагоддзя селішча разам з навакольнымі вёскамі нале-

жала арцыбіскупам з Гнезна, дзе да XIV стагоддзя адбываліся каранацыі польскіх манархаў. Гнезненскі арцыбіскуп меў ганаровы тытул прымаса (primus — першы на лацінскай мове) і ў часы бескаралеўя з'яўляўся кіраўніком краіны. Ловіч, які арцыбіскупы абралі сваёй рэзідэнцыяй, фактычна быў у такія часы сталіцай Польшчы.

З цягам часу Ловіч і наваколле пачалі называць Ловіцкім княствам, паколькі Гнезненскія арцыбіскупы імкнуліся атрымаць тытул князя. Гэтае княства як тэрытарыяльную адзінку захавала Прусія, якая захапіла гэтыя землі ў канцы XVIII стагоддзя. Засталася гэтая назва і пазней у Расійскай імперыі. У 1820 годзе цар Аляксандр падараваў горад свайму брату Канстанціну і ягонай жонцы Яанне, якая атрымала тытул княгіні Ловіцкай. Княства фактычна праіснавала фактычна да Першай сусветнай вайны. Цяпяр жа яго былая сталіца налічвае каля 30 тыс. жыхароў і з'яўляецца толькі цэнтрам павету.

— Калі нехта і цяпер скажа пра сябе «ксянжак» ці «ксянжанка» — ведайце, што гэта людзі з Ловіча, — адзначае маладая гараджанка.

— Ловіч славіцца таксама сваймі прыгожымі дзяўчатамі, — даводзіць высокая спадарыня ў традыцыйнай вопратцы. — Нават Напалеон знайшоў сабе тут каханку — пані Валеўскую, якая паходзіла з-пад Ловіча. Але ў нас і прыгажэйшыя за яе былі, і дагэтуль ёсць.

З касцёлу ўрачыста выходзіць працэсія. Звіняць званы. Людзі ў стракатых строях — ад старэйшых да тых, каго вязуць у дзіцячых вазках. Трапечуць на ветры харугвы. Грае аркестр. Навокал цэлыя воблакі кадзільнага дыму. Біскуп пад балдахінам і з пазалочанай манстранцыяй у руках, у якой віднее кавалак белага хлеба. «Хлеб стаўся на алтары Божым Целам», — тлумачыць мне як іншаземцу адна з бабуль, укленчваючы. Працэсія мае затрымацца па чарзе каля 4-ох алтароў, каля кожнага з якіх чытаецца ўрывак аднаго з 4-ох Евангелляў. Натоўпы стаяць паабапал вуліцы, пільна сочачы за ўдзельнікамі працэсіі.

— Глядзіце, там дзяўчаты са Славакіі, — паказвае нехта рукою. — Прыехалі да нас спецыяльна з Татраў.

Пстрыкаюць фотаапараты. Чуюцца розныя мовы, некаторыя з якіх распазнаць вельмі не лёгка. У каляровых строях — цэлыя сем'і. Традыцыйныя лавіцкія ўзоры нават на літургічных шатах святароў. «Ловіцкая княжна — Маці Божая», — віднеецца на некалькіх харугвах. Працэсія адыходзіць ад чарговага алтара, упрыгожанага маладымі дрэўцамі. Іх галінкі вернікі спяшаюцца абламаць.

— Навошта ломіце галінкі? — пытаюся.

— Не ведаю, — адказвае маладзён. — Я ўвогуле ў Бога не веру, але мае бацькі ламалі гэтыя дрэўцы, а перад гэтым мае дзяды, — і я ламаю.

Пасля працэсіі людзі разбрыдаюцца па горадзе. Шмат хто ідзе на пляц, на якім гандлююць рэгіянальнымі прадуктамі ды выступаюць мясцовыя калектывы.

— Мы ўрачыста ўручаем вам пашпарт Ловіцкага княства, — звяртаюцца да мяне дзве маладыя дзяўчыны.

— Вялікі дзякуй, а за што мне такі гонар?

— Сёння кожны турыст можа атрымаць гэты дакумент, які пацвярджае тытул «госця Ловіча», — тлумачаць мясцовыя жыхаркі.





▪ *Маладая жыхарка Ловіча мае строй ад бабулі. Фота Віктара Шукеловіча*

Пляц віруе людзьмі. Наўзбоч у цяньку прадае посцілкі, узорыстыя хусткі ды каляровыя спадніцы старэнькая бабуля.

— Вы самі робіце гэтыя рэчы? — пытаюся.

— Не, дзе там мне самой рабіць, застарая я ўжо, — адказвае з ветлівай усмешкай. — Гэта я некалі ў маладосці рабіла. Нешта мама мне мая пакінула. Вось маю хустку, якой больш за 50 гадоў і выглядае як новая, хоць ні разу не мытая. Даўнейшыя людзі шанавалі такія рэчы. Я прадаю, бо маім дзецям гэта не трэба. Яны жывуць у вёсцы, у іх іншыя густы. Як я памру, дык яны выкінуць ці спаляць.

— Дык гэта, можа, вашыя вясельныя рэчы?

— Не, я замуж пайшла за нялюбага, таму не зрабіла сабе строю.

На хвілю спадарыня замаўкае, прызадумваецца, разглядаецца па баках, але, пабачыўшы маю цікавасць, разгаворваецца:

— Мой кавалер павесіўся змоладу. Мы моцна кахаліся, але я была з незаможнай сям'і. Ягоныя бацькі былі супраць, каб ён мяне браў. Хлопец меўся пасля вяселля да мяне пераехаць. Ягоная сям'я не хацела адпускаць, бо не было б каму на гаспадарцы працаваць. Не ведаю, што яны яму казалі, як яго бэсцілі, калі ён са змовінаў вярнуўся… Але ён прапаў вечарам. Пайшоў бацька ў абору, а той вісіць на бэльцы. А хлопец быў высокі — ногі па зямлі шаруюцца.

Спадарыня зноў змаўкае, а на вачах у яе слёзы. Я прыпусціў галаву, разгублены яе нечаканай шчырасцю.

— Як я плакала, як я галасіла, — цягне далей бабуля. — Але бацькі не пусцілі мяне на пахаванне. Сказалі: «Як пойдзеш, то людзі будуць смяяцца. Будуць думаць, што праз цябе павесіўся». У мяне ногі потым адняло з нерваў, я хадзіць не магла. Мяне і маці нарачонага кляла, але потым ён ёй прысніўся і сказаў, што я невінаватая. Ён і мне сніўся — аднаго разу нібы завёў у пакой поўны кветак. Мяне ж сілком аддалі замуж за такога, што не гарыць і не тоне… Да работы ён не хінуўся, подлы быў, фальшывы. Надта я яго не любіла, мучылася з ім, цярпела. Але ён памёр. Я ж на магілку не да яго хаджу, а да таго, каго ў маладосці кахала. Толькі не на Дзяды хаджу ці на свята якое, а ў будні дзень, каб мяне ніхто не пабачыў, а то ж мне жыць не дадуць, смяяцца будуць.

Спадарыня зноў задумалася.

— Можаце пусціць маю гісторыю ў Беларусь, але ў Польшчы яе не публікуйце, бо мяне заядуць суседзі, — папрасіла старэнькая. — Можа, гэта будзе навукай для некаторых, каб не шукалі шчасця для дзяцей у грашах і багацці…

У сталай ксянжанкі задрыжэў голас, закалаціліся рукі. Гэтак Ловіч знаёміў мяне са сваёй гісторыяй.

Старыя хронікі пішуць, што некалі гэты горад дашчэнту абрабавалі ліцвіны. Цяпер жа я, нашчадак жыхароў Вялікага княства Літоўскага, пабываў там з мірам, а горад шчодра адарыў мяне памяццю сваіх людзей.






нарадзіўся ў 1982 годзе ў Лусцішках Ашмянскага раёна. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011). Апавяданні і эсэ друкаваліся ў газетах «Наша Ніва», «Новы Час», у двухмоўным часопісе «Echa Polesia», у віленскім квартальніку «Znad Wilii». «Шуканні» — гэта мастацкія нарысы пра тое, што здзівіла, упала ў вока, устрывожыла ці натхніла, гэта суб'ектыўная спроба глянуць на навакольны свет не стомленым вокам.



# Падарожжы

## Сяргей Астравец

### Афрыканскі бераг Еўропы

Салёны на смак і хрумсткі,
і жвір на зубах. Лансаротэ.

Якая палёгка! Прачнуцца і пачуць вецер, і зразумець, што сёння пакуль суха, шалёна не сцябае дажджом дах. І зрабіць гарбаты ў конаўцы english breakfast, Twinnings, і яна здасца такой смачнай! І распачаць слоік, канфітур з марэляў, і ўзяць з тостара шырокую лусту іспанскага хлеба, і пакласці на яго з вялікімі лакунамі маасдамэра. За сценкай хвілёва ўключыцца нягучна кран, зробіцца чамусь яшчэ больш утульна. І блізка нада мной будуць лятаць самалёты, а невысокія пальмы за акном магутна абмахвацца сваімі шырокі веерамі. І вецер усё ж будзе, але не гвалтоўны, трошку больш зямны, чым акіянскі.

Лансаротэ — востраў вясёлак. Мы ўпарта прабіваліся да яго скрозь фантастычных памераў і непамысных абрысаў снежныя вяршыні, якія абарочваліся падманам, міражамі, уявай зроку, а ўсё ж яны былі, існавалі, толькі што іх нельга было памацаць, каб нашаму капітану прыйшло на думку высунуць руку ў акенца, ён адчуў бы толькі холад і хіба мокры след на далоні.

Наш палёт нагадваў навакольным краявідам плаванне ветразёвага карабля ў арктычных лёдавых скалах, сярод якіх, побач з якімі каторы выглядаў малой неабароненай, уразлівай пасудзінай у царстве стыхіі — халоднай, бязмоўнай і абыякавай, якая можа вокамгненна зрабіцца гвалтоўнай і бязлітаснай.




▪ *Самалёт узлятае на фоне былога вулкана*

Але мы ў небе, мы ляцім «наўскасяк», на паўднёвы захад. І снежныя паветраныя горы часам расступаюцца, каб ты мог зазірнуць у стужню паміж імі, дзе дно — акіянская паверхня. Цёмныя і невыразныя, але паўсюль раскіданыя блёсткі, нібы срэбныя, што прыходзіць першым на думку. Ці можа аскепкі заморскага люстэрка? Што гэта

можа быць? Першай думкай — няўжо дахі раскіданых бязладна сям-там скопішчаў вясковых дамоў? Але ці такі гэта вялікі востраў? Бо мы ляцім, ляцім у снежна-белай паветранай краіне, хоць было абвешчана, што збіраемся londowac' і што на месцы плюс сямнаццаць і дождж. І якім жа ты быў наіўным…

Дык на чым мы спыніліся? Што мы ляцелі скрозь нагрувашчанне аблокаў, дзівосы клубоў дыму, што цягнуліся на сотні кіламетраў, сваімі гіганцкімі формамі і памерам сведчачы, што не дома, ты невядома дзе.

І аднойчы ты заўважыў цень вашага самалёта, які ўвесь час спазняўся, упарта рухаўся ніжэй па воблачных падушках.

І ў гэтай белі пачалі бязмоўна ўзнікаць вясёлкі. Адна, другая, трэцяя. Але паспяваў ты ўзняць фотаапарат, вясёлкі быццам не было. Але яна ўзнікала пазней, на тваіх вачах і знянацку, гульня амаль ў кошкі-мышкі. І нарэшце вы сапраўды знізіліся, і стала ясна да безнадзейнасці: пад вамі акіян, а блёсткі — бурунчыкі, белае хваляванне марской нівы. А мора, яно цёмнае, сумнае, таму здалося аднойчы, што гэта магла быць зямля.

Вы ляцелі нізка і доўга, здавалася рухавікі працуюць сцішана, але не было відно — куды сядаць. Нарэшце, справа паявілася суша, да берага было мусібыць кіламетр ці болей. Скопішчы белых квадратаў. І раптоўная вялікая дуга вясёлкі. У аблоках узнікаў перад вачыма толькі яе пасак, адрэзак.

Так, бераг недалёка, але мы ляцім кудысьці далей. І да вады рукой падаць, магчыма метраў сто, але напэўна ж не болей за дзвесце, бурунчыкі зусім перад вачыма. Ты бярэшся за фотаапарат, і вясёлка растае. Але ажывае зноў. Нібы дражніць, не хоча трапіць у фотакадр. Але працягвае спакушаць, гуляецца з табой.

Аднак вось мы ўжо сядаем, зрабіўшы правы разварот на 180… А яшчэ нядаўна здавалася каб жа не сесці ў ваду: занадта нізка і слабее наш рухавік, што часам лётчыкі яго ўзмацнялі.

Першы трохкутнічак сушы ў тваім акенцы фотаапарата. І мы сядаем як кот на ўсе лапы — як мае быць. Мы на Лансаротэ. І дождж кідае ў ілюмінатары прыгаршчы вады. І свеціць сонца, а за лётнішчам на адлегласці, паасобна, некалькі гор. Вялікія і незвычайныя. І вясёлка, вясёлка! Вялізная рознакаляровая дуга. І ззаду захопленыя галасы палякаў: «тэньча» (вясёлка)! І яна не знікае гэтым разам: фатаграфуй, калі ласка.

А раней. І пачынае здавацца, што мы вісім у паветры, мы нібы задумаліся, бо часам не заўважаць пачынаеш руху, а пад намі круціцца зямля, разам з акіянам і аблокамі над ім. Мы спыніліся, а яна спрабуе прышукаць нам кавалак сушы і месца для пасадкі.

Першы выхад на паветра: некалькі дзясяткаў метраў да праменаду і гвалтоўны прыступ залевы. І схаваўшыся за тоўсты камель пальмы назіраем, як міма спяшаюцца тыя, хто не падумаў хаця б пра парасон: у майках, шортах і в'етнамках на нагах. Прыступы дажджу будуць здарацца дзясяткі разоў, хто б падлічыў, у каго б хапіла цярплівасці!

Пазней мы сядзім у рэстарацыі, за вокнамі пальмы і статуя Буды, ці прынамсі вядомая індуская фігура, перад вачмі праменад і ён, акіян, які тут навокал. На стале вялікая талерка з піцай frutti de mare з расхіленымі ракавінамі з малюскамі. У другой, глыбокай талерцы гарачая паэлья, мы ўзялі на дваіх па поў-порцыі, папрасіўшы дадатковыя талеркі. Што-небудзь для піцця? Не-не, нічога, можа пазней. Што ж: мы не п'ём піва або віно, што звычайна замаўляецца ў такіх выпадках.






▪ *«Сонца Лансаротэ» у аэрапорце над макетам біясфернага запаведніка*

Прыступы дажджу, гвалтоўнага па-лансероцку, як прыступы настальгіі ці, наадварот, весялосці або раптоўнага смеху. Часам зусім кароткія, а бывае даволі працяглыя.

І гэтыя горы сярод акіяну штосьць дзіўнае, калі задумацца аб падмурках. Варта спусціць акіян, усю ваду, што мы ўбачым? Слупы з лавы, якія цягнуцца ўгору, да неба. Астравы —марскія ды акіянскія сталагміты. Рыхтык. З пальмамі на капелюшы. Ці на даху. Даволі прыгожа.

А мора тут пахне не ёдам, пахне рыбай. І толькі ёй. І вельмі смачна. Хаця якое ж гэта мора? Мой першы акіян, таму яго пахі мне былі незнаёмыя.

На Лансаротэ не бывае дажджоў. Напэўна словы гэтыя вынік позы: няма дажджоў, але мы выжываем. Аднак гэта няпраўда. Альбо нам собіла трапіць сюды, калі Бог дае напіцца востраву напоўніцу, будучы ў надзвычай лагодным настроі.

І пытанне: адкуль дождж? Адкуль бярэцца вада ў небе, каб вярнуцца ўдол, асвяжыць востраў? Так. Напэўна з акіяну, з якога бяруць жыхары Лансаротэ, каб зрабіць прэснай. Значыць, калі яна вяртаецца проста з неба, смак солі павінен прысутнічаць? Але дождж на Лансаротэ не салёны. Значыць неба ў сваёй кухні робіць тое ж самае, абыходзячыся без прылады для апраснення.

Нас спаткаў кіроўца мурын у гадах. Хутчэй зачыніць дзверы! Дождж пырснуў унутр! Маленькія пальмы ўздоўж дарогі і цёмная, насычаная вадою зямля. Першы раз бачу такую мокрую, жыццядайную нават з выгляду, трапляючы ў сонечную краіну.

У аэрапорце сустракаў Санта-Клаўс з мехам. Хацелася сказаць: не веру. Як звычайна ўсе кінуліся да паса, на якім некалі павінны выплыць чамаданы. Ён іх гіпнатызуе, яны не зваўважаюць нікога, хто не можа праз іх падступіцца, але каму таксама патрэбна злавіць свой. Не, існуюць толькі яны самі і пас, які яны ўчэпістым зрокам трымаюць «на мушцы».

Сёння месяц, як на дзень святога Губерта я знянацку адмовіўся ад кавы, што стала пачаткам ачышчэння арганізму ад шлакаў, адмовы ад ранейшых напояў і прадуктаў.

Сонца, сонца, сіняе неба. Белыя вялізныя аблокі, без іх ніяк.

Апынуцца на другім баку зямлі, на антыподах у снежні, дзе снежань — лета, такога са мной, думаю, не здарыцца. Як уявіць: занадта моцны шок геаграфічны. А вось амаль лета ў снежні і, лічы, у сваіх амаль мясцінах, у еўрапейскіх — гэта выдатнае здарэнне, першы такі досвед.

Экватар блізка,
значыць Месяц,
у постаці Маладзіка,
чуваць бадзёра ён
не будзе як у вашай
Беларусі.
Прылёгшы на баку
тутэйшы заклікае
усіх астатніх спаць.
А так бывае:
ляжыць нібы
гандола на вадзе,
ёй раўналежна.
Такому серпу-Месяцу
у Матагордзе
помнік. Хто
праплывае міма —
бачыць і згаджаецца:
нябесны сімвал
вось, што сведчыць
неабвержна — экватар
блізка, прынамсі
недалёка…

Першы дзень, 29 лістапада, свята дажджу. Няцяжка ўявіць тубыльцаў, якія, узняўшы да неба вочы, падставіўшы твары струменям, дзякуюць багам за ласку.

Але першае расчараванне: пасярэдзіне пакоя выцягнутая лужына. І паходжання не зразумець. Столь сухая. І ўспамінаецца вобмегам: хтось па-англійску скардзіцца ў рэцэпцыі на такую карціну ў сваім «бунгала».

Цяпер сяджу на пяску перад акіянам і чакаю поўнай ласкі з боку сонца. Хваля не напружваецца, але выяўляе старпраннасць. Воблачнасць прымушае быць цярплівым і чакаць. Сядаюць самалёт, не часта, але раз-пораз. Апошні толькі што — вінтавы, значыць з Іспаніі. Адкуль ляцець танна. Афармлены ў прыемным светла-зялёным колеры.

Злева, далей на ўсходзе — там, дзе Афрыка — ад хмараў цёмная смуга, як завеса да мора. Выглядае, што дождж.

І сонца прыходзіць з Афрыкі, так. З Сахары, але цяпер адпачывае, самае пякельнае сонца з Афрыкай паўднёвай цяпер у блізкіх адносінах.

Край свету тут,
на астравах з базальту,



Еўропы нашай любай
апошні бераг.

Так, а вада дома, на плітачнай падлозе, адкуль яна? Больш няма адкуль, як з задніх дзвярэй. А да іх два метры. Побач з лужынай шуфлік і вялікая шчотка. Кіраўніцтва да дзеяння. Бярэш і вымятаеш ваду замест смецця. У чатырохкутнік замкнёнага падворка.

Вы аднекуль вярнуліся або нават былі дома і чулі, як па даху сцябае дождж. Пасярэдзіне пакоя паяўляецца лужына. Як? Чаму? Шчотку ў рукі! Пакуль не адчыніў дзверы, убачыўшы, што з-пад іх наплывае. Вада цячэ па сцяне, затым па дзвярах і скрозь шчыліну трапляе ў пакой. Не хапае падстрэшка… Два цэлафанавыя пакеты, заторкнутыя ў шчыліну, ўратавалі.

А пальмы лашчаць калі вуліцай ідзеш, хоць лісце маюць шорсткае, не проста лісце, а веера нібы для фараонаў створаныя ў велічы сваёй амаль што боскай было сядзець на троне са знакамі ўлады неабмежаванай.

А хваля тут не мае звычкі набягаць на бераг. Яна ў стараннях па-іншаму сваю задачу выканаць, нетрывіяльна. На бераг нападае і спяшаецца ўправа, уздоўж яго. Як ланцуговая рэакцыя, як музыка нябачна перабягае ад калонкі да калонкі або з навушніка ў навушнік, калі ў рэжыме стэрэа.

На Лансаротэ дождж такая рэдкасць. На Лансеротэ дождж узнагарода. Вада як дар нябёсаў, не проста ўзятая са студні, з чэрава зямлі, нябачныя азёры дзе і рэкі, дзе з прэснаю вадою як з салёнаю у моры, дастатак. На Лансеротэ дождж як шчасце, але толькі для мясцовых, для астравіцян.

Імжачка лансероцкая — злёгку колкія кроплі, але каліігліца, то не сасны і не яліны, а вечназялёнага дрэва, з паўночнай колкасцю агульнага нічога.

Зіма на Лансаротэ час дажджоў (такія ўдакладненыя звесткі). З паловы снежня пачынаецца сезон звычайна. А сёлета дажджы прыйшлі раней. Канечне, іх чакалі. Але зусім не так. Як некалі. Калі пры кожным доме падземны існаваў рэзервуар. Куды стыхію бралі у палон, нябесную ваду трымалі беражліва, каб карыстацца пажадана да наступных прыступаў залевы. Калі ўлічыць — тры месяцы сезон дажджоў прыблізна, вады табе хапіць было павінна цягам дзевяці — вясну у квецені, адносную спякоту лета і цёплай восені прыемны час, але прыемны, калі ёсць вада. Яе ты не пазычыш у суседа як запалкі ці жмень-



▪ *У турыстычным бунгала-паселішчы ў Матагордзе*

ку солі. Вярнуць не зможаш хутка. А калі з'явіцца магчымасць, аднолькава багатыя вы будзеце часова на ваду.

Па-лансероцку бульба — звараная ў марской вадзе, салёная, само сабой, але салёная па-акіянску. У марской вадзе варылі ўсё — гародніну і рыбу, і мяса, на стале калі паявіцца зрэдчасу. А дажджавую пілі. На солі эканомілі, хоць гэта.

Ну што ты зробіш, калі суцэльная скала базальту востраў твой, твая радзіма. Хоць не пустыня, у якой здараюцца аазісы, цераз якую існуе магчымасць дабрацца да крыніцы, студні, а чым далей — глядзіш — ракі ці возера. А тут вады не можа быць, твой родны востраў зроблены вулканам, народжаны агнём. Агонь, паветра: суша. Яна паўстала з вадкай магмы, тэмпературна цяжка уявіць. У падземнай у Гефеста кузні агонь — патрэба, рэчыва і змест жыцця. Бывае горш, як атрымаюцца высокія ці проста скалы ў хаатычным нагрувашчанні, а калі горы ў моры — значыць астравы. Вада навокал — калі ласка.

Па вулканічных мастацтвах,
даты якіх не захаваліся,
у хроніках, апроч самых
апошніх, ты пачынаеш
разумець: была папросту
лава, базальт сягоння
чорны, і шумавінне,
цяпер мажджэрыстыя
камяні, якія важаць
меней, бо ў іх паветра.
Хаця магу я памыляцца.

Такая суша як на Лансаротэ — шакуючы вока краявід, дзе чорная паверхня не азначае жыццядайны чарназём, хутчэй яна не будзе глебай, а вулканічным грунтам — здрабнелая мажджэрыстая пена з-пад зямлі, якую час і вецер раскрышылі. Але яна патрэбна у гародах і садах. Дождж захаваць не здатны тонкі слой зямлі, якой за доўгія стагоддзі далі быць зямлёй. Але тады які разлік на ўраджай? Дадумаўся гауча, канарскіх астравоў тубылец, здрабнелай чорнай лавай пасыпаць свае гароды, каб дождж не выпараўся, каб вільгаць захаваць у зямлі. А значыць будзе на стале віно, не толькі дыстылят з мяхоў нябесных. І можна вымысліць мальвазію, палюбіцца якая падданым караля ці каралевы з Таўэра, якія прыплывуць на караблях аднойчы і бочкі купяць поўныя скупой лазы стварэння, якая сціпла пладаносіць на чорных скальных берагах.

Старой была сталіцай вострава маленькая сягоння Тэгуіза. Там васямнаццаць год як атабарыўся, пакінуўшы ў жыцці мінулым Польшчу, Яцэк. Варшава, Гданьск і Кракаў усё больш на адпачынак прысылаюць сваіх людзей, і Яцэк мае хлеб, вядома, выпеканы на Тэнерыфе ці ў мясцовай печцы за рогам у Хасэ, кандытара і пекара, у якога можна выпіць кавы па-канарску. Не ў кубачку, у шклянцы: на дне згушчонка, потым кава, затым успененае ў апараце малако, закіпячонае ўперад. Такая кава ў час зімовы цябе сугрэе не горш ад порта. Такую любіць Яцэк. Ён сустракае землякоў палякаў, каб востраў паказаць, ён гід «польскоензычны», такі прыемны хлеб цяпер ён мае.



Старая Тэгуіза любіць наракаць. Хаця цяпер спакойнае жыццё знайшла. Ніякага начальства, разразання стужак, ключоў ад горада на плюшавай падушцы, трыбуны, мікрафона — тым больш. Сягоння Тэгуіза сніць старыя сны. Не порт, не мела караблёў, за штормам назірала са свайго ўзвышша за восем кіламетраў ці прыблізна так. Вясёлы чэрап Роджэр на краявідзе акіянскім паяўляўся калі яго найменш чакалі. Рыбацкіх вёсак скарб быў небагаты. Піраты не любілі сухапуцця, але прыцягвала Тэгуіза іх. Стагнала, але мусіла скарыцца, супраць рабункаў адзіны сродак — шабля і стрэльба... 

Іспанія аднойчы стала валадарыць на Лансаротэ і Канарскіх астравах. У Тэгуізэ вырасла фартэцыя. Калі піраты прыплывалі, варта папярэджвала жыхароў. Забраўшы скарб яны ўцякалі ў горныя пячоры. Рабаўнікоў марскіх раз'ятрыла няўдача. Напад наступны зроблены быў ноччу. Піраты не пакінуць каменя на камні хацелі і пачалі бурыць дамы. Іспанскі гарнізон сядзеў у замкнёнай цвержы. Сталіцу вострава не здолелі піраты зруйнаваць, але пашкодзілі. Але старыя камяні ляжалі ў межах горада і былі выкарыстаны зноў для сцен, і Тэгуіза межаў не змяніла, працягвала жыць на сваім месцы, на вачах фартэцыі і пад яе прыглядам.

Паводле Яцэка, хоць невялікі горад, але вядома старадаўні. Іспанская каланіяльная архітэктура. Адным дамам па 280 год, астатнія пазней пабудаваны, і захаваўся больш стары адзін, пастаўлены раней чым за 400 гадоў таму. Вось гэта сцены!

Экватар блізка, не ацяпляць дамы магчымасць. Калі сыходзіць сонца з неба і падае тэмпература, як адбываецца прыблізна і ў Сахары, але не так фатальна, у сценах вільгаць канцэнтруецца, і вохкія прасціны, і кашулі ў шафе. Змагацца з гэтым як? У дамах у жыхароў на Лансаротэ камін абавязкова, тады цяпло і суха, і ўтульней. Апроч таго, як мовіў Яцэк, ён мае электрычны зборнік вільгаці, за суткі, калі веры даць, да дзесяці-дванаццаці выцягвае літраў з паветра дома, вады, якая больш нічога не каштуе як даўней было ў бязводныя часы. Бесперапынна сёння аддзяляюць соль ад $H_2O$, з вадой праблем ніякіх, няхай не існуе на Лансаротэ падземных свідравін, галоўнае цяпер энергія. На дахах сонечныя батарэі, а на высокіх месцах ветракі. Дамашняя на Лансаротэ электрычнасць, не трэба нафты і вугалю, пераканаы Яцэк, настроены экалагічна. Што праўда, ён выходзіць не ў самое Тэгуізе, на ўзвышшы, а «ля мора», у маленькай Тэгуізе Коста, былой рыбацкай вёсцы, дзе дамы каменныя як мае быць, бо не існуюць з дрэва на Лансаротэ-востраве. У адным з такім, ён сам казаў, да столі кніжкі польскія, што тычыцца распяцця, некалі абавязковага, цяпер я не ўпэўнены бадай наконт яго, вядома, здымкі на сцяне, алейная карціна. І нотбук, трымаць у абсягу падарожныя бюро, і блог таксама не ў куту апошнім, сваю старонку ў інтэрнэце запаўняе Яцэк на польскай мове: свае ўражанні, парады і прапанову скарыстаць з яго паслугі.

Каб у часы былыя, Лансаротэ ўсе караблі мог забяспечыць сваёй вадою, пітной зрабіцца фабрыкай сярод адсутнасці, вядома, пітных крыніц.

Такія астравы як гэтыя Канары, палохаюць, але таксама захапляюць, не без таго. І чуткі выклікаюць. Забабоны, казкі і легенды таксама «іхніх справа рук». Калі ўзнікаюць з акіяну астравы, абавязкова знойдуцца такія, хто бачыў нейкі новы, яшчэ нікім не бачаны, якога ні на воднай капітанскай мапе не было, зямлю, якая не належала ніколі ні кароне партугальскай, ні іспанскай, каронам іншым пагатоў.

Якія дахі белыя і гладкія! Уражанне такое, што пафарбаваны, не пабелены, блішчаць паколькі ў сонечным святле. Найменей дах такі прыцягваць будзе сонца. Паверхняй гладкай дажджавыя рагі сцякаць павінны былі ідэальна у вадасховішча пад домам. Таму дахоўка на Канарах, што нечакана, рэдка сустракаецца. Дахоўку мог сабе дазволіць той, хто мог купіць ваду. А прадавец вады — занятак больш выгодны быў, чым прадавец віна. Што ў іншых вінаробных месцах магло гучаць як жарт.

Тут мне ўзгадаўся Яцэк зноў. Ён выйшаў у Тэгуізе Коста. Але насамрэч такой рыбацкай вёскі не было, прынамсі у апошнія часы. Бо гэта назва турыстычнага паселішча, пабудаванага з нуля. Плюс аквапарк. Хаця на мапах першых магла такая існаваць, ды сцёрта была часам. Ён выйшаў, бо старая Тэгуіза была направа, а наш аўтобус рухаў у Арэсіфэ, было не па дарозе нам. Няхай вяртаецца да польскіх кніжак і да сваіх успамінаў пра Ясную гару, пра мол у Сопаце, які палякі любяць, пра статую хвастатую Сірэны, вядома: круглы шчыт і меч у руках.

З вадой хоць вырашана раз і назаўсёды, вырошчваць садавіну і гародніну — прыемнасць дарагая. Гатунак свой бананаў — маленькія, салодкія, канарскія. Але Брусель датацый больш не даў, бананаў не бракуе ў свеце. А памідоры ўзяць, свой асаблівы смак, але гатэлі не бяруць, ім выгадней купляць іспанскія, з мацерыка… Вады цяпер хапае, але да кожнай пальмы, каб прынялася, не засохла, да кактуса асобнага, да кожнае расліны падаецца па чорных гнуткіх шлангах яна, вада, якой сягоння не бракуе. Аднак паліў такі каштуе, а Брусель плаціць не хоча: рай турыстычны сам сябе ўтрымліваць павінен.

Арэсіфэ не ўразіла. Затока з пляжам гарадскім і «шклянка» з адзінаццаці паверхаў — адзіны дом высотны на востраве, а болей не дазволіў Сэзар Манрыке, змагар за натуральны краявід, мастак, мясцовая славутасць, найбольш вядомы ў свеце ўраджэнец Лансаротэ. І вуліца ўздоўж берага, забудаваная стагоддзе перад тым. Будынак гарадской адміністрацыі ў каланіяльным стылі. Сумная статуя далей і гонкая яліна, складзена з каменьчыкаў. У наваколлі пальмаў выглядае экзатычна. За набярэжнай вуліцаю захавалася старая забудова, уразіла якая замкнёнымі дзвярыма кавярняў, сваёй бязлюднасцю, маркотнаю адсутнасцю сваёй. У галаве ўзніклі творы Маркеса. Хаця была нядзеля, хаця яшчэ магла не скончыцца сіеста. Ды што з таго, раз горад ціснуў і выклікаў дэпрэсію? У даведніку была на набярэжнай рэстарацыя названа, якую раілі наведаць. Але кароткім лёс бывае нат у самых лепшых: старая шыльда са сцяны засмучана паведамляла, што так, была калісь такая рэстарацыя. Вышэй вялікім шрыфтам назва новая была адбіта на сцяне рэкламна — не заўважыць немагчыма. Але, але гуляў скрозь залу вецер, два столікі былі занятыя ўсяго. Але парушыць давялося правіла: там не сядаць, дзе не сядзіць ніхто. Былая слава знікла, у гэтым месцы больш ніхто абедаць не хацеў. І столікі на вуліцы суцэльна пуставалі. Меню разгорнутае не прыцягвала вочы. І мінакі нячастыя глядзелі з подзівам на вас і нават тыя, хто праязджаў у машыне. Ну добра, ды няхай, але нядрэнную праз паўгадзіны паставілі на стол паэлью, што азначала: што сапраўды яе прыгатавалі толькі што. У ракаўках растуленых малюскі чакалі відэльца і нажа. А за акном стаяў той сумны чалавек на пастаменце, далей, сярод вады, вялізныя з адлегласці гарматы на фоне невялікай побач з імі цвержы.



На жаль, ужо сутонне і пункт апошні — цвержа — робіцца цямнейшай у фарбе неба. Гарматы сапраўды буйныя і колы вышынёю ў чалавека рост, і здымкі толькі з дапамогай успышкі. Гарматы, цвержа, Арэсіфэ.

А Канчыта, як жа Канчыта?
Не напісаць аб ёй? Чаму?
Навошта? Абавязкова
трэба напісаць!
Канчыта, так умоўна мы яе
назвалі, кіруе «тройкай»,
курсіруе яна паміж
сталіцай і слаўнай пляжамі
сваімі Пуэрта дэль Кармэн.

Паколькі ў Арэсіфэ мы пайшлі
ўздоўж водаў акіяну,
усе 10 ці 12 кіламетраў,
то разгубіліся калі прыйшоў
аўтобус і назвалі той дэль Кармэн,
не разумеючы, што Матагорда
не яе раён, асобнае мястэчка,
(яны папросту злучаны паміж сабой),
не ведаючы, што мноства
існуе прыпынкаў, а Матагорда —
наш. Праехалі яго.

Дык што Канчыта? Яна была
зухавай «woman-bus»,
з кароткай стрыжкай
і доўгай пасмай над чалом,
пафарбаванай у тульпанны
колер. Скрозь цемру мы ляцелі,
сусветы скрозь гандлёвых гмахаў,
аэрапорт застаўся збоку, адляцеў,
нас паглынула цемра, але на хвіліну,
і знікла Матагорда, зграмаджанні
дамкоў як наш, цяпер нябачных,
хоць і белых. На дахах зырка сваім агнём
прапальвалі цемру неба гатэляў шыльды.
Мы выскачылі да вады і хутка ехалі
ўздоўж пляжа і раптам вочы асляпілі
рэкламы крам і рэстаранаў, жыццё
начное як маскарад здзіўляла вочы
плойммамі людскімі.

Не Матагорда тут, па вечарах
спакойная, пустая, на набярэжнай
ні душы. За вулічнымі столікамі
позняя вячэра ў Пуэрта дэль Кармэн,

ляжалі на талерках сотні піц,
тунец і васьміногі, крэветкі
і лангусты, паэлья пажыралася,
рызота і паста італьяна,
а рукі, разняволена ці прагна,
трымалі келіхі, і шклянкі,
і куфлі з півам. А нехта выбраў
каву перад сном.

Ну, а Канчыта гнала, гнала
свой аўтобус спрытна: на вузкіх
месцах, паваротах рэзкіх
і пагорках. У душы сваёй
нястрымнай гоншчыцай была яна,
Канчыта. Мы двойчы яшчэ
бачылі яе, яна пазнала нас.

Апошні дзень на востраве. Начны самалёт, але цяпер толькі поўдзень, бывай бунгала. Ну што ж: апошні раз у Арэсіфэ, другі кастыльё чакае, чаму б не пастукаць у браму? Няўбачаны замак будзе падспудна хваляваць потым, дома.

Праехаць скрайняй вуліцай, міма шыкоўных фасадаў новазбудаваных дамоў з апартаментамі і далей — уздоўж аднапавярховых доўгіх сцен з дзвярыма і вокнамі —традыцыйнае жытло для незаможных тут ці ў Лацінскай Амерыцы, на другім баку акіяна. А потым доўгія пакгаўзы. Паміж імі прайсці ў бок вады, порта. З сумневам да апошняй хвіліны: і ў такім кастыльё месцы будзе? Ці не памылка зроблена на мапе?

Але кастыльё існаваў напраўду. Як ні дзіўна. З акіянскага боку яго абступіў порт. Вялікія грузавыя асверы, вялізныя стосы кантэйнераў. І маленькая архаічная цацка. Двухпавярховая старая пабудова з вежачкамі. За ўваход чатыры еўра.

А за дзвярыма ты быццам трапляеш у сутарэнні. Змрочныя цёмныя сцены, скляпеністая столь, пад ёю невялікія закратаваныя вокны. Галерэя ўнутры. Абстракцыйныя палотны. Спадкаемцаў тых пачынальнікаў, што з гучнымі імёнамі, Міро ды іншых, але, вядома, значна менш арыгінальных.



▪ *Другі, большы, кастыльё ў Арэсіфэ*

Другі паверх, уласна кажучы пляцоўка на паветры, за сценамі якой трымалі абарону калі здаралася аблога. У цесных вежачках з байніцамі не павярнуцца, не выглядае, што ваяваць у іх было спадручна (прычым на мне адсутнічаюць латы). У адной дзве круглыя палонкі побач, з краткамі цяпер. Гаршкі для абаронцаў. Або для варты, якой няможна службы пакідаць.

Абавязкова ёсць і сутарэнні. Ужо лягчэй, бо новыя карціны і магчымасць нешта разабраць. Шпалера калажоў, з паўторам у кожным дзіўны здымак. Вельмі стары жаночы твар. І вельмі прыстальныя вочы. Яна нагадвае смерць. А побач (вось блюзнерства, прамовіў бы святар на маім месцы) «плашчаніца»: і нечаканы шкілет без твару (не кажу — без чэрапа, бо ўсім вядома ў чым адметнасць плашчаніцы). Мастак не верыць, што твар выразна мог адбіцца на радне, ён палічыў, што плоць сатлела, і засталіся косткі як вядома. Нічога больш.

Ну што ж, а з сутарэнняў ход ніжэй, нібы у лёхі. Але ж не: там гамана і бразгат шклянак. І штось святочнае чуваць з тых лёхаў. Не забывайма, што сягоння дзень святога Мікалая, калі, канечне, гэта нешта значыць тут.

Ніякіх лёхаў тут няма. А ёсць рэстарацыя з шырокім аглядам: уздоўж прычалу грузавога крылом сваім рашуча рэжа яхта сіневу. Мясцовая сямейная ўрачыстасць. Дзясяткі сваякоў. Дамы пад капелюшамі. Мноства дзяцей. Усе з усімі абдымаюцца, пацалункі, выгукі, кампліменты. Келіхі. Віно за дваццаць еўра. Але не ежа. Меню недарагое, хоць у фартэцыі, але каторай собіла трапіць да чорта на рогі. Недарагія стравы, гайда сюды спадарства!

Якія капелюшы, якая вытанчанасць у адзенні і касметычны густ. Яны трымалі ў галаве свой ідэал, узор для пераймання. Крыстыну дэ Бурбон, прынцэсу. Так-так, сястру маладога караля Філіпэ і дачку старога — Хуана Карласа. Яе нядаўна выклікалі на сапраўдны допыт, ах, як шкада! У суд таксама астравоў, ды іншых — Балеарскіх. Каб задаць пытанні наконт справункаў мужа. Яго падазраюць у фінансавым махлярстве, а яна, вядома, жонка, блізкі чалавек. Раней ужо зрабіла следства важную выснову, што ёй было вядома, чым займаецца сужэнец… Ах, як шкада прынцэсу!

Ёй 48, але як іберыйская сіньёра, прынцэса выглядае, як на мяне, бадай старэйшай. А можа так здаецца толькі мне, што ведаць я магу аб прыгажосці у краіне «маўраў, хрысціян, габрэяў»? Хасэ Каміла Сэла пра якую так сказаў. Які яе партрэт? Краіна палымянага фламенка? Вядома, бой быкоў. Народ з крывавым захапленнем. І плюс яшчэ з нагружанымі каравеламі забраным золатам у інкаў і ацтэкаў. У гісторыі. І з Дон Кіхотам.

Іспанская прынцэса. Медзяная фарба валасоў сярэдняй даўжыні. Іх расчасала на прабор. А вочы карыя. Шырокая ўсмешка. Прыемная і абаяльная. Але крыху разгубленая з выгляду, бо яна, прынцэса, была названая судом падазраванай. Інфанта! І зморшчыны таксама, зморшчыны! Ах, як шкада. І лоб. І пад вачыма. Але затое яна жывы чалавек, не гэтыя штучныя твары ад хірурга.

Што ж, зблізку назіраць астравіцян цікава, але вяртацца час.

Дарога ў горад, праз порт міма пакгаўзаў, трапляюцца сціплыя таверны для партовых рабочых. Старая забудова. Знянацку людное месца: затока з мостам, уздоўж яе некалькі вулічных рэстаранчыкаў, запоўненых публікай. Нібы кадры з кінафільма.

Белагаловы гладкі купал як паголены голаў. Пазелянелыя званы выклікаюць міжвольную думку: ці яны ў рабоце? Але з другога боку званіцы цыферблат і, падобна, стрэлкі рухаюцца. Унутры прыглушаны запіс каталіцкіх спеваў і амаль цёмна. Прысесці і памаўчаць. У алтарнай частцы вялікае распяцце на барвовым тле, быццам тут

Хрыста спалілі. Ці ён канаў на фоне пажару.

Месца храма пастаяннае. Тлумачэнне на трох мовах: у 1574-м паставілі капліцу (у англійскім тэксце істотная памылка з годам — 1954). У наступным веку была аднойчы вада сцяной высокай, што капліцу проста змыла ў акіян. І нехта, калі сышла паводка, знайшоў толькі абраз Святога Пётры. То выбухі вулканаў, то наступае акіян — жыццё не слодычы!



▪ *Невялікі маяк у порце Арэсіфэ*

Вокнамі амаль на касцёл кавярня «Маленькі прынц» з вядомай выявай хлопчыка з малюнка самога Сент-Экзюпеory… Але гэтая згадка хіба выпінаецца з тэксту. Як жа яе лепей прыладкаваць? Скажу тады, што ў такіх месцах, на адарваных кавалках сушы лепей адчуваеш крохкасць нашага свету і больш цэніш ружы, калі ім даюць жыццё на чорнай вулканічнай паверхні, штучным палівам.

У Фэрнанда Пэсоа ёсць верш, у якім падае дождж, а ў касцёле ідзе імша і «у даждждзы запальваюцца свечкі». Нібы тут, у Арэсіфэ. А ёсць такі, дзе стары карабель, больш старажытны чым порт, падплывае да яго і «ускалыхнуўшы маю душу, на другі яе бераг плыве», напісаў некалі Пэсоа. У Арэсіфэ ляжыць падняты са дна шкілет старога драўлянага карабля. Маркотны выгляд «драбаў» выклікае ў памяці радкі з Вольфганга Борхерта, нямецкага паэта:

«Мне б стаяць маяком
і свяціць у імгле
валацугам марскім
і пужлівым
у глыбінях рыбам,
але караблём я быў,
аднойчы загінуў які».

Але я бачыў на Лансаротэ толькі адзін маяк, ліхтарню, як любіла гаварыць некалі адна старая беларуска, якая жыла ў віленскім лесе. Хутчэй гэта быў помнік маяку. Крыху пахілены, вышынёю не больш за восем метраў, калі лічыць з мальтыйскім крыжам на купале, быццам гэта званіца. Але нават крыж трымаўся наўскасяк: не думай, маяк не сапраўдны. Няхай так, але ён быў вельмі прыгожы. Аднойчы з цеплаходам турыстычным у Арэсіфэ-порце пабываў Высоцкі, кумір з гітарай некалі, яму тут спадабалася. Магчыма бачыў і маяк.

Дзве бязмоўныя чайкі
ці мэвы, калі вам болей
даспадобы, стаяць на камні
побач. Праходзяць міма
хадакі, аматары шпацыраваць
уздоўж водаў акіяну,
трапляюцца і бегуны,
трушком слядамі ног
берагавое лініі выгіны
паўтараюць. Абавязкова
знойдзецца такі, хто
спыніцца, каб зблізку
з іх зрабіць паштоўку,
забраць сабе на памяць
дзвюх нерухомых чаек.
Яны нібы ператварыліся
у помнік, які не рэагуе
на фотаздымку.
Бывае акіяну заманецца,
і камень той апынецца
ў вадзе, што блізка
не падыдзеш.



Азмрочыць дні на Лансаротэ магла мая раптоўная адмова ад кавы і віна, мой арганізм на іх паставіў крыж. Такое было цяжка ўявіць абстрактна, але аднойчы здарылася так. У лістападзе менавіта, у канцы якога я ўбачыў вулканічны востраў… Ні разу не замовіць келіх, не купіць бутэлькі, хоць штопар вось ён, калі ласка, у шуфлядзе ў бунгала. Незразумела, крыўдна. Ды паўтаруся зноў: абстрактна толькі. Віно не выклікае больш пачуццяў, кропка. І толькі думка машынальна фіксуе новы стан.

І шэрагі віна,
і пачкі кавы,
любімай некалі.
Слізгае абыякава,
не заўважае погляд,
няма ў ім месца
для налепак, назваў,
язык забыўся смак,
не хоча больш яго,
і страўнік не адчуе
болей кавы і віна.

Пачатак акіянскай ночы. Самалёт разганяецца і завісае ў чарнаце над прыбярэжнымі водамі. Мы ўсё вышэй, яшчэ хвіліна-другая і кладземся на левы курс. А ў ілюмінатары берагавы абрыс пазначаны ў цемры россыпам жарынак. І зусім блізка з вышыні наступны вялікі востраў, які зіхацяць сваімі. Але нечаканасць: паміж імі нібы яшчэ адзін, невялікі востраў, цалкам апанаваны светлякамі. Хутчэй нейкае мястэчка, але выглядае з неба менавіта на асобны востраў, мабыць, дзе бесклапотнае жыццё і ў вулічных рэстарацыях афіцыянты не паспяваюць прыносіць новыя стравы і дзе, скажам, разліваючы шампанскае па келіхах, успамінаюць добрым словам святога Мікалая. А мы ў небе ў руках капітана Сэбасцьяна Левандоўскага. Застаецца толь-

кі надзьмуць падушку. Аднак, чакай, тут жа Санта-Клаўс напэўна, а ці адзначаюць яго дзень 6 снежня — пытанне. Хаця Яцэк прынамсі, думаю, што адзначае. Конча. Успамінаючы вялізную святочную яліну на пляцы паміж калонай Жыгімонта і Каралеўскім палацам, апошнім гаспадаром якога быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, наш чалавек з Новага замка.

Чорт з віламі — эмблема Лансаротэ, што азначае менавіта — што заўгодна можа здарыцца з такой зямлёю, якая можа згінуць так прыблізна, як некалі паўстала.

Базальт, базальт, ізноў базальт
Як крэмень наш, як скалка.
(У шахтах краснасельскіх,
дзе здабываў яе для працы
і для зброі наш далёкі продак).
Замест зямлі крамнёвая паверхня
і кветка кактуса на ёй як успышка.
Больш даўгавечная,
чым проста кветка.
На Лансаротэ так, у акіяне,
дзе іншай не прадбачыцца зямлі.

Загадкавае слова Тэгуізэ —
імя дачкі мясцовага правадыра,
яе канкістадор пашлюбіў.
Але не стаў шчаслівым лёс
мясцовых гуаначаў. Гісторыя
на шыі заціскала пальцы.

У адкрытую Амерыку Калумбам,
вядомую спачатку як Вест-Індыя,
у калодках рабскіх у жахлівых
трумах, якія трумнамі былі нярэдка,
паплылі схопленыя гуаначы,
каб смерць сваю знайсці за акіянам,
здаралася ў руках з мачэтэ —
пад скварам сонца кантынента,
усе сокі высмактаць якога
пастанавілі дзве кароны —
Мадрыд і Лісабон, трымаючы
ў кішэні булу Папы.
Сярод цукровых трыснягоў
чакала гуаначаў смерць.
На Лансаротэ засталося
толькі трыста.

А рамантычную гісторыю, па першым толькі часе зразумела, ператварылі у кіно. У 54-м годзе. Канкістадорам-жаніхом у ім аказаўся малады Марчэла Мастраяні, прыгажун. А назва фільма — «Канарская прынцэса».



Перад нашым прылётам на ўсход ад Лансаротэ правяралі нафту на глыбіні тры кіламетры. Якраз у лістападзе. І знойдзена была, але адмовіліся ад здабычы. Занадта плыткія паклады, немэтазгодна. Віцэ-прэм'ер Іспаніі Сарая Саенс дэ Сантамарыя нязгоду выказала: шукаць трэба далей. Урад дазволіў, дык шукайце. На Лансаротэ не хацелі нафтаздабычы побач. І выйгралі жыхары, а не ўрад. Свабодна могуць плаваць надалей у тых водах кіты і чарапахі, аб чым прасіў Greenpeace.

Мне засталося толькі напісаць пра свой сюжэт, прадуманы ў Матагордзе. Сюжэт безнадзейны. Канец грамадзянскай вайны. У Алікантэ тысячы людзей чакаюць эвакуацыі. Гэта ўцёкі, якім не ажыццявіцца. Абяцаны карабель не прыйшоў. Але прыйшлі фалангісты.

Яму ўдалося схавацца ў доках, яго не знайшлі, яму пашанцавала, не так як іншым. Страх быць упаляваным штурхае яго на грузавое судна. Пракрасціся, залезці ў трум. Яму невядома, хутчэй за ўсё невядома, куды яно пойдзе.

Ён апынаецца на адным з Канарскіх астравоў. Недзе існуюць пячоры. Ці павінны існаваць. Схавацца існуе магчымасць, няхай хісткая. Але няма вады. Як выжыць?! Смага штурхае цябе да людзей. Насцярожаных, у душы спалоханых. Ты для іх ніхто. Чаму яны павінны ратаваць цябе? Калі вядома ім, што рызыкуюць. Жыццём сваім і блізкіх.

Што вынікае? Што выйсце існуе адно: пайсці і здацца. Каб ацалець. Але не толькі: гэта азначае даставіць радасць катам. І сабе пакуты. «Каб мне быць рыбінай марской. Ці птушкай альбатросам...» Канец уяўнага апавядання.

Сапраўдная гісторыя была такой. Хасэ Мігель Пэрэс Пэрэс, настаўнік школьны, стаў выпускаць на астравах газету пад назваю «Спартак», затым стварыў кампартыю Канарскіх астравоў, яна так называлася. А неўзабаве здарылася грамадзянская вайна. А напачатку змова, мяцеж палкоўнікаў і генералаў. Хасэ Мігель арганізуе на Ла-Пальме супраціў, «чырвоны тыдзень». І хочацца сказаць: gloria victis! Ён схоплены і расстраляны на суседнім Тэнерыфэ, і многія героі з ім.

Якая няўдача: у 36-м на Канары высылаюць чым далей з Мадрыда малога росту генерала Франка. Але кіруе ён на астравах іспанскай арміяй, якая хутка здушыць супраціў рэспубліканцаў. 17 ліпеня прыбудзе ён на самалёце з Гран-Канарыі ў Марока, каб узначаліць мараканскія палкі, падняць мяцеж супраць рэспублікі. Пачаў ён з астравоў, Іспанія была наперадзе. Астатняе вядома.

На Лансаротэ не вада, агонь
у зямлі, няма патрэбы у запалках.
(Агонь астыць ёй не дае
ад прахалодных акіяна хваляў).
Зямля, якая астываць не любіць,
гатова печчу быць, калі ў кухара
ў парадку нервы. Здабыча солі —
лансароцкае рамёства.
Агонь і соль. Калі насыпаць
на патэльню, пачуеш трэскат.
Мой асабісты вобраз Лансаротэ —
пражаная соль, якая на патэльні:

як соль зямлі, хаця зямлёй
яе назваць складана. Хоць чорная,
не чарназём.

У школьныя часы, яшчэ ў ГДР, я набыў вельмі ўдалы набор паштовых марак, я іх вельмі любіў: калоніі Іспаніі. Назвы як гучалі! Фэрнанда По, Іспанская Гвінея, Іфні, Іспанская Сахара. І на некаторых быў партрэт непрыемнага мужчыны з адметнымі вусамі, з напамажанай прычоскай. Мне было вядома, што гэта Франка, яго я не любіў. Я быў за Рэспубліку. Памятаю адну карычневую марку: барханы, слаістае неба, сядзяць тры берберскія постаці, генеральскі партрэт справа.

**П**розу піша з 1984-га, пачынаў у начной рэдакцыі ў абласной друкарні на Паліграфістаў. Першая публікацыя — у зборніку «Тутэйшыя». Напісаў раман «Багуславія» (2014).






# Друкарскі варштат

## Чалавек рэдкай прафесіі — незалежны выдавец

Калісьці продкі гродзенца Аляксандра Рыжага марылі пра Парыж. Ён вырашыў абмежавацца Берлінам. Але спачатку, стаўшы ў 22 гады юрыстам, трапіў следчым у міліцыю, меў па трыццаць крымінальных спраў у сейфе. Райаддзел быў у камяніцы 1909 года, адной з самых адметных. Гэта быў цікавы час, кажа Аляксандр, 1993–1994 гады. Але сказаў сабе аднойчы: досыць. Пайшоў юрыстам на тэлебачанне, тады беларускамоўнае. У пэўным сэнсе гэта быў штуршок да выдавецкіх спраў, як ён сам цяпер разумее.



▪ *А. Рыжы*

Аднак зноў захацелася змяніць месца працы. Амаль год быў у Нямеччыне хаўсмайстрам, але ў фірме, якая займалася паліграфіяй і інтэрнэт-рэкламай. Праца ў цэнтры Берліна, у «mitte», на Аляксандэр-пляц… Меў жаданне застацца ў Нямеччыне. Хацеў перавезці сям'ю, але ўсё ўзважыў і раздумаў, вырашыў, што лепей жыць дома, у Гродне.

Вярнуўшыся, знайшоў выдаўца Іллю Мельнікава. Займаліся выпускам так званай «макулатуры», брашурак для абітурыентаў выпускалі за курс сярэдняй школы. Офіс у Мінску, друк у Расіі, распаўсюджванне па Беларусі, даволі вялікія наклады. Потым была праца ў выдавецкім цэнтры ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Пяць гадоў таму разам з Юрыем Мілеўскім заснавалі выдавецкае ТАА «ЮрСаПрынт», прадпрыемства «Юры і Сашы».

## Кнігі

Мы размаўляем з Аляксандрам Рыжым ў памяшканні «ЮрСаПрынт» у падворку на К. Маркса, 11. Гэта ў гістарычнай забудове, вуліца адна са старэйшых у горадзе. Калі выйсці на падворак, за дахамі ўбачыш гмах катэдральнага, былога езуіцкага касцёла XVII стагоддзя, ён на другім баку вуліцы. Гаспадар таксама карыстаецца беларускай мовай. Яму падабаецца працаваць у такім месцы, дзе ўсё дыхае гісторыяй.

«Супольнік Юры Мілеўскі, таксама цікавіцца гісторыяй, гаворыць Аляксандр: — Я лічу, калі працаваць у маім выдавецтве і не цікавіцца гісторыяй, ніякай працы з гэта-




▪ *Кнігі выдавецтва «ЮрСаПрынт»*

га не будзе». Нейкі час напачатку працавалі ў Мілеўскага дома, прызнаецца Рыжы. Штуршком да выдання кніжак пра Гродна стала сустрэча з гісторыкам архітэктуры Ігарам Трусавым. Той адразу прапанаваў выдаць іх некалькі: пра Каложскую царкву, гісторыю гродзенскіх мастоў і прыгарадныя рэзідэнцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Калі на першую прэзентацыю прыйшло столькі людзей, што не было дзе сесці, Рыжы пераканаўся, што варта гэта рабіць: гродзенцы хочуць ведаць пра свой горад усё.

Неўзабаве звярнуўся сам краязнаўца Віктар Саяпін, з ім адразу зрабілі таксама тры кнігі пра Гродна. Саяпін сёння самы пладавіты аўтар. Але паявіліся таксама іншыя. Кнігі па гісторыі Рыжы выдае пераважна за ўласныя грошы, а іх, канечне, зусім няшмат. Але няхай, кажа ён, на кагосьці разлічваць ня хочацца. Праўда, частка кніжак выдаецца коштам аўтараў.

Па выданнях «ЮрСаПрынт» можна вывучаць жыццё горада ў ранейшыя часы, таксама ў нядаўнія, савецкія. І можна аднаўляць яго аблічча. Напрыклад, дзякуючы кнізе Ігара Трусава аб страчанай у XIX–XX стагоддзях гродзенскай архітэктуры. Сам выдавец прызнаецца, што акунуўся ў старыя здымкі і калі ішоў па горадзе, то бачыў такі горад, які́м ён быў некалі. Словам, друкаваць такія кнігі — сціраць белыя плямы на гарадской мапе.



## Краязнаўца Госцеў

Адзін са старэйшых краязнаўцаў Алесь Госцеў жыве на той жа вуліцы, дзе знаходзіцца «ЮрСаПрынт», за некалькі дамоў. Аляксандр Рыжы быў для яго новым чалавекам. Прыйшоў аднойчы на прэзентацыю першых кніжак Ігара Трусава ў Новы замак і тады пазнаёміліся з выдаўцом. Пазней Рыжы вельмі добра дапамог з выданнем кнігі пра музей Васіля Быкава. Ён чалавек адказным і з ім можна рабіць справы, кажа Алесь Госцеў. Ён успамінае: «Перад ім быў адзін чалавек, якому заманулася перавыдаць кнігу пра Гродна аднаго даваеннага гісторыка. Ён пачынаў самастойна выдавецкую справу». Госцеў дапамог яму са старымі ілюстрацыямі. Той здолеў зрабіць кнігу, але пасля гэтага яго ніколі больш не бачыў, успамінае краязнаўца, чалавеку ненадоўга хапіла выдаўнічага імпэту.

Час ад часу Алесь Госцеў заходзіць да Аляксандра Рыжага, яны сталі добрымі знаёмымі. Аднак сваіх кніг з «ЮрСаПрынт» пакуль так і не зрабіў. Чаму? Краязнаўца тлумачыць:

«Быў такі намер з Віктарам Саяпіным, мы маем велізарную працу па вуліцах Горадні, але яна аказалася няўздымнай. Гэта не проста слоўнік сціслы, кніга атрымалася падрабязнай і нават груваcткай. Рыжы паспрабаваў з ёю нешта зрабіць, але гэта аказалася вельмі цяжка. Я зразумеў, што мы яшчэ не саспелі да таго, каб яе выдаваць. Так што пакуль з гэтым не атрымалася, але існуе электронны варыянт…»

## Гільяціна для паперы

«Чым лепшая эканоміка, тым лепей будзе выдавецкая справа. Паліграфія — лакмусавая паперка эканамічнага становішча дзяржавы. Калі добра ўсё працуе, паліграфія павінна быць таннай. Амаль нічога не каштаваць. Чаму? Бо гэта рэклама. Папяровая рэклама застаецца асноўнай. А танная паліграфія — таннае выданне кніг, — гаворыць Аляксандр Рыжы. Адчуваецца, што ім гэта не раз абдумана. Ён працягвае: — Мяне заўсёды цікавіла: чаму ў Польшчы інакш. У тым жа Беластоку многа друкарняў. І там ёсць тэхналогіі, у нас іх няма. Абсталяванне, якое трапляе да нас, яно — учарашні дзень. Але яно каштуе грошы. Яго трэба набываць у крэдыт, і каб ён быў недарагім, або ў лізінг. У нас гэта немагчыма. Калі набыць зараз добры біндэр (каб склейваць кнігі), гільяціну для паперы, то застанешся без нічога»

— А колькі могуць каштаваць такія рэчы? — цікаўлюся я.

— Тры-чатыры тысячы долараў за біндэр і можа за гільяціну недзе так. Ну й вокладка шмат значыць, зазначае Рыжы. Добрая кніга павінна быць у цвёрдай вокладцы, выказвае ён перакананне. А цвёрдую ва ўсёй вобласці ніхто не робіць. Дый друкаваць ён часам возіць у Мінск. Там добра робяць, хоць гэта каштуе больш. Апошняе выданне Андрэя Павача «Пад крылом Каложы», канечне, мог бы і ў сябе зрабіць. Сабекошт друку аднаго асобніка быў трыццаць тысяч, на той момант каля трох долараў, але была яшчэ праца выдаўца. Надрукаваць у сябе выйшла б бадай на трэць танней. Аднак кніжка выглядала б слабейшай.

Мара Рыжага мець друкарню поўнага цыклу. І пажадана каб яна была афсетнай. Але колькі патрэбна грошай, цяжка ўявіць, кажа Аляксандр. Думаць пра гэта пакуль

не выпадае. Мара таксама трохі мець вольнага часу, прызнаецца ён. Пяць год амаль без адпачынку. Заўжды на працы. Больш чым на два дні не адлучаўся.

Малое выдавецтва мусіць абыходзіцца малымі сіламі. Сам Аляксандр можа звярстаць кнігу, намаляваць вокладку, надрукаваць на рызографе і зрабіць усё астатняе. Але абавязкі размеркаваныя, многае на плячах другога заснавальніка выдавецтва Юрыя Мілеўскага. Вярстае, распрацоўвае файныя вокладкі і друкуе на рызографе Вольга Санкоўская, вычытвае тэксты Аксана Данілевіч, мае на хібы спрактыкаванае вока. Больш браць людзей нельга: трэба ўсім плаціць, не шкада, але трэба мець з чаго. А падвышаць кошты неразумна. Таму лепей астатняе буду рабіць сам, распавядае Аляксандр Рыжы: «Прыемна, што нечаму вучышся, і з гэтага нешта выходзіць, можна нават фінансава адчуць. Але, канечне, прыбытак невялікі». Бухгалтэрыя, набыццё матэрыялаў, разлікі — усё робіцца самім выдаўцом. Пытанне не ў тым складана ці не, мне гэта нават прыемна рабіць, дадае ён.

Канкурэнтаў у «ЮрСаПрынт» сёння ў Гродне няма. Але нават калі з'явяцца, то будзе цікава, мяркуе выдавец.

## Гісторык Вашкевіч

Гісторык Андрэй Вашкевіч даўно піша і выдае свае кніжкі. Некалі іх можна было надрукаваць у гродзенскай «Ратушы» (грамадскім аб'яднанні, якое потым закрылі). Такая магчымасць пазней знікла. Вашкевіч гаворыць: «Калі з'явілася новае выдавецтва, гэта цешыла. Але заўсёды не ведаеш — колькі яно можа праіснаваць. Першыя кніжкі былі невялікія, як брашуры. Але аказалася, што выдавецтва «ЮрСаПрынт» стала сур'ёзнай з'явай, мае сваю нішу, таму што не толькі краязнаўствам займаецца. Любы чалавек можа прыйсці і сваю кнігу выдаць. Пачынаючы з вершаў, заканчваючы падручнікамі. Я бачу, колькі людзей пацягнулася да выдавецтва. Тры гады таму і мая кніжка была там надрукавана «На гарадзенскім бруку» і многа кніжак, у якіх удзельнічаў, у сааўтарстве. Каб «ЮрСаПрынта» не было, то можна сказаць, што палова ці нават больш добрых кніжак, якія па гісторыі Горадні з'яўляюцца, яны б не выйшлі».

Андрэй Вашкевіч звяртае ўвагу і на іншае: «Яшчэ такі момант: колькі багата надрукаваных кніг пра Мінск, пра Брэст, пра Полацк, якія стаяць і ў гродзенскіх кнігарнях. Яны друкуюцца пастаянна і ў вялікай колькасці. Пра Гродна няма абсалютна нічога. Не ведаю чаму. І таму «ЮрСаПрынт» фактычна ратуе сітуацыю на сённяшні дзень».

А што датычыць Аляксандра Рыжага, ён проста добры сціплы чалавек, зазначае гісторык: «Але трэба і ролю Юрыя Мілеўскага адзначыць, ён яму дапамагае. Рыжы рыхтуе кніжкі, Мілеўскі іх клеіць. У іх такая мануфактурная арганізацыя працы».



## Хобі выдаўца

Аляксандр Рыжы называе сябе скарбашукальнікам. Гаворыць, што любіць вандроўкі, ведае гродзенскія ваколіцы. Прыехаць, пабачыць нейкую мясціну для яго задавальненне. І магчымасць убачыць «рэшткі гісторыі». Зараз будзе выдадзены «Беларускі час» гісторыка Святланы Куль, кніга амаль гатовая. Аўтарка змясціла сонечны гадзіннік стары, які захаваўся каля касцёла ў вёсцы Ішчолна. Мала хто ведае пра яго, хоць гэта недалёка ад мінскай шашы. А колькі муроў па ўсёй вобласці стаіць! Ніхто пра іх не ведае, гаворыць выдавец, яны руйнуюцца, але ўбачыць іх, дакрануцца да мінуўшчыны цікава.

## Мужчынскае прозвішча

Жонка Аляксандра Марына доўгі час удзельнічала ў гурце сучаснай харэаграфіі ТАД, была пры яго заснаванні. Цяпер мае свой дзіцячы танцавальны калектыў. Сын Ілля, якому будзе зараз васямнаццаць, марыць стаць пісьменнікам. Прозвішча жонкі, дарэчы, Курыловіч. Гэта сямейнае, кажа Аляксандр: жанчыны, якія выходзілі замуж за Рыжых, пакідалі сваё дзявочае прозвішча. Адна Сакалоўскай засталася, наваі маці ягоная засталася Шарыпай, чаго далёка хадзіць…

## Са шляхты

Выдавец Рыжы моцны сваім радаводам, які дапамагае ўсведамляць сябе тым, кім ён сёння ёсць. А кім былі ягоныя продкі? З аднаго боку, гэта сям'я Бялеўскіх, якая паходзіць з Магілёўскай губерні. Усе дакументы маю ў арыгіналах, зазначае ён. Прапрадзед быў прадвадзіцелем дваранства ў Горацкім павеце. Ягоны сын Леанід ажаніўся са Смірніцкай Марынай. Паходзіла з Пецярбургу, дзе закончыла Смольны інстытут. Яна ведала імператара з імператрыцай і нават Распуціна.

1918 год, прадзед быў адвакатам, прысяжным паверанным. Узяўся абараняць святара. Выйшла, што адвакат праваслаўнага паходжання стаў абаронцам ксяндза, якога абвінавачвалі ў «антысавецкай дзейнасці». Гэта было ў Магілёве. Бялеўскаму прыгразілі расстрэлам. Уцёк у Вільню. «Яны спачатку беглі ў Мінск, які быў нямецкім на той час. Прадзед троху меў грошы. Але бабуля прайграла ў карты. Хацелі далей — у Парыж, але трапілі толькі ў Вільню», распавядае Аляксандр.

У Вільні яны займаліся актыўнай грамадскай дзейнасцю, але рускай. Прадзед Леанід некаторы час быў дырэктарам рускай гімназіі. Скандальна вядомы потым Барыс Каверда** быў адзін час жаніхом бабці Люсі (яна нарадзілася ў Маскве, калі прадзед вучыўся ва ўніверсітэце на юрфаку і пазней з бацькамі трапіла ў Вільню).

---

* Барыс Каверда (1907, Вільня — 1987, Вашынгтон) — дзеяч рускай эміграцыі. У 1927 годзе ў Варшаве забіў прадстаўніка СССР у Польшчы Войкава. У 1921 сям'я Кавердаў вярнулася ў Вільню з бежанства з Расіі. Бацькі займаліся беларускай дзейнасцю, аддалі сына ў беларускую гімназію. Але ён кінуў яе, перайшоў у рускую, адкуль яго пазней выключылі за неаплачаную вучобу.

«Потым яна сустрэла Рыжага Аляксандра Васільевіча, майго дзеда, які навучыўся на факультэце філасофіі універсітэта, але пакінуў яго, пайшоў вучыцца на агранома», паведамляе Аляксандр. А прадзед нават выступіў сведкай пад час працэсу над Кавердам у Варшаве.

Сяліба Рыжых — хутар Тарасаўка ў Свіслацкім раёне, які быў заснаваны хіба напачатку XIX стагоддзя. Захаваўся дагэтуль, але застаўся без гаспадара. Двухпавярховы дом і па перыметры (можна ўбачыць у гугле) ліпавая алея, вялізны сад, сажалка, аб якіх падбалі некалі продкі Аляксандра.

Прабабка Марына Бялеўская пісала. Падпісвалася: Бялеўская (Ляцягіна), а не дзявочым прозвішчам Смірніцкая. Выйшла яе кніга «Стаўка яго імператарскай вялікасці ў Магілёве». Яна апісвае апошнія дні імперыі. Пісала і пра адносіны з імператрыцай.

Хоць Тарасаўка была хутарам, усе продкі былі настаўнікамі. Адзін з іх атрымаў званне ганаровага грамадзяніна расійскай імперыі: 1907 год, дакумент захаваўся ў арыгінале, вісіць у Аляксандра Рыжага дома на сцяне. Самы ранні дакумент, што датычыць сям'і, датуецца 1876 годам, падкрэслівае ён. У доме было мноства кніг, але шанцаў ім захавацца было няшмат. Пасля апошняй вайны на хутары зрабілі памежную заставу. Памежнікі многае пакруцілі на цыгаркі.

Радавод Аляксандра Рыжага па-сапраўднаму зацікавіў, калі яму было 25 гадоў. Тады пачаў вывучаць гісторыю сям'і, што таксама надала штуршок, каб стаць выдаўцом.



# Кіно, кнігі, карціны

## «Рускі» Аслюка

Рэжысёр Віктар Аслюк зняў на «Беларусьфільме» фільм «Рускі» паводле аднайменнага апавядання класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Як паведаміла Беларускае радыё, твор аб тым, «як беларус забіў украінца». Здарэнне адбылося ў час І Сусветнай вайны на руска-аўстрыйскім фронце. Карпацкія горы давялося замяніць ландшафтам кар'ераў пад Краснасельскім у Ваўкавыскім раёне.

«Рускі» будзе паказаны на Міжнародным кінафестывалі кароткаметражных фільмаў у горадзе Драма ў Грэцыі. Ён адзін з дзесяці, дзе намінуюць стужкі на прыз еўрапейскай кінаакадэміі. У апавяданні «Рускі» менш за тры з паловай старонкі. Выпадкова сутыкнуўшыся з аўстрыякам, які аказаўся ўкраінцам, рускі-беларус выпівае з ім «горілкі», а затым забівае. У шпіталі, куды ён трапляе пазней, яго лічаць сімулянтам, а той сабе ўпарта паўтарае на кожным кроку, што ён «рускі, рускі, рускі!»

Ролю рускага салдата выконвае Міхаіл Барсковіч, аўстрыйскага — Аляксандр Ждановіч. Хранаметраж — 25 хвілін.

## «Рускага» беларуса не зразумеюць

Віктар Аслюк кажа, што раней два гады запар атрымліваў у Драме Гран-пры. Новы свой фільм, апроч Грэцыі, больш нікуды не пасылаў. Ён тлумачыць: «Па адной прычыне: амаль упэўнены, што зразумець гэты фільм цяжкавата будзе, я б не сказаў, што ён мае ўніверсальны характар. Там многа недагаворанага, а гэта ўжо зусім іншае мастацтва, таму яно так і ўспрымаецца. Каб недасказанае перавесці на кіно, патрэбны поўнаметражны фільм і трэба дапісваць: што ў літаратуры можна сказаць двума словамі, у кіно двума кадрамі не пакажаш».

Калісьці Віктар Аслюк думаў пачаць з гэтага апавядання сваю кар'еру. Задума была такая даўней: зрабіць тры навелы — «Рускі», «Генерал» і апавяданне «Літоўскі хутарок» і аб'яднаць усё адным героем, кажа ён. Але атрымалася экранізаваць толькі першы твор. «Атрымаўся пэўны вопыт, прызнаецца рэжысёр, часам псіхатэрапія, часам наадварот. Але заўсёды ў такой прафесіі ёсць тэрыторыя рызыкі».

Як ён ацэньвае сам зробленую працу? Хутчэй як удачу, чым няўдачу, кажа рэжысёр: «Таму што я зразумеў, наколькі гэта цяжка: калі ты бярэшся ставіць літаратуру, літаратура як правіла перамагае кіно. Як правіла. І каб яна не перамагала, трэба разруйнаваць гэты твор да самых падмуркаў і нейкія тайныя выявіць хады і зрабіць, можа, зусім па-іншаму».

## Пастка Гарэцкага

Гарэцкі быў як пастка, якую Аслюк зразумеў адразу. З літаратурай бывае так: мы давяраем, калі чытаем, захапляемся і дамысліваем. Але калі правяраць літаратурныя сітуацыі рэальнасцю, з якой працуе кіно, нечакана пераконваешся, што ў Гарэцкага ўсё было прыдумана, усе сітуацыі ў апавяданні «штучныя». У гэтым Віктар Аслюк абсалютна ўпэўнены, ён тлумачыць: «Каб чалавек узяў і проста так стрэліў, гэта страшна, патрэбна матывацыя. У кіно павінна быць матывацыя. Я разумею Быкава, калі ён пісаў падобную апавяданне пра немца і беларуса, якія сядзяць у разбураным доме, людзі, якія зразумелі адзін аднаго. І калі яны выходзяць на паверхню з падвалу, яны адразу становяцца ворагамі: адзін немцам, другі «рускім» ці савецкім».

Але матывацыя ў Быкава зразумелая: яны ўбачылі, што за імі назіраюць з аднаго боку немцы, з другога савецкія салдаты. І беларус страляе ў немца, таму што той кінуў у яго гранату… Быкаў знайшоў патрэбную для апавядання матывацыю, і яна больш рэалістычная, зазначае рэжысёр: «А тая, якая ёсць у Гарэцкага — «Ах, які я ваяка!» — гэта хутчэй каб паказаць наш нацыянальны характар. І гэта не столькі псіхалагічны твор, як, можна сказаць, ідэалагічны. І з псіхалагічнага боку я з першага дня пачаў цярпець паразу: што б я ні спрабаваў, гэта здавалася штучным. Нават «рускі, я маю горілку!»ператваралася ці ў камедыю ці проста ў нейкую нерэальную сітуацыю».

Забіць, нават на вайне, бывае няпроста, тым больш калі абстаноўка не баявая: спачатку міралюбная размова, гарэлка, развітанне, а потым нечаканы стрэл. І як перакласці гэта на мову кіно? Рэжысёр працягвае разважаць: «Стрэліць матывацыі няма. Проста так стрэліць? Я скажу так: гэтая проза можа патрабуе абсалютна геніяльнага прачытання, а не проста таго, што я змог і на што рашыўся. Тое, што я зрабіў, гэта не зусім Гарэцкі, але што гэта не Гарэцкі — таксама не скажаш», зазначае Віктар Аслюк. Літаратура і кіно ўсё ж два адрозных віды мастацтва: «Сітуацыя, калі страляе салдат у салдата — універсальная, і гэты твор сапраўды выдатны. Але рэжысёру трэба брацца за тое, што проста дыхае жыццём, што ёсць рэальнасцю, а калі ўсё будуецца на нейкіх сэнсах, часам ідэалагічных, нацыянальных, адпаведных іншаму часу, для гэтага патрэбны вялізныя палотны, падрабязнасць, дэталі, эпас трэба». Інакш кажучы, поўнамэтражная стужка, на якую грошай не было.

## Карпацкія горы, беларускі кінаварыянт

Віктар Аслюк хацеў паспрабаваць зрабіць свой новы фільм у дакументальнай манеры і выкарыстаць новыя магчымасці, перш звязаныя з лічбавай тэхнікай. Хапала складанасцяў, напрыклад, «на адну ноч ездзілі шукаць натуру», успамінае рэжысёр: «Патрэбны былі верхнія кропкі і адначасова, каб гэта не было поле. Каб яры былі, чыста візуальна выбіраў. Хацеў унутры кар'ераў здымаць, але не дабраліся б: трэба было паўтары гадзіны ў цяжкіх і небяспечных умовах дабірацца да месца здымкі. Сама фактура вельмі падабаецца: курганы дзіўныя, сапраўды насыпаныя і прастору бачна. Я стараўся, каб прырода была трэцім акцёрам. Думка была, каб гэта троху было не падобна на Беларусь. Але гэта была ўмоўнасць».



## Рускасць беларусаў

У фільме «Рускі» чатыры мовы. Беларус гаворыць па-беларуску, украінец размаўляе з ім па-ўкраінску, салдаты паміж сабой па-руску, як у жыцці. І паколькі украінец, галічанін, паколькі служыць у аўстра-венгерскай арміі, ён яшчэ гаворыць па-нямецку, распавядае Аслюк.

Напісанае Максімам Гарэцкім у 1915 годзе апавяданне важнае для нас сёння тым, што было спробай зазірнуць у беларускую душу, паставіць дыягназ. Гэта якраз турбавала і Віктара Аслюка: «Застрэліў чалавека, ён памірае, гаворыць, што засталіся дзеці, а гэты пытаецца — «а колькі ў цябе іх?» Ну, як гэта сыграць? Гэта пры смерці чалавека гавораць? Што гэта: цынізм, такая прастата, ці проста такая дурасць лапцёжная? Ці спужанасць? «Ах, які я ваяка!» Гэта, канечне, мы трапляем у палон нейкай спробы паказаць характар беларуса з усімі нам знаёмымі рысамі. І для гэтага мовы розныя выкарыстаны і сама назва «Рускі». З аднаго боку, гэта прывітанне імперыі, а з другога — праблема, якая існуе ў беларусах: рускі, нярускі?»

Аслюк не лічыць вартым проста не зважаць на гэта: «Што такое рускасць? Гэта важная праблема нашай рускасці. Не той, што цяпер у Маскве, а той, што была пяцьсот-шэсцьсот гадоў назад, ці ў XVII стагоддзі. Проста так адмахнуцца, мы ліцвіны, мы беларусы, а рускія — гэта маскалі… Ці проста так аддаваць гэтую сваю рускасць, выкідаць? Гэта складана. І пра гэта ўсё пісаў, канечне, Гарэцкі. Але гэта наша праблема, якая, можа, будзе малацікавай іншым. Наша першародная праблема, якую мы павінны спачатку вырашыць. Калі мы не вырашаем на гэтым узроўні, мы далей проста не прасоўваемся. Гарэцкі гэта адчуваў і мы таксама, за сто гадоў нічога не памянялася».

Словам, «Рускі» — беларускае кіно не для кожнага. Аб гэтым гаворыць сам рэжысёр Віктар Аслюк: «Яго могуць прыняць па-рознаму. Але сярод рэжысёраў першае пытанне заўсёды: а як ты сам? Калі я ведаю, што зрабіў усё, што змог, я тады спакойны. За фільм «Рускі» я спакойны».

У 2015 годзе на «Black & White Audiovisual Festival» у Партугаліі адзначылі кароткаметражны фільм Віктара Аслюка «Рускі».

## Аляксандр Фядута: як турэмныя сшыткі сталі кнігай

Аляксандр Фядута прэзентаваў у Гродне сваю новую кнігу «Мой маленькі Парыж». Яна выйшла ў выдавецтве «Лимариус» на рускай мове і прысвечана жыццю аўтара ў родным Гродна, які ён пакінуў у 1991 годзе. З таго часу ён жыве ў Мінску. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 году быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў «амерыканцы», турме КДБ.

Аўтар пачаў сустрэчу словамі «я сапраўды шчаслівы». Таму што ў такія моманты адчуваеш, што вярнуўся на радзіму, прызнаўся Аляксандр Фядута. І далей сказаў, што «вельмі позна мы разумеем, што настаўнікаў трэба слухаць і вельмі ўважліва. Таму што многае, чаму яго вучылі, даходзіць толькі цяпер». Каля чатырох гадоў таму яму ўспомніліся ўніверсітэцкія лекцыі па псіхалогіі і словы выкладчыка аб тым, што «памяць — гэта тое, што застаецца нам, калі нам ужо няма чаго рабіць».

«У снежні 2010 году я апынуўся ў сітуацыі, калі ў мяне не было кніг, якія я мог бы чытаць, працягваў Аляксандр Фядута. — У мяне не было субяседнікаў, з якімі я мог бы размаўляць, у мяне не было працы, якую я мог рабіць. Што ў мяне было? У мяне былі сшыткі, якія перадавала мне жонка. У мяне была асадка і ў мяне была памяць».

Удзень яго чакаў шпацыр, гадзіна ці дзве, у залежнасці ад надвор'я і ад ног, якія маглі балець: «А ўвесь астатні час ты знаходзішся ў чатырох сценах. Ну хіба што цябе выведуць «пообщаться» з іншымі людзьмі, якія знаходзяцца ў гэты момант пры выкананні сваіх службовых абавязкаў. Я спадзяюся, я не павінен далей расшыфроўваць, што гэта былі за абставіны».

І яму захацелася паразмаўляць, хоць з кім-небудзь. «Мне захацелася ўспомніць. Сваё жыццё, блізкіх мне людзей. Успомніць нарэшце маму», кажа аўтар. І тады ён узяў перададзены жонкай сшытак і напісаў першыя словы. Ён напісаў «што з табой?» Гэта першыя словы, сказаныя яму маці, якія ён запомніў.

Калі ён закончыў сшытак, стала незразумела — што з ім далей рабіць. Куды яго цяпер? І ён папрасіўся на сустрэчу з начальнікам установы, пра якую яго «яхідная» жонка сказала: «Ну лічы, што цябе адправілі ў дом творчасці». У начальніка гэтага «дому творчасці» былі палкоўніцкія пагоны. Палітвязень спытаў: «Ну вось я пішу ўспаміны. Іх можна будзе перадаць на свабоду? Бо які сэнс пісаць, калі гэта тут жа і застанецца?» Аляксандр Фядута працягваў: «Ён крыху напружыўся і спытаў: а аб чым пісаць будзеце? Я не ведаў, колькі вось гэтыя «ідэальныя ўмовы» для творчасці



▪ *А. Фядута падпісвае сваю кнігу землякам*



працягнуцца, калі ніхто табе не перашкаджае. І адказаў: не хвалюйцеся, думаю, да 1994 году я не дайду».

Палкоўнік з палёгкай уздыхнуў і даў дазвол пісаць, сказаўшы, што кожны сшытак будуць «разглядаць асобна».

Усе сшыткі былі перададзены жонцы Марыне Шыбко. «Яна кожны дзень прыходзіла як на працу і сядзела ў кавярні насупраць таго «санаторыя», дзе я знаходзіўся». А атрымаўшы наступны сшытак з запісамі мужа, яна сядала і пачынала плакаць. А часамі смяялася, чытаючы, бо ён стараўся ўспомніць «не самае дрэннае». Бо ў той сітуацыі стараешся ўспомніць «самае светлае, самае лепшае, што ў цябе было ў жыцці». «У мяне самае лепшае і светлае — мой горад, мае землякі, блізкія, сябры, тыя людзі, аб кім стараўся напісаць гэтую кнігу», прызнаецца аўтар. Тое, што гэта будзе кніга, ён зразумеў, калі напісаў шосты сшытак.

Калі яму прывезлі першы пачак, у якім было дваццаць кніг, «дванаццаць з іх адразу паехалі з Мінска ў Гродна — блізкім і сябрам».

На сустрэчы Аляксандр Фядута прапанаваў прысутным «следам за яго памяццю» завочна ажыццявіць праходку па Гродна, кожнае месца ў якім звязана з канкрэтнымі людзьмі. Аўтар зачытваў урыўкі і прасіў выказацца тым людзям, аб якіх толькі што чытаў. І яшчэ раз паўтарыў, што вельмі шчаслівы, што сабралася мноства людзей, якіх ён любіць. І «дзеля аднаго гэтага» ён «згодны на 55 дзён вярнуцца ў камеру, дзе нікога, апроч мяне не было, у адзіночку. Але толькі дзеля таго, каб сабраць вас усіх разам. Бо ніколі такога не атрымлівалася», — зазначыў аўтар.

## Герой нявыдуманага рамана

Паэта Юрыя Гуменюка няма ўжо два гады. Ён пайшоў з жыцця трагічна. Гродзенскія літаратары правялі вечарыну памяці, на якой ацэньвалі яго творчасць, чыталі вершы, а таксама ўрыўкі з кнігі, у якой паэт стаў адным з герояў. Гэта «Новы час», напісаны Алесем Аркушам. Мова пра падзеі 20-25-гадовай даўнасці, калі яны з Гуменюком (ды іншымі маладымі аўтарамі) стваралі Таварыства вольных літаратараў.

Якраз у той час у Гродне пачалі пісаць некалькі маладых паэтаў: Юры Гумянюк, Андрэй Пяткевіч, Юры Пацюпа, Эдуард Мазько, пазней Анатоль Брусевіч. Яны адразу сталі адметнымі. Паэтка Ала Петрушкевіч, якая вяла вечарыну, зазначыла, што ва ўніверсітэце яны мелі добрага настаўніка — Аляксея Пяткевіча.

«Ён сышоў з гэтага свету нечакана і таямніча, не так як усе, пачаў гаварыць пра Юрыя Гуменюка прафесар Аляксей Пяткевіч: І як сапраўдны паэт ён і быў не такі як усе, ён не быў масавым чалавекам. Ён быў стыльным ува ўсім, заканчваючы сваімі думкамі. Агарошваў часам пераходамі ад аднаго да другога, шматкроп'ямі, абрывамі, шукаў нейкія акцэнты і цяжка было ўявіць яго логіку. Што ж, паэты не жывуць лагічна. Ён і ў вершах сваіх быў і эстэтам высокага кшталту, і грубіянам, сумяшчаў высокае і нізкае. Умеў гуляць словам, выказвацца элегантна. Літаральна ўзарваўся знутры выбухам эмоцый, словаў, і ўжо застаўся на гэтым узроўні, роўна, проста ішоў як паэт, уражваючы заўсёды вынаходніцтвам слова».

Кім быў Юры Гуменюк у літаратуры? Аляксей Пяткевіч перакананы: «Канечне, ён быў тыповым мадэрністам, які ўмее сумяшчаць абсалютна несумяшчальнае. У нас

прынята лічыць гэтую плынь постмадэрнісцкай. Мне думаецца, што варта зрабіць маленькую папраўку: постмадэрнізм — гэта з'ява заходняя. Там мадэрнізм быў пройдзены і даўно пачаўся гэты перыяд постмадэрнісцкага развіцця».

Вышэйназваная група маладых гродзенскіх паэтаў паводле Аляксея Пяткевіча, «пісала не ў традыцыі беларускай літаратуры, трымалася крышку асобна, незалежна, крышку з выклікам. Але ці быў гэта постмадэрнізм? Гэтая група ў Горадні была нешта новае абсалютна». Сам Гумянюк пісаў «цікавыя, яркія, глыбокія, па-грамадзянску смелыя вершы. Ён быў у літаратуры таленавітым ува ўсім, надрукаваў раман, быў таленавітым эсэістам, пісаў добрыя п'есы для лялечнага тэатру. Ягоная літаратурная крытыка вызначалася выдатным густам, рэзкасцю і самастойнасцю… У жыцці ён быў крышку загадкавым чалавекам, не да канца намі пазнаным, высветленым», падсумоўвае Аляксей Пяткевіч.

Ала Петрушкевіч зазначае, што «адметнасць паэта грунтавалася на нонканфармізме: тым, што вылучала яго і што палохала многіх. І палохае да сёння. Хоць ён заўсёды падкрэсліваў, што ягоная нязгода — гэта не вайна, не барацьба, гэта духоўная пазіцыя. Што датычыць менавіта літаратуры, культуры».

Як пазнаёміўся з гродзенскім паэтам, распавёў Алесь Аркуш, некалі заснавальнік Таварыства вольных літаратараў, ТВЛ. Яны мелі задачу пашырыць эстэтычна літаратуру, якая закапалася ў дзвюх тэмах — вайна і вёска, кажа Аркуш. «Пасябравалі праз пошту, успамінае ён: Гумянюк, бывала, пісаў па два-тры лісты на тыдзень. Гэта светапоглядныя лісты, іх можна выдаць асобнай кніжкай», лічыць Аркуш. З Гуменюком яны прыйшлі да ідэі ўтварыць новую літаратурную арганізацыю, якая будзе трымацца «на двух кітах»: нонканфармізме і рэгіяналізме. Нонканфармізм — любімае слова Юры, кажа Алесь Аркуш: «У кожным лісце ён пісаў: трэба навучыцца быць самастойным у літаратуры, навучыцца адмаўляцца ад уплываў — ад дзяржавы, ад грошай».

Што ў змесце «Новага часу»? Алесь Аркуш расказвае: «Сукупнасць культурных падзеяў, што адбываліся ў самым цікавым, залатым, пераломным часе — у канцы 1980 — пачатку 1990-х гадоў. Гэта мастацкі твор з рэальнымі героямі, на рэальных фактах: нанфікшн, непрыдуманая літаратура». Класічным узорам гэтага жанру Алесь Аркуш назваў кнігу пра Освальда Аляксандра Лукашука «След матылька»: «Я лічу, што гэта адзін з самых лепшых твораў нонфікшн, напісаных па-беларуску».

У сваёй кнізе Аркуш выкарыстаў лісты Гуменюка ды іншых паэтаў, якія «яскрава захавалі час, перадаюць яго праўдзівасць, энергетыку».

## «Беларускае золата» ад Уладзіміра Хільмановіча

Журналіст і краязнаўца Уладзімір Хільмановіч прадставіў дзве сваіх новых кніжкі: «Беларускае золата» і «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны». У залі было людна. Для аўтара гэта сведчыла аб тым, што цікавасць да беларускай кнігі не змяншаецца. Яму прыгадаліся часы клуба «Паходня», другая палова 1980-х гадоў у Гродне, калі была хваля цікавасці да беларускіх кніжак.

«Беларускае золата», што ў кнізе? Сто дваццаць тэкстаў, краязнаўча-літаратурныя нататкі.



«Маё асабістае асэнсаванне беларускіх каштоўнасцяў у розных праявах, беларушчыны, можа быць таксама сябе ў ёй», прызнаецца аўтар. Дваццаць пяць гадоў ён ездзіў па Беларусі з сябрамі, сплаўляўся па рацэ, фатаграфаваў, набіраўся ўражанняў.

Што «беларускае золата» паводле аўтара? Ён зазначае: «Гэта зямля дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і яцвягаў. Гэта пушчанскія скарбы і рэкі ад Нёмана да Дняпра… Гэта старажытныя крэйдавыя шахты… Гэта даўнія гарадзішчы і капішчы. Гэта культавыя камяні і падмуркі першых хрысціянскіх храмаў. Беларускае золата — гэта крыж Ефрасінні Полацкай і Тураўскае Евангелле. Гэта Барысаглебская царква ў Гродне і Сафійскі сабор у Полацку».

Беларускім золатам Уладзімір Хільмановіч таксама называе Біблію Скарыны і Статут ВКЛ, Храмы, замкі, кнігі, духоўныя і матэрыяльныя скарбы культуры беларусаў. А таксама «сляды дзейнасці нашых людзей па ўсім свеце». Магілы дзеячаў у Празе і крыжы ў Курапатах. Першы тэкст прысвечаны крыжу Ефрасінні Полацкай, апошні — пра Плошчу-2010. Не зважаючы на паразу, гэта апошняя з заваяваных беларусамі каштоўнасцяў, лічыць аўтар.



▪ *У. Хільмановіч зачытвае ўрыўкі са сваёй кнігі*

Скрозь кнігу праходзіць матыў таго, што не зважаючы на вялікія духоўныя скарбы, што засталіся нам ад продкаў — шмат што расцярушана і сёння не шануецца, кажа Уладзімір Хільмановіч. Выйшла «Беларускае золата» дзякуючы Беларускаму Радыё Рацыя ў Польшчы, аўтар удзячны за гэта Яўгену Вапу і Марціну Рэмбачу з Беластока.

А «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны» паявіўся ў серыі «Гарадзенскай бібліятэкі». «Кніжка тоненькая, але я доўга да яе ішоў», прызнаецца аўтар. Яго даўно цікавіла традыцыя беларускіх календароў. Адзін са старэйшых беларускіх актывістаў у Вільні Сяргей Карабач, якому 91 год, расказваў, як беларускія календары прывозілі ў Беліцу (цяпер Лідскі раён) у міжваенны час, і людзі з навакольных вёсак іх куплялі. На яго гэта моцна паўплывала і ён звязаў сваё жыццё з беларушчынай.

Сам Хільмановіч свае каляндарныя запісы пачаў друкаваць некалі ў газеце «Пагоня». Таксама выкарыстоўваў на абласным тэлебачанні, дзе шырока ўжывалася ў першай палове 1990-х беларуская мова. Яго запрасіў туды намеснік кіраўніка тэлестудыі Валеры Задаля. Перадача называлася «Кронан». Якраз тады выйшла кніга з такой назвай, прысвечаная датам, падзеям і асобам у гісторыі Гродна. Аўтары краязнаўца Алесь Госцеў і гісторык Вячаслаў Швед сваёй працай натхнілі і падштурхнулі іншых аматараў гродзенскай мінуўшчыны, кажа Уладзімір Хільмановіч, у тым ліку яго само-

га. Паліграфічна гэта было сціплае выданне, але мела вялікае значэнне таксама для іншых гісторыкаў і краязнаўцаў.

Аўтар прызнаецца: «Праца над календаром няўдзячная. Як ні працуеш, як не вывяраеш, хапае спрэчных датаў, заўсёды знойдуцца памылкі ці недакладнасці». Але ён не баіцца крытыкі. Будзе толькі ўдзячны, калі нехта зробіць заўвагі і дапаможа нешта выправіць. Таму што вельмі часта ў гістарычных крыніцах адбываецца блытаніна. Праз тыя ж тыя ж стары і новы стылі ў календарах ды энцыклапедыях можна напаткаць розныя даты нараджэння і смерці вядомых людзей. Бывае цяжка знайсці прывязку да мясцовасці, самім аўтарам былі ўзяты за аснову межы сённяшняй Гродзенскай вобласці. Уладзімір Хільмановіч выказвае спадзяванне, што яго праца таксама можа падштурхнуць краязнаўцаў у раёнах ствараць календары сваіх мясцін.

## Гумянюк і ТВЛ у «Мясцовым часе»

Што пад вокладкай новай кнігі Алеся Аркуша «Мясцовы час»? Можна сказаць, цікавая старонка культурнага адраджэння. З лакалізацыяй: Полацк і ваколіцы. Сапраўды, так атрымалася, што ў гэтым горадзе ўзнікла «агнішча» творчых людзей, патрыётаў. Перш літаратараў. Бо кніга прысвечана пераважна справам літаратурным. (У прыватнасці, стварэнню ТВЛ, чым захапіўся вельмі Гумянюк, які жыў у Гродне). А чаму «Мясцовы час»? Так называўся, хто памятае, полацкі рок-гурт, які перайшоў на беларускую мову, які выклікаў захапленне. Які прагрымеў на першым «Басовішчы» у Гарадку на Беласточчыне ў 1990-м. Яму аўтар таксама прысвячае цікавыя старонкі: пра трыумф і распад, знікненне.

Мясцовы час можна расцэньваць як час новы, беларускі, які аднойчы стаў адрозніваецца на гадзіну ад традыцыйнага маскоўскага (каторы, мусім канстатаваць сёння, зноў вярнуўся ў беларускія гадзіннікі, якія сталі жыць згодна крамлёўскім курантам, як у даволі далёкія ўжо савецкія часы). А таксама як час са сваёй адметнасцю, полацкі. Сам аўтар называе «мясцовым часам» 1994–1995 гады, самыя плённыя для ТВЛ.

Юры Гумянюк з'яўляецца на старонцы 37-й. Ён выходзіць з вялікім парасонам з гродзенскага аўтобуса, каб «паходкай сталага дэндзі» накіравацца насустрач аўтару, які яго сустракаў. Ён прывёз яму валоскія арэхі са свайго саду, якія перадала маці. Госць падтрымаў даўнюю задуму Аркуша стварыць незалежную пісьменніцкую арганізацыю. Галоўнае, каб справа неператварылася ў прафанацыю, выказаў пажаданне Гумянюк. Далей яны будуць перапісвацца, у лістах абмяркоўваючы сваю мару і справы літаратурныя наогул. Потым дойдзе сапраўды да стварэння Таварыства вольных літаратараў. Так, менавіта ў Полацку. Там жа надрукавалі і першую кніжку гродзенскага паэта. Рукапіс называўся «Леапардавая скура», затым аўтар замяніў яе: «Псіхадэлічнае мастацтва». Канчаткова кніжка стала называцца «Водар цела».

Гумянюк называе Аркуша і Мудрова хроснымі бацькамі сваёй «ксёнжачкі». У лістах ён задаецца пытаннем: «Як людзі адрэагуюць на выхад маёй кніжыцы?» Яму здаецца, што два гады таму яна б зрабіла фурор, але цяпер цяжка «з раскруткай», бо час складаны.



Але гэта быў таксама час, спрыяльны для стварэння ТВЛ. Здзейснілася мара, яны сабраліся на «кангрэс», як называе нараду сам аўтар у двукоссях. Прэзідыум: Гумянюк, Адамовіч, Аркуш. У прамовах закіды, што «ніякай перабудовы ў літаратурнай гаспадарцы краіны не адбываецца». Галоўным каардынатарам ТВЛ абраны Алесь Аркуш, намеснікам — Юры Гумянюк. Спрэчка за назву часопіса «Калоссе», яна падабаецца не ўсім, перш Славаміру Адамовічу. (Аўтар называе яго «вялікім аматарам» «чорных кашуль, партупеі і галіфэ»). Мінуў час «сельскагаспадарчых» назваў! Але ў Гуменюка ў Горадні ён будзе заўсёды побач — на стале ці каля ложка. Між іншым, Юрка потым будзе рыхтаваць наступныя нумары ў рэдакцыі «Пагоні», і будзе рабіць гэта з захапленнем.

Аўтар піша, што ў Саюзе пісьменнікаў у тэвээлаўцах убачылі сваіх далакопаў… Але далей заўважае, што жыццё выкінула іх на ўзбочыну, за што вельмі перажываў Гумянюк, якому хацелася славы. «Затое мы не скурвіліся», супакойваў Юрка сябе. «Затое ў нас ёсць біяграфія», са свайго боку не здаваўся Аркуш. Размова адбывалася праз гады ў беластоцкай кавярні насупраць чырвонага касцёла, на другім паверсе… Наўскасяк ад кавярні аднойчы на шыбе квяцярні павесяць афішку са здымкам Гуменюка, з паведамленнем аб вечарыне яго памяці.

Але аўтар вяртае чытача тут жа назад. Аднойчы ён, журналіст мясцовай газеты, просіць інтэрв'ю ў варажбіткі, што выступала ў Полацку. І яна яму скажа, што адзін сябра Аркуша ўратаваў сябе, бо з'ехаў за акіян, а вось другі ў вялікай небяспецы, ён упадзе з вышыні… Хто ўпадзе? Адказаць яна не можа. І тут жа даўні ліст ад Гуменюка, які між іншым піша пра самагубствы сярод студэнтаў — «скачуць з хмарачосаў ці з балконаў».

Пачатак кнігі вельмі літаратурны. Аўтар паведамляе аб сустрэчы ў скверы з дзіўнаватым чалавекам, Паўлам Іванавічам. Нагадвае крыху атмасферу «Лабірынтаў», полацкай рэчы Ластоўскага (якую сам Аркуш вельмі любіць). Гэты чалавек паявіцца яшчэ двойчы. Аўтар стараецца змацаваць тканіну твора сціслымі літаратурнымі вобразамі. Ну хоць бы: «Полацак напрыканцы 80-х выглядаў на дэмаралізаванага былога шляхціца. Гэта калі ў шляхцюка, амбітнага і ганарлівага, забраць маёнтак, зямлю і ўсё астатняе, акрамя жыцця, то вельмі хутка ён дэградуе». Што праўда, у старой камяніцы на беразе Дзвіны адкрываецца музей кнігадруку, у горадзе адбываецца скарынаўскае свята, і прыязджае кіраўнік краіны Станіслаў Шушкевіч.

Аўтар расказвае мілы выпадак, як запрошаны ў Полацк Янка Брыль стаў распытваць яго — з якіх мясцін паходзіць, бо й раней сустракаў у Беларусі рэдкае прозвішча Аркуш. А калі Алесь патлумачыў, што гэта псеўданім, а сапраўднае прозвішча — Козік, госць пачаў яго пераконваць, што яно вельмі мілагучнае і добрае. І паведаміў таксама, што па-польску козік будзе «сцізорык».

Канец кнігі: нехта падае з вышыні… Юра! — ёкнула сэрца аўтара. Як вядома, Гумянюк скончыў самагубствам два гады таму, скочыў з балкона з апошняга, дзявятага паверху.

У пэўным сэнсе гэта гісторыя паветраных замкаў. Некалі здавалася, што патрэбны злом «манаполіі» Саюза пісьменнікаў і свабода творчасці, канечне. Каб зрабіць штосьці сваё. Гэтыя меркаванні ўзніклі на старой глебе, савецкай, яны тады здаваліся важнымі, надзённымі. Сёньня іншыя часы. Сёння мноства кніжак, цікавых, прываб-

на выдадзеных, менавіта зробленых без удзелу дзяржавы і тым больш афіцыйнага пісьменніцкага саюзу. Але іх няма каму чытаць. Ці амаль няма. Сітуацыя такая, што пісьменнікаў і чытачоў прыблізна аднолькавая лічба. Кнігі сёння ўвогуле больш не значаць столькі, колькі значылі 20-25 год таму. Тым больш на мове Купалы і Коласа. Моладзь заканчвае спрэс рускія школы. Чытаць на беларускай мове — такой патрэбе школа не вучыць.

Але што да ТВЛ, яно сапраўды застанецца ў гісторыі літаратуры. Захацелі зрабіць — і зрабілі. Быў часопіс, былі кніжкі, была арганізацыя. А «Гліняны Вялес», ён па-ранейшаму застаўся.

## «Мова Нанова» вучыць складаць трыялеты

Уласны слоўнічак, прысвечаны літаратуры і друку агучыў Усевалад Сцебурака з Саюза беларускіх пісьменнікаў. Бард Зміцер Бартосік знаёміў з тонкасцямі перакладу на беларускую песень Вярцінскага, Высоцкага, Акуджавы. Свой аповед ён падмацаваў спевамі пад гітару.

У якасці практычнага задання ўдзельнікі курсаў складалі свае трыялеты, атрымаўшы за ўзор «Мне доўгае расстанне з вамі» Максіма Багдановіча.

Усевалад Сцебурака намаляваў малааптымістычную карціну, што датычыць сітуацыі беларускай літаратуры: «Самая галоўная прычына, што ў Беларусі пісьменнікаў значна больш стала, чым чытачоў. Куды не глянь, у нас сёння ўсе могуць пісаць, не вершы, дык прозу. Хаця жарты жартамі, але парадаксальна, што людзі пішуць, кніжкі выдаюцца і, як мне здаецца, бракуе беларускай літаратуры чытача, а не пісьменніка».

Пасля такіх слоў наўрад ці ў прысутных узмацнела жаданне папоўніць шэрагі пісьменнікаў. Але Усевалад Сцебурака заахвоціў да чытання: узгадаў цяперашнюю кніжную серыю, якую выдае СБП, якая налічвае ужо паўсотні тамоў, і часопіс «Дзеяслоў», нумар якога даступны любому, каштуе «менш за бутэльку гарэлкі». Адначасова ён заклікаў прысутных паспрабаваць сябе ў складанні трыялета, як упарадкаванай форме верша, які пабудаваны на паўторах: «Санет напісаць больш складана, трыялет — абсалютна рэальна. Каб дадаць вам азарту, я скажу, што на мінскіх курсах былі людзі, якія справіліся з заданнем не проста тэхнічна, але яшчэ й цікава».

Удзельнікам прапанавалі тэмы: мова і Гродна. Падзяліўшыся на невялікія групы, яны пачалі складаць трыялет пра каханне, пра свой каралеўскі горад. Адзін з кіраўнікоў курсаў Антон Янкоўскі падахвоціў: «Пасля таго, як вы перакладалі на беларускую мову Някрасава і «Мурку», гэта будзе лёгка».

Прысутныя справіліся даволі хутка, хоць і з розным вынікам. Адчувалася, што яны пераадольваюць моўныя бар'еры, як некалі сам Максім Багдановіч. Было заўважна, што аўтары памятаюць гродзенскі час у біяграфіі паэта, які хлопчыкам жыў у Гродне. Затым прагучалі «свежаспечаныя» творы. Журы выбрала тры. Першае месца атрымалі Святлана, Рэната і Артур за трыялет, які пачынаецца словамі «Я не складаю вершаў на заказ». Наступны склала ўдзельніца курсаў Людміла, ён пачынаецца радком «Мой горад Гродна мне найдаражэйшы». Апошнім з адзначаных стаў Павел з вершам «Трыялет мы яшчэ не складалі».



## Пра спалены танк, смаленне чорнага вепрука і Пагоню

У Гродне ў галерэі «Крыга» адкрылася новая выстава Аляксея Марачкіна. Яго прывітала гаспадыня галерэі Марыся Мацко. Пра творы сталічнага творцы гаварыла мастацтвазнаўца Марына Загідуліна.

Сам мастак прыгадаў, што аднойчы пасля выставы адзін з гродзенскіх музеяў набыў адразу дванаццаць яго палотнаў. Маэстра прызнаўся: «Калі браць фармулёўку Казіміра Малевіча, то я мастак-зладзей. Ён казаў: той, хто піша з натуры, гэта злодзей. Трэба пісаць з галавы, выдумляць». Успамінаючы вучобу на мастака, савецкія часы, расказаў, што калі трапіў у армію, спаліў у Пячах танк: «Капітан Грабавік запытаўся: Марачкін, ты ведаеш, колькі гэта ты кароў спаліў?» А на стагоддзе Леніна малады мастак намаляваў смаленне чорнага вепрука.

Некалі Язэп Драздовіч намаляваў вершніка з паходняй замест мяча. Існаваў у тыя часы іншы мастацкі варыянт — з жанчынай за спінай вершніка, як маці-краінай. Якія, на Ваш погляд, межы для свабоды творчасці ў выпадку з Пагоняй? Дзяўчына замест рыцара — гэта сапраўды замах на герб? Бо з ім адбыліся раней значна горшыя рэчы: яго здымалі з фасадаў, напэўна й знішчалі, як той жа бел-чырвона-белы сьцяг.

Аляксей Марачкін прызнаўся, што «сам удзельнічаў крыху ў тым, як Яўген Кулік стварыў эталон Пагоні». «Так, у Драздовіча была свая Пагоня, называлася Пагоняй Ярылы. У некаторых мастакоў была свая інтэрпрэтацыя. Прадметам мастацтва можа быць усё, але ўсё залежыць ад таленту», пагаджаецца ён.

Марачкін: «Але плагіят, ён павінен быць плагіятам і быць падпісаны: вось ты скраў коніка ці перавёў адзін да аднаго праз фоташоп. Але ў прынцыпе такая пазітыўная інтэрпрэтацыя, яна можа быць. І для мяне на коніку Жана Д'арк, як я сабе ўяўляю, мяне гэта асабліва не абурае. Але мяне абурае, што гэта некаму дае магчымасць для «сцёбу», здзекавацца з нашых сімвалаў. Карацей, мне гэта непрыемна. Але што рабіць, сапраўды, калі ёсць здымак, на якім Ціцянкоў разрываў наш сцяг, калі яго здымалі. Трэба ў суд падаваць. Але мы гэта даруем...»

Значыць, эстэтычна замену дзяўчынай рыцара можна разглядаць, як, напрыклад, вядомую Джаконду з вусамі?

Марачкін: «Джаконда з вусамі — гэта таксама сцёб і іронія. Але гэта не чэляс закрываць Пагоняй, як зрабіў адзін маладзён у нас... Так, я з карцінай іншага мастака магу рабіць нешта, але вельмі асцярожна, выкарыстоўваючы нейкія дэталі».

Сёння не стамляюцца паўтараць, што пісьменнікаў у Беларусі стала больш, чым чытачоў. А якое становішча мастакоў? У сваёй самотнасці ці не мае мастак адчування сваёй непатрэбнасці? Што разлік на адзінага пакупніка сваёй карціны можа не спраўдзіцца?

Марачкін: «У мяне такога адчування няма. І літаратура, і выяўленчае мастацтва, гэта ўсё-ткі індывідуальная праца. Калі я сам-насам з палатном, то я выкладаю свае думкі праз сваё рамяство. Ва ўсякім разе мне здаецца, што ніхто мне не дыктуе. Я стараюся быць свабодным, ніхто не водзіць мяне за руку: вось так і так трэба. Так і паэт і пісьменнік. Іншая справа, калі я малюю і думаю аб тым, каб гэта прадалося, гэта ўжо лічы, што будзе правал. Бо тады ты робіш тое, што сёння адпавядае сярэдняму гледачу ці чытачу. Існуюць магчымасці, «фокусы», каб атрымаць гледача



▪ *А. Марачкін*

ці чытача, гэта элементарна, гэта распрацавана. Патрэбна скандальнасць, узведзеная да эстэтычнага, высокага, духоўнага паталогія, з дапамогай рэкламы. Але напісана праз пакуты, калі табе самому гэта цікава, гэта будзе цікава і чытачам ці гледачам. Таму нічога, што пісьменнікаў больш, чым чытачоў. Чым больш пісьменнікаў у нас, мастакоў, тым лепей».

Гродна спрабавалі называць горадам-музеем, але які гэта музей, калі палова старога цэнтру забудаваная хрушчоўкамі? Калі часам пабудовы нагадваюць бутафорыю? Але пры ўсім гэтым, ці адчувае мастак хоць нейкую сілу, якую яшчэ можа захоўваць старая забудова, замкі?

Перш Аляксей Марачкін узгадвае, што аднойчы ўдзельнічаў у пленэры ў час кампаніі па абароне гродзенскіх будынкаў ад разбурэння (2007).

Марачкін: «Я не вельмі добра ведаю спадчыну Гродна. Гродзенскі брадвэй (пешаходная вуліца Савецкая) вычышчаны, і няхай крыху ёсць штосьці ад паказухі, ён ўражвае чалавека, які прыехаў на дзень-два. Але ёсць таксама іншыя рэчы: парк, дамы, на якіх захаваліся каваныя балконы, а ў некаторых выпадках разныя дзверы дубовыя, вось я сёння ішоў і бачыў іх. Сінагога робіць уражанне. Я памятаю, у ёй некалі быў мастацкі камбінат і туды было страшна заходзіць. І раптам: такі дагледжаны будынак, велічна глядзіцца. Таму Гродна стварае ўражанне еўрапейскасці, ёсць яна. Вы ведаеце, прадмет выхоўвае чалавека, які яго стварыў. Як я ствараю карціну, і яна ўжо ўплывае на мяне і можа ўплываць на іншых людзей. Пытанне — як? Ці разбурае душу, ці мацуе дух? На жаль, Гродна страціла нямала сваіх унікальных будынкаў. Але дзякуй Богу, што Каложа ёсць, сімвал горада, што на плошчы храм-дамінанта, я яго маляваў з натуры. І гэта ўражвае сваёй велічнасцю».

Пры ўсіх недахопах «Гродна цепліць маю душу, сваім каларытам, Нёманам, Каложай», прызнаецца Аляксей Марачкін.

## Самы гарадскі альманах

У абласной бібліятэцы імя акадэміка Карскага быў прадстаўлены трэці нумар нашага «Новага Замка». Яго прывёз Усевалад Сцебурака, які адказвае ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў за працу з абласнымі філіямі. Ён зазначыў: калісьці было толькі адно брэсцкае выданне, «Жырандоля», і казаць пра альманахі як пра агульнабеларускую з'яву не выпадала, але затым свой альманах зрабілі гродзенцы. Усевалад Сьцебурака прызнаўся пры гэтым:

«З'явіўся «Новы Замак», з'явіўся са сваёй канцэпцыяй, вельмі добрай. І мне ён бліжэйшы ад усіх астатніх. Найперш таму, што ён самы гарадскі. Ніхто не піша так



пра Гомель у самім Гомелі шмат, а пра Віцебск у Віцебску. Ёсць «Ратуша» (Віцебск), прэзентацыя ў музеі, выдатныя аўтары, усё цудоўна, але ў Гродне напэўна ўплывае сам горад, тут сама-дастатковасць відавочная ўва усім. Тут самая акадэмічная рэдакцыйная рада. І такога, калі вы дазволіце, хатняга «разбору палётаў» пасля выхаду альманаха як у Гродне нідзе не робіцца. Вы дазваляеце сабе крытыкаваць не проста на ўзроўні «падабаецца ці не падабаецца», а на ўзроўні літаратуразнаўчага аналізу. Як ні круці, гэта адметнасць. Гэта можа не падабацца аўтару, можа крыўдзіць яго, але гэта ўзровень, тут цэлая кафедра, можна сказаць, засядае сёння. Больш за тое, тут ёсць папярэдняя праца. Не проста дасылаюцца тэксты — хай там у Мінску разбіраюцца. Тут ёсць укладанне, працэс, які папярэднічае выхаду альманаха. І гэта бачыцца па якасці нумару».




▪ *У. Сцебурака*

Усевалад Сцебурака закончыў вельмі прыязна: «Дзякуй вам за чарговую цаглінку ў Новы замак, у яго адбудову, калі можна так сказаць».

Разбор нумару зрабілі літаратуразнаўцы Ігар Жук і Аляксей Пяткевіч. Як вынікала, гродзенскі альманах моцны старой традыцыяй, новых павеваў літаратуры са сталіцы ў Гродна амаль не трапляе. Пахвалілі толькі студэнтку Вікторыю Смолку, вершы якой надрукаваны ў «Новым Замку».

## Дыктавалі Зоську Верас

Гродзенская дыктоўка прайшла восьмы раз. У ёй удзельнічалі каля ста трыццаці чалавек. Арганізатарамі выступілі «Мова Нанова» і «Гарадзенская бібліятэка».

Удзельнікі пісалі тэкст аўтарства Зоські Верас, напісаны ў 1916 годзе. Раней яна была актывісткай Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, які дзейнічаў у горадзе да Першай сусветнай вайны. Чытала дыктоўку паэтка Ала Петрушкевіч. Пасля заканчэння выступіў бард Віктар Шалкевіч.

Дыктоўка была прысвечана стагоддзю беларускай школы. Але гісторык Андрэй Чарнякевіч зазначыў, што першая афіцыйная беларуская школа паўстала ў Вільні, 13 лістапада 1915 года. У Горадні школка адкрылася крыху



▪ *Удзельнікі дыктоўкі*

пазней, аб чым паведаміла 21 сакавіка 1916-га газета «Гоман». Размяшчалася яна на вуліцы Маставой пры праваслаўным манастыры, на месцы якога цяпер драмтэатар. Настаўнікамі працавалі Тэкля Станішэўская і Аляксандар Грыкоўскі, абое памерлі ад сухотаў праз тры гады.

Напачатку 1920-га ў горадзе нядоўгі час існавалі тры беларускія школкі. Пры канцы году нават была заснаваная гімназія. Пазней адзін час у беларускай школе ў Гродне налічвалася каля чатырохсот вучняў і восем настаўнікаў. Канец беларускамоўнай адукацыі ў горадзе быў пакладзены ў 1927 годзе. Пасольскі клуб «Змаганне» рабіў захады, каб аднавіць навучанне дзяцей на беларускай мове. Аднак польскія ўлады гэтага не дазволілі.

## Успаміны з былой «рыжскай» мяжы

Гісторыкі з Беларусі і Польшчы тры гады збіралі ўспаміны людзей, якія некалі жылі ўздоўж былой рыжскай мяжы, што расцяла беларускія землі на дзве часткі. Запісаныя ўспаміны былі выкарыстаны ў кнізе «Восень 1939 году. У гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі». Пад вокладкай працы больш як дваццаці аўтараў. Зборнік выйшаў у выдавецтве Зміцера Коласа ў Мінску. Рэдактар кнігі доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

## Гісторыя, але вусная

Накірунак вуснай гісторыі ў Беларусі стаў развівацца толькі апошнім часам. Алесь Смалянчук зазначае: вусны гісторык павінен быць крыху этнографам, антрапалагам, сацыёлагам, культуролагам. У гэтым прывабнасць гэтага новага накірунку. У кнізе паспрабавалі спалучыць даследаванні, напісаныя ў рэчышчы традыцыйным, калі гісторыкі працуюць з дакументамі, з вуснымі крыніцамі, кажа рэдактар.

## Што запомнілі беларусы са свайго жыцця да 17 верасня 1939 года?

Смалянчук: «Экспедыцыю ўздоўж былой рыжскай мяжы, пачынаючы з Палесся, праводзіў Беларускі архіў вуснай гісторыі. Спачатку былі Мікашэвічы, Стоўбцы, Глыбокае. Запісвалі ўспаміны людзей, якія некалі жылі з абодвух бакоў той былой мяжы. Звярталі ўвагу на важныя рэчы: штодзённае жыццё, успрыманне ў тыя часы суседняй краіны. Мяжа фактычна падзяліла не толькі дзве часткі беларускага народу, але сем'і.

Гэтыя ўспаміны засведчылі, што пры ўсіх недахопах польскага ладу, пры пэўнай недэмакратычнасці, асабліва ва ўмовах рэжыму санацыі, усё-ткі быў значна большы ўзровень свабоды. Напрыклад, працавалі непадалёк сваякі і была магчымасць перакрыквацца цераз мяжу, але з савецкага боку ўсе маўчалі. Таму што памежнікі забаранялі размаўляць, інакш можна было трапіць у ГУЛАГ. Ну і ўзровень жыцця быў, канечне, зусім іншы. Тыя, хто жыў каля савецкай мяжы з польскага боку, выдатна разумелі — што за жыццё ў Саветах, таму ніякай радасці не мелі, калі прыйшла Чырвоная армія».



## Памежныя заставы пасярод Беларусі

Што ўражвала жыхароў былога савецка-польскага памежжа пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР?

Смалянчук: «Што мяжа не знікла ні ў верасні, ні ў лістападзе 1939-га. Ні ў наступным годзе. Яна заставалася, былі на месцы і памежныя заставы, нікога не пускалі. Калі толькі нямецкія войскі акупавалі Беларусь, гэтая рыжская мяжа нарэшце знікла, і сваякі змаглі ўз'яднацца.

Такія рэчы дазваляюць бачыць новыя аспекты тых падзей. І можа больш глыбока зразумець, чым гэты верасень 1939 году быў у беларускай гісторыі. Гэты зборнік мне здаецца важным для далейшага развіцця і гістарычнай навукі, і разумення важных момантаў нацыянальнага гістарычнага лёсу Беларусі.

Навошта была патрэбна мяжа? Савецкія ўлады хацелі правесці зачыстку насельніцтва. Па-другое, не хацелі, каб жыхары былой Заходняй Беларусі паехалі паглядзець на савецкі рай і ўбачылі рэальнае жыццё. Такі прыклад: чалавек прыехаў на нейкі з'езд у Мінск. Пасяліўся ў гасцініцы і захацеў папіць гарбаты. Пайшоў у краму і ўбачыў вялікую чаргу па цукар, дзе амаль што біліся. Ён быў лепш апрануты і да яго адразу падышоў міліцыянт і калі даведаўся, што чалавек з Заходняй Беларусі, звярнуўся да чаргі: вось чалавек, які дваццаць год не бачыў цукру, прапусціце яго, таварышы, без чаргі…»

## Было шэсцьсот панскіх сядзібаў…

У Новым замку адбылася лекцыя-прэзентацыя навукоўца Анатоля Федарука з Мінска. Ён прадстаў сваю кнігу «Старинные усадьбы Гродненщины». Магнаты і шляхта збіралі бібліятэкі і карцінныя галерэі, стваралі сады і паркі, дбалі пра земляробства і жывёлагадоўлю. Сядзіба была асобным светам, зазначае аўтар.

«Калі я мысленна ўяўляю Гродзенскі рэгіён ці ўсю Беларусь, я думаю: Божа ты мой, каб гэта ўсё захавалася, кажа Анатоль Федарук. Бо на Гродзеншчыне я адзначыў прыблізна шэсцьсот сядзібаў. У першым томе, прысвечаным Гродзеншчыне, я даю дзвесце шэсцьдзесят. Кожная мела сваю вартасць, свае зборы. Інвентары сведчаць, якой была сядзіба ў эпоху рэнесансу. Яны самі не захаваліся, але дзякуючы інвентарам яны стаяць у мяне ў вачах: драўляныя дыхтоўныя будынкі. Абавязкова ўязная алея, брама на двух-трох узроўнях, часам умацаванні. Апроч замкавых руінаў, засталася адна сядзіба — Гайцюнішкі. Гэта асаблівы помнік, ён не мае цаны».

Будаваць было не так проста, як можа здавацца, зазначае Анатоль Федарук: «У XVII стагоддзі позні рэнесанс змяняецца на беларускіх землях часам барока. Хачу падкрэсліць: нам толькі здаецца, што калі былі багатыя ўладальнікі, то ўсё ішло лёгка і проста. Не. Гэта быў цяжкі час: вайна з Масковіяй, потым Паўночная. Неўраджаі некалькі гадоў запар. Голад, эпідэміі. Таму барока развівалася ў цяжкіх эканамічных

умовах. Сядзібы дайшлі да нашых дзён, канечне, у вельмі дрэнным стане. І лепш за ўсё дзятлаўскі палац з элементамі ракако (перабудаваны пазней, але яго выгляд захаваны дзякуючы малюнку Напалеона Орды)».

Але калі палацы знікаюць, сціраюцца іх сляды і ў памяці. Напрыклад, адну сядзібу называлі «Аркадыяй», апавядае даследчык: «Але нічога не захавалася. Гэтае месца называлася Хаткі. І калі я пытаюся ў мясцовых: дзе? Ніхто нічога не ведаю. А калі я кажу: а Хаткі называлася гэтае месца. А, дзе Хаткі — мы ведаем. Усё парасло бярозамі».

Вялікую ролю адыграў на Гродзеншчыне італьянскі архітэктар Джузепэ Сака, якога запрасіў апошні кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Наступаў «пераходны час барочнага класіцызму, які складаўся пад уплывам караля, і ў гэтым стылі праявіўся адзін з аспектаў ягонага густу — ніякіх лішкаў, умеркаванасць у архітэктуры», падкрэслівае Анатоль Федарук. Ён працягвае: «Каралеўскага архітэктара Джузепэ Сака хутка заўважылі магнаты, сталі прыцягваць яго для стварэння сваіх прыватных рэзідэнцый. Адной з іх з'яўляецца палац у Свяцку. Нібыта яго аднаўляюць, страціць яго будзе недаравальна».

Пазней Сака працаваў у навагрудскага ваяводы Несялоўскага. Палац, збудаваны для яго, у апошнюю вайну спалілі партызаны разам з апошнімі ўладальнікамі. Анатоль Федарук тлумачыць: «У час вайны многія ўладальнікі вярталіся ў сядзібы… Калі яны спрабавалі ратавацца цераз вокны, іх тут жа забівалі. Засталіся толькі сутарэнні, а ўся тэрыторыя разарана пад гароды».

Партрэты ў сядзібах нагадвалі: кожны наступны ўладальнік павінен быць лепшым за папярэдняга, кажа Федарук. Але, на жаль, «у нас нічога не захавалася». Аграмадны сапежанскі збор з Дзярэчына, быў спакаваны ў скрыні і вывезены ў Санкт-Пецярбург, працягвае ён, «дзе сам імператар распараджаўся: гэтыя карціны спаліць, гэтыя — на рынак, а гэтыя пойдуць у Эрмітаж. Пару год прыязджаў, ніхто не мог сказаць — дзе ж быў палац. Не ведаем! Сам знайшоў выпадкова тое месца…»

Даследчыку ўдаецца знаходзіць іншыя пабудовы, мала каму вядомыя. Напрыклад, трохпавярховы дом з дэкорам у Ваўкавыскім раёне ў стылі эклектыкі: «Цяпер ён у прыватным агародзе, на жаль. І стаіць без даху. Ён не на ўліку. А каб уратаваць, трэба мець на ўліку.

## Млыны, бровары, свірны

Значна больш, чым сядзібных дамоў, захавалася былых панскіх гаспадарчых пабудоваў. Анатоль Федарук прызнаецца, што ў яго «асаблівае стаўленне да гаспадарчых пабудоваў: яны пастарэлі, прыціснуліся да зямлі, ім таксама хочацца жыць. Але падганяюць бульдозеры і проста разбураюць. Часта яны маюць па сто метраў даўжыні. На Гродзеншчыне захавалася дзвесце гаспадарчых будынкаў і некалькі дзясяткаў вытворчых, ёсць млыны, бровары. У былой сядзібе Брахоцкіх была цагельня, яна захавалася, яшчэ некалькі гадоў таму быў цэх абпалу, сёння адны толькі цагляныя слупкі, усё зруйнавана».

Ці такая гісторыя: «Адзін былы бровар — «прастата і прыгажосць» трапіў у добрыя рукі, знайшоў новага гаспадара. Але потым справы не пайшлі. І што? Вокны разбітыя, дзверы разламаны, падлогі ўзарваныя. Паслухайце, напэўна такога вандалізму не ведае зямля. Вось кім мы з'яўляемся. У галаве толькі адно — знішчыць. Сёння, здаецца, дзевятнаццаць бровараў. Нікому не патрэбныя».



Даследчыка не можа не ўражваць сённяшняе варварства: «Калі ідзеш па гаспадарчых дварах, то такое ўражанне, што прайшла разбуральная вайна незвычайнай сілы. Стаяць аграмадныя кароўнікі па сто метраў, нікому не патрэбныя, зусім кінутыя, а паспрабуйце купіць, то цана будзе завоблачнай. Б'юць сцены і вывозяць камяні. А побач пабудаваны новыя нізенькія кароўнікі: атрымалі грошы, трэба выкарыстаць. А каб ніхто не папракаў, старыя трэба разбіць.

Самыя ціцелі — старыя сяляне. І жанчына старэнькая кажа мне: б'юць ужо некалькі гадоў і разбіць не могуць. Так трывала зроблена. Навошта?»

## Спляжаныя прысады

Анатоля Федарука вельмі турбуе, што масавая высечка дрэваў уздоўж дарог закранула і былыя сядзібныя прысады: «Адбываецца павальнае знішчэнне старых сядзібных алеяў. Каму перашкаджалі дрэвы? А раптам упадзе на галаву? — адказваюць. У Шчорсах, дзе былі спланаваныя Джузепэ Сака тры алеі, якія сыходзіліся ў адным месцы прамянямі, цалкам знішчаны цяпер. А на пні паклалі аўтамабільныя шыны. Найвышэйшы паказчык нашай культуры. Мы водзім экскурсіі, мы развіваем турызм. І што паказваць — шыны? І не гаварыць аб Джузепэ Сака?» Ну «чаму так хочацца знішчаць? Калі ссеклі, пасадзіце тады новыя дрэвы».

## Паўмільярда за кнігу

Анатоль Федарук працуе як цэлая ўстанова. Трэба ўсе знойдзеныя пабудовы ці іх рэшткі сфатаграфаваць, апісаць, пабыць у архівах, у аддзелах рэдкай кнігі. А перш выехаць на месца, а за машыну трэба заплаціць адзін мільён рублёў. І трэба знайсці на ўсё час. А ён працуе выкладчыкам, мае вялікую нагрузку. Затым неабходна напісаць кнігу. А потым выдаць. Але як? Дзве тысячы асобнікаў апошняй («Старинные усадьбы Гродненщины») каштавалі пяцьсот мільёнаў. Грошы даў музейны комплекс «Мір». У кнігарні кніга каштуе трыста пяцьдзесят тысяч рублёў. «Аўтару — адзін асобнік і пару мільёнаў ганарару і ўсё», прызнаецца Анатоль Федарук. Ім ужо напісаны другі том. У ім сядзібы дзевяці раёнаў. Але хто дапаможа яго выдаць?

Аўтар падсумоўвае: «Я дзясяткі разоў чуў: што ён ходзіць па тых руінах, што там можна знайсці? І можа кінуў бы, каб не трапілася кніжка акадэміка Ліхачова, які пісаў — «нават паветра на месцы сядзібы асаблівае, гэта паветра гісторыі». І я зразумеў, што ўсё трэба ўлічваць, і ўсё пакідаць на паперы.

Рабіць схемы страчаных сядзібаў часта дапамагала мясцовае насельніцтва. Ніхто так не даражыць сядзібамі, як мясцовыя людзі. Калі не самі, то іхнія бацькі, дзяды працавалі кухарамі, возчыкамі. І яны казалі: ніводнага пана не было дрэннага. Пан першы здыме капялюш і павітаецца… А вучылі нас па-іншаму».

## Партызанскія запалкі

Як вядома, партызаны мелі заданне напярэдадні наступу Чырвонай арміі знішчаць панскія сядзібы. Аб якой лічбе можна гаварыць: гэта дзясяткі спаленых сядзібных дамоў?

А.Федарук: «Дадзеных такіх не збіраў. Часам у дзённіку пазначана: партызаны. Са слоў мясцовых людзей. Але ведаеце, не заўсёды нават пісаў, што знішчылі партызаны. Ну што ты зробіш? Была такая ўстаноўка. Не, не менш чым дзясяткі было такіх выпадкаў, можа многія дзясяткі. Многія сядзібы згарэлі ў апошнюю вайну. Баяліся, што немцы засядуць, умацуюцца. Што трэба? Спаліць. Вось і ўсё».

Колькі сядзібных дамоў, што захаваліся пасля вайны, страчаны ў мірны час, у апошнія гады?

А. Федарук: «Пасля вайны сядзібы працягвалі з'яўляцца цэнтрамі культуры. Там былі школы, гурткі, бібліятэкі. Праводзіліся вечары, танцы. На базе многіх сядзібаў былі арганізаваны племянныя гаспадаркі, заваёўвалі залатыя медалі на ВДНГ. А вось апошні час разбурэнне пайшло больш масава. Была школа. Яе няма. Была бальніца, яе закрылі. Засталося без вокнаў і дзвярэй. Каля царквы ў Сынкавічах побач была сядзіба. Доўгі шляхецкі дом зруйнавалі бульдозерам, парк таксама. Вось вам стаўленне».

Калі падсумаваць: вы сказалі, што некалькі сядзібаў цяпер купілі і нармальна аднаўляюць, але на іншыя ставяць нерэальную цану, па якой ніхто не купіць. Што будзе з ацалелымі сядзібамі цяпер? Іх чакае знішчэнне?

А.Федарук: «Я думаю, што пакуль яны знойдуць чалавека з двума мільярдамі (як у выпадку сядзібы ў Жэмыслаўі), то там мала што застанецца. Там яшчэ была выдатная печ год-паўтара назад, я яшчэ паспеў яе засняць. Яе разбілі ўшчэнт. І ўнутры ўсё павыгарала, быў пажар. Але я не хачу лічыць, што іх чакае дрэнны лёс. Бо яшчэ гадоў сем назад я яшчэ мог бы паверыць, што іх нехта пачне выкупляць. Вось у Лынтупах сядзіба, калі школы не стала, усё разбілі. Але цяпер дах ёсць, вокны ўставілі, такі палац — цуд папросту. З Расіі знайшоўся багаты чалавек. Краскі (Ваўкавыскі раён) купіў багаты чалавек. У Падароску палац, у Жалудку, здаецца за сто тысяч даляраў. І правільна. Бо што за цэны ставяць? Два мільярды рублёў. Ну хто купіць?»



▪ *А. Федарук у Новым замку са сваёй кнігай «Старинные усадьбы Гродненщины»*



## «Беларускі алфавіт мастацтва» з Польшчы

У Гродне ў Сенатарскай зале Новага замка адкрылася выстава «Беларускі алфавіт мастацтва», якую прывезлі з Беларускага музея ў Гайнаўцы з Польшчы. Для карцін польскіх беларусаў прадаставіў памяшканне Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Аказаў дапамогу таксама Цэнтр беларускай культуры пры пасольстве РБ у Варшаве.

Дырэктар Беларускага музеяў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк закончыў Варшаўскі універсітэт, у музеі працуе адзінаццаць гадоў. Ён стараўся ажывіць працу, каб не толькі была экспазіцыя, але каб праводзіліся пастаянна сустрэчы, «каб музей жыў, каб паказаць, што беларусы жывуць», сказаў ён. Яго жонка Агнешка Ціханюк таксама супрацоўніца музея, гісторык мастацтва. Яна падрыхтавала выставу ў Гродне, на ёй выстаўлены карціны дзевяці аўтараў.

Тамаш Ціханюк зазначае, што ў Музеі і Цэнтры беларускай культуры (яны існуюць разам) ў Гайнаўцы «найбольшая бібліятэка на беларускай мове ў Польшчы, адзінаццаць тысяч кніжак». Адбываюцца сустрэчы з тымі, хто піша па-беларуску ў Польшчы. З апошніх можна назваць сустрэчу з Дарафеем Фёнікам, з Міхалам Болтрыкам, які працуе ў «Пшэглёндзе праваслаўным». Міра Лукша з Беластока прывозіла сваю дзіцячую кніжку, вядома, яна працуе ў газеце «Ніва». Была прэзентацыя аўдыёкнігі ўспамінаў «Птушкі без гнёздаў» Ларысы Геніюш, якую падрыхтавала інтэрнэт-бібліятэка «Камунікат».

Ці мае бібліятэка ў Гайнаўцы праблемы з чытачамі?

Ціханюк: «Канечне, паўсюдна інтэрнэт на першым месцы, кнігі крыху збоку. Але карыстаюцца настаўнікі. На Беласточчыне амаль у кожнай школе вывучаюць беларускую мову, перш за ўсё на Гайнаўшчыне і Бельшчыне, але ў Беластоку таксама. Бываюць студэнты беларускай філалогіі, але таксама вучні».

У бібліятэцы таксама стараюцца, каб былі кнігі на польскай мове, прысвечаныя праваслаўю, Беларусі, гісторыі рэгіёна і пераклады беларускіх аўтараў на польскую. «Іх могуць пачытаць палякі і зразумець беларусаў», кажа Тамаш Ціханюк». Знаёміцца з бібліятэкай прыходзяць класамі вучні з ліцэя. А паасобку прыходзяць, калі рыхтуюцца да экзаменаў.

Што да калекцыі сучаснага мастацтва, ёсць думка не трымаць яе ў музеі, а паказваць у самой Гайнаўцы, куды прыязджаюць тысячы турыстаў, распавядае дырэктар. У музеі ствараюць «слоўнік беларускіх мастакоў». Пакуль што гэта сегрэгатар, у якім сабраны звесткі аб творцах: якой творчасцю займаецца, дзе выстаўляў карціны. Такі «слоўнік» сёння маюць усе вялікія бібліятэкі Польшчы: у Познані, Варшаве, Вроцлаве, Кракаве, Гданьску. У ім цяпер больш за дваццаць прозвішчаў, гэта новы праект, гаворыць Тамаш Ціханюк, які пастаянна дапаўняецца. Прычым сталі адкрываць новыя імёны, аб якіх раней не чулі. Некаторых мастакоў ужо няма. Напрыклад, Віталь Сарасек, які жыў у Саколцы і лічыў сябе беларусам. Выставу ягоных карцін зрабілі пасля смерці мастака. Ён маляваў сваю Саколку. Вельмі дакладныя карціны, вельмі адметна перадаваў святло, зазначае Тамаш Ціханюк.

Музей атрымлівае датацыі з міністэрства адміністрацыі і цыфрызацыі Польшчы. Падтрымка дазваляе купляць карціны мастакоў, некаторыя каштавалі дзве тысячы злотых, зазначае дырэктар.

На адкрыцці выставы ў сенатарскай зале выступіў таксама Міраслаў Здрайкоўскі, ён закончыў акадэмію мастацтваў у Мінску.

## Вайна за Каліноўскага працягваецца

У Гродне адбылася дыскусія гісторыкаў аб асобе Кастуся Каліноўскага. Яе прымеркавалі да прэзентацыі новай кнігі — «Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі». Кнігу склалі тэксты выступаў з канферэнцыі, што адбылася ў Лондане ў 2014 годзе.

Беларус Каліноўскі ці паляк? — спрэчкі працягваюцца і ў нашыя дні.

Васіль Герасімчык успамінае Уладзіміра Караткевіча, які адказаў для сябе на гэтае пытанне: хто для мяне Каліноўскі? Для яго было галоўным беларуская мова яго твораў. Перш за ўсё, «Лістоў з-пад шыбеніцы». Не можа чалавек, які ведае, што яму засталося мала жыць, пісаць на зусім не блізкай яму мове. Генадзь Кісялёў яшчэ ў 1958 годзе, калі толькі пачынаў даследаваць асобу Каліноўскага, напісаў: паглядзіце кнігі, гэта не дыскусія, гэта вайна за Каліноўскага. Фактычна гэтая вайна працягваецца і да сённяшняга часу. Спадзяюся мы выйграем, кажа Васіль Герасімчык. Дарэчы, ён піша аповесць аб Каліноўскім.

Алесь Смалянчук, які праводзіў дыскусію, нагадвае аб крытыцы з боку беларусаў Беласточчыны: маўляў, не можа быць каталік беларускім нацыянальным героем. На крытыку не варта не звяртаць увагі, значыць яшчэ шмат не зроблена. У пэўным сэнсе Каліноўскаму стварылі помнік, гэта пачаў рабіць яшчэ Ластоўскі ў віленскай газеце «Гоман» (1916). А што ён з сябе ўяўляў як чалавек, як асоба? І крытыка сёння прымушае працягваць даследаваць яго, падсумоўвае Смалянчук. І само сабой узнікае пытанне: а ці існуе загадка Каліноўскага?

Алесь Радзюк лічыць, што трэба пазбаўляцца старых ідэалагічных «прыставак» да яго, што гэта рэвалюцыянер-дэмакрат, што абапіраўся выключна на сялян. Але ж і на шляхту, і на ксяндзоў абапіраўся. Пытанне таксама: наколькі можна давяраць крыніцам аб паўстанні, калі яны амаль цалкам паходзяць з боку праціўніка, царскага боку? Сведчанні былі дадзены на допытах, пад ціскам. Ці можна на іх падставе рэканструяваць паўстанне?

Але дапамагаюць новыя знаходкі. Разам з Інай Соркінай ім удалося знайсці дзённік Людвікі Ямант, не ўведзены ў беларускую гісторыяграфію. Людвіка — родная сястра Марыі Ямант, якая была нарачонай Кастуся Каліноўскага. З дзённіка вынікае, што ён герой, чалавек з жалезнай воляй. Першы раз ён узгадваецца, калі прыязджае ў Вільню восенню 1863 года: яго выклікаюць, каб ён узначаліў літоўскі камітэт. Людвіка Ямант піша, што на яго ўжо тады палявалі, бо ён быў вядомым. Ён пасяліўся на канспірацыйнай кватэры ў Зарэччы ў пані Догель, не маючы дакументаў. Гэта была двухпакаёвая кватэра на трэцім паверсе. Там у яго была друкарская прылада. Аднойчы, калі ён спаў, прыйшла паліцыя. Паліцмайстар Саранчоў, выставіўшы ахову, у кватэру ўварваўся сам з крыкамі: «Я цябе ў Сібір, я цябе павешу!» Каліноўскі



паспеў з ложка праз вакно вылезці на дах, дзе ляжаў на холадзе, пакуль не прайшоўператрус. Саранчоў, аднак, нічога не сканфіскаваў. Людвіка Ямант пісала, што ён дапамагаў рэвалюцыйнай арганізацыі. А Каліноўскі тады нават не захварэў.



▪ *Новая кніга пра Кастуся Каліноўскага выйшла ў Мінску ў выдавецтве Зміцера Коласа*

Людвіка Ямант таксама паведамляе, як удалося наладзіць сувязь з Каліноўскім у камеры смяротніка, як былі перададзены на волю, у прыватнасці, «Лісты з-пад шыбеніцы». Ахоўнікам плацілі па дзесяць рублёў за адну старонку.

Васіль Герасімчык дадае: існуюць таксама ўспаміны самой Ядвігі Макрыцкай, якая падтрымлівала сувязь з Каліноўскім, калі ён быў у турме. Яна напісала, як ёй удавалася перадаваць Каліноўскаму лісты ад Марыі Ямант, якая таксама знаходзілася пад следствам. «Каліноўскі мэтанакіравана ішоў да вобраза, пра які мы сёння гаворым. Хацеў стварыць вобраз героя, не гледзячы на свой чалавечы страх, таму што разумеў, чаго хоча, марыў застацца ў памяці», мяркуе Герасімчык.

Вячаслаў Швед удакладняе: Каліноўскі, можна сказаць, быў яшчэ ліцвінам, прабеларусам. Яны з братам Віктарам сабралі бібліятэку выданняў аб Вялікім княстве Літоўскім, яно іх цікавіла. А ВКЛ — гэту уніяцтва, гэта дзяржаўная беларуская мова. Значыць ён не быў палякам, не заігрываў з беларусамі. Ліцвінства тады паступова перарастала ў беларускасць, заўважае гісторык.

Дыскусія гісторыкаў аб Кастусю Каліноўскім адбылася ў гродзенскай артгалерэі «Крыга».

## Хто ў даваенным Гродне кіраваў, а хто — краў

Гісторык Андрэй Чарнякевіч напісаў кнігу «Памяць пра Гродна. Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка постацей міжваеннага горада 1919–1939 гадоў». Яе выдала мясцовае выдавецтва «ЮрСаПрынт», пад вокнамі якога ў падворку адбылася прэзентацыя.

Аўтар зазначыў, што кніга прысвечана перадваенным элітам Гродна. І таксама прызнаўся, што няпроста вызначаць — хто ўваходзіць у эліты, а хто не. Увесь час ён быў перад выбарам: якія асобы, факты, моманты з біяграфіі браць, а якія не, «бо некаторыя гучалі б не вельмі прывабна». Польскаму гісторыку, якому паказаў пачатковы спіс людзей, стала непамысна, што разам і палякі — кіраўнікі перадваеннага Гродна і гаспадары яўрэйскіх крамаў, і нават злачынцы. «Хацелася ўлічыць усіх, пра каго можна было нешта сказаць», прызнаўся Андрэй Чарнякевіч. Аднак давялося

скараціць спіс мясцовых злачынцаў. Але больш нікога не выкідаў, «бо кожнае імя — гэта асоба і не ў ягонай кампетэнцыі выкідаць асобу з гісторыі», зазначыў аўтар.

Рэцэнзент кнігі «Памяць пра Гродна» Вячаслаў Швед сказаў: «Праз асобы мы даведаемся пра многія невядомыя нам падзеі міжваеннага часу. Важна бачыць канкрэтнага чалавека, які робіць гісторыю. Пра ўсіх напісаць Андрэй не мог, узяў толькі эліты. Што датычыць злачынцаў, пра іх можна напісаць асобную кнігу». У цяперашняй чытач знойдзе звесткі пра кіраўнікоў гарадской улады, рэдактараў газет, настаўнікаў, лекараў, працаўнікоў суда, гандляроў. Вячаслаў Швед зазначыў, што ў кнізе «апісана каля тысячы чалавек, аб некаторых звесткі ўзяты з дзясятку крыніц, аўтар перачытаў газеты 1919–39 гадоў».

Андрэй Чарнякевіч упершыню шырока расказаў аб жыхарах міжваеннага Гродна — паляках, беларусах, яўрэях, расейцах. Раней такога выдання не было. Сваё слова аб кнізе сказалі краязнаўцы Віктар Саяпін, Алесь Госцеў, кіраўнік яўрэйскай рэлігійнай абшчыны Барыс Квяткоўскі. Гучала прапанова, каб «Памяць пра Гродна» стала часткай будучай энцыклапедыі Гродна, патрэба ў якой даўно наспела.

Дзякуючы Чарнякевічу таксама можна больш адчуць, што да вайны беларускі рух у горадзе не затухаў, патрыёты былі, іхнія імёны вяртае нам аўтар. Напрыклад, гэта Надзея Ламашэвіч, сябра беларускага дабрачыннага таварыства і гарадской управы ТБШ. Яна таксама кіравала беларускай кнігарняй, была прадстаўніцай «Змагання» у горадзе. Альбо аўтар паведамляе пра Сяргея Ражкоўскага, які быў сакратаром управы беларускага дабрачыннага таварыства. Гісторык зазначае, што яго арыштавалі па абвінавачанні ў прыналежнасці да КПЗБ (але хутка выпусцілі) і што, як паведамляла «Беларуская ніва», паліцыянты катавалі яго. Але іншых звестак, як і здымка Ражкоўскага, няма.

## Вядомы беларускі мастак з Беласточчыны ўпершыню ў Гродне

У Гродзе прайшла выстава, прысвечаная Падляшшу, дзе жывуць польскія беларусы. Яна складалася з дзвюх частак: графікі Уладзіслава Петрука, які прыехаў на адкрыццё, і найлепшых фотаздымкаў з конкурсу імя Віктара Волкава, вядомага беластоцкага фатографа. Конкурс арганізуе Беларускі музей і цэнтр культуры ў Гайнаўцы.

На адкрыцці гаварылася, што краявіды Беласточчыны і Гродзеншчыны, тым больш супольная Белавежская пушча, яны вельмі падобныя. Але даводзіцца канстатаваць, што з польскага боку мяжы захавалася нямала драўляных храмаў, млыны, іншыя пабудовы, чаго амаль не сустрэнеш сёння з беларускага.

Уладзіслаў Петрук стварыў сем тысяч выяваў архітэктурных помнікаў і толькі каля двухсот мае дома, астатнія разышліся, вельмі ахвотна іх набываюць, кажа ён. На гродзенскай выставе каля пяцідзесяці працаў, выкананых тушшу, пяром. Мастак упершыню ў Гродне. Ён кажа, што паходзіць з-пад Драгічына над Бугам, жыў непадалёк мяжы, ды ніколі не бываў і ў Брэсце, але нарэшце першую выставу зрабіў там, а цяпер вось у Гродне.

Мастак-графік з Беласточчыны расказаў, што восем гадоў працаваў мастацкім рэдактарам у беларускай газеце «Ніва» у Беластоку. Меў дзве рубрыкі «Свойскія малюнкі» і «Родныя краявіды». І прафесійнае маляванне пачалося якраз у час працы ў рэдакцыі, сказаў ён. Кожны тыдзень патрэбна было зрабіць адзін малюнак архітэктуры. Калі іх сабралася 250, у 1991 годзе яму выдалі першы альбом. «З гэтага пачалося маё праваслаўнае рысаванне», кажа Петрук. Але зазначае, што не толькі цэрквы прыцягвалі яго ўвагу, а розныя драўляныя пабудовы, касцёлы таксама, сінагогі, усё, што захавалася.



▪ *Уладзіслаў Петрук расказвае аб сваёй працы навучэнкам мастацкай школы*

На Беласточчыне ў 1990-х здарыліся падпалы цэркваў і менавіта драўляных. Уладзіслаў Петрук кажа, што аднойчы за чатыры месяцы да пажару замаляваў царкву на гары Грабарка — у месцы паломніцтва. Ніхто не думаў, што такое можа здарыцца, а ён зафіксаваў храм у першапачатковым выглядзе, таму лічыць яго важнай працай. Царкву потым удалося адбудаваць. Дваццаць пяць гадоў запар раз на год, калі на Грабарцы збіраецца мноства людзей, спадар Петрук таксама прыязджае, каб паломнікі маглі набыць ягоныя малюнкі. Бывае, што прыязджае 50-60 тысяч, кажа ён. Апошнім часам яму цяжэй выбірацца туды, паломніцтва адбываецца тры дні і даводзіцца спаць у машыне.

Зараз ён хоча зрабіць альбом у дзвюх частках, у якім будуць усе праваслаўныя храмы, якія ёсць у Польшчы. Раней ніхто за гэта не браўся. Яму, напрыклад, удалося ўжо намаляваць усе рэлігійныя пабудовы ў Драгічынскай епархіі, што блізка ад беларускай мяжы. Працаваў больш за тры гады.

Карыстаючыся нагодай ён таксама зрабіў панараму Драгічына XVI стагоддзя. Тады ў горадзе было дванаццаць цэркваў і тры манастыры і толькі два касцёлы, кажа мастак. Але кожныя два-тры гады вайна, «калі чатыры гады выпадалі мірныя — то шчасце было», драўляныя храмы не мелі шанцаў захавацца, цяпер самы стары датуецца XVIII стагоддзем.

Уладзіслаў Петрук папрацаваў таксама ў дзвюх праваслаўных епархіях, Беластоцка-Гданьскай і Варшаўска-Бельскай, вынік: 380 выяваў, гэта храмы і капліцы, часта невялікія, «але для культуры вельмі важныя», зазначае мастак.

## Як не стала Ларысы Геніюш

У Гродне адбылася прэзентацыя кнігі пра Ларысу Геніюш «ва ўспамінах, лістах і архіўных матэрыялах». Зборнік называецца «Духу магутныя чары…», выйшаў у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» у выдавецтве «Лімарыус». У Гродне новую кнігу прывёз укладальнік Міхась Скобла.

На сустрэчы сваімі развагамі падзяліўся прафесар Аляксей Пяткевіч, які ведаў Ларысу Геніюш асабіста, і ўспаміны якога змешчаны пад вокладкай прэзентавай кнігі.

Ён вяртаецца ў думках, у прыватнасці, да апошніх дзён Ларысы Геніюш у гродзенскім шпіталі, дзе яна памерла. Што датычыць яе смерці, у надрукаваных успамінах ён усяго не сказаў, прызнаўся Аляксей Пяткевіч: «Яна была даволі моцнай фізічна. І тут яе нечакана забралі ў абласную бальніцу, у Гродна прывезлі». Ён з жонкай адразу наведалі яе. Потым ездзілі да яе ў прыгарадную вёску Лабна, у анкалагічны дыспансер. Затым у абласной бальніцы ёй зрабілі аперацыю. Прафесар успамінае: «За аперацыяй персанальна назіраў адзін з вялікіх беларусаў ХХ стагоддзя Юры Астроўскі (пазней акадэмік, дырэктар навукова-даследчага інстытута ў Гродне), асоба вельмі надзейная ўва ўсіх адносінах. Ён ведаў каго паставіць рабіць аперацыю. Ён гаварыў мне: усё, гэтыя людзі надзейныя».

Прафесар Пяткевіч працягвае: «Добра зрабілі аперацыю, усё. Прайшоў час, дзесьці з тыдзень, і ёй раптам стала дрэнна». Ёй зрабілі другую аперацыю, і пасля гэтага яе не стала. «Аказваецца, знайшлі нагнаенне. Значыць у рану трапіла інфекцыя. Якім чынам?! Але ж апроч дактароў былі яшчэ сёстры, былі асістэнты. Інфекцыю занесці вельмі лёгка, і ніякі кантроль не дапаможа...»

«Пахаванне было чымсьці незвычайным, працягвае прафесар: Выйшла ўся Зэльва. Я ніколі не чакаў і сёння, да гэтага часу не магу паверыць. Большасць людзей імкнуліся не кантактаваць з ёю, гэта было небяспечна. Але калі яе не стала, усе выйшлі на вуліцу».

«Адзін яшчэ штрых, каб зразумець, як ёй цяжка жылося», прафесар Пяткевіч успамінае, як аднойчы выступаў у Зэльве на настаўніцкіх курсах: «Раптам адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць з букетам Ларыса Геніюш, сядае на заднюю парту. І бачу з жахам, што людзі цішком, згінаючы спіны выслізгваюць за дзверы. Настаўніцы беларускай мовы і літаратуры — адна за другой. І застаецца кучка самых смелых».

Ларыса Геніюш была заняволенай на радзіме, персонай нон грата для начальства. Хаця такіх асобаў як яна ХХ стагоддзе нарадзіла толькі некалькі дзясяткаў, мяркуе Аляксей Пяткевіч. Пытанне: «Адкуль яна ўзялася — і паэтэса вялікая, і беларуская сапраўдная? Такія з'явы не ўзнікаюць раптам і не з'яўляюцца на пустым месцы», зазначае ён: Польскую гімназію ў Ваўкавыску яна не скончыла, адукацыі вялікай у яе не было». А вялікі ўплыў на яе зрабіў Янка Геніюш, муж, як быў і настаўнікам, чалавек, які выйшаў са сценаў Пражскага ўніверсітэта.

«Былі яшчэ прычыны, якія нарадзілі ў ёй моцную энергетыку», кажа прафесар Пяткевіч. «У 1939 годзе Саветы рэпрэсавалі яе сям'ю, бацькі загінулі, а яна была ў Празе. Такі маральны ўдар выведзе з раўнавагі практычна любога. А для яе гэта быў штуршок каб выказацца і яна стала пісаць. Калі нешта мучыць, баліць, калі нешта вельмі любіш, толькі тады чалавек можа завалодаць словам і стаць цікавым для іншых», зазначае прафесар. Так паўстала кніжка «Ад родных ніў», якая выйшла ў 1943 годзе ў Празе. «Гэта з'ява, спелая сапраўдная паэзія», дадае Аляксей Пяткевіч.

Міхась Скобла звяртае ўвагу на тэкст пад назваю «Ці наступіць гэта доўгачаканы рашучы паварот?», змешчаны ў кнізе пад рубрыкай «Dubia». Ён на дзевяноста дзевяць адсоткаў перакананы, што тэкст належыць руцэ Ларысы Геніюш, тым больш надрукаваны, як можна меркаваць, на яе машынцы. У ім гаворыцца, што «у апошні



час развіццё беларускай культуры... амаль што прыпынілася». Мова выкладаецца ў большасці школ Беларусі «як іншаземная», па дзве гадзіны на тыдзень. У тэксце нават гаворыцца, што беларуская культура «крочыць не ўперад, а назад». Імя самой Геніюш у канцы няма, а стаяць прозвішчы юрыста, намесніка рэдактара раёнкі, персанальнага пенсіянера, сакратара пасялковага савета. Нерэальна, каб у 1971 годзе ў Зэльве існавала такое кола дысідэнтаў, робіць выснову ўкладальнік кнігі. Ён мяркуе, што Ларыса Геніюш магла паставіць пад ім такія прозвішчы ў спадзяванні, што тады на яго могуць звярнуць увагу, каб надаць больш вагі. Прозвішчы надрукаваныя на іншай машынцы, а подпісаў, канечне, няма. Усіх гэтых людзей таксама няма на свеце, спраўдзіць нельга. Існуе шанец, што знойдзецца рукапіс гэтага тэксту, паколькі паэтка пісала ад рукі, на машынцы звычайна толькі перадрукоўвала, выказвае спадзяванне Міхась Скобла.

Цікава, што крытычны тэкст з Зэльвы забраў Васіль Быкаў, які перадаў яго потым Ніл Гілевічу. У Гілевіча ён захоўваўся 41 год, а надрукаваны быў толькі цяпер.

## Літоўскі амбасадар піша вершы і перакладае беларусаў

Амбасадар Літвы наведаў Гродна, каб адкрыць тыдзень літоўскага кіно. Да яго была прымеркавана выстава кінаплаката з фондаў Музея тэатра, музыкі і кіно ў Вільні. Іх можна было ўбачыць у кінатэатры «Чырвоная зорка», самым старым у Беларусі.

Эвалдас Ігнатавічус адказаў на пытанні, звязаныя з літаратурай і гісторыяй.



▪ *Эвалдас Ігнатавічус*

*— Вы пішаце вершы, друкуецеся ў сябе ў Літве. Цяпер займацца паэзіяй не атрымліваецца на такой адказнай пасадзе?*

**Ігнатавічус**: Патроху атрымліваецца, пішу вершы, штосьці перакладаю, хтосьці мяне перакладае. Арганізуем сустрэчы літоўскіх і беларускіх паэтаў. Толькі што прыязджалі з Літвы чатыры паэты на вечарыну ў кнігарні Логвінава ў Мінску. Рыхтуем новыя сустрэчы. На паэтычны тыдзень у лютым зноў прыедуць літоўскія аўтары. І затым на «вясну паэзіі» прыедуць у Літву беларускія. Наколькі атрымліваецца, я стараюся ў гэтым таксама ўдзельнічаць.

*— Каго канкрэтна з беларусаў Вы перакладаеце?*

**Ігнатавічус**: Перакладаў Адама Глобуса, Юлію Цімафееву, Сабіну Брыло. І яшчэ некалькіх аўтараў па колькі вершаў. Таксама перакладаў Уладзіміра Арлова.

*— У Гродне Вы выступалі на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі пяць гадоў таму. У прыватнасці, знаёмілі са сваімі «дэмбельскімі», салдацкімі вершамі, напісанымі некалі на рускай мове. Вы іх не публікавалі?*

**Ігнатавічус**: Не, не публікаваў, гэта як бы зусім іншае жыццё. Яно засталося ў тым часе, калі я ў Царскім сяле (пад Ленінградам) служыў у арміі. Тады быў час перабудовы, час публічнасці, былі адкрытыя новыя імёны. У рускай паэзіі, у літоўскай. Увогуле ўсё, што было раней забаронена. І гэта стала следствам усяго прачытанага, перажытага тады і ўплываў рускамоўнай паэзіі на мяне. Але гэта не было настолькі добрай, якаснай паэзіяй, каб варта было публікаваць.

*— На Ваш погляд, у чым слабасць беларусаў у іхнім стаўленні да Вялікага княства Літоўскага, да яго спадчыны?*

**Ігнатавічус**: Погляд беларусаў на Вялікае княства Літоўскае вельмі неаднолькавы. Ёсць гісторыкі, якія глядзяць аб'ектыўна, як на важную частку беларускай гісторыі. Ёсць людзі, якія схільныя дзяліць: гэта наша беларускае, а нешта там — літоўскае або польскае. І стараюцца прыватызаваць як можна больш гісторыі. Або асобных асобаў, як Міхала Клеафаса Агінскага, юбілей якога мы святкуем цяпер. Гэта натуральна, мы гэта таксама перажывалі некалі, гэта нараджэнне нацыянальнай ідэнтычнасці. Гэта пытанні, звязаныя з беларускай мовай, якая блізкая той мове, на якой пісалі, напрыклад, старадаўнія статуты Вялікага княства Літоўскага. Гэта значыць, шмат яшчэ такога бражэння, нараджэння нацыянальных ідэяў. І я даволі спакойна на гэта гляджу, толькі я заўсёды кажу: не трэба там браць, дзяліць штосьці, старацца адбіраць, а трэба складаць, памнажаць, паказваць свету, Еўропе, разумеючы, што мы частка той самай Еўропы, і не толькі карысталіся нейкімі дабротамі, што прыходзілі з Еўропы, мы таксама стваралі гэтую Еўропу. І такія імёны як Міхал Клеафас Агінскі, Адам Міцкевіч, Чэслаў Мілаш — толькі сведчанне таму. Мы не павінны адчуваць нейкага комплексу непаўнацэннасці, даказваць, што мы еўрапейцы. Часам у Беларусі гаворыцца: вось мы тут, а там Еўропа. А з іншага боку, часам гавораць, што Беларусь — гэта цэнтр Еўропы. Але нам не трэба кідацца з крайнасці ў крайнасць. Гісторыя Вялікага княства Літоўскага тады стане натуральнай часткай гісторыі Літвы, гісторыі Беларусі. Калісьці мы адкідалі частку яе — усё, што звязвала нас з Польшчай, лічылася дрэнным. Але нельга так падзяляць гісторыю: гэта нам падабаецца, а гэта — не. Я думаю, што трэба глядзець аб'ектыўна.

*— У Літве можна часта пачуць, што Адам Міцкевіч — літоўскі паэт. Так гэта, ці не? Чый ён?*

**Ігнатавічус**: А Міцкевіч наш агульны еўрапейскі паэт, наша агульная велічыня. Тады, калі ён жыў, такіх паняццяў не было — літовец, беларус, паляк. Раней былі грамадзяне Вялікага княства Літоўскага. І ён лічыў сябе грамадзянінам гэтай мультыкультурнай тэрыторыі, і ў яго такога пытання не ўзнікала.

## Рукапіс другой кнігі «Каласоў…» існаваў. Яго выкралі «адпаведныя службы»

У Гродне ўспаміналі пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. «Ён любіў горад, невыпадкова Хрыстос у Гародні прызямліўся. Для яго гэта быў, мабыць, самы любімы горад», зазначыў прафесар Аляксей Пяткевіч.



Малады даследчык Дзяніс Марціновіч з Мінску мяркуе, што славуты раман «Каласы пад сярпом тваім» меў працяг і што адной з яго частак, у прыватнасці, магло быць апавяданне, вядомае сёння пад назвай «Сіняя-сіняя».

Прафесар Аляксей Пяткевіч, які сябраваў з пісьменнікам, лічыць, што раман быў закончаны, але рукапіс выкралі «адпаведныя службы».

Дзяніс Марціновіч прадставіў сваю кніжку «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча». Паводле яго, іх было трынаццаць, і жонка — апошняя з іх. «Спіс інтэрнацыянальны», «сцежкі» вялі ў Грозны, у Тбілісі, у Кіеў, у Маскву. Дзяніс працаваў у літаратурным архіве, вывучаў ліставанне і ў будучыні хацеў бы напісаць біяграфію пісьменніка.

Прафесар Пяткевіч станоўча ацаніў кніжку мінчука, назваўшы «вельмі салідна працай», параіў яе іншым. «Там мноства крыніц: успаміны, лісты, сказаў Пяткевіч. — Там няма галаслоўнасці, там усё абгрунтавана. Там, напрыклад, ёсць дзве версіі знаёмства Караткевіча з яго жонкай Валянцінай. А я ведаю яшчэ адну версію, яна, здаецца, ёсць у зборніку ўспамінаў пра Уладзіміра Калесніка. Як Калеснік запрасіў у Брэсцкі педінстытут Караткевіча на сустрэчу са студэнтамі».

Пісьменнік прыехаў. Аляксей Пяткевіч успамінае: «Караткевіч гаворыць, позіркі скіраваны на яго, Караткевіча нельга было не слухаць. Ён як магнітам прыцягваў да сябе. Але ён бачыць, што адна асоба, крышку схаваўшыся за спінамі, сядзіць і чытае, не слухае. Яго гэта страшэнна ўразіла. І пасля заканчэння ён падышоў да гэтай жанчыны і запытаўся: а што вы чытаеце? А яна кажа: «Дзікае паляванне караля Стаха». Яе не зацікавіў Караткевіч, а «Дзікае паляванне» зацікавіла. Так пачалося іхняе знаёмства, з будучай жонкай. І ён склаў потым такія радкі: «Наш Калеснік добры быў, мне козачку падарыў, а козачка белая, па кватэры бегае».

«Ці была наступная кніга рамана «Каласы пад сярпом тваім?» — задаецца пытаннем прафесар Пяткевіч і сам адказвае на яго: Бясспрэчна была. Пра гэта, напрыклад, піша і Мальдзіс у сваёй кнізе пра Караткевіча, праўда, асцярожна вельмі піша, як гэты тэкст знік. Мальдзіс найлепш ведаў Караткевіча, гэта быў самы блізкі сябра. Ён ведаў кухню: што робіць гэты пісьменнік, калі і што ён піша. Усё Мальдзіс ведаў, невыпадкова такую кніжку цікавую напісаў («Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча»). Паводле Мальдзіса, і я аб гэтым ведаў і не раз чуў ад іншых людзей, кватэру Караткевіча не проста абрабавалі. Ніхто не рабаваў. Проста выкралі рукапіс другой кнігі рамана. Гэта бомба была б. Разумееце: першая кніга — гэта пярэдадзень паўстання, а другая — гэта само паўстанне. Гэта самае асноўнае, што там было сказана. Гэта вызваленчая вайна супраць Расіі. А каму гэта было цікава? І адпаведныя службы, пра якія не прынята распаўсюджвацца асабліва, сваю справу зрабілі: чысценька, акуратна. І з гэтай прычыны і Караткевіч не рабіў вялікага розгаласу. Ён, канечне, вельмі перажываў».

Аляксей Пяткевіч падсумоўвае: «Ёсць, напрыклад, ягоная прадмова да рускага выдання рамана, дзе ён піша: мне вельмі цяжка пачынаць пісаць другую кнігу, таму што я іх усіх мёртвымі буду бачыць, усе мае любімыя героі загінуць, прычым такой смерцю. Я іх люблю!» Канечне, «Каласы» ён дапісаў, кажа прафесар Пяткевіч.

## Інак Іаан Бембель: «Караткевіч спяваў на клірасе і быў “самотным рыцарам праваслаўным”»

У Гродне адбылася вечарына «Караткевіч і хрысціянства». З нагоды 85-годдзя пісьменніка яе наладзіла кіраўніцтва Пакроўскага сабору. Выступалі святары, выкладчыкі Гродзенскага універсітэта, барды. Гучала выключна беларуская мова.

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў інак Іаан Бембель з Жыровіц добра ведаў Уладзіміра Караткевіча. Ён падзяліўся сваімі думкамі аб постаці пісьменніка з адлегласці часу. Некаторыя сябры «чакалі, што ён стане другім Каліноўскім. А ён стаў, рызыкну сказаць, насуперак некаторым поглядам, што тут сёння прагучалі, своеасаблівым манахам без манаскага адзення, самотным рыцарам праваслаўным, які сам-насам паўстаў супраць ворагаў Бога…», выказаў меркаванне інак.

На вечарыне разбіралася тэма ўзаемаадносінаў пісьменніка Уладзіміра Караткевіча з Богам. Што гэта было: блюзнерства ці пошукі апірышча ў веры?

Настаяцель Пакроўскага сабору Георгі Рой сказаў: Караткевіч быў савецкім пісьменнікам, але ён цытаваў у сваіх кнігах евангелле. «Мне здаецца, зазначыў святар, шлях кожнага чалавека ў пошуках Бога і жыццёвага сэнсу можа быць вельмі павучальным і тым больш, калі гаворка ідзе пра чалавека з вялікім творчым дарам. Акрамя таго, без разумення рэлігійных пошукаў класіка, мы наўрад ці зможам правільна ўспрымаць яго творчасць. І відавочна, што менавіта гэты складнік творчасці Караткевіча ці не найменш раскрыты даследчыкамі».

Сустрэча якраз з’яўляецца крокам да больш дасканалага ўспрыняцця асобы і творчасці класіка беларускай літаратуры, кажа Георгі Рой: «Як падаецца, Караткевіч не мог быць некрытычным да хрысціянства. І з прычыны асабістых поглядаў і перакананняў і — духу таго часу, калі яму давялося жыць. Але гэта не прымітыўная аргументацыя савецкай атэістычнай прапаганды, якая малявала смешныя вобразы рэлігійнага жыцця. Караткевіч знаходзіўся, як падаецца, у шчырым пошуку адказаў на тыя пытанні, якія завуцца вечнымі. І раз за разам ён сутыкаецца з хрысціянствам. Менавіта сутыкаецца. Ягоныя пытанні вострыя, падчас правакатыўныя, а ў асобных выпадках яго вобразы і разважанні з хрысціянскага пункту гледжання папросту блюзнерскія».

Не зважаючы на гэта, разважае святар: «У той жа час несумненна і іншае: Уладзімір Караткевіч, не гледзячы ні на што, чалавек рэлігійнага пошуку. Ён сапраўды шукае Бога. Ён часта не пагаджаецца з ім, але адчувае ягоную прысутнасць у жыцці і гістарычным лёсе сваёй радзімы. Раз за разам звяртаецца да біблейскіх вобразаў і тэкстаў. Адчувае глыбіню хрысціянскай думкі».

Шлях да Бога можа быць няпростым, тым больш складаным ён можа быць для чалавека геніяльнага, якім несумненна быў Караткевіч. Урэшце гэта асабістая таямніца чалавека, і нам мала што вядома, але можна назваць два факты, кажа айцец Георгі. Што ў Караткевіча былі свае асаблівыя адносіны з Богам і што яны былі няпростымі: «Ці адбылася асабістая сустрэча пісьменніка з уладаром сусвету? Адказ на гэтае пытанне ведаюць двое: уладар сусвету і Уладзімір Караткевіч».

Сябра СБП прафесар Аляксей Пяткевіч зазначае, што мы сёння называем Караткевіча геніяльным: «Ён быў пісьменнікам, які перавярнуў уяўленні пра беларускую літаратуру. Ён напісаў раман пад назвай «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», назваўшы яго «евангеллем ад Іуды». Каб зразумець пісьменніка і яго веру, трэба зразумець веру ягонага народу, нашага з вамі народу», лічыць Пяткевіч. На ягоную думку, у беларусаў хрысціянства «прыкметна аслабленае». Прычына ў тым, што «хрысціянізацыя беларускіх земляў вельмі і вельмі задоўжылася, зацягнулася». Як лічаць гісторыкі, яна завяршылася прыблізна ў XVI стагоддзі. Але ён цягнецца да нашага часу і ці завершаны — гэта вялікае пытанне, мяркуе прафесар Пяткевіч.



Аляксей Пяткевіч нагадвае: «Хрыстос у Караткевіча прыйшоў да людзей у Гародні. Але якім чынам можна такое рабіць? Ён узяў біблейскія персанажы і сітуацыі. І паставіў іх у звычайныя зямныя ўмовы. Але для некаторых хрысціян гэта можа падацца абразлівым. Але ці ёсць тут кашчунства? Напэўна не, калі ўлічыць, што ён заставаўся вернікам. Хаця быў пісьменнікам савецкага часу».

Ад слухачоў паступіла пытанне: ці ведаў Караткевіч на памяць евангелле? Аб ім існавала нямала міфаў, пачаў адказваць прафесар Пяткевіч: «што меў некалькі дзясяткаў жанчын, напрыклад…» Пісьменнік ведаў добра біблію і евангелле, але ён не думае, што мог завучыць на памяць.

«У часы ганенняў, калі за веру саджалі ў «псіхушку», Караткевіч у 1960-70-х гадах кожнае лета ездзіў у Быцень, што ля самых Жыровіц, да свайго сябра прафесара Грынчыка, распавёў інак Іаан Бембель: Яны разам у мясцовай царкве спявалі на клірасе ў час богаслужэнняў. Такія паводзіны знакамітага мастака слова, кожны крок якога адсочваўся адпаведнымі службамі, былі супастаўныя з учынкамі першых хрысціян», лічыць Бембель.

Тагачасны мітрапаліт Антоні Мельнікаў, прачытаўшы ў арыгінале «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», наладзіў цесныя асабістыя адносіны з аўтарам. Інак лічыць, што ў архівах мітрапаліта можна знайсці цікавыя звесткі «аб іхнім сумоўі».

Аб хрысціянскіх матывах ў паэзіі Караткевіча на вечарыне распавёў сябра СБП дацэнт Анатоль Брусевіч.

## Ігнат Канчэўскі і «куды ісці Беларусі»?

Філосаф Павел Баркоўскі з «Лятучага універсітэта» выступіў у Гродне з лекцыяй, прысвечанай Ігнату Абдзіраловічу, паэту, філосафу, публіцысту, удзельніку беларускага культурна-асьветніцкага руху (сапраўднае імя Ігнат Канчэўскі, 1896–1921). Ён быў, па сутнасці, першым нашым мысляром, які звярнуў увагу не на мінулае Беларусі, а на яе будучыню, зазначыў Павал Баркоўскі. Ён удакладніў: мэта выступа — паказаць, што ў нас былі мысляры, якія актуальныя і сёння. Наша задача задумацца над тымі пытаннямі, якія Абдзіраловіч ставіць перад намі сёння: а куды ж мы сапраўды ідзем? Як мы мыслім развіваць Беларусь? На якіх прынцыпах развіваць нашу культуру і формы грамадскага жыцця?

*— Кім сёння бачыцца Абдзіраловіч у той час, калі ён напісаў сваю працу? Што ён значыў тады ў беларускім грамадстве? Як яе прынялі? І ці значыла яго прозвішча, яго асоба ў той час што-небудзь значнае? Ці яго рэальна ацанілі толькі нядаўна?*

Баркоўскі: «Ігнат Абдзіраловіч — мабыць не зусім раскрыты талент Беларусі. Гэтаму перашкодзіла ранняя смерць. Памёршы ў 27 год, ён пакінуў невялікую спадчыну. Толькі некалькі досыць цікавых вершаў і вядомае эсэ «Адвечным шляхам». Ён быў выразным прадстаўніком віленскага кола інтэлігенцыі, якая шукала сваю нацыянальную ідэю, шлях развіцця для Беларусі на той час. І гэта было вельмі складана ў тых палітычных і жыццёвых умовах, што існавалі.

Яго эсэ было тады амаль не заўважана. Бо час і кан'юнктура былі хутчэй супраць гэтых летуценняў пра ўласны шлях для Беларусі. Але ён быў вельмі пільна прачытаны ўжо ў 1980–90-я гады.

І тады ён можа застаўся таксама не да канца зразуметы, але прынамсі ўжо ацэнены. Ён цікавы тым. што па сутнасці сфармуляваў для беларусаў задачу, праблему, якая стаіць перад імі і сёння. Гэта пытанне нашага цывілізацыйнага выбару і далейшага развіцця. Гэта не проста, як любяць казаць — паміж Польшчай і Расіяй, Еўропай і Азіяй. Пытанне больш складанае. Мова пра адметны ўласны шлях развіцця, уласную культуру, Пытанне самабытнасці. Таго, што можа зрабіць Беларусь часткай таго або іншага свету, а што можа зрабіць яе своеасаблівай, вельмі цікавай, багатай культурай, якая б магла развівацца сама па сабе. І вось гэтая задача, яна і на сёння стаіць перад намі. Бо мы і сёння сутыкаемся з тым, аб чым казаў Абдзіраловіч. Мы стаім на ростанях паміж еўрапейскай цывілізацыяй, якая прапануе нам свае каштоўнасці (але якія мы таксама не ўсе прымаем канчаткова), і расійскай цывілізацыяй, якая нам цяпер хутчэй свой жахлівы твар прапануе. І якая наўрад ці будзе ў бліжэйшы час для нас узорам. Нам трэба асэнсаваць: куды ж мы далей рушым і як рушым?»

*— Ці гучыць імя Абдзіраловіча на ўроках, лекцыях, ці ёсць у падручніках?*

Баркоўскі: «Цяпер гэта імя вядомае. Яго і ў школах выкладаюць, наколькі мне вядома, яго вывучаюць ва ўніверсітэтах. Яго імя гучыць, напрыклад, у курсах па філасофіі, калі ўзгадваюць нацыянальных мысляроў, прадстаўнікоў беларускай думкі. І тады імя Абдзіраловіча гучыць як адно з найвялікшых у першай палове XX стагоддзя. Яго ведаюць, часткова цытуюць, але, на жаль, часцей не далей за гэтую праблему цывілізацыйнага раздарожжа паміж Захадам і Ўсходам».

*— Як можна акрэсліць ідэі Абдзіраловіча палітычна, калі браць тагачасны нацыянальны рух?*

Баркоўскі: «Ён быў мысляром-саматугам. Хаця прадстаўляў сабой сацыялістычны рух. Не тую частку, што за бальшавікамі ішла, а — за сацыялістамі-рэвалюцыянерамі ці была бліжэйшай да Грамады. У гэтым сэнсе ён яшчэ ўвасабляў нейкую ўтопію, думку аб развіцці грамадства, якая была ўласцівая гэтым левым народніцкім рухам, якая разглядала магчымасць выйсця да справядлівага грамадства, дзе кожны чалавек можа мець належнае месца для жыцця і развіцця. А па-другое, здабыццё такога грамадства, дзе асноўным прынцыпам існавання для людзей будзе прынцып сталага творчага ўздыму, як асноўнага рухавіка ўсёй жыццёвай сілы. Не толькі ў індывідуальнай творчасці, але і ў калектыўнай, сацыяльнай».



## Як у муках нараджаўся беларускі дух



▪ *Выдавец Андрэй Янушкевіч (у цэнтры) падчас прэзэнтацыі*

«Нараджэнне беларускай Гародні» — так называецца новая кніга гісторыка Андрэя Чарнякевіча. Яе прэзентавалі ў гродзенскай прыватнай краме «Цудоўня» на Вялікай Траецкай вуліцы.

Падзея выклікала вялікую цікавасць. У памяшканні не было дзе стаяць. Каля дзвярэй на вуліцы мусілі чакаць тыя, хто не трапіў унутр. Мінакі цікавіліся: што тут адбываецца?

На думку выдаўца Андрэя Янушкевіча, на прэзентацыі пабывала чалавек семдзесят. Хаця працаўнік крамы запярэчыў: сюды фізічна столькі народу не зойдзе. Прынамсі разышліся шэсцьдзесят асобнікаў кнігі Чарнякевіча, патлумачыў выдавец. Ён сказаў, што быў знаёмы раней з Чарнякевічам, яны з ім закончылі гістфак Гродзенскага універсітэта.

Андрэй Чарнякевіч адказаў на пытанні.

*— Чаму важна вывучыць беларускія карані Гродна? Для Вас асабіста, для іншых патрыётаў гораду? Якія матывы рухалі? У чым былі цяжкасці?*

Чарнякевіч: «Матывы? Розныя. Адзін з іх — тое, што я ведаю сённяшнюю беларускую Гародню, грамадскіх, палітычных дзеячаў. І гэта падштурхоўвала паглядзець у мінуўшчыну. Пашукаць карані тых нашых падзей, у тым ліку і праблем. Таму —цікавасць — да беларускага руху. Паглядзець эвалюцыю.

Калі толькі пачынаў сваю працу, даволі даўно, матэрыялу было вельмі мала. Нават такое ўражанне склалася, што беларускі рух, ён аднойчы раптам спыніўся і больш нічога тут не адбывалася. Але высветлілася, што гісторыя, яна ніколі не перапынялася. А матэрыялаў у архівах, у іншых крыніцах вельмі шмат. Гэта было напэўна самае моцнае ўражанне.

Насамрэч гістарыяграфія беларускага руху ў Гародні даволі шырокая. Проста доўгі час некаторыя крыніцы былі для нас недаступныя. Яшчэ ў 1990-я гады кніжкі, артыкулы што выходзілі за мяжой, і абмежаваным накладам, што апынуліся ў спецхранах, да нас не даходзілі. Акрамя таго, не існавала напэўна агульнага бачання. Працы папярэднікаў датычылі нейкай адной тэмы або перыяду. Як, напрыклад, успаміны Зоські Верас. Якая вельмі дакладна перадае лёс гуртка беларускай моладзі, але ўжо хутчэй не ведала, што адбывалася з беларускай Гародняй пазней».

*— Дзе канкрэтна ўдаецца знаходзіць матэрыялы, што датычаць нацыянальнага руху ў горадзе?*

Чарнякевіч: «Крыніцы, якімі карыстаўся? У гродзенскім архіве вельмі абмежаваная колькасць справаў. Галоўныя крыніцы за мяжой. Перш: віленскі архіў, у Польшчы—вайскові і цэнтральны. Шмат цікавага можна знайсці ў Маскве. У Мінску захоўваюцца матэрыялы па гісторыі БНР, беларускага руху наогул».

*— Ці рэальна па такой тэме абараніць дысертацыю?*

Чарнякевіч: «З таго што я бачу: сёння па тэматыцы нацыянальнага руху абараняецца вельмі мала прац. Прычым закранаюць толькі абраныя тэмы. Пазбягаюць агульных пытанняў. Бяруць канкрэтныя. Напрыклад, справа кааперацыі. Ці вось зараз будзе абараняцца мой калега па паланафілах. У цэлым па гісторыі беларускага нацыянальнага руху, як і па БНР, дагэтуль фактычна адсутнічаюць нейкія інтэгральныя працы».

*— А хоць нешта можа сёння цешыць? Нейкія праявы беларускай Гародні?*

Чарнякевіч: «Хачу падкрэсліць: гаворка выключна ішла пра нацыянальны рух як палітычны інструмент уздзеяння. Нацыяналізм і нацыя — шырэй, чым палітычныя інстытуты. І гэта ўжо іншая размова. Напэўна нацыятворчы працэс, беларуская нацыя, яна існуе, яна паўстае. І беларуская Гародня — таксама факт здзейснены. Іншая справа, што яна можа не зусім супадае з нашымі марамі. Што мы, сённяшнія беларусы, якія размаўляюць па-беларуску, якія ставяць сабе за мэту стварыць нацыянальна свядомую дзяржаву, бачаць яе трошку іншай. Гэта ўжо напэўна размова для наступнай працы».

*— Якая ўлада, у які час найбольш супрацівілася беларускаму руху ў горадзе?*

Чарнякевіч: «Кожная ўлада, яна была небеларускай. А ўлічваючы, што ўлада не церпіць канкурэнцыі, то аўтаматычна яна ператваралася ў антыбеларускую. Толькі што гэты антаганізм быў розны ў розныя перыяды. Расійская антыбеларускасць была дастаткова памяркоўнай. Нямецкая не прымала ніякіх палітычных інстытутаў, таму не было ні польскіх, ні беларускіх, ні іншых партый. Польская антбеларускасць была непаслядоўнай. Спачатку існавала дастаткова вялікая колькасць інстытутаў, школьніцтва. Але ў час аўтарытарызму гэты эксперымент скончыўся. А савецкая антыбеларускасць мела татальны характар. Таму пасля савецкага панавання мы атрымалі замест нацыянальнага руху сурагат, які сёння з'яўляецца варыянтам беларускасці. Гэта тая Беларусь, якую мы маем сёння і якая ёсць нашай рэчаіснасцю, у якой нам трэба жыць і ўспрымаць яе як Беларусь».

## «Беларуская мемуарная бібліятэка»

У Гродне адбылася сустрэча са стваральнікамі серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка».

Удзельнічалі яе каардынатары Аляксандр Фядута, Наталля Гардзіенка і дырэктар выдавецтва «Лімарыус» Марына Шыбко.

Алесь Кіркевіч з Гродна зрабіў два пераклады ўспамінаў: Юзафа Ігната Крашэўскага (часткі, што датычыць Беларусі) і акцёра гродзенскага тэатра пачатку XIX стагоддзя Скібінскага, які потым быў дырэктарам кракаўскага драматычнага тэатра. Яны ў планах выдавецтва «Лімарыус».



Падрыхтавана таксама кніга ўспамінаў Зыгмунта Мінэйкі, паўстанца 1863 года, якая выйшла ў Польшчы пад назвай «З тайгі пад Акрополь». Ён не толькі здолеў уцячы з Сібіры, але пазней стаў нацыянальным героем Грэцыі, зазначае Аляксандр Фядута. І доўгі час у гэтай краіне кіравалі нашчадкі Мінэйкі, які паходзіў з-пад Ашмянаў. Аднак польскія каментары сведчылі, што ў беларускім выданні патрэбны свае, кажа выдавец. Каментары, якія да беларускага перакладу зрабіла Марына Запартыка, зусім іншыя па зместу.

Марына Шыбко распавяла, што мае тэхнічную адукацыю, але каля 25 гадоў займаецца выданнем літаратуры. Сёння — у асноўным на беларускай мове. Хаця сваю кнігу пра жыццё ў Гродне «Мой маленький Париж» сам Аляксандр Фядута, «які з'яўляецца па сумяшчэнні маім мужам», напісаў па-руску, зазначыла Марына Шыбко.

Накірунак выдавецтва на сёння? У асноўным — серыя «Беларуская мемуарная бібліятэка», надрукаваныя дванаццаць тамоў. І яшчэ біяграфічны альманах «Асоба і час», выйшлі шэсць выпускаў. Заўжды было зайздросна, кажа Марына Шыбко — колькі выходзіла ўспамінаў у Польшчы, у Расіі. «Серыя сведчыць, што мы хочам памятаць, ведаць, як жылі нашы продкі, што тады адбывалася. У «мемуарную бібліятэку» укладзена душа», прызналася Марына Шыбко.

Калі ехалі на сустрэчу, то падлічылі, што з Гродзеншчыны большасць аўтараў «мемуарнай бібліятэкі», зазначыла яна. Аляксандр Фядута пагадзіўся: сапраўды, высветлілася, што серыя амаль што гродзенская. Тут нарадзіліся большасць аўтараў апублікаваных мемуараў альбо яны мелі дачыненне да гэтай зямлі. Пачынаючы ад Аляксандра і Марыі Стагановічаў і заканчваючы Зоськай Верас і Ларысай Геніюш. Цяпер падрыхтаваны зборнік успамінаў пра Ліду XIX — пачатку XX стагоддзя, яго склаў Лявон Лаўрыш.

Гісторык беларускага замежжа Наталля Гардзіенка распавяла, што «мемуарная бібліятэка» паўстала ў выніку супольнай ініцыятывы яе і Лявона Юрэвіча з Нью-Ёрку. Звярнулася з прапановай да Аляксандра Фядуты. Са свайго боку ён прапанаваў выдаваць мемуары не толькі эмігранцкія, але ўсе, што датычаць Беларусі і напісаны беларусамі.

Наталля Гардзіенка зазначае: эміграцыйная літаратура, культура ўспрымаюцца як нешта асобнае, адарванае ад Беларусі. Часам так і ў дзяржаўных выдавецтвах. Эміграцкія мемуары выдаць там сёння немагчыма. Хаця існуе ідэя, што з беларускім замежжам на афіцыйным узроўні нешта трэба рабіць, прынята праграма. Але што? Адно такое выдавецтва вырашыла заснаваць серыю «Беларусы ў свеце». Якія кнігі можна выдаць? Звярнуліся па дапамогу да Наталлі Гардзіенкі. Яна склала спіс з дзесяці назваў. Аднак ніякай рэакцыі не было. Праз некаторы час яна даведалася, што, канечне, гэты спіс накіравалі ў міністэрства інфармацыі. Але там не знайшлося чалавека, які ўзяў бы на сябе адказнасць і даў дабро. Тады было вырашана адправіць спіс у КДБ: няхай яны праверыць аўтараў на надзейнасць. А ў спісе былі Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Тамаш Грыб. Можа яны былі антысавецкімі і іх нельга друкаваць?..

Мы друкуем, зыходзячы менавіта з вартасці саміх успамінаў, надзейнасць ці «нядобранадзейнасць» аўтара не разглядаецца, падсумоўвае Наталля Гардзіенка.

Аляксандр Фядута прызнаўся, што ў серыі выйшла толькі адна кніжка сённяшняга аўтара, гэта — Уладзімір Някляеў, «Знакі прыпынку». Але цяпер, напрыклад, дапісвае свае ўспаміны для «Лімарыуса» Сямён Букчын.

Доктар гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава зазначыла на сустрэчы, што «Беларуская мемуарная бібліятэка» робіцца на ўзроўні навуковых выданняў. «Раскрыты скарачэнні, пракаментаваны ўсе імёны. Выдавецтва працуе за навукова-даследчы інстытут», лічыць яна. Яна сама абараняла доктарскую дысертацыю па тэме з XIX стагоддзя, таму. У яе засталося ўражанне ад каментароў, зробленых Фядутам: «Яны настолькі грунтоўныя, што на іх можна пабудаваць дысертацыю», мяркуе яна.

*Паводле* **www.svaboda.org**



# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

### Анатоль Брусевіч



### Святлана Куль

## ПРОЗА







## УСПАМІНЫ



## СУЧАСНЫЯ КАЗКІ



## СПАДЧЫНА

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Як даслаць тэкст у «Новы замак»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краю: у праграме Microsoft word у пашырэнне doc альбо docx. Шрыфт: Times new roman. Не належыць рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размячаць шрыфты. Тэксты не фармаціраваць! Нявычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць укладальніка чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у пашырэнні JPEG памерам не менш за 1000 кб (1 мгб). Неабходна таксама сціслая біяграфічная даведка са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
**novyzamak@gmail.com**

Новы Замак можна знайсці на: www.facebook.com

